



# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Год выдання XI.**


## У нумары




**Выдавецтва «ЗВЯЗДА**
**Мінск**

**·тым нумары — бясплатны дадатак**
**«А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

**зіча.**

**·і ВОКЛАДКІ: Дзіцячы сад № 62. Уважліва слухаюць дзеці сваю выхавацельніцу Тацяну Сямёнаўну Садоўскую. Яна расказвае захапляючую гісторыю пра ляльку, што пабывала на Месяцы. Гэта ўсяго толькі казка, але вельмі падобная на праўду, бо ў наш час збываюцца самыя дзіўныя цуды.**

Фота **А. Дзітлава.**

**·і ВОКЛАДКІ: Гомель славіцца сваімі цяністымі прысадамі і цудоўнымі кветнікамі. Гэта адзін з куткоў у цэнтры горада.**

Фота **А. Дзітлава.**





Рыгор **БАРАДУЛІН**

# ПАЭМА КАСТРЫЧНІКУ

Ва ўзросце тваім здараецца —
людзі
Абрастаюць паціху чынамі,
Зацягнуцца дымком фіміяму любяць,
Думаць пра пенсію пачынаюць.

Адны бурчаць на маруднасць трамвая,
Другім — турбот аб сям'і замнога.
А ты, Кастрычнік,
Руку трымаеш
На пульсе
Шара зямнога.

☆

Вякі-сваякі на валах калываліся,
Металам маніфестаў царскіх
Везлі пад молат гневу кавальскі —
Планета дарослая бавіцца ў цацкі!

На сцелішчы чыстым веры упартай
Лён спадзяванняў народных слалі

 

Вякі,
    а над імі з вятрамі хрыпатымі
Рагатала над горам нядоля злая.
Пад ліўнямі слёз лён бяліўся ляжалы,
Чакаючы рук маладых і дужых.
Кастрыцу ўраганам аддзьмуўшы без жалю,
Кастрычнік,
Ты вычасаў чысты кужаль, —
Свабода ткала з яго штандары,
Азораныя змагароў крывёю.
Кастрычнік,
Ні ў чым ты не знаеш стандарта,
Хадзіць не ўмееш сцяжынай крывою.



Пераламаўся прамень дрыгатлівы,
На вострым хрыбце будана ў Разліве.
Закіпаў тугадум даўганосы — чайнік.
Падкладваў Ільіч у касцёр ламачча.
Шматкамі ад белага сцяга
    чайкі
Кружылі над Балтыкай ускалмачанай.
Ад нецярпення кіпела планета.
Кастрычнік,
Касцёр твой — бунтар неспакойны
Світальнай зарою заняўся над светам, —
Запалены ён
    Ільічовай рукою.



Землепраходцы і хадакі
Не шукалі сушэйшага бе́ражка,—
Яны цаліком,
    яны напрасткі
Праклалі пеша
    сцяжыны першыя.
А прахадзімцы паўзлі нацянькі
Па нашай планеце, прапахлай потам.
Яны, нібы ў яблыкі чарвякі,
У сэрцы тачыліся ўпотай.
І ты абрэзаў сухія сукі,
Ствол пабяліў трывалы, —
Каб дрэва жыцця не кранулі вякі,
Каб дрэва жыцця гадавала
Крамяныя, выспелыя плады
Пад ленінскім сонцам светлым.
Гады не сцішаюць тваёй хады,
Кастрычнік —
    садоўнік сусвету.



Пра мужнасць тваю мне шумелі бары
У краі азёрным Ушацкім.
Я помню палоску тваёй зары



У бацькі на партызанскай шапцы.
Усход за цябе галасуе штодзень
Сваім пунсовым мандатам.
З іскрынкай агню твайго ў сэрцы ідзе
Кастра —
    твой сын барадаты.
Свет прагне цябе —
    так глытка вады
Засмяглыя прагнуць губы.
Ты чуеш,
    як горда гучыць малады
Гімн рэвалюцыі Кубы!



Людзі ва ўзросце тваім падчас
У крэсле заслуг падрамаць гатовы —
Табе ж невядома слова
    запас,
Кастрычнік, —
    мар нашых правафлангові!

## ВІЦЕБСК



іцебск,
    у імі тваім мне чуецца
Гарластых ластавак песня шчырая.
Пяюць яе шчабятухі расчулена,
Прыляцеўшы дадому з выраю.

Віцебск —
    мне чуецца сыканне пары,
Пары, што пхае поршань упарта.

Стары плытагон,
    веснаходам асмужаны,
Ты вяжаш плыты
    віцінаю Віцьбы,
Апошнюю дзеліш з сябрамі васьмушку —
Дымку з самакрутак
    да Рыгі віцца.

Віцебск,
    прашу цябе па-зямляцку,
Вазьмі з сабою на ўсю навігацыю:
Нялоўка без справы табе назаляцца —
Мне трэба на шалях хваль навагацца.

Ды не хвалюйся —
багра не выпушчу,
Ты ж навучыў мяне, горды, не горбіцца.
З плытамі на вольную роўнядзь выплыўшы,
Я зацягнуся тваёй махоркай.

Да сонца
па промнях, як па прыступках,
Дзень малады будзе ўпарта караскацца,
А сосны — ўзмакрэлымі лбамі стукацца
З хмаркамі, што, як крыжанкі, кракаюць.

Кадык твой ходзіць цяжкой кувалдаю,
Ты ўмееш і камень
і слова абчэсваць.
Маёй Рэспублікі
Рабочы кадравы,
Дазволь паціснуць
руку тваю чэсную!

## ЛОДКІ



рыбіўшы да берагу чарот патрушчаны,
Замярзае возера, ад сіверу сіняе.
Стамлёна дыхаюць хвалі, як грузчыкі, —
Вясну і Лета яны на плячах насілі.

Нерастуюць ільдзінкі халоднымі плоткамі.
Азябламу сонцу ў хмарах не ўгрэцца.
З возера пад паветку плывуць на калёсах лодкі,
Як даўна іх сёстры далёкія «з вараг у грэкі».

Зацягнулі азяблую песню вятры-музыкі.
А заплывалі ж лодкі за далягляд невядомы.
Зараз плысці ім па возеры нецярпення зыбкім
Ад берага лёдаставу да берага крыгалому...

★



элефон прачнуўся
задужа рана.
Гук дзюбкаю кволай
праклюнуў мембрану.



І я зразумеў,
слоў усіх не дачуўшы,
У мяне —
дачушка.
Радасць прыходзіць
заўсёды знянацку,
Я зараз зрабіўся
бацькам!
Хоць, праўда, значэнне гэтага слова
Пакуль што не разумею канкрэтна.
Ды веру — сэнс яго дойдзе да мяне
абавязкова,
Калі
маленькая Барадуліна
закугікае і закрэкча.
У шыбіну б'юцца
стракозы,
промні.
Пакойчык мой
сонцам напоўнены.
І я,
разгублены,
смешны,
горды,
Лаўлю за крыло фортку...

## СУРОВАЯ ВЫМОВА



аму Надзейка чакае з работы.
Згуляла ўсе гульні, сумуе адна.
Нарэшце матуля!
— Дачушка, чаго ты
Не адыходзішся ад акна?

— Як стрэлкі курантаў сустрэнуцца ўверсе,
Выходзіць дзядзечка ў двор акурат.
А ўніз вялікая стрэлка паверне,
З прагулкі вяртаецца ён назад.

Як выйдзе дзядзечка той невядомы,
Прыкмеціла я даўно,
Ты неўзабаве прыходзіш дадому, —
Таму і гляджу ў акно.

Маці і кажа, такое пачуўшы:
— А ты мне дзядзечку пакажы...
Дык гэта ж — таварыш Ленін, дачушка,
І ён парушае рэжым.

Хвароба была ў Ільіча цяжкая.
Гадзіну гуляць загадалі ўрачы.
Ён трыццаць хвілін на прагулцы бывае.
Зусім не хоча сябе берагчы.

... Дзядзька Малькоў сёння строгі занадта.
Надзейка яму — да пляча.
Просіць малая у каменданта
Пропуск да Ільіча.

А камендант усміхаецца ветла:
— Выпішу пропуск, не хныч.
Ды толькі спачатку павінен ведаць,
Навошта табе Ільіч?

— А гэта сакрэт мой, — сказала Надзейка.
І пропуска ёй не далі.
Гарошынкі-слёзы блішчэлі на вейках,
Панура ішла па Крамлі.

Ішла, ды якраз Ільіча напаткала.
— Куды ж ты хадзіла, чаго?
— Завуць цябе як? — запытаў,
Адказала,
Але не раскрыла свайго

Сакрэту, бо не пазнала, хто гэта.
Звыклы да шчырых размоў,
Гутарыў з Надзяй і да кабінета
Ільіч незаўважна дайшоў.

...З паліц глядзелі ўдумліва кніжкі.
Кватараваў у пакоі спакой.
— Гуляць умееш у кошкі-мышкі? —
Ільіч запытаўся ў малой.

— Гуляем з брацікам у каняжкі,
Як дужа шумім, часам мама крычыць.
— А ты не можаш, калі не цяжка,
Гуляць і мяне навучыць.

Умомант спакойная ціша прапала,
Смяяўся, звінеў кабінет.
Надзейка вясёлая гарцавала
У Ільіча на спіне.

Гульня цягнулася б доўга такая,
Ніхто не хацеў бы яе канчаць.
Калінін прыйшоў, сказаў, што чакаюць
Рабочыя Ільіча.

— Я Ленін,
Якога хацела ты бачыць, —
Ільіч падышоў да стала. —
Сакрэт свой цяпер мне адкрыеш, няйначай.
І ў наступ Надзейка пайшла:

— Я доўга за вамі з акна назірала.
Вы парушаеце свой рэжым.
Чаму на прагулцы бываеце мала,
Не беражэце сябе зусім?

І дайце мне чэснае-чэснае слова,
Што болей не будзеце вы такім.
Ільіч даў слова абавязкова
Строга захоўваць рэжым.

Прыйшоў дадому, нахмурыў бровы:
— Сёння я вінават:
Суровую атрымаў вымову
І ўзят пад штодзённы нагляд...





Уладзімір **ШЫЦІК**

# МАЙСКАЯ РАНІЦА

**Аповесць**

Мал. А. Асецкага.

## I

Завод раскінуў свае карпусы на самай ускраіне горада. Адразу за агарожай, што высілася побач з ліцейным цэхам, пачыналася поле. За ім віднеўся пасёлак. Раней тут была невялічкая вёска. Потым, калі пабудавалі завод, вёску знеслі. Яе жыхары сталі рабочымі.

Мясціны вакол пасёлка прыгожыя: густы хваёвы лес, яшчэ не крануты блізкасцю горада, абрывістыя ўзгоркі, і поле, якое кожную вясну было пакрыта яркімі краскамі.

Ціхія, нават маўклівыя, ваколіцы пасёлка звычайна ажывалі ў выхадныя дні. Сюды прыходзіла ледзь не ўся заводская моладзь.

Алесь Баравік на заводзе быў навічок, але ведаў пра гэтыя традыцыйныя маладзёжныя зборышчы. Як на тое, сабраўшыся сёння пайсці ў пасёлак, ён праспаў. Прыйшлося дабірацца аднаму.

Выехаўшы за тэрыторыю завода, Алесь выбраў лыжню наўздагад. Праз хвілін дваццаць яна прывяла да невялічкай палянкі. Адтуль след, пятляючы між стромкіх сасёнак, вёў некуды ўглыб лесу.

Неўзабаве дрэвы быццам расступіліся, даючы дарогу, і ўперадзе адкрылася нізіна. Алесь шыбануў з горкі ўніз. Пад нагамі нешта за-

чарнела і, раней чым Алесь паспеў прытармазіць, ён ужо ляцеў потырч у снег...

Недзе побач гучна зарагаталі. Потым нехта падаў палкі, памог абтрэсці снег.

— А вы не майстар спорту. Не.

Голас быў кплівы, але прыемны, дзявочы. Баравік сярдзіта адказаў:

— Вельмі вы здагадлівыя...

Потым зірнуў на дзяўчыну. Яна была апранута ў вішнёвага колеру спартыўны касцюм, які аблягаў яе ладную, гнуткую постаць. Шчокі ў дзяўчыны разгарэліся на марозе, і таму вочы здаваліся надзвычай блакітнымі і яснымі. Дзяўчына была прыгожая, і Алесю адразу расхацелася злаваць і на яе кпіны, і на сваю няўдачу. Ён працягнуў руку, назваў сябе.

— Між іншым, мы з вамі з аднаго цэха,— засмяялася дзяўчына.

Алесь спачатку здзівіўся. Такую дзяўчыну ён абавязкова заўважыў бы, каб сустрэў дзе раней. І раптам успомніў. Ён бачыў яе ўчора. Яна выходзіла з кабінета начальніка цэха. У яе яшчэ была чорная плямка на шчацэ, і Алесь не адважыўся сказаць ёй пра гэта. Начальнік цэха яму тады паабяцаў:

— Трымай вуха востра. Табельшчыца, Шалягейка. Характар — брытва.

Зараз, пазіраючы на дзяўчыну, Алесь, не хацеў пагадзіцца з Булаём. Дзяўчына яму спадабалася, і ён сказаў:

— Ледзь не заблудзіў. Добра, што напаткаў вас... вашу кампанію.

— Паехалі з намі,— сказала дзяўчына.

Іх было чацвёра: Зіна Шалягейка, Пракоп Дубасаў, Сямён Дзікун і Алег Хамянок. Алесь ужо бачыў іх на сваім участку, аднак за тыя некалькі дзён, што працаваў на заводзе, не паспеў з імі пазнаёміцца.

Ісці на лыжах было лёгка. Рыпеў пад нагамі снег. З галінак асыпаўся бліскучы снежны пыл. Недзе ў далечыні перагукваліся лыжнікі. Сонца сляпіла вочы, і Зіна часта адварочвалася. Тады Алесь бачыў яе прыгожы твар, сінія вочы, якія ўсміхаліся. Алесь думаў, што Зініны вочы ўсміхаюцца яму.

Яны заехалі далёка, добра натаміліся. Алесь параіў адпачыць. Зіна адразу згадзілася, села на паваленую сасну, доўгую, з засохлымі сукамі і галінкамі.

— Якія дровы прападаюць!..— Пракоп пагладзіў па ствале далоняй.

— Эх ты! — засмяялася Зіна.— Усё думаеш пра выгаду. Вось і раскладвай касцёр. Праўда, Сеня?

Сямён Дзікун кінуўся абломваць сукі. Алесь яшчэ ў дарозе прыкмеціў, што Дзікун гатовы па першаму Зініному слову рабіць усё, што яна загадае. «Кахае, мабыць»,— здагадаўся ён. Яму ўжо расхацелася паліць касцёр ці ехаць куды-небудзь далей. А тут зноў умяшаўся Пракоп:

— Можа хто ў печы не адзін раз выпаліў бы, а вы дровы глуміце.

Сямён вінавата паглядзеў на Зіну і выпусціў абломлены сук. Зіна пакрыўдзілася, але пагадзілася:

— Хай ужо... Вось пасядзім ды вернемся.

— Яно і пара. Хутка прыцямнее,— Пракоп гаварыў з ледзь прыкметнай усмешкай у голасе. Адчувалася, што ён нешта ведае, але што — скажа не кожнаму. Быў ён невысокі, каржакаваты. Вабіў ён Алеся сілай і ўпэўненасцю, што ішла ад ягоных няспешлівых і разважлівых рухаў, ад вачэй, у якіх ледзь хавалася хітрынка, ад упартага падбародку. Калі вярталіся назад, Алесь наўмысля затрымаўся



крыху і пайшоў побач з Пракопам. Хацелася пагаварыць з гэтым хлопцам аб рабоце, аб людзях, з якімі давядзецца працаваць. Ён чамусьці верыў, што іменна Пракоп зможа расказаць аб іх. Але, як ні дзіўна, Пракоп не падтрымліваў размовы. Ён, нібы назнарок, стараўся не адказваць на пытанні, якія задаваў Алесь то пра аднаго рабочага, то пра другога. А неўзабаве Пракоп сам пачаў пытацца:

— Вы, значыць, наш новы майстар?

— Так,— адказаў Алесь.— Адслужыў у арміі і — на завод.

— Дзе служылі?

Алесь адказаў.

— Глыбокі тыл.

— Не,— запярэчыў Алесь.— Там быў пярэдні край. А вось тут глыбокі тыл.

— У нас таксама пярэдні край. Работы хопіць,— не згадзіўся Пракоп і пасля гэтага непрыкметна разгаварыўся.— Я таксама ў арміі служыў, а потым прыехаў сюды. Вось ужо другі год. Цэх наш самы вялікі. Прадукцыі даём за ўвесь завод. А мне ўсё здаецца, што мы толькі недзе на падыходзе да вялікай работы. У вас такога адчування не было?

— Напэўна, гэта бывае, калі чалавек не хоча стаяць на месцы,— раздумліва адзначыў Алесь.

— Магчыма,— згадзіўся Пракоп.

Алесь, адчуўшы ў яго голасе сухасць, падумаў, што давер'е гэтага хлопца будзе заваяваць нялёгка.

— От дзе вы! А мы шукаем,—Зіна паявілася аднекуль з-за кустоў, папрасіла: — Можна, я з вамі?

— Зіна, адкуль у тваім голасе гэтая пакорлівасць? — пажартаваў Пракоп і падміргнуў Алесю:— Яна ў нас сварлівая...

— З табою інакш не можна.

— А мне твае кіпцюры апрыкралі...

Напэўна, не хутка скончылася б гэта перапалка, але тут іх дагнала вялікая група дзяўчат і хлопцаў. Пасыпаліся прывітанні, жарты. І неяк так выйшла, што Зіна і Алесь адсталі ад кампаніі.

— Чаму ж вас пакінулі? — спытала Зіна.

— А вас? — усміхнуўся Алесь.

— Я сама адстала. Люблю цішыню.

Сказана гэта было шчыра, і Алесь паверыў, што, можа, сапраўды Зіне абрыдлі бясконцыя заляцанні. А можа,— гэтая думка мільгнула нечакана,— Зіна ўпадабала яго? Каб не выдаць сябе, ён спытаў:

— Нешта вы ўчора з Васілём Міхайлавічам не паладзілі?

— Ат, глупства: «маленькі дыванок»,— так мы называем выклік да начальства. Стаіш на дыване, а яно цябе прапясочвае.

— За што?

— Брыгадзір накапаў... У чалавека жонка хворая, спазніўся, а я не адзначыла ў табелі.

— Васіль Міхайлавіч за такое не будзе сварыцца.

— А вы адкуль яго ведаеце?

— Мы з ім старыя знаёмыя. Некалі пасля рамеснага я ў ягоным цэху працаваў. Цяпер, пасля службы, думаў, дзе б уладкавацца. А Васіль Міхайлавіч сустрэў: «Нікуды,— кажа,— не пушчу. Вяртайся да мяне». Вярнуўся. І вельмі задаволены. Булай ого які чалавек! Агонь!

— На агні можна згарэць,— Зіна налегла на палкі, вырвалася наперад. Алесь вымушан быў даганяць.

Яны хутка дагналі астатніх. Зіна пайшла побач з Сямёнам, нават

не кіўнуўшы Алесю на развітанне. Алесь спачатку быў абразіўся. Але, падумаўшы, супакоіўся. Урэшце, яна і павінна была так паводзіць сябе. Дзяўчына прывыкла да ўвагі і не прывыкла быць уважлівай.

## II

Аператыўка — кароткая нарада перад пачаткам работы — сёння зацягвалася. Начальнік цэха Булай захацеў паслухаць усіх інжынераў, брыгадзіраў і кіраўнікоў участкаў. Алесь назіраў, як Булай час ад часу нешта запісваў чырвоным алоўкам у блакнот, хмурыўся. Цікава, задаволены начальнік цэха работай сваіх падначаленых ці не?

Звычайна брыгадзіраў не выклікалі на аператыўкі. Але Булай усё перайначыў, загадаўшы, каб брыгадзіры з'яўляліся на нарады таксама, бо гэта нібы дэмакратызуе кіраўніцтва, вядзе да калегіяльнасці ў рабоце, і сёння на аператыўцы былі ўсе брыгадзіры. Пракоп Дубасаў сказаў, што Сямён Дзікун хоча сумясціць у адну тры аперацыі па шліфоўцы шыек каленчатага вала. Гэта давала магчымасць паскорыць увесь працэс апрацоўкі.

— Калі? — запытаўся Булай.

— Ну-у, праз тыдзень...

— А сёння дваццаць сёмае. Пакуль вы будзеце эксперыментаваць, мы месячны план завалім,— рэзка перабіў Булай.

— Васіль Міхайлавіч, мы ў калектыве падлічылі, не завалім, — пачаў прасіцца Дубасаў.

— Калектыў гэта мы ўсе,— Булай устаў за сталом, зрабіў шырокі жэст рукой,— і агульнымі інтарэсамі трэба даражыць. Сёння Дубасаў захоча рабіць па-свойму, заўтра — Ганакова. А план хто цягнуць будзе? Не, дарагі. Дай план, а потым — вынаходзь, шукай. Становішча такое, што цэх ледзь укладваецца ў праграму. Прашу, таварышы, звярнуць на гэта ўвагу. Мне патрэбны не сто, нават не сто адзін, а сто тры працэнты. Так рашыла кіраўніцтва, а я ніколі яшчэ не быў у хвасце.

Булай закрыў нараду. Людзі пачалі разыходзіцца. Пайшоў да дзвярэй і Алесь, але яго паклікаў начальнік цэха.

— Саша!..

Алесь вярнуўся, падышоў да стала.

— Садзіся. Час трывае, пагаворым.

Алесь сеў у мяккае скуранае крэсла, якое стаяла па гэты бок стала. Яго і радавала і непакоіла гэтае запрашэнне. З нейкім хваляваннем чакаў, што Васіль Міхайлавіч скажа.

Алесь быў ужо не той хлапчук, якога некалі прывёў Булай у свой цэх. За яго плячамі — гады службы ў арміі, дзе ён сам быў камандзірам. А ўсё роўна, як і раней, перад Булаём адчуваў сябе ніякавата, быццам зноў вярнулася семнаццаць гадоў, у якія Саша Баравік любіў пасвавоціць.

— Узмужнеў, узмужнеў,— сказаў Булай, задаволена аглядваючы моцную фігуру Алеся.— Як табе ў нас?

— Прывыкаю.

— Усяго толькі?

У голасе Булая прагучала незадаволенасць. Ён быў вялікі патрыёт свайго цэха і хваравіта ўспрымаў раўнадушнасць каго-небудзь з падначаленых да цэха і цэхавых спраў. Алесь ведаў гэта і, злуючыся на сябе за сваю звычайную стрыманасць, загаварыў:

— Вы не так зразумелі мяне, Васіль Міхайлавіч. Я, наогул, прывыкаю да цывільнага жыцця. А ў вас мне прывыкаць не трэба. Гэта ж мой другі родны дом.

— Вось бачыш,— у Булая пасвятлелі вочы,— ты правільна разумееш і, спадзяюся, цэніш. Ты — кадравік, хоць восем гадоў адсутнічаў. А ёсць усякія. Толькі прыйшлі ў калектыў і адразу: «Тое не так, гэта не так». Але я не здаюся. Мая лінія правільная. Яе я і адстойваю, працуючы ў цэху. Ну, а з крыкунамі справімся. Ты мяне ведаеш. Так, га?

Крыкуноў, якія перашкаджаюць справе, Алесь таксама не любіў і згодна кіўнуў галавой.

— Ёсць у мяне такія-сякія задумы, як палепшыць работу цэха,— Булай загаварыў ужо спакойным, дзелавым тонам.— Думаю некаторыя перастаноўкі людзей зрабіць. Так што хутчэй асвойвайся, дам табе новую пасаду.

— Дзякую, Васіль Міхайлавіч, але мне і гэтай хапае,— Алесь не здзівіўся планам Булая. Колькі ён помніў, той заўсёды нешта прыдумваў, гаворачы: «Больш за ўсё баюся, каб не было застою, балота гнілога».

— Ну-ну. Сціпласць — рыса пахвальная. Аднак справа зараз не ў тым, што табе хапае. Важна, што ты можаш даць. Зразумеў?— Булай пабарабаніў пальцамі па шкле, пад якім ляжалі рознакаляровыя графікі, дакладныя, заяўкі.— Ты ведаеш, што наш цэх самы вялікі на заводзе? Махіна. Гонар кіраваць такім гігантам. Але і адказнасць вялікая. Начальнік павінен быць заўсёды на ўзроўні патрабаванняў жыцця. Я пра што падумаў? Цяпер усюды ідзе скарачэнне штатаў. Пашукаўшы, дык і ў нас ёсць унутраныя рэзервы. Начальнікаў у нас хутка будзе менш. Затое яны будуць самыя моцныя. Гэту ідэю я выношваю. Гэта перспектыва, уменне бачыць будучыню. Але нельга забываць і пра надзённае. Перабудова — перабудовай, а запасныя часткі давай.

— Васіль Міхайлавіч, а раптам Дубасава праўда?

Булай уважліва, нібы ацэньваючы, зноў агледзеў Алеся, заўважыў:

— Я сказаў: эксперыменты — пасля першага.

Размова, што ў пачатку насіла адценне інтымнасці, неяк выбілася з каляіны. Булай, здавалася, страціў ранейшую цікавасць да субяседніка, і Алесь паспяшаўся развітацца.

На вуліцы было холадна. Рэзкі вецер, вылізваючы абкатаную машынамі дарогу, шпурляў у твар калючы снег, перамешаны з пяском. Наставіўшы каўнер, Алесь крочыў насустрач ветру і думаў, чым бы заняцца вечарам. Размова з Булаём пакінула непрыемнае адчуванне, нечым непакоіла, і таму не хацелася заставацца ў адзіноце. А куды пайсці? Ён раптам адчуў, што не мае да каго пайсці. Можа да сваіх хлопцаў? Ён пасля той паездкі ў лес трохі здружыўся з імі, сустракаючыся на рабоце.

Дома быў толькі адзін Сямён. Ён стаяў перад люстэркам і вывязваў вузел на гальштуку. Гальштук быў новы, бліскучы і слізкі, і вузел атрымліваўся то вялікі, то малы. Сямён незадаволена пагледзеў на Алеся, які перашкодзіў яму прыхарошвацца, і адказаў:

— Пракоп з Алегам у інстытуце.

— А ты на спатканне? — не здымаючы з ягонай шыі гальштук, Алесь умомант завязаў вузел.

Не падзякаваўшы, Сямён адказаў:

— Так, на спатканне. Між іншым, з Зінай...— і як бы чакаў, што на гэта скажа Алесь.

Алесь не прыняў выклік і шчыра сказаў:

— Зайздрошчу, харошая дзяўчына. Ну, бывай.

Бадай, Сямён недарэчы напомніў пра Зіну. Алесю стала яшчэ больш самотна, і ён ледзь не подбегам накіраваўся да аўтобуснага прыпынку, каб хутчэй трапіць на людзі.

— Э-э, каго бачу!..— у аўтобусе нехта схапіў Алеся за руку.

Алесь азірнуўся. На заднім сядзенні, ля самых дзвярэй, сядзеў мужчына, апрануты ў моднае варсістае паліто і высокую шапку. Алесь наморшчыў лоб, сілячыся здагадацца, хто б то мог быць.

— Не пазнаеш,— смяяўся мужчына.— Ай-ай!.. І трэці раз «ай». Сорамна адракацца ад старых сяброў, Крон.

— А-а,— узрадаваўся Алесь. Апошняе слова нагадала яму рамеснае вучылішча і мянушку, якую далі Алесю некалі хлопцы. У самы першы дзень іх вытворчай практыкі Алесь, вярнуўшыся з завода, пахваліўся, што працуе ўжо на станку. Хлопцы былі не паверылі. Каб даказаць ім, ён заявіў: сёння пальцы цыліндра шліфаваў. Дакладна — на мікрон. Назаўтра высветлілася, што працаваў рабочы, а Саша Баравік толькі стаяў побач. І хлопцы з тае пары называлі яго Мікрон. Пакрысе мянушка стала карацейшая, засталося «Крон». А прыдумаў яе, здаецца, гэты самы салідны мужчына, які тады быў зухаваты, а да вучобы ленаваты. «Як жа яго звалі? Ду... Ду... Дудзік».

— Здароў, Дудзік!

Па сонечным твары мужчыны слізнула хмарка.

— Чакай, пра якога Дудзіка ты гаворыш? — кісла спытаў ён.

— Пра таго, які заўсёды дудзеў: суп без мяса, катлета малая, кісялю няпоўная шклянка. Так, так, Пятрусь Кібрык.

— От, шэльма, успомніў!..— палагаднеў Кібрык.— А мне пра цябе Булай расказваў. Рады я, што ты зноў да яго трапіў. Мне от не выпала. Як закончыў інстытут, у планавым аддзеле працую. Але, паверыш, сумую часам па гаечным ключы.

Кібрык заўсёды любіў многа гаварыць, і Алесь з задавальненнем слухаў яго, успамінаючы тую даўнюю, цудоўную пару свайго семнаццацігоддзя.

— Ты куды едзеш? — спахапіўся Кібрык.— Не ведаеш? От дзівак! Заедзем да мяне, а потым некуды завалімся. Хочаш у рэстаран, дзеля такой сустрэчы, а хочаш — у тэатр.

— Давай лепш у тэатр,— згадзіўся Алесь.

— Аднак раней па кілішку прапусцім,— падміргнуў Кібрык.

Яны заседзеліся ў Кібрыка, успамінаючы былое, і спазніліся ва ўсе тэатры. Стаялі ў вестыбюлі, гадалі, куды б пайсці яшчэ. Не хацелася выходзіць з цёплага памяшкання.

Мароз памацнеў. Дзьмуў парывісты сівер. Вуліцы былі амаль пустыя. Рэдкія прахожыя таропка хаваліся ў пад'ездах, забягалі ў магазіны.

— Хіба да дзяўчат куды завітаць? — Кібрык туліў галаву ў каўнер. Не дачакаўшыся Алесевага адказу, перабег вуліцу, нырнуў у аўтаматную будку.

Алесь бачыў, як ён горача нешта даводзіў, махаў рукой, потым зноў набіраў нумар і зноў гаварыў. Вярнуўшыся, сказаў:

— Паедзем, запрашалі...

Віно, выпітае з Кібрыкам, кружыла галаву, і Алесь, не раздумваючы, згадзіўся.

Неўзабаве яны былі ўжо на ўскраіне горада. Кібрык упэўнена націснуў кнопку званка раз, потым другі. Яго званок тут, відаць, ведалі. Бо яшчэ з-за дзвярэй глухаваты жаночы голас супакоіў:



— Зараз, Пеценька, зараз.— Гаспадыня не здзівілася, што Кібрык не адзін, а, наадварот, яшчэ ветлівей запрасіла:

— Заходзьце, хлопчыкі, заходзьце. — І зазірнуўшы ў пакой, папярэдзіла: — Ніна, сустракай гасцей.

Алесь адчуваў сябе няўпэўнена, а калі з пакоя выйшла Ніна Ганакова, зусім збянтэжыўся: не чакаў, што Кібрык завядзе да знаёмых. А той стаяў і ўсміхаўся.

Выручыла Ніціна маці, Ганна Сцяпанаўна. Яна памагла распрануцца, завяла ў залу, пасадзіла да стала, паабяцаўшы зараз прынесці чаю. І за гэты кароткі час паспела распытаць у Алеся ледзь не пра ўсё ягонае жыццё. Рабіла яна гэта між іншым, і Алесь адказваў ахвотна, забыўшыся, што прыйшоў сюды ўпершыню.

Пілі чай. Алесь хваліў гаспадыню за ўменне кулінарыць ды ўпотай сачыў за Нінай і Кібрыкам. Гэта была дзіўная пара. Кібрык відны хлопец — шыракаплечы, высокі, прыгожы з твару. Ён сам, здавалася, ні на хвіліну не забываў аб сваёй прыгажосці, бясконца прыгладжваў і без таго прылізаныя каштанавыя валасы. Побач з ім Ніна выдавала вельмі ўжо несамавітай: на ёй сціплая паркалёвая сукенка, ды і з твару дзяўчына выглядала горш, як на рабоце, хоць там хадзіла ў сінім спяцовачным халаце. Адно, што ўразіла Алеся,— вочы, вялікія, карыя, з смяшлівымі агеньчыкамі.

— Ешце, малады чалавек, ешце,— Алесь не заўважыў, як гаспадыня паклала перад ім яшчэ адзін кавалак піражнага.

Ніна з Петрусём зарагаталі, а Ганна Сцяпанаўна абурылася. Яна, мабыць, вельмі любіла частаваць вось такіх, як Алесь, халасцякоў, што ніколі не паспытаюць дамашняга печыва.

Алесю падабалася сядзець ва ўтульным пакоі, і ўжо з прыкрасцю думалася, што стрэлкі гадзінніка бягуць занадта хутка, неўзабаве прыйдзецца пайсці адсюль. Яму хацелася пасядзець яшчэ колькі хвілін, але Кібрык устаў і сказаў, што пара ісці.

Ніна і маці спрабавалі іх затрымаць, а калі хлопцы настоялі на сваім, Ганна Сцяпанаўна ўзяла з Алеся слова, што ён яшчэ зойдзе да іх.

Алесь крыху здзівіўся, што Ганна Сцяпанаўна запрашала ў госці толькі яго. Кібрыка яна як быццам і не бачыла. Тады чаго яна так ветліва сустракала яго? І наогул, чаму сюды ходзіць Кібрык? Чаму ён раптам заспяшаўся дамоў? Але пытацца ў яго не хацелася. Затое сам Кібрык выказаўся даволі шчыра.

— Віншую, здаецца, яна за жаніха цябе прыняла,— сказаў Кібрык. — Са мной гэтыя штучкі не прайшлі. Мне гэтая нямогліца не вельмі патрэбна.

— Навошта ж ты ходзіш? — абурыўся Алесь.

— А што, нам лепш было мерзнуць?

Алесь прамаўчаў. Ад нядаўняга лагоднага настрою ўжо нічога не засталося.

## III

Зіна прайшла міма і не прывіталася. Гэта здзівіла Алеся. Яшчэ ўчора яны зноў каталіся на лыжах, і Зіна, як толькі Алесь адставаў, заўсёды аказвалася побач. І вось маеш!.. Прайшла і не прывіталася. Алесь слухаў Ніну і ўвесь час думаў, чаму пакрыўдзілася Зіна. Здаецца, нічога дрэннага ён ёй не зрабіў. Падышлі хлопцы. Сямён Дубасаў зноў пачаў гаворку пра тое, каб не адкладваць яго прапанову да першага, а ажыццяўляць неадкладна.

— Сумясціўшы тры аперацыі ў адну, мы толькі паскорым працэс,— даводзіў ён.

Алесь быў на баку Булая.

Хлопцы прамаўчалі, а Сямён не вытрымаў:

— Пад чужую дудку скачаш, з Булаём хочаш мірна жыць.

— Ох, і калючка ты!..— папракнуў Алесь.

— І няхай...—выгукнуў Сямён,—пайшлі, хлопцы, гэта мы ўжо чулі.

Алесь пайшоў да начальніка цэха.

Кабінет начальніка цэха знаходзіўся ў самым канцы пралёта, за добрых дзесяць хвілін хады ад Алесевага ўчастка. Пакуль дойдзеш, ёсць час абдумаць і сваю віну, калі маеш такую, і тое, што збіраешся сказаць начальніку. Але сёння Алесь не ведаў, чаго яго кліча Булай. Здаецца, і лаяць няма за што, і хваліць таксама.

У кабінеце заўсёды было непрывычна ціха. Толькі ледзь прыкметнае дрыжанне сцен напаміналі, што недзе блізка працуюць станкі, агрэгаты, шугае магутнае заводскае жыццё. Аднак сёння Алесь адчуў, што нешта адбылося ў гэтым ціхім кабінеце. У вочы кінуўся беспарадак, які панаваў на вялікім начальніцкім стале. Сам Булай, заклапочаны, з акулярамі, ссунутымі на лоб, не сядзеў, як звычайна, у крэсле, а стаяў збоку стала.

— Графік зрываецца,— замест прывітання сказаў Булай.— Распусціліся людзі, страцілі пачуццё адказнасці. Вось затрымаю змену на пару гадзін, няхай папрацуюць.

— Рэзерваў каб пашукаць...— асцярожна сказаў Алесь, спадзеючыся, што Булай успомніць пра Сямёнаву задуму.

— Ты думаеш, я цябе паклікаў, каб ты мне парады даваў? — у густым і без таго голасе Булая чуўся гнеў.— Я цябе хацеў папярэдзіць, каб у хлопцаў ніякіх там фантазій... Толькі гатовыя валы. Па графіку, і нічога іншага. Усё. Прышлі суседа.

Не чакаючы, пакуль Алесь выйдзе, Булай схапіў тэлефонную трубку:

— Планавы? Кібрыка!

«А гэты навошта?» — падумаў Алесь, спускаючыся па крутой сталёвай лесвіцы ў цэх.

Вестка аб аўрале не выклікала пярэчання. Відаць, рабочыя прывыклі да гэтага.

— Канец месяца...— растлумачыў Пракоп.

— А як жа графік? — недаўменна пачаў быў Алесь.

— То Булай для прыгожага слоўца гаварыў. А выходзіць, як у канцы мінулага месяца штурмавалі план, так і зараз штурмуем. У наступным таксама будзем.

Было прыкра, што нават Пракоп не бачыць нічога заганнага ў гэтым. Як ні мала ведаў Алесь умовы працы на вытворчасці, але разумеў, што, пакуль большасць рабочых не адчуе адказнасці за рытмічную працу, ліхаманка не спыніцца. Аднымі загадамі начальства тут рады не дасі.

Пасля работы Алесь у прахадной сутыкнуўся з Паўлаўцом. Макар Сяргеевіч Паўлавец меў ужо за пяцьдзесят. Кадравік, паважаны чалавек, важак камуністаў механічнага цэха. Алесь пазнаёміўся з ім, калі браўся на ўлік.

Няспешны ў рухах, разважлівы, Макар Сяргеевіч падабаўся людзям сваімі вачамі, у якіх ніколі не згасаў агеньчык цікаўнасці да ўсяго, і яшчэ ўсмешкай, лагоднай і хітраватай. Убачыш яе, і палягчэе на сэрцы.

Гадзіны працы за станком, калі і перакурыць няма часу, здавалася, не стамілі Макара Сяргеевіча. Гэтак жа, як заўсёды, адкрыта глядзелі вочы, толькі цёмныя кругі вакол іх пачарнелі і паглыбелі ды зморшчынак пабольшала. Яны адны паказвалі, як, напэўна, цяжка яму зараз засяродзіцца ў гутарцы з субяседнікам.

Сам Алесь не адважыўся б пачаць гаворку пра тое, што яго ўсхвалявала, занепакоіла. Аднак Паўлавец пайшоў яму насустрач.

— Не чакалі, што канец месяца будзе такі напружаны? — спытаў ён.— У арміі расклад не ламаецца.

— Бывалі трывогі і ў нас,— няпэўна адказаў Алесь. Яму многае яшчэ здавалася няясным, таму не хацелася распачынаць сур'ёзную размову.

— Вучэбныя? — усміхнуўся Паўлавец.

— Прызнацца, я думаў, што ўжо няма штурмаўшчыны.— Алесь зразумеў, што ад Паўлаўца ўтаіцца цяжка.— Нават газеты рэдка пішуць пра яе.

Макар Сяргеевіч адказаў не адразу. Ён, хутчэй, ухіліўся ад адказу:

— Думаю, гэта не штурмаўшчына ў тым сэнсе слова, як уяўляеце сабе вы. План мы выканалі б без яе. Але Булай захацеў даць некалькі лішніх працэнтаў.

— Навошта тыя працэнты? Хіба Булаю?

— Не так злосна, малады чалавек...— Паўлавец загаварыў яшчэ мякчэй.— Булай — начальнік цэха. Ён не хоча, каб мы былі горшыя ад усіх — раз, ды і прэміяльныя нешта значаць.

— Пераможцу не судзяць, так? — Алесь вырашыў спрачацца.— Значыць, любы метад добры, абы ў перадавікі выбіцца, абы прэмію атрымаць? Вы паслухалі б, як ён сёння з людзьмі размаўляў. Як заўзяты фельдфебель з навабранцамі.

— Хапілі лішку, малады чалавек! — гарачая тырада не зрабіла ніякага ўражання на Паўлаўца.— Ведаю. Усе ведаюць, што Булай не стрыманы, што любіць пакамандаваць. А заўважце, калі ён такі робіцца? У дні найбольшага напружання. Ён гарыць тады сам на рабоце і хоча, каб астатнія гарэлі. Ён умее арганізаваць людзей, а гэта — галоўнае. Вы пагаварыце з рабочымі. Вам раскажуць нават больш, чым вы расказалі мне зараз. Яго недахопы не скрытыя. Але замахніцеся на Булая без падставы — вас не падтрымаюць. Булаю даруюць многае, бо ён многа дае людзям. Ён мае аўтарытэт на заводзе.— Паўлавец гаварыў разважна, не спяшаючыся, нібы ў такт сваім павольным крокам, і гэта рабіла словы важкімі, доказнымі.

Алесь разгубіўся. Макар Сяргеевіч не тое што пераканаў яго, а пасеяў сумненні.

Макар Сяргеевіч, мабыць, здагадаўся аб яго думках, бо, не прадаўжаючы размовы, развітаўся.

Алесь пачаў дакараць сябе за несправядлівасць у дачыненні да Булая. Так, Булай клапоціцца пра сваіх рабочых. Гэта Алесь паспеў ужо адчуць на сабе. Месяца не прабыў, а пакой атрымаў. Булай абяцаў нават цэлую кватэру. А нядаўна сказаў, што павысіць па службе. А для астатніх, напэўна, зрабіў яшчэ больш. Алесь пачаў дакараць сябе. Цяпер Булай здаваўся яму самым добрым, справядлівым чалавекам на заводзе.

## IV

Не запальваючы святла, Алесь скінуў рабочую вопратку, прылёг на канапе. Думкі штораз вярталіся да размовы з Паўлаўцом. Расла

незадаволенасць сабой, ад якой было адзінае выратаванне — пайсці на людзі. Алесь пачаў збірацца на каток.

Асветленае мноствам пражэктараў, ледзяное поле стадыёна блішчала, як у сонечны дзень. Па ім праносіліся віхурай канькабежцы то па аднаму, то парамі, то, пабраўшыся за рукі, цэлымі групамі.

Нейкі час Алесь глядзеў на каток, адчуваючы, як нястрымная сіла цягне яго туды, уніз. Адолены гэтай сілай, ён пабег па прыступках.

Алесь бегаў на каньках лепш, чым на лыжах. Некалі, яшчэ ў школе, потым у вучылішчы, ён удзельнічаў у юнацкіх спаборніцтвах і нават паказваў нядрэнны час на кароткіх дыстанцыях. З маленства ён любіў каток і тую мітусню, што панавала на ім. Алесь асцярожна абыходзіў тых, што нясмела трымаліся на каньках, спрытна ўхіляўся ад занадта смелых і рызыкоўных бегуноў. Нарэшце, ён прабраўся бліжэй да цэнтра, дзе парадак быў большы. Тут ужо можна было прайсціся на поўную сілу.

Змарыўся ён хутка, не зрабіўшы і пяці кругоў. І не дзіва: апошні год ён зусім не выходзіў на лёд. Запаволіўшы бег, ён пачаў выбірацца да бакавых лавак.

Вольнага месца, аднак, не знайшлося. Алесь трохі прайшоўся па пратаптанай абочыне і прысеў на зледзянелы снег. Гэта было крыху воддаль ад катка, затое адсюль добра відаць усё, што на ім робіцца. Аленазіраў Алесь нядоўга. Яго зноў апанавалі думкі пра завод, пра хлопцаў, пра Зіну, пра тую прапанову Сямёна, якую не дазваляў ажыццявіць Булай.

Непадалёк спынілася вясёлая і шумлівая купка моладзі. Алесь прыглядзеўся больш пільна і пазнаў сярод іх Зіну. Яна стаяла сярод хлопцаў і смяялася:

— Не, хлопчыкі, не ўгаворвайце, мне пара дамоў,— данесліся да Алеся яе словы.

Алесь падумаў, што недзе тут павінен быць і Сямён. Яго, аднак, не было. Дый кампанія была не падобная да той, дзе мог быць Сямён. Хлопцы паводзілі сябе дзіўна. Пабраўшыся за рукі, яны не выпускалі Зіну з круга. Алесь рашуча падышоў да іх і стаў побач з Зінай.

— Ось, бачыце! — гукнула Зіна.— А вы не верылі. Мяне чакаюць, і верны рыцар выратоўвае жыццё дамы свайго сэрца...

Алесь не разумеў, жартуе Зіна ці кпіць з яго.

І ўжо ля раздзявалкі Зіна шчыра сказала:

— Дзякуй, Алесь Мікалаевіч, што выручылі.

— Дзеля Сямёна стараюся,— пажартаваў Алесь.

— Зараз вы мне больш падабаецеся,— усміхнулася Зіна і раптам стала зусім простай, свойскай дзяўчынай.— Ці не праведзяце вы мяне да хаты? Заадно данесяце гэтыя рэчы...

На ўскрайку горада, дзе стаяў Зінін дом, было ціха і пуста. Недзе далёка чулася дыханне вялікага горада, шум машын, гудкі паравозаў. А тут пад нагамі парыпвалі драўляныя тратуары, з бакоў абступалі штакетнікі заснежаным вішняком і бэзам. З комінаў узнімаўся дым, пахла паленым торфам, смажаным салам і яшчэ чымсьці няўлоўным.

На Алеся павеяла даўнімі ўспамінамі. Такія ж ціхія, спакойныя вуліцы былі ў яго родным прыдняпроўскім гарадку. Колькі разоў хадзіў ён з хлопцамі па іх, вяртаючыся ўвечары са школы.

Яны прайшліся па вуліцы раз, другі. Алесь не мог пачаць гаворкі, мабыць, перашкаджалі ўспаміны. Нарэшце ён запытаўся:

— Чаму вы табельшчыца, у вас жа атэстат?

— Мае ногі — мне бегаць.



Зусім не гэта чакаў пачуць Алесь, і надоўга прыкусіў язык: баяўся нарвацца зноў на з'едлівы адказ.

Зіна не вытрымала першая.

— Доўга будзем у маўчанкі гуляць? А можа крыўдуеце за Сямёна? — яна ўзяла насмешлівы тон, супраць якога вельмі цяжка бараніцца.

— Кампанія ваша не спадабалася,— Алесь рашыў гаварыць адкрыта.

— Мне таксама,— згадзілася Зіна.— Ды што зробіш? Лепшай няма.

— Сямён...

— Што Сямён! Ён жа такі нудны. А тыя хоць пагарлапаніць могуць.

— Наўрад ці панясу я вам гэты мех калі-небудзь яшчэ,— паспрабаваў пажартаваць Алесь, крыху, аднак, пакрыўдзіўшыся.

— Яшчэ як! — Зіна зноў стала гарэзлівай.— Я ўмею прасіць.

Яны спыніліся ля брамкі. Нізкаваты, цёмны, бо зачынены аканіцы, дом хаваўся ў глыбіні невялікага саду.

— Дзякуй,—Зіна насмешліва паглядзела на Алеся. Ён адчуў ніякаватасць, адвёў вочы ў бок. Зіна зарагатала, выхапіла ў Алеся сумку і схавалася за брамкай. Там яна счакала, пакуль Алесь, пастаяўшы трохі, пайшоў, і асцярожна выглянула ўслед. Алесь хаваўся ўжо за паваротkай. Ён нават не азірнуўся, і гэта пакрыўдзіла Зіну. Яна з усяе сілы бразнула брамкай і забарабаніла ў дзверы, скалануўшы вячэрнюю цішыню вуліцы.

— Дзякуй богу!..— пляснула ў далоні маці.— Сямён зачакаўся.

## V

З цэха выйшлі ўтрох. Пачакалі Зіну. Яна выглядала свежая, ружавашчокая пасля душу.

— Зіна,— Пракоп надаў голасу здзіўленне,— а ты без гэтых, як іх называюць, румян нават папрыгажэла.

— Ага,— падтакнуў Алег,— проста прыгажуня.

— Хлопцы...— дакорліва сказаў Сямён.

— Я вам падабаюся, хлопчыкі? — Зіна не магла ўтрымацца, каб не пагарэзнічаць.— Падабаюся?.. То, можа, праводзіце да хаты?

Можна было паехаць да вакзала. Так было карацей. Але так было і хутчэй. А ім сёння пасля напружанага дня не хацелася так вось адразу расставацца. Таму дабраліся спачатку да плошчы Перамогі, а адтуль вырашылі прайсціся пешшу.

Надвячоркам на праспекце заўсёды шмат людзей. Адны вяртаюцца з работы, спяшаюцца. Другія, карыстаючыся вольнай хвілінай, ідуць павольна, цешачыся добрым надвор'ем, навакольнай прыгажосцю, радуючыся нечаму прыемнаму, свайму.

— Давайце на правы бок,— пацягнула хлопцаў Зіна,— там хоць Свіслач на рэчку падобная.

Сонца апускалася ўжо за дахі дамоў, чырванаватыя водбліскі падалі на рачны лёд, на снег. Сляпіла вочы. Пакапаўшыся ў сумачцы, Зіна выцягнула цёмныя акуляры. Акуляры зімой — гэта было незвычайна. На яе азіраліся, праводзілі здзіўленымі позіркамі. А Зіна ішла безуважная і ганарлівая.

Побач з Зінай хлопцы адчувалі сябе ніякавата.

— Не можа без спектакля,— буркнуў Алег.

Калі дайшлі да цэнтра, Пракоп рашуча сказаў:

— Ты, Зіна, забірай Сямёна і ідзі з ім куды хочаш. А мы ў сваю дарогу.

— Хлопчыкі, я не хачу,— Зіна выслабаніла руку, якую трымаў Сямён, учапілася за Пракопа.— Я не хачу дамоў.

Пракоп падумаў хвіліну, сказаў:

— Добра, хадзем у карцінную галерэю. Я даўно хацеў там пабыць.

— Геніяльна! — Зіна запляскала ў далоні, а Сямён спахмурнеў. Яму хацелася пабыць з Зінай удваіх.

У галерэі была адкрыта выстаўка новых работ. Хлопцы хадзілі асцярожна, прыгнечаныя цішынёй і нейкай урачыстасцю, што так уласцівы музеям. Потым, зацікавіўшыся, асмялелі. Яны спыняліся ля карцін па-гаспадарску, то падыходзілі бліжэй, то адступалі, выбіраючы найлепшае месца для агляду. Алег быў самы нецярплівы. Ён нідзе не затрымліваўся падоўгу і ўсё цягнуў астатніх, пакуль раптам не ўбачыў партрэт:

— Паўлавец!? Даль бог, ён!..— Алег спыніўся, як укапаны.

— Глядзіце!..— узрадаваўся, нібы сустрэўся з жывым чалавекам, Пракоп.

— Помніце, мастак да нас у цэх прыходзіў,— цяпер разышоўся Алег,— такі невысокі. Мы яшчэ смяяліся з яго скрынкі, што ён на раменьчыку цягаў.

— Гэта эцюднік называецца, — падказала Зіна.

— Ты паглядзі, як намаляваў добра. Здаецца, зараз Макар Сяргеевіч зніме свае акуляры і скажа: «Няма ў вас сур'ёзнасці, хлопцы!».

— Аднак, схапіў мастак...—засмяяўся Пракоп, пачуўшы, як Алег прачытаў карціну.

Выпадковая сустрэча з партрэтам знаёмага чалавека па-сапраўднаму зацікавіла, прымусіла без раўнадушнасці глядзець на другія карціны, што віселі побач, дала смеласці ўголас рабіць заўвагі. Хлопцы былі ў гэты час адзінымі наведвальнікамі, аднак работнікі галерэі пачалі ўжо на іх падазрона паглядаць. Прыйшлося крыху прыціхнуць. Толькі Алег не зважаў ні на што.

— Вось пакой для Сямёна з Зінай,— уголас заўважыў ён ля суседняга палатна.

Сямён збянтэжана зірнуў на Зіну, а тая весела запытала:

— Ты мне такое жытло падрыхтаваў?

На карціне былі намаляваны хлопец з дзяўчынай. Яны атрымалі кватэру. У іх, маладажонаў, яшчэ няма рэчаў, каб абставіць свой пакой. Але, відаць, іх гэта не турбуе. Хлопец шчыра радуецца, а ў дзяўчыны ў вачах лёгкі смутак і задуменне. Не хочацца, напэўна, пакідаць сваіх сяброўак, з якімі так добра было ў інтэрнаце...

Сямён прыціх, зайздросцячы таму, незнаёмаму і шчасліваму. Зіна фыркнула: «Рай».

— Быў бы рай,— асуджальна сказаў Пракоп,— каб мастак не з цябе, Зіна, спісваў. Зірні, на ўслоніку твае «шпількі» з сумачкай стаяць.— і невядома было, каго ён больш асуджаў — мастака ці Зіну.

— Хлопцы,— узлавалася Зіна,— вам бы хоць кропельку рамантыкі, хоць на мезенчык!.. Вам трэба, каб мастак стружкі намаляваў, што не паспелі прыбраць пасля будаўнікоў.

— Трэба, каб было, як у жыцці, проста, — не згадзіўся Пракоп. — Хіба ім больш нічога нельга было прынесці, акрамя гэтай кашолкі. Ты ж яе не панясеш па вуліцы, хаця цябе ў сціпласці ніяк не абвінаваціш. Ты паглядзі на яе сукенку, прычоску. Не, гэта не яе сумка, а нейкай знаёмай мастака.



— Ат,— махнула рукой Зіна,— пайшлі.

Яны выйшлі з галерэі, але доўга яшчэ, аж пакуль не развіталіся з Сямёнам і Зінай, не маглі суцішыцца. Спрачаліся да самага інтэрната. Там іх ужо чакаў Алесь. Ён прыйшоў сюды паўгадзіны назад. Дзверы былі замкнёныя. Алесь для прыстойнасці пастукаў другі раз і, не пачуўшы адказу, спусціўся да вахцёркі. Яна паглядзела на дошку, дзе віселі ключы, і спачувальна паведаміла:

— Яшчэ не вярнуліся. А вы пачакайце. Яны хлопцы акуратныя, не позняцца.

Пахадзіўшы крыху па вуліцы, Алесь завітаў зноў. Вахцёрка ўзрадавалася, бо, відаць, засумавала ў адзіноце:

— Сядайце. Зараз прыйдуць. Абавязкова. У Дубасава сёння лекцый у інстытуце няма.

Пакуль Алесь стаяў, думаючы, што рабіць, прыйшлі Пракоп з Алегам.

— Прабачце, Аляксей Мікалаевіч,— узмаліліся яны і шчыра прызналіся: — На карціны заглядзеліся і забыліся.

— А Сямён дзе? — запытаў Алесь.

— Вынаходцу амур падстрэліў,— падміргнуў Алег.— Паміраючы салодкай смерцю, давесці справу завяшчаў нам.

— Ох і балбатун,— узлаваўся нечага Пракоп,— абы трапануць, не толькі сябра, бацьку роднага не пашкадуе.

— Вельмі жарты люблю,— Алег і не думаў апраўдвацца.

— Я чалавек вясёлы, не тое, што іншыя.

Алесь толькі ўсміхаўся. Каб яшчэ Сямён быў тут, зусім добра было б. А так нешта нібы грызе, выклікае незадавальненне. Але нічога. Ён жа сюды па справе прыйшоў, дык трэба справай і займацца. Як толькі ўвайшлі ў пакой, папрасіў:

— Пакажыце нататкі.

— Алесь Мікалаевіч,— Пракоп падышоў да стала, сеў побач з Баравіком,— вы маеце час? Маеце? То добра. Мы зараз былі на выстаўцы. Хачу вам трохі расказаць пра яе. Але спачатку скажыце: якая карціна будзе сапраўдная, ну, мастацкая, як звычайна кажуць.

— Задаў ты мне задачку!..— шчыра прызнаўся Алесь.— Думаеш, я мастацтвазнаўца? Я скажу табе, як сам разумею. Па-мойму, тая карціна добрая, на якую можна глядзець многа разоў і кожны раз адкрываць у ёй нешта новае, непаўторнае.

— Праўда, — згадзіўся Пракоп. — Вось сёння мы глядзелі карціну пра партызанаў. Многа іх там. Спачатку думаецца: навошта мастак панаставіў іх? А пастаяў і зразумеў, што так і трэба. Убачыў я людзей, якія жывуць адным — радасцю нядаўняй перамогі, і кожны перажывае яе па-свойму: адзін аж свеціцца шчасцем, другі, наадварот, сумуе крыху, трэці проста стомлены... У кожнага сваё.

— Я вось пра што хацеў спытаць. Ну, сапраўдныя карціны такія, дзе ўсё напісана па-людску, я разумею. А навошта іншыя? Ёсць там. Абстракцыі, як казала экскурсавод. Іх, чым больш глядзіш, тым больш брыдка робіцца. Дзе там уявіць што-небудзь? Дай бог зразумець, што да чаго.

— Абстракцыя, кажаш? — зацікавіўся Алесь.— Не новае ўсё гэта. Было ўжо. У свой час ім добра далі.

— Гэта ж калі? — перабіў яго Алег.

— Ды гадоў з трыццаць, а то і ўсіх сорак таму назад. А цяпер, бач ты, зноў павылазілі. Па-свойму, брат, зразумелі перамены ў нашым жыцці. Цікава, аднак, паглядзець, што яны там натварылі...

— Ды ўжо,— адказаў Пракоп,— хутчэй напэцкалі.

— Недзе я чытаў,— сказаў Алег,— што абстракцыяністы лічаць сябе мастакамі будучыні.

— А там не было напісана, што іх зараз яшчэ не разумеюць, што зразумеюць пасля? — спытаў Алесь.

Алег пацінуў плячыма.

Алесь заўсёды любаваўся Пракопам, калі той пачынаў гаварыць з захапленнем, горача. Алесь ведаў, што гэтаму юнаку нялёгка даецца жыццё. Працуючы, ён скончыў дзесяцігодку, зараз вучыцца на трэцім курсе інстытута. Хутка будзе інжынерам. А ўжо зараз, бадай, ведае тое-сёе не менш за іншага дыпламаванага спецыяліста. Гэта ён, Пракоп, падказвае сваім хлопцам большасць тых ідэй, якія праславілі на заводзе іх брыгаду. І ў той жа час ён знаходзіць магчымасць, не, хутчэй мае патрэбу, паглядзець новыя карціны, падумаць над імі.

Чым больш прыглядаўся Алесь да Пракопа, тым больш той яму падабаўся.

Яны яшчэ доўга гаварылі — і пра мастацтва, і пра космас, і наогул пра жыццё, забыўшыся, што збіраліся абмяркоўваць зусім іншае. Толькі, калі недзе а дванаццатай гадзіне вярнуўся Сямён, успомнілі пра гэта. Але было пазнавата, каб сядзець за чарцяжамі. Выраштылі адкласці на раніцу.

## VI

Неспакой не пакідаў Алеся цэлую ноч. Ён турбаваўся, калі ішоў назаўтра на работу. Нібы нечага не дарабіў, на нешта важнае забыўся. Так і не ўспомніўшы, што, менавіта, ён прыйшоў у цэх. Ледзь не на парозе сустрэў Ніну. Алесь хацеў быў, павітаўшыся, прайсці, але Ніна затрымала:

— Мы на вас крыўдуем,— сказала яна, трохі зачырванеўшыся.

— За што? — Алесь перабіраў у памяці, што такое дрэннае мог зрабіць Ніне.— Не ведаю за сабой віны.

— А вы бяздушны...— гэта не я, мама так вас называе. Яна ў суботу нагатавала ўсяго. А вы не прыйшлі. Абяцалі ж.

Толькі цяпер Алесь успомніў, што Ганна Сцяпанаўна яго сапраўды запрашала і ён сказаў: «Дзякую, прыйду»...

— Ды часу няма, канец месяца...

— Ну, канечне, на стадыён ёсць час. А яна прыгожая дзяўчына,— Ніна зірнула ў канец цэха, дзе была канторка табельшчыц.

Алесь сумеўся, быццам што благое зрабіў.

— Ага,— смяялася Ніна,— папаліся.

Падышоў Булай, запытаў:

— Ты што, Саша, як на споведзі?

— Хачу да маці ў госці яго завесці,— растлумачыла Ніна,— а ён аднекваецца.

— Вяровачку вазьмі ды і вядзі,— Булай, задаволена зарагатаўшы, адышоў. Урэшце Алесь сказаў:

— Перадайце Ганне Сцяпанаўне, што на восьмае сакавіка прыйду павіншаваць.

...Патраціўшы больш гадзіны на пакупкі, Алесь паехаў да Ніны.

Яго чакалі. Гэта Алесь зразумеў адразу, бо стол быў заслаыы, а на канапе сумаваў у адзіноце Кібрык.



— Праходзьце, праходзьце, Саша,— выглянула з кухні Ганна Сцяпанаўна,— мы зараз.

Прысутнасць Кібрыка ўзрадавала Алеся. Ён пабойваўся, што не знойдзе пра што гаварыць з жанчынамі цэлы вечар. А з Кібрыкам гэтага можна было не баяцца. Кібрык трымаўся ў любой кампаніі, быццам у сваім доме.

Ганна Сцяпанаўна пастаралася. Закуска была цудоўная. Выпілі віна. Потым падалі чай. Гаспадыня прынесла варэнне і, вядома, уласнай выпечкі пячэнне, булачкі, торт. Алесю гэты раз было лягчэй. Яго ўжо не лічылі больш навічком.

Глядзелі тэлевізар, круцілі пласцінкі. Потым разгаварыліся. Ганна Сцяпанаўна не перашкаджала моладзі, ціха сядзела ў мяккім крэсле ў баку і слухала.

Размова неяк сама сабой перакінулася на іх жыццё. Алесь сказаў:

— У мяне такое адчуванне, быццам на свет зноўку нарадзіўся.

— Значыць, армію закрэсліў? — Кібрык выцягнуў пачак папярос і павярнуў галаву да Ганны Сцяпанаўны: — Дазвольце?

Пыхкаючы папяроскай, ён з нейкай перавагай пазіраў на Алеся.

— Армія — гэта жыццёвая школа,— нахмурыўся Алесь.— Закрэсліваць восем гадоў службы не хачу, бо служыў не толькі па абавязку. А між тым, я заўсёды ўспамінаў завод. Рукі прасіліся да працы.

— Бач ты, якое тэарэтычнае абгрунтаванне,— Кібрык паспрабаваў зняць сур'ёзнасць, якая раптам з'явілася ў лёгкай застольнай гутарцы.— Лепш паслухайце анекдот.

— Пятрусь! — Ніна ўзняла руку.— Ты заўсёды жартуеш. Хіба табе не прыходзілася задумвацца, дзе ты і як?

— Аднойчы паставіўшы мэту, я іду да яе,— крыху напышліва адказаў Кібрык.

— Ведаю,— адмахнулася Ніна,— захацеў стаць інжынерам — стаў. А цяпер куды меціш? За начальніка планавага аддзела?

— Прымітыўна мысліш! — Кібрык засмяяўся.— На якое мне ліха тая пасада? Лішнія клопаты. А мне і так добра, без вялікага чыну.

— Дык ты шчаслівы? А што такое шчасце? — загаварыла раптам Ганна Сцяпанаўна.— Нешта я ніколі не чула, каб вы пра яго тут гаварылі.

— Шчасце — гэта задавальненне ўсіх жаданняў,— крыху падумаўшы, адказаў Кібрык.

— Канечне, калі твае жаданні адпавядаюць жаданням грамадства,— дадала Ніна, павярнуўшыся да Алеся.— Вы не згодны?

Ён адказаў не адразу, відаць, правяраючы сваю думку.

— Не згодны,— гэта прагучала некалькі катэгарычна, і ён паспяшаўся растлумачыць.— Па-мойму, дык шчасце ў іншым. Па-сапраўднаму шчаслівы той, хто ніколі не адчувае поўнага задавальнення. Бо шчасце — гэта не толькі вынік, але і шлях да мэты. Чым больш ён складаны, тым большае шчасце. Яно патрабуе ад чалавека заўсёды болей, чым дае.

— Артадокс! — Кібрык прайшоўся па пакоі, памацаў фарфоравую фігурку, што стаяла на паліцы, потым з незалежным выглядам сеў да піяніна.

Алесь нахмурыўся. Ён гаварыў шчыра, выказваючы сваё запаветнае, з чаго ніколі не жартаваў сам і не мог дапусціць, каб жартаваў хто іншы. А Кібрык дык, бадай, здзекаваўся з яго.

Умяшалася Ганна Сцяпанаўна. Яна прапанавала:

— Віна яшчэ колькі! Вып'ем.

— Праўда, хлопчыкі,— падтрымала Ніна.— Пятрусь, адкрывай шампанскае. Алесь Мікалаевіч, давайце з вамі вып'ем.

Адмаўляцца не было як. Корак стрэліў у столь, адскочыў на стол, нарабіўшы звону. Шампанскае запенілася ў шклянках.

Ахмялеўшы трохі, Алесь палагаднеў. Ён ужо больш не хацеў сур'ёзнай размовы. Ганна Сцяпанаўна пазірала на іх задаволена, з лагоднай усмешкай. Ніна ж чамусьці стала задумлівай. Кібрыка яна ведала даўно, ён быў свой і здаваўся зразумелым, ясным да канца. А вось Алесь... Яна параўноўвала іх, не ведаючы, каму аддаць перавагу. Алесь нібы прасцейшы і ў той жа час незразумелы са сваёй упартасцю, катэгарычнасцю. Кібрык побач з ім выглядаў больш сталым. Ніна ўсміхнулася сама сабе. Навошта ёй параўноўваць іх, як жаніхоў, што меліся хутка пасватацца? Неяк не ўяўлялася, што Кібрык, заўсёды галантны і прылізаны, можа сказаць ёй калі-небудзь: «Кахаю». А Баравік? Ніна крадком паглядзела на Алеся. І ад таго, што яна быццам ацэньвала яго, ёй зрабілася ніякавата, і ў той жа час нешта зварухнулася ў грудзях, апаліла глухой журбой. Алесь быў такі відны хлопец: высокі, плячысты, з упартай складкай на пераноссі і добрымі-добрымі вачамі.

Дадому Алесь ехаў адзін: Кібрык пайшоў некаму званіць па тэлефоне.

У аўтобусе ў такі позні час было пуставата. Алесь прыстроіўся на бакавым сядзенні побач з печкай, угрэўся і павесялеў, адчуваючы, што разам з цяплом да яго вяртаецца і нешта іншае, не менш прыемнае. Віно яшчэ крыху кружыла галаву, але думкі былі ўжо чыстыя, як веснавое паветра.

Калі раніцай на заводзе Алесь сустрэў Ніну, ён шчыра ўзрадаваўся.

## VII

Ніна сама прыйшла на Алесеў участак.

Змена скончылася, а тут работа ішла яшчэ поўным ходам. Хлопцы спяшаліся давесці Сямёнаву задуму да ладу, каб ужо з наступнага дня можна было апрацоўваць валы, сумясціўшы аперацыі. Алесь быў, канечне, з імі. Ён сядзеў за сталом, над якім схіліліся хлопцы ўсёй брыгады. Каб паглядзець, што яны робяць, Ніна аж узлезла на нейкую скрыню. Ускудлачаны Алесь нешта хутка пісаў на лісце паперы, а астатнія ўважліва сачылі за кончыкам алоўка.

Ніна глядзела на Алеся, пазнаючы ў стомленых, пачырванелых вачах колішнюю радасць ад сустрэчы.

— Ты якраз прыйшла,— падхапіўся Алесь.— Мы тут зусім заблыталіся ў разліках.

— Дайце, дайце,— працягнула Ніна руку,— можа я памагу.

Алесь паспешліва падаў паперку.

Падышла Зіна і села ўбаку на скрыню. Сямён пачырванеў ад задавальнення, а Пракоп спачувальна ўздыхнуў.

Ніна ўсё яшчэ трымала ў руках паперку.

— Хлопцы, я знайшла памылку ў разліках,— сказала раптам яна.

Усе зашумелі.

— Цяпер усё добра, віншую вас, Дзікун! — Ніна сказала гэта з такой шчырасцю, што Сямён аж сумеўся.

— То ж мы разам...— пачаў быў ён.

— Хопіць ужо скромнічаць,— Пракоп насунуў яму кепку на вочы,— усе ведаюць, што ты — гэта наша брыгадная галава.

— Во, Булай не верыў! — не пераставаў дзівіцца Алег.— Можна ж было яшчэ ў тым месяцы...





— Бадай што так,— згадзіўся Пракоп.— Надоечы быў я на складзе. Там нарыхтовак — напэўна, на месяц усяму цэху хопіць.
— А мы адной брыгадай корпаліся,— падхапіў думку Алег.
— Хіба астатнія сядзелі склаўшы рукі? Булай жа за ўвесь цэх хварэе. Думаеце, вы ў яго першыя на жыцці рацыяналізатары? Ён жа...
— Як кажуць, сабаку на рацыяналізатарах з'еў,— падхапіў Алег.
— Эх вы! — Ніна не папракала, хутчэй разважала.— Няўрымслівасць — зайздросная рыса характару. Але толькі тады, калі не вядзе да рызыкі.
Алесь не браў удзелу ў гаворцы. Ён быў задаволены. Ён быў згодзен і з Нінай, і з Сямёнам, і, бадай, з Булаём, і можа яшчэ з кім там, каб той аб'явіўся.
Пачалі разыходзіцца. Алесь пайшоў з Нінай.
— Пойдзем пешшу,— прапанаваў Алесь,— хаця б да наступнага прыпынку.
Мінулі адзін прыпынак, другі. Іх абагнаў аўтобус, абдаўшы сінім горкім дымам. Яны весела памахалі яму ўслед. Ніна ўспаміпала розныя смешныя студэнцкія гісторыі, жартавала. Алесь шчасліва пасміхаўся.
— Ведаеце,— Ніне надакучылі ягоныя маўклівыя ўсмешкі,— у нас быў студэнт. Ідзе неяк побач — ні слова. Спытала, а ён, аказваецца, у гэты час падлічвае, колькі вокан свеціцца. А вы над якой праблемай задумаліся?
— Лічу, колькі прыпынкаў прайшлі.
Ззаду засігналіў аўтобус, патрабуючы дарогі.
— Бяжым,— Ніна ўхапіла Алеся за руку. Ускочыла ў аўтобус, памахала Алесю.
Алесь яшчэ доўга стаяў, пазіраючы, як удалечыні памігвае чырвоны агеньчык аўтобуса, што павёз Ніну. Ён не адчуваў болю ад ростані. Яны заўтра сустрэнуцца зноў. А сёння ён будзе думаць толькі пра яе, пра Ніну.

## VIII

Пасля сцюдзёнай, лютай зімы прыйшла вясна, ачысціла ад снегу і лёду дахі і тратуары, пачарніла дарогі. Стаялі сонечныя, ласкавыя дні. Ажывала ўсё навокал.
Другі раз Алесь абавязкова знайшоў бы прычыны, каб адмовіцца і не ўдзельнічаць у нарадзе, якую праводзіў дырэктар. Шматлікія пасяджэнні выклікалі ў яго раздражненне. Думалася, і часта не без падставы, што справы можна вырашаць без гэтых занадта працяглых размоў, пасля якіх часам ужо і працаваць не хочацца. Але зараз і нарады здаваліся ўжо не такімі страшнымі, праходзілі неяк ажыўлена, дзелавіта. І ён не адмовіўся, пайшоў нават з задавальненнем, бо, заняты работай, мала сустракаўся са сваімі калегамі з іншых цэхаў.
У калідоры і прыёмным пакоі перад вялікім дырэктарскім кабінетам было людна. Чакалі, калі сакратар аб'явіць, што можна заходзіць, а пакуль, разбіўшыся на групкі, размаўлялі.
Алесь спыніўся ў самым пачатку калідора, выбіраючы, да каго б прымкнуць, і шкадуючы, што ніхто з блізкіх сябрукоў яшчэ не прыйшоў. Ён павольна рушыў да дзвярэй, міжволі прыслухоўваючыся да размоў. Раптам, зацікавіўшыся, спыніўся. Гаварылі двое незнаёмых.
— Мастак Булай. Чулі? Начальству ініцыятыўку збіраецца падкінуць. Своечасова,— сказаў адзін.
— Хапае каня за грыву? — спытаў другі.— Учэпісты...
Падслухоўваць было няёмка. Алесь адышоў, губляючыся ў здагадках: чаму яны так гавораць пра Булая. На шчасце, паявіўся Кібрык. Алесь сказаў яму пра падслуханую размову.
— Пхэ!..— Кібрык нібы здзіўляўся, што Алесь не ведае такой дробязі.— Я лічыў цябе асобай, прыбліжанай да імператара. А ты, аказваецца, разява. Няўжо-такі Булай нічога не гаварыў?
— Не гавары загадкамі,— аж узлаваўся Алесь.— Можна падумаць, што тут справа нячыстая.
— Лічы як хочаш. Толькі спачатку набярыся цярпення і выслухай. Булай выступае з ініцыятывай, якая нарадзілася ў нетрах вашага цэха.
— Першы раз чую,— не паверыў Алесь.
— Цішэй ты, раптам хто пачуе... Ты ж кампраметуеш свайго начальніка. Булай сёння аб'явіць, што сакавіцкі план цэх выканае на сто дваццаць працэнтаў. Гэта адно. А па-другое, Ніна Ганакова абвяла цябе вакол пальца. Сёння яна выступае з заклікам, каб кожны інжынер меў план асабістага ўдзелу ў асваенні новай прадукцыі. Гэта, кажуць, яна пасля таго, як памагла Дзікуну, прыдумала.
«Мне áні слова,— прыкра падумаў Алесь,— а Кібрыку сказала».
— Я думаў, што-небудзь іншае. Не разумею, навошта звон...
— Ініцыятыва, дзівак. Цяпер многія інжынеры на вытворчасці будуць мець падобныя планы і займацца імі ў нерабочы час, так сказаць, на грамадскіх пачатках. Нават, калі частка іх планаў ажыццёвіцца, то якая выгада цэху, заводу. Кумекаеш? За гэта Булаю шмат якія грахі даруюць.
— Грахі?
— Адзін бог бязгрэшны, але і таго няма,— Кібрык не захацеў гаварыць больш. Яго паклікаў нехта, і ён пайшоў, памахаўшы Алесю рукой.

...Слухаючы выступленне Булая, Алесь падумаў, што да яго, часам, несправядліва ставяцца. Вось як тыя два ў калідоры, як, нават, Кібрык. Булай гаварыў упэўнена, натхнёна, пераканаўча. Расказаў пра пачын Ганаковай, аб прапанове Дзікуна, давёў, якія перавагі атрымае цэх, калі будзе ўкаранёна тое, што задумана.
— Гэта справа некалькіх бліжэйшых дзён,— урачыста абвясціў пад канец выступлення Булай.
Яму не апладзіравалі толькі таму, што на вытворчых нарадах не было такога звычаю. Але нібы хваля пракацілася па дырэктарскім кабінеце.
У перапынку Булай знайшоў Алеся, пацікавіўся, што думае ён пра нараду. Алесь шчыра сказаў, што ў захапленні, і пашкадаваў, што раней не ведаў пра гэтыя планы.
— Прызнайся,— Булай не хаваў сваёй радасці ад таго, што ўдала выступіў, быў гаваркім, уважлівым,— крыўдуеш на Ганакову? Я сачыў за табой. Выгляд у цябе быў, нібы чаго гарачага ўхапіў, ні праглынуць, ні выплюнуць. Я, грэшны, быў падумаў, што ты незадаволены.
— Што вы, Васіль Міхайлавіч! Хіба можна. Гэта ж слава ўсяму нашаму цэху.
Ні Кібрык, ні тыя двое, размову якіх Алесь нечакана падслухаў, не памыліліся. Пасля перапынку крытыка неяк сама сабой пайшла міма механічнага цэха. Булая папракалі, але злёгку, а больш хвалілі. За смеласць, за ўменне разгледзець новае, своечасова падхапіць, выпеставаць. Тон задаў дырэктар.
У гэты дзень Алесю яшчэ раз давялося слухаць выступленне Булая. Паміж дзвюма зменамі Булай загадаў сабрацца на кароткі мітынг. Ён расказваў рабочым цэха аб нарадзе. Нават Алесю падумалася, што,

менавіта, так усё і было. А Булай, паўтарыўшы абавязацельствы, якія ўзяў ад імя цэха, раптам абрушыўся на скептыкаў і малавераў, што не адчуваюць сілы калектыву, не хочуць лішніх клопатаў, збіраючыся і надалей спаць у шапку.

— А яны ў нас ёсць? — спытаў Алесь у Пракопа.

— Новае нараджаецца ў барацьбе са старым — любімы тэзіс Булая,— шапнуў Пракоп у адказ.— На шляху пачыну ён заўсёды бачыць перашкоды.

Пад канец мітынгу прынеслі шматтыражку. Газетчыкі, як і мае быць, яшчэ напярэдадні аб усім даведаліся і паспелі выпусціць спецыяльны нумар. На першай старонцы было фота Булая і Ганаковай з кароткім подпісам: «Нараджэнне пачыну». Астатняе расказваў артыкул.

Алесь паглядзеў на Ніну. Яна стаяла блізка ад імправізаванай трыбуны, расчырванелая, усхваляваная. Нехта падаў ёй газету. Ніна зірнула, расцвіла.

Узрадаваная, яна падышла да Алеся, папракнула, аднак, не надта сярдзіта:

— Не павіншаваў мяне...

— Ты, аказваецца, умееш скрытнічаць? — пакрыўдзіўся і ён.

— Даруй. Не паспела.— I таму, што ён усё яшчэ хмурыўся, міла бянтэжачыся, сказала: — Хочаш, увесь вечар з табой буду?

Ці хацеў ён лепшага!..

Да іх падышоў Паўлавец.

— Бачу, вы болей не заклапочаны штурмаўшчынай,— пажартаваў той і прапанаваў Алесю прысесці побач на пусты аўтакар.

— Як вы думаеце, Дзікун карысную справу надумаў?

— Дзіўнае пытанне...

— Дзіўнае, кажаце? А-а, вы ж актыўны ўдзельнік, толькі без лаўраў...— Паўлавец хітра прыжмурыўся, чакаючы, што будзе казаць Алесь. Але той маўчаў.— Веру, што лаўры вам не патрэбны. Хачу прапанаваць вам тое-сёе. Ужо колькі дзён мінула, як было даказана, што думка Дзікуна сапраўды мае права на існаванне. А воз ні з месца. Пакуль толькі брыгада Дубасава можа сумяшчаць аперацыі, дый толькі таму, што самі хлопцы прыдумалі гэтую справу. А іншыя? У нас жа па шасці лініях каленчатыя валы праходзяць.

— Так працуючы, ста дваццаці працэнтаў не нацягнем,— сказаў Алесь.

— Хіба толькі аб працэнтах клопат,— неспакой пачуўся ў голасе Паўлаўца. Алесю аж няёмка зрабілася за сваю лёгкадумнасць.— Запасныя часткі да новых машын амаль не выходзяць з завода. Вось у чым бяда. Ад вас я хачу, каб вы дапамаглі гэтай бядзе. Як? Трэба арганізаваць гурток тэхмінімуму. Адну групу самі вазьміце, хлопцам Дубасава па групе дайце. За некалькі дзён брыгады асвояць новую тэхналогію. Згодны?

— Пра што гаворка!..

— То дамаўляйцеся з хлопцамі, а потым да Булая. Ягонае блаславенне патрэбна, каб хутчэй кола закруцілася,— і толькі, калі ў прынцыпе было дамоўлена, Паўлавец запрасіў Алеся ў партбюро, каб абмеркаваць дробязі.

## IX

— Слушна, слушна,— ківаў галавой Булай, калі Алесь расказаў пра рашэнне арганізаваць тэхнічную вучобу.— А што, сам надумаў?



— Макар Сяргеевіч падказаў. Мы з ім амаль усё прадумалі. Вашага прысуду цяпер чакаем.

— Ого! Прысуду чакаеш, а сам партыйнай падтрымкай заручыўся. Хітрун, хітрун!.. Але малайчына, не спіш у шапку!

Аднак, пазней, на аператыўцы, Булай расхваліў Алеся за ініцыятыву, дадаўшы, што вельмі задаволены творчым неспакоем калектыву.

— Не шанцуе вам,— сказаў Алесю Пракоп,— хай бы тыдзень які назад гэта здарылася, на ўвесь завод праславіліся б.

— Далібог, я тут ні пры чым. Гэта Паўлавец,—пачаў быў апраўдвацца Алесь.

— Жартую,— супакоіў Пракоп.— Адно праўда — хутчэй трэба за справу.

Хлопцы з брыгады Дубасава адчувалі сябе імяніннікамі. Алесь нават дзівіўся, адкуль яны сілы і час бяруць, каб і змену папрацаваць, і з гурткоўцамі пазаймацца. А Пракоп ды Алег яшчэ і ў інстытут паспявалі.

Парыў, якім жыла брыгада, перадаўся іншым. Людзі ўбачылі, што план, абвешчаны Булаём, пачаў станавіцца рэальнасцю.

Як часта бывае, адна добрая прапанова пацягнула за сабой новыя. На адным участку прыдумалі, як змяніць парадак паступлення дэталей на лінію. Другія — пераставілі людзей, і атрымалася, што тыя ж аперацыі можна рабіць пры меншай колькасці рабочых.

Тым часам пачалася трэцяя дэкада. Адрываючы раніцай чарговы лісток календара, Алесь хмурыўся ўсё больш і больш. На месячным графіку крывая ўпарта не хацела паўзці за трывожную сінюю рыску пяцідзесяці працэнтаў. Каб паправіць становішча, трэба было хутчэй укараняць тое новае, што выявілася ў цэху. А Булай чамусьці марудзіў. Алесь пайшоў да яго.

— Вось загад,— паказаў начальнік цэха,— тры лініі з заўтрашняга дня пяройдуць на працу паводле метаду Дзікуна.

— Але ж мы можам перавесці ўдвая больш,— падказаў Алесь.

— Новае прывіваецца не адразу,— павучальна растлумачыў Булай,— гэта ісціна. А калі так, не будзем рызыкаваць.

Можна было спрачацца, даказваць. Але ў Булая быў вопыт, а ў Алеся толькі ўпэўненасць, якая пакуль што грунтавалася на адной інтуіцыі. Алесь зажурыўся. Было крыўдна, што справа, якая пачыналася так добра, не дае поўнай аддачы.

Але ён не ведаў здольнасцей свайго начальніка. Калі здавалася, што ўсё загінула, Булай знайшоў выйсце.

— Не будзе плана па наменклатуры, дадзім па агульнаму кошту прадукцыі. У дырэкцыі дамовіўся.

Кібрык расказаў Алесю, што Булай прадставіў заводакіраўніцтву шырокі план па ўкараненню знойдзеных рэзерваў. Паскардзіўся, што не хапае сілы і часу на ажыццяўленне гэтых задум. Яму і пайшлі насустрач. Фармальна гэта выглядала правільна. А па сутнасці недзе не дачакаюцца патрэбных дэталей, а недзе ў склады трапіць яшчэ адна партыя заляжалых запасных частак. Алеся засмучала і другое. Той добры ўздым, які быў ахапіў цэх, паступова спадаў. Людзі проста выконвалі месячную праграму, працавалі іншы раз без выхаднога.

Булай у гэтыя дні амаль не пакідаў завод. Ён быў заўсёды там, дзе цяжка, падказваў, падбадзёрваў:

— Не сумуйце, хлопцы, мы ў наступным месяцы дакажам скептыкам і малаверам. У нас ёсць свая сакрэтная зброя.

Булай стараўся не зганьбіць сваё добрае імя выхавальніка і заступніка новага, перадавога. Для яго гэта азначала не толькі падтрымаць рацыяналізатарскую прапанову, удалы пачын. Трэба было яшчэ дака-

заць, што толькі ён адзін здольны прабіць новаму дарогу. Так паяўляліся малаверы, скептыкі, раўнадушныя. У механічным іх чамусьці было заўсёды многа, што б хто ні прыдумаў цікавае або карыснае, болей, чым дзе б то ні было. Праўда, Булай ніколі не называў імёнаў, гаварыў, што жыццё само пасарамаціць кансерватараў.

Не прапускаючы нічога міма сваёй увагі, унікаючы ў кожную дробязь цэхавога жыцця, падмяняючы дзе трэба і дзе не трэба намеснікаў, інжынераў, майстроў, Булай не паспеў своечасова ўкараніць прапанову Дзікуна, выкарыстаць задуму Ганаковай, хаця добра разумеў, якую выгаду атрымаў бы ад гэтага цэх. Але прызнавацца ў сваім бяссіллі не хацелася таксама, нават сабе. Выручылі скептыкі, малаверы і кансерватары. Ён так іх граміў у тыя дні, калі план апынуўся перад пагрозай, што сам паверыў у іх існаванне, у тое, што дзейнічае ў імя праўды. Але ён не спаў у шапку. З дапамогай Кібрыка зноў перасунуў графікі выпуску новых валоў, замяніў іх старымі асвоенымі мадэлямі.

Алесь асцярожна быў папракнуў Булая, што паўтараецца ранейшае, а прагрэсіўныя метады працы занядбаныя.

— І цябе аблыталі,— з жалем сказаў Булай.

— Хто? Чым?

— Хіба я не гаварыў табе пра крыкуноў? — Булай пацёр далонямі скроні, стомлена апусціў вейкі.

— Стаміліся вы, Васіль Міхайлавіч.

— Інакш працаваць не ўмею, і табе не раю.— Булай усё яшчэ падазрона глядзеў на Алеся.

— Таму і гавару, Васіль Міхайлавіч. У вас няма нічога даражэйшага за работу, вы мяне зразумееце. Ніхто мяне не падвучваў. Сам хачу сумненні высветліць.

— Мала табе адной ініцыятывы? Другую прыдумаў: мяне крытыкаваць. Крытыкуй. Дзеля карысці справе ўсё стрываю. Я праінфармаваў кіраўніцтва завода. І мне сказалі, што можам тое-сёе са старой наменклатуры прапусціць. Так што дзейнічаю ў інтарэсах дзяржавы. Не думай, я дысцыпліну разумею. Вось што,— Булай быў пайшоў, потым вярнуўся.— Слухай, Саша, ледзьве не забыўся. З першага пойдзеш за старшага майстра, замест Ганаковай.

— А яна куды? — лёс Ніны цікавіў Алеся больш за свой.

— Зменным інжынерам. Задаволены?

— Ведаеце, Васіль Міхайлавіч, толькі не крыўдуйце. Мне не хацелася б. Здружыўся са сваімі брыгадамі, асабліва з Дубасавым. Толькі асвойтаўся, і на іншае месца. Не хацелася б.

— Не настойваю, але, думаю, так лепей. Мы з табой гаварылі ўжо. Трэба думаць пра інтарэсы дзяржавы... Усё будзе залежаць ад цябе.

«Зноў інтарэсы дзяржавы,— думаў Алесь, застаўшыся адзін.— Булай пра іх напамінае пры кожным выпадку. А як жа тады сумненні? Ці развеяліся яны? Цэх жа мог зрабіць большае».

Але вінаваціць Булая, як спачатку, не адважваўся. Алесь заўсёды захапляўся людзьмі, якія мелі сваю адзіную мэту і жылі дзеля яе. А Булай быў такі.

«Трэба будзе памагчы яму,— рашыў Алесь,— навалімся разам — рушым хутчэй».

## X

Апошнія дні Алесь быў амаль шчаслівы. Была работа, была Ніна. Шчасце поўніла грудзі, хацелася зрабіць нешта вялікае-вялікае. Ён дабіўся нарэшце, каб, паводле прапановы Сямёна Дзікуна, працавалі ўсе лініі, якія апрацоўвалі каленчатыя валы. Вытворчасць прадукцыі расла. Булай касавурыўся, стараючыся не паказаць выгляду, што незадаволены Алесевай настойлівасцю. Але Алеся ўжо не задавальняла зробленае. Ён насіўся з ідэяй, каб выконваць зменнае заданне за шэсць гадзін, а сёмую працаваць звыш плана.

І раптам першая хмурынка на чыстым небасхіле. Ніну пасылалі ў камандзіроўку на такое ж прадпрыемства, як і іхняе.

— Нашто табе ехаць? — пытаўся Алесь.

У адказ Ніна толькі весела смяялася. Расстанне яна не брала блізка да сэрца. А калі ён занадта настойліва прасіў застацца, казала:

— Ты — феадал!

Алесь не ведаў, ці кахае Ніна яго. Ён спадзяваўся. «Ты феадал» — у Ніііных вуснах гучала для яго як прызнанне. Але спакою не прыбаўляла.

Поезд на Маскву адыходзіў позна ўвечары. Аднак Алесь прымчаўся да Ганаковых адразу пасля дзённай змены. Прымасціўшыся ў кутку на тахце, паныла глядзеў, як Ганна Сцяпанаўна збірае Ніну ў дарогу. З ім спрабавалі загаварыць, развесяліць, асабліва старалася Ганна Сцяпанаўна. Ён пакрыўджана маўчаў.

Ніна хадзіла па пакоі, нешта брала, нешта клала, часам жартавала. Ёй было весела, надавала жвавасці блізкая дарога, якой яна жыла, напэўна, з таго самага моманту, калі даведалася пра камандзіроўку.

Алесь адчуваў, як з кожнай хвілінай ён нібы аддаляўся ад Ніны ўсё болей і болей.

Ганна Сцяпанаўна заўважыла гэта, уздыхнула, падышла да Алеся, жартаўліва сказала:

— Не звяртайце на яе ўвагі, Саша. Мы тут з вамі такі занятак знойдзем... Яна яшчэ пазайздросціць. Вы будзеце наведваць мяне, старую?

— Што ты, мама!..— высунула галаву з-за дзвярэй Ніна,— у яго такая дзяўчына, наша табельшчыца. А ты...

Алесь хацеў быў запратэставаць і нечакана сказаў:

— Не дзяўчына — золата. Але вас, Ганна Сцяпанаўна, не забуду.

— Вось чуеш, мама,— Ніна нібы жартавала, але маці пачула ў яе голасе трывожныя ноткі. Яна паглядзела на дачку, уздыхнула, потым перавяла задумлівы позірк на Алеся.

На вакзал прыехалі перад пасадкай. Уся дэлегацыя завода была ўжо ў зборы. Ніна адразу пакінула маці і Алеся, далучылася да тых, хто ад'язджаў.

— Не паспееш, ці што? — строга сказала Ганна Сцяпанаўна.

Ніна толькі адмахнулася. Дарога вабіла, хвалявала, дык навошта быць з тымі, хто застаецца?

Алесь, які трохі развесяліўся, пакуль дабіраліся да вакзала, зноў спахмурнеў. Прыхінуўшыся да калоны, ён назіраў, як Ніна снавала ад аднаго са сваіх спадарожнікаў да другога, ажыўлена размаўляла, смяялася. Вось яна падышла да Кібрыка, нешта сказала. Кібрык падміргнуў, узяў яе далікатна пад локаць, падвёў да буфета.

Абвясцілі пасадку. Ніна на хвіліну падбегла, хацела ўзяць чамаданчык.

— Данясу,— буркнуў Алесь. А маці непрыкметна тузанула Ніну за рукаў.

Ніна прытворна ўздыхнула і сціпла пайшла побач. Затрымаўшыся ў тамбуры роўна на столькі, каб сказаць бывайце, Ніна адразу схавалася за чыёйсьці шырокай спіной.

Ганна Сцяпанаўна прабавала развесяліць Алеся. Ён адказваў, бо маўчаць было няёмка, і не заўважаў, што адказвае недарэчы. Ён не думаў, што так цяжка будзе расстацца з Нінай, хоць на кароткі, але такі доўгі тыдзень. Як то яму будзе без яе?

Пасля ён увесь час адчуваў, як нестае яму Ніны. На рабоце было яшчэ нічога. А ў вольную хвіліну не ведаў, куды дзець сябе. Не мог ні чытаць, ні ў кіно схадзіць. Ганну Сцяпанаўну наведаў назаўтра ж, як паехала Ніна. Карцела пайсці да Ганаковых і ў наступны вечар. Там было лягчэй. Але палічыў няёмкім надакучаць штодня.

## XI

Ніна прыехала, не папярэдзіўшы Алеся. Ён сустрэўся з ёю толькі на заводзе. Узбуджаная, гаваркая, яна расказвала сябрам пра паездку. Алесь падышоў, прыслухаўся. Ніна заўважыла яго і, нібы яны развіталіся ўчора ўвечары, кіўнула галавой, не перастаючы расказваць пра балетны спектакль, які бачыла ў Маскве ў Вялікім тэатры.

У гэты час падышоў Булай. Ніна пайшла яму насустрач.

— Я так удзячна вам, Васіль Міхайлавіч, за камандзіроўку. Мы столькі пабачылі...

Не слухаючы, што ўбачыла Ніна яшчэ, Алесь з цяжкім сэрцам адышоў. У Ніны для яго не знайшлося ані слова. «Ну і няхай, я не падыду больш да яе»,— думаў ён.

Але варта было Ніне ў канцы дня прапанаваць яму схадзіць разам на вечар у заводскі Палац культуры, як ён забыўся на ўсе крыўды.

— Ты не заходзь па мяне, — спачувальна сказала яна. — Лепш адпачні. У цябе стомлены выгляд. Сустрэнемся там.

Ён заявіўся ў Палац адным з першых. Шырокая лесвіца, што вяла на другі паверх у фае, засцеленая прыгожай дывановай дарожкай, была яшчэ пустая. Алесь падняўся ў фае. Там ён сутыкнуўся з Сямёнам і Зінай. У чорнай, глыбока дэкальтаванай сукенцы, з белымі каралямі на шыі, Зіна была вельмі прыгожая. Сямён, пэўна, адчуваючы гэта, крочыў побач з ёй нясмела, раз-пораз беручы дзяўчыну пад руку і тут жа адпускаючы.

— Алесь Мікалаевіч,— не сцярпеў Сямён,— на май мы вырашылі справіць вяселле.

Зіна зачырванелася.

— Праўда? — чамусьці перапытаў Алесь і, спахапіўшыся, што гэта бестактоўна, дадаў:— Віншую! Ад шчырага сэрца.

Ён адышоў, а потым азірнуўся. Зіна нешта гаварыла Сямёну, і той стаяў, апусціўшы галаву. Але якая была Алесю справа да Сямёна і Зіны. Ён чакаў Ніну.

Пастулова вестыбюль запаўнялі людзі. Зрабілася шумна, мітусліва. Алесь выцягваў шыю, каб не празяваць, калі паявіцца Ніна. У натоўпе прамільгнуў Пракоп.

— А, во дзе ты!..— сказала нечакана недзе зусім побач Ніна.

Алесь сумеўся, пачаў апраўдвацца.

Ніна падышла, па-гаспадарску зняла нейкую нябачную пушынку з яго пінжака.

— Я цябе столькі шукала... Пойдзем, нарэшце.

З натоўпу выбраўся ўскудлачаны Кібрык, параіў:

— Танцуй, Саша, танцуй. Размовамі дзяўчыну не ўтрымаеш.

Алесь нерашуча зірнуў на Ніну. Ён быў не вельмі ўмелым танцорам, і Ніна ведала гэта. Кібрык, жартуючы, запрасіў Ніну. Яна згадзілася.

— Круцёлка ты, Нінка,— усміхнуўся Пятрусь.— Кінь ты яе, Сашка, пакуль не ажаніўся.

— Я табе кіну,— пагразіла Ніна пальцам Кібрыку.

Што было рабіць Алесю? Чакаць, пакуль вернецца Ніна? Яна можа і не вернецца, бо ўпэўнена, што яго крыўда скора развеецца. Вунь як сказала Кібрыку, калі той параіў кінуць! Не, ён ужо не можа яе кінуць, бо тады не застанецца нават надзеі. Алесь павольна пайшоў па краі залы, стараючыся адшукаць вачамі Ніну і Петруся.

— Я памагу вам, Алесь Мікалаевіч! — Ён азірнуўся. Зіна стаяла строгая і насмешлівая.

Алесь сумна паківаў галавой.

— Пойдзем, я люблю вальс,— запрашала Зіна.— Ды не бойцеся. Я ж хутка замуж выйду.

Дзяўчына была непадобная на ранейшую гарэзніцу. У вачах ужо не скакалі смяшынкі, якіх пабойваўся некалі Алесь. Вочы цяпер быццам пабольшалі, ім прыдалося журбы. Яны глядзелі ўважліва, дапытліва, са спачуваннем, нібы ўбачылі нешта такое, што невядома астатнім.

Адмовіцца было нельга. Алесь проста сказаў:

— Вальс, бадай, адзінае, што я ўмею.

Танцавала Зіна лёгка, папярэджваючы кожны рух партнёра. Яна, здавалася, зусім не заўважала тых, хто кружыўся побач. Яна, здавалася, не бачыла і Алеся, аддаўшыся ва ўладу чароўнай музыкі вальса.

— Пра што вы думаеце, Алесь Мікалаевіч?

— Не ведаю. Музыка...

— І я люблю вальс,— Зіна падалася бліжэй, каб Алесь чуў, што яна гаворыць.— Пад яго гукі можна думаць і не думаць, праўда?

— А пра што вы думаеце? — не ўтрымаўся Алесь.

— Пра тое ж, пра што і вы,— сказала Зіна і сумна ўсміхнулася.— Ну, здаецца, натанцаваліся. Дзякуй, не праводзьце. Я сама.

Яна пакінула Алеся, адышла.

Паявілася Ніна. Яна не адыходзіла больш ад Алеся, была ўважлівая і ласкавая. Зноў, як некалькі дзён раней, яны пешшу ішлі да Нінінага дома.

— Нарэшце, Саша,— сустрэла яго Ганна Сцяпанаўна,— я дык вас прачакалася.

— Што ты, мама, ён з-за цябе толькі і ходзіць да нас. На мяне дык і глядзець не хоча,— жартуючы, гаварыла Ніна, распраналася і папраўляла перад люстэркам прычоску.— Але, мама, мы яго нікому не аддадзім, — Ніна адабрала ў Алеся шапку, сцягнула паліто. Яна верыла зараз у тое, што гаварыла.— Праўда, мама?

Алесь быў шчаслівы.

## XII

Была сярэдзіна красавіка, шырылася перадсвяточнае спаборніцтва. Механічны цэх узяў самыя высокія абавязацельствы. Булай пры выпадку падкрэсліваў:

— Мы авангард завода! На нас раўняюцца!

У «маланках» штодня адзначаліся лепшыя брыгады, паведамляліся імёны перадавікоў.

У апошнія дні Алесь неяк мала аддаваў увагі справам у цэху.



Ніна была з ім, і яму, здавалася, нічога іншага не трэба было. Узбуджаны тон Булаёвых выступленняў на аператыўках, гучныя плакаты, што віселі ў пралётах, усё сведчыла, што справы ідуць добра. Алесь пазбыўся сваіх нядаўніх трывожных сумненняў. І раптам рэпліка, якую ён пачуў, калі разам з групай рабочых стаяў ля новага выпуску «маланкі». Слесар з суседняга ўчастка гаварыў: «Душу мне пячэ гэта паперка. Паўтары нормы даў, размалявалі, распісалі. А мне сорамна людзям у вочы глядзець. Я ж пазалеташняе кляймо з новай датай стаўлю».

Алесь нібы прачнуўся. Успомніліся гарачыя размовы з Пракопам, гутарка з Паўлаўцом. Ён адчуў сябе вінаватым перад хлопцамі.

Упершыню за ўвесь час сяброўства расказаў ён Ніне аб сваіх колішніх і сённяшніх неспакойных думках. Раней ён не адважваўся надакучаць ёй сваімі клопатамі.

— Дакуль мы будзем выязджаць на старой наменклатуры? — пытаўся Алесь.

Яны сядзелі ў Ніны дома, глядзелі тэлевізар.

— А нам што? План ёсць план.

— Нават заганны? — Алеся ўжо зусім не цікавіла перадача. — Нават зроблены з дапамогай Кібрыка?

— На новай марцы мы завалімся. Хіба ты не разумееш?

— Затое чэсна скажам: зрабілі, што ўмеем.

— Добры ты сябар Васілю Міхайлавічу, аднак. Яго і без цябе клюе начальства. Давай лепш глядзець тэлевізар.

— Саша праўду кажа,— Ганна Сцяпанаўна сабрала рукой крошкі з абруса, перасела на мяккае крэсла, адкуль было зручней глядзець. — Па-мойму, раз новае — значыць лепшае.

— Мама, ты нічога не разумееш. Алесь злуе на Петруся, а хоча падкапацца пад Булая. Ведаем мы такую прынцыповасць.

Гэта было несправядліва, і Алесь пакрыўдзіўся. Часта, вельмі часта хацелася параіцца з блізкім чалавекам, высветліць што-кольвек незразумелае, унесці яснасць у пытанне, якое раптам усхвалявала. Хіба Ніна не была яму такім блізкім, нават самым блізкім чалавекам? Дык чаму яна не хоча яго зразумець? Не дачакаўшыся канца перадачы, Алесь падняўся.

Праводзіла яго Ганна Сцяпанаўна.

Вярнуўшыся ў пакой, Ганна Сцяпанаўна зірнула ў акно — недалёка ад іх дому быў аўтобусны прыпынак. Адзінокая постаць панылa тырчала на прыпынку.

— Ніна, — сказала маці, — ён можа не вярнуцца...

— Нідзе не дзенецца,— не адрываючыся ад экрана, упэўнена адказала Ніна.

— Ой, дачушка, глядзі, такімі хлопцамі не грэбуюць. Ды кінь ты свой тэлевізар! — абурылася Ганна Сцяпанаўна.

— Ну, не крыўдуй. Ведаю, харошы ён хлопец. Але, мама, я ж лепш за яго разбіраюся, што адбываецца на заводзе. Навошта ён ганьбіць Васіля Міхайлавіча?

— А хіба ён кажа няпраўду?

— Праўду ці не, але Васіль Міхайлавіч не дзеля сваёй выгоды стараецца. Ён жа ўсе сілы аддае цэху. Акрамя таго, ён столькі для мяне зрабіў.

— Падумаеш, на работу ўзяў! Ну, была б на іншым заводзе... Усюды людзі.

Ганна Сцяпанаўна працёрла шыбу, паглядзела ў акно, жахнулася:

— А ён жа не паехаў. Няўжо не было аўтобуса?

Аўтобус быў. Алесь прапусціў яго. Ён спадзяваўся, што Ніна адумаецца, выбежыць, каб вярнуць яго.

Падышла другая машына. Алесь асцярожна азірнуўся на Ніціна акно. Яно свяцілася халодным жаўтаватым святлом.

— Садзіцеся,— крыкнула кандуктарка,— мы апошнія.

Чакаць больш не было чаго, і Алесь ускочыў у дзверцы, якія закрыліся з нудным скрыгатам.

Праз усю дарогу Алесь да дробязей перабіраў у памяці сённяшні вечар, Ніціны паводзіны. Яму было б лягчэй, каб яна была толькі няўважлівай. Але ці была павага? Ніна нават не захацела выслухаць, памагчы разабрацца, калі ён, можа, памыляўся, шчыра нешта параіць.

Ён многа перадумаў за тую ноч. Ці правільна ён робіць, што маўчыць? Але з кім пагаварыць? У яго было чатыры больш ці менш блізкія чалавекі на заводзе: Ніна, Булай, Пракоп і Кібрык. З Нінай пагаварыў. Булай... Была спроба таксама. Пятрусь?

Сярод ночы Алесь спусціўся ўніз, у пакой каменданта інтэрната, пазваніў Петрусю. Тэлефон доўга не адказваў. Нарэшце Пятрусь зняў трубку. Ён ледзьве зразумеў, хто звоніць, чаго ад яго хоча, і, пазяхаючы, выціснуў з сябе: «Цілім-бом, пажар, Булаю патрэбен вогнетушыцель». Большага Алесю не ўдалося дабіцца — Кібрык быў п'яны.

Толькі на аператыўцы Алесь успомніў, што ёсць яшчэ Паўлавец. Ён пашукаў вачамі Макара Сяргеевіча і не знайшоў. Потым здагадаўся, што Булай не запрашае Паўлаўца на такую нараду. Парторг — радавы рабочы, а нарада — вытворчая, для каманднага саставу цэха. Службовай іерархіі Булай прытрымліваўся строга.

Паўлаўца Алесь сустрэў у час абедзеннага перапынку ў сталоўцы. Селі за адзін столік, разгаварыліся. Макар Сяргеевіч слухаў уважліва, нават лыжку адклаў у бок.

— І вось я спыніўся, як кажуць, на раздарожжы,— закончыў Алесь і папрасіў: — Памажыце разабрацца, можа што не так разумею.

— Але ж давайце есці,— спахапіўся Макар Сяргеевіч, так нічога і не адказаўшы. Потым, калі ўжо разыходзіліся, паабяцаў: — Пагавару з Булаём, нешта, відаць, трэба мяняць у нашай рабоце.

Ужо на наступнай аператыўцы Алесь слухаў Булая і дзівіўся. Начальнік цэха гаварыў надзвычай разважліва, лагодна, цярпліва выслухоўваў кароткія справаздачы, нікога не перабіваючы рэплікамі. Гэта было не падобна на яго. Чакалася бура. Яна надышла непрыкметна. Булай пачаў здалёк. Ён расказаў аб тых задачах, якія паставілі пе-

рад цэхам дырэкцыя і партком, прывёў прыклады працоўнага ўздыму рабочых, успомніў аб новых пачынах, што нарадзіліся ў цэху. Потым раптам заявіў:

— Поспехі маглі быць большыя. Але ёсць сярод нас людзі, якім асабістыя ўдачы даражэй за ўсё. Яны ходзяць, вышукваюць недахопы. Паглядзіш на такога збоку — змагар за праўду! А капянеш глыбей — нутро ў яго гнілое. Бачыце, паабяцалі яму пасаду і не далі адразу, памаглі тое-сёе прыдумаць, а на шчыт славы не ўзнялі. І ён затаіў у душы крыўду, крытыканствуе. Іменна крытыканствуе, бо крытыка — справа прынцыповая.

Прозвішча Булай не назваў. Людзі недаўменна зашапталіся.

— Думаю, што калі ён смелы чалавек, калі бярэцца павучаць нас,— казаў начальнік цэха,— то скажа аб усім шчыра, а не будзе плявузгаць па завуголлі ды абзваньваць тэлефоны.

Алесь дзівіўся разам з усімі. Яму і ў галаву не магло прыйсці, што Булай меў на ўвазе яго.

— Ну што ж, таварышы, цяпер вы самі бачыце, што ён палахлівец.— Голас Булая ўзмацнеў.— Дык скажам яму прама: калектыў — магутная сіла, і мы здолеем зламаць і крыкуноў, і малавераў. Усё.

Пасмяяўшыся трохі з Булаёвай падазронасці, Алесь з Пракопам вярнуліся на свой участак. Сямён стаяў ля выключанага станка.

— Што здарылася? — кінуліся да яго майстар і брыгадзір.

— Пачынае барахліць, калі не паправіць, можна вывесці са строю.

Цэх уступіў у гарачую пару. Выключы станок на гадзіну-другую, і паставіш пад пагрозу зменнае заданне ўсяго ўчастка. Будуць тады так прабіраць, што не ўзрадуешся. Алесь задумаўся. Вельмі не хацелася трапіць начальніку цэха пад гарачую руку. Можа загадаць Дзікуну працаваць? Ніхто не папракне за гэта. Праўда, гавораць многа пра тое, што нельга дапускаць, каб абсталяванне працавала на знос. Алесь быў ужо наважыўся сказаць Сямёну: ідзі працуй, але ўспомніў, што станок можа зусім сапсавацца на наступнай змене. А тады прастой будзе ўжо не дзве гадзіны, а куды болей. І Алесь рашыўся:

— Будзем рамантаваць!

Пракоп з адабрэннем паглядзеў на майстра і сам пабег па слесараў.

## XIII

Зазвінеў тэлефон. Булай любіў позна заседжвацца ў сваім кабінеце, хоць пільнай патрэбы ў гэтым не было. Але ён не даваў волі сваім падначаленым, усё стараўся вырашыць сам. Пачаўшы працаваць начальнікам цэха тады, калі не было ні добрых спецыялістаў, ні патрэбных умоў для працы і калі яго прысутнасць усюды сапраўды была не лішняй, Булай ніяк не мог звыкнуцца з новымі ўмовамі. Ён сумаваў па тым часе, калі мог камандаваць на поўную сілу, калі ніхто не адважваўся пярэчыць яму.

Тэлефон напомніў аб сабе зноў. Гаварыла Ганакова. Голас у яе быў усхваляваны, але Булай хутчэй зацікавіўся, чым устрывожыўся. Нічога незвычайнага ён не чакаў.

— Участак Баравіка не дацягнуў пяць працэнтаў,— паведаміла яна.

Ніна нядаўна прыняла бюро тэхнічнага кантролю, яшчэ не зусім звыклася са сваёй новай пасадай і таму з раніцы да вечара не пакідала работы. Яе служба першая заўважыла, што заданне на ўчастку



Алеся не выканана, і яна, не дазнаўшыся прычыны, пачала біць трывогу.

— Дзякую,— адказаў Булай,— зараз высветлю.

Ён выклікаў зменнага інжынера. Той сказаў, што рамантавалі балансіровачны станок.

— Спраўны? — спытаў Булай.

— Працуе ўжо,— адказаў інжынер,— малайчына Баравік. Станок ледзь дацягнуў бы да канца змены, тады нам давялося б сесці ў лужыну. Зусім завалілі б заданне...

— Ацэнкі — гэта мая справа,— не зусім ветліва абарваў яго Булай.— Разбяромся...— і пазваніў сакратарцы.

— Дзе Баравік?

Жанчына здзівілася:

— Напэўна даўно дома, работа ж калі скончылася...

— Паклікаць!

Алесь з'явіўся прыкладна праз паўгадзіны.

— Што здарылася, Васіль Міхайлавіч?

Булай не адказаў, а спытаў у сваю чаргу:

— Вы што збіраліся рабіць?

Зварот на «вы», нязвыклы афіцыйны тон... Было ад чаго разгубіцца.

— Думаў спаць класціся,— не адразу адказаў Алесь.

— І як сон? Нармальны?

— Не скарджуся.

— О-о, тады можаце ісці. Дабранач!

Алесь пастаяў-пастаяў, паглядзеў на Булая, які ўтаропіўся ў свае паперкі, адказаў: «Дабранач» і выйшаў з кабінета. Толькі ад сакратаркі даведаўся, што было прычынай гэтага незвычайнага выкліку. Хацеў быў вярнуцца да начальніка цэха, але сакратарка супакоіла:

— Вы не хвалюйцеся. Зменны інжынер усё растлумачыў.

А раніцай на дошцы аб'яў вісела свежая «маланка» з малюнкам: на станку, зручна ўлёгшыся, падклаўшы пад галаву абавязацельства, спаў майстар участка Баравік.

Аператыўка пачалася інакш, чым заўсёды. Не даючы слова начальнікам участкаў, майстрам, інжынерам, загаварыў сам Булай.

— Таварышы, учора адбылася незвычайная падзея. Участак майстра Баравіка не выканаў задання.

Аб гэтай падзеі чулі многія, ведалі і прычыну, таму людзі зашумелі.

— Фармальна Баравік зрабіў правільна,— падняў руку Булай.— Добра, добра, я за гэта не абвінавачваю яго,— узвысіў ён голас, бо ў кабінеце незадаволена зашапталіся.— Мяне ўразіла,— не, абурыла! — іншае. Пазваніла мне Ганакова, дзякуй ёй за пільнасць, і сказала, што ўчастак Баравіка не выканаў задання. Ну, думаю, чалавек перажывае, непакоіцца, трэба яго падтрымаць, абнадзеіць. Шукаю — няма ў цэху. Нарэшце, знайшоў. А ён, аказваецца, спаць збіраецца. Спакойна спаць...— голас Булая вібрыраваў на самых высокіх нотах.— Я пытаюся ў вас, як можа кіраўнік так абыякава ставіцца да сваіх абавязкаў? Гэта можна растлумачыць толькі так: Баравік яшчэ не дарос да пасады майстра.

Булай аддыхаўся, ацэньваючы, якое ўражанне зрабіла гэтае паведамленне. Нешта, відаць, яму не спадабалася, і ён паспяшаўся сказаць больш спакойна, разважліва, з лёгкай усмешкай:

— Прашу правільна зразумець. Мы не можам адстаць у першамайскім спаборніцтве. Таму хай кожны хварэе за план. Плану і толькі плану мы павінны падпарадкаваць усё. Зробім — тады будзем спаць. А цяпер прашу выказацца па сутнасці бягучых спраў.

Нарада закончылася хутка, апраўдаўшы на гэты раз сваю назву — «апeратыўка». Булай застаўся адзін. Паспрабаваў быў заняцца новым графікам, на які хацеў перавесці цэх у наступным месяцы, і не мог. Усё часцей прыходзіла адчуванне, што няма кантакту з калектывам, што не ён трымае калектыў, як гэта было калісьці, у сваіх руках, а калектыў навязвае яму сваю волю. А тут яшчэ непрыемная чутка, што дырэкцыя мае намер падзяліць цэх на два паралельныя. Хіба гэта прыемна? Адно — кіраваць самым буйным цэхам на прадпрыемстве, другое — удвая меншым, прыраўняўшыся да іншых начальнікаў цэхаў. А раптам адпасынкаваны цэх стане перадавым?..

Гэтага Булай не мог дапусціць. Трэба было нешта прыдумаць, каб быць першым на заводзе. Раней ён над такімі пытаннямі доўга не думаў. Ледзь толькі над ім навісала небяспека, як ён падаваў ідэю. Яму давалі магчымасць яе ажыццявіць, забываліся на мінулае. Бо, як вядома, пераможцаў калі і судзяць, то не вельмі строга. Але зараз, як на тое, нічога такога ў галаву не прыходзіла. А тут яшчэ Баравік са сваімі пошукамі ісціны. Яго наіўнасць можа ўзбаламуціць людзей, пачнуцца размовы, і тады...

Памочнікаў сабе Булай падбіраў прыдзірліва. Яго абкружалі людзі здольныя. Аднак большасць з іх называлі сябе «штрафнікамі». Адзін меў ужо вымову, зарабіўшы яе дзе-небудзь у іншым месцы. Другі не паехаў па накіраванню інстытута. Трэці любіў заглядаць у чарку. І кожнаму з іх Булай пэўным чынам памог. Яны былі за гэта адданыя Булаю, падтрымлівалі ў цяжкую хвіліну, даравалі Булаю ўсе яго недахопы. Такім ён спадзяваўся бачыць і Алеся, для якога сапраўды зрабіў нямала добрага.

Але Баравік не апраўдаў спадзяванняў. Булай пагартаў нарады, падпісаныя Баравіком, шукаючы, да чаго б можна было прычапіцца. Але і тут было ўсё чыста. Праўдалюбца... А капяні глыбей, дык і акажацца, што пакрыўдзіўся. Не назначылі старшым майстрам, як паабяцалі. Ну, нічога. Яшчэ пашкадуе!

Булай рашыў паставіць Баравіка на месца. Ён умеў гэта рабіць, кіруючыся тым, што нібыта дзейнічае на карысць справе. Булай умеў падпусціць туману ў вочы. Аднак у апошні час нешта нібы зламалася ў добра наладжанай сістэме. Прыходзілася траціць шмат сіл, каб даказаць, што ён дзейнічае правільна, бо камуністы цэха, прафсаюзная арганізацыя далёка не заўсёды лічыліся з яго аўтарытэтам. Але і ён быў не лыкам шыты. Да таго ж, думалася, з Баравіком будзе лягчэй: чалавек новы, за яго асабліва трымацца не стануць. А між тым яго прыклад паслужыць перасцярогай і таму-сяму іншаму.

Булай адкінуўся на спінку крэсла, расправіў плечы. Ёсць яшчэ порах у парахоўніцах! Старая гвардыя не здаецца. Булай націснуў кнопку званка. Калі з'явілася сакратарка, сказаў:

— Пасля работы чакаю Паўлаўца!

Булай выйшаў з-за стала насустрач Паўлаўцу. Правёў да мяккага крэсла, сам сеў насупраць.

— Ты прабач, Макар Сяргеевіч, што не я да цябе. Справы, многа спраў...— ён стомлена пацёр далонямі скроні.

— Што вы, Васіль Міхайлавіч, ці мне цяжка?

— Сам ведаеш, яшчэ скажуць, што Булай парушае партыйную этыку. Але, думаю, дзеля карысці справы...— Памаўчаўшы, сказаў: — Дзень і ноч не сплю. І так прыкідваю, і гэтак. Хачу параіцца і партыйнай падтрымкай заручыцца.



— Падтрымкай? — Паўлавец дапытліва зірнуў на Булая.

— Не думай, закон парушаць не збіраюся. Ломку наважыўся правесці.

— Цікава,— Паўлавец нахіліўся да субяседніка, каб было лепш чуваць.— Булай гаварыў нягучна, паказваючы, што стомлены, увесь у думках.

— Падлічваў я неяк і прыйшоў да вываду,— Булай падбадзёрыўся, узяў чысты аркуш паперы, аловак. Расказваючы, маляваў квадрацікі, прамавугольнікі, злучаў іх паміж сабой прамымі лініямі.— У нашым цэху празмерна раздута сярэдняе звяно. Нас папракаюць, што цэх вялікі, плануюць нават раздзяліць. А мы ўзбуйнім участкі, брыгады, і тым самым выб'ем з рук прыхільнікаў падзелу галоўны козыр. Колькасць участкаў і брыгад у нас будзе такая ж, як і ў іншых цэхах. Кіраваць імі будзе прасцей, сабекошт прадукцыі панізіцца.

— Бадай, слушна,— зазначыў Паўлавец.

— Канечне, некаторыя расстануцца са сваімі партфелямі. Для кар'ерыстаў гэта можа і ўдар. А для сумленных працаўнікоў інтарэсы дзяржавы даражэй за асабістыя.— Нібы пабаяўшыся, што парторг не так зразумеў, паўтарыў: — Разумееш, якая выгода! Хай будзе больш рабочых, тых, хто дае матэрыяльныя каштоўнасці.

Булая быццам прарвала. Ён загаварыў узнёсла, натхнёна, бо зараз сам верыў, што задумаў перабудову цэха толькі дзеля карысці дзяржавы. І словы яго былі надзвычай пераканаўчыя. Паўлавец падаў яму руку:

— Падтрымліваю!

## XIV

Побач з інтэрнатам рос рэдкі сасоннік — усё, што засталося ад лесу, які гадоў дваццаць таму назад грозна шумеў на гэтым месцы. Цяпер паміж дрэў праляглі дарожкі, на палянках паявіліся спартыўныя пляцоўкі. Зімой жыццё тут заціхала. А вясной, ледзь сыходзіў снег і падсыхала зямля, сасоннік ажываў, поўніўся людскім гоманам. Асабліва шумна было надвячоркамі. Збіраліся валейбалісты, і тады да цямна адтуль несліся гулкія ўдары па мячу, звонкія маладыя галасы, смех, крыкі.

Пасля работы Алесь пераапранаўся і садзіўся або ля акна, або выбіраў дзе-небудзь ціхі закутак і адтуль, зайздросцячы, пазіраў на валейбалістаў. Булай, думаў ён, узвёў на яго сур'ёзныя абвінавачанні. Здавалася, на заводзе паверылі Булаю, а на яго пазіраюць са зняважай. Брала крыўда на сваіх сяброў. Іх было нямнога, але, здавалася, яны былі шчырыя. Як жа яны маглі пакінуць яго, паверыць у беспрычынныя абвінавачанні! Ён прывык да шчырасці, адкрыта выказваў думкі. У арміі здаралася на партыйных сходах крытыкаваць старэйшых у чыне камандзіраў. Ніхто з іх не таіў крыўды, не трымаў пасля каменя за пазухай. Булая ж ён нават не крытыкаваў. Ён адчуваў, што нешта робіцца не так, як трэба, і хацеў зразумець, чаму гэта. Ён стараўся не на сваю карысць, і гэта было відаць кожнаму. Дык чаму раптам паверылі Булаю?

Прыгрэўшыся на вячэрнім сонейку, Алесь задумаўся аб сваіх нягодах і не пачуў, што да яго падышлі хлопцы. Пракоп паскардзіўся:

— Б'юць нас, Алесь Мікалаевіч. Выручайце.

— Але... — ён хацеў быў адмовіцца і не змог, імкліва ўсхапіўся. — Пойдзем.

На сэрцы заныла: там жа многа знаёмых. Прыйшоўшы на пляцоўку, з выклікам агледзеў валейбалістаў і збянтэжана апусціў вочы. Да яго ніхто не праявіў асаблівай цікавасці.

З Алесевым прыходам гульня ажывілася. Ён стараўся перахапіць кожную падачу, падаў, адбіваючы моцны ўдар, спрытна біў сам. Калі гульня скончылася, ён быў потны і шчаслівы. Забыўся на Булая, на яго пагрозы. Ён быў малады і зноў адчуваў, што яго цела набіралася сілы.

— Дзякую, хлопцы, што выцягнулі, а то занудзіўся быў, — прызнаўся ён.

— Вы самі нешта пачалі цурацца нас, — сказаў Пракоп. — Булай не можа жыць, каб не накінуцца на каго. Цяпер на вас, заўтра можа — на мяне, ці яшчэ на каго. Ваюе, не спіць у шапку. Мы гэта ведаем, і да сэрца не бяром. Пакрычыць, пакрычыць — дый перастане...

— Як той казаў: а караван сабе ідзе... — растлумачыў Алег.

— Бог-Пярун патрабуе ахвяры... Так, ці што? — насмешліва запытаў Алесь. Яму ўжо не было справы да таго, што ахвярай зараз з'яўляецца менавіта ён. Яго абурыла лёгкасць, з якой Пракоп згаджаўся з гэтым.

— Во, хацеў супакоіць, падбадзёрыць, — пакрыўдзіўся Пракоп.

Алесь засмяяўся. Дарэмна ён кепска падумаў пра гэтых хлопцаў.

— А ну яго! — сказаў ён.— Пайшлі да мяне. Такую каву прыгатую.

Не паспелі дайсці да пад'езда, як іх аклікнулі. Ішоў Сямён з Зінай. Убачыўшы Алеся, Зіна спынілася, вырвала з Сямёнавай рукі сваю.

— Чулі? — Сямён быў узбуджаны, гаварыў гучна, ледзь не крычаў. — Чулі, што яна надумала?

— Сціхні! — узмалілася Зіна.

— А што, чаго сціхні? — Сямён пераможна глядзеў на сяброў: — Яна хоча да нас у брыгаду. Возьмем, га?

— Ты ўгаварыў? — усміхнуўся Пракоп, можа ўпершыню пазіраючы на дзяўчыну без іроніі.

— Сама, — Зіна раўнадушна адвярнулася, нібы гэта была не бог ведае якая падзея.

Пракоп наморшчыў пераноссе. У брыгадзе не было свабоднага месца. А як аб гэтым сказаць, каб не пакрыўдзіць дзяўчыну.

— Уладзім, — зразумеў яго ваганні Алесь і сказаў Зіне: — Я рады за вас.

— Дзякую! — яна ўспыхнула, бы макаў цвет.

— Чаго ж мы стаім? — апомніўся Алесь. — Сямён, Зіна, хадзем да мяне!

Сямён пакруціў галавой, але адмовіцца не паспеў: Зіна ўжо ўзышла на прыступкі. Сямён нешта буркнуў і паплёўся следам.

Пакой, дзе жыў Алесь, быў такі ж, як і ў хлопцаў, — звычайны пакой інтэрната, з адным акном, вузкі і даўгаваты. Толькі хлопцы жылі па тры чалавекі, а Алесь адзін. У яго было больш прасторна. Замест ложка стаяла тахта, ля другой сценкі — невялічкі стол, побач са столікам — крэслы. Сённяшнія госці — былі яго першыя. І ён чакаў, што яны скажуць.

— А ў вас няблага, — Зіна з цікавасцю агледзелася, адышла ад парога, правяла пальцам па стале. На лакавай паверхні стала засталася чорная бліскучая палоска. Зіна паківала галавой: — А ну, усе адсюль. Алесь Мікалаевіч, дзе ў вас вада і ануча?

Хлопцы пастаялі ў калідоры, пакурылі, прыслухоўваючыся, як Зіна перасоўвае мэблю, плёскае вадой. Затое пакоя было не пазнаць. Зіна не толькі прыбрала, але і па-свойму пераставіла і стол, і крэслы, і тахту. Пакой нібы зрабіўся шырэйшы, пасвятлеў.



— Вось гэта парадак, га? — Алесь збянтэжыўся.

— Можа больш пастараецеся, каб у брыгаду перавялі? — насмешліва сказала яна.

Каву Алесь прыгатаваў добрую, духмяную, густую.

— Аказваецца, можна і без віна абысціся, — сказала Зіна, — кава таксама на размову выклікае.

— Толькі не на нашым вяселлі, Зіна, — Сямён гэта сказаў спаважна, па-гаспадарску. — Там мы будзем піць віно...

— І крычаць «горка», — сказаў Алег.

— З мяне хопіць, — Зіна падышла да паліцы з кнігамі. — Колькі іх у вас, Алесь Мікалаевіч! — Зіна выцягнула са стоса кніг часопіс. — Нават «Апельсіны з Марока»!

— У мяне ад іх такое ўражанне, быццам не апельсін з'еў, а лімон, — Алесь нават скрывіўся, нібы сапраўды пасмакаваў лімон.

— Ну і дарэмна, — заступіўся за аповесць Алег. — Там нашы хлопцы. Сапраўдныя. Яны добраахвотна паехалі ў Магадан. Той самы Магадан, які нядаўна быў страшным месцам.

— Алег, не рвіся ў бойку. — Алесь загаварыў мякка, стараючыся пераканаць. — Героі Джэка Лондана таксама добраахвотна перакапалі Клandайк. Справа не ў тым, сам ты паехаў ці не. Важна, які ты, якія твае думкі, чым тлумачацца твае ўчынкі. Героі гэтых «Апельсінаў» нібы сапраўды робяць усё, ці амаль усё, правільна. А за душой у іх нічога няма. Мне бліжэй Паўка Карчагін. Яму, напэўна, было цяжэй будаваць вузкакалейку пад Харкавам, чым тым апельсінавым хлопцам з вышэйшай адукацыяй нешта такое не зусім выразнае рабіць у тайзе, недзе на ўскраі нашай зямлі. Я не разумею, чаго яны хочуць, чым жывуць, ці ёсць для іх што святое на свеце, за што яны, не задумваючыся, аддадуць сваё жыццё.

— Але такія паміралі ў вайну, — запярэчыў і Сямён.

— Такія, ды не зусім. Успомніце хаця б маладагвардзейцаў.

Госці неўзабаве пачалі развітвацца. Алесь праводзіў іх уніз, да выхаду. Потым яшчэ доўга стаяў на ганку, падставіўшы разгарачаны твар свежаму ветру. «Харошыя хлопцы», — думаў ён пра іх.

## XV

Сямён усю дарогу маўчаў, безуважны да размовы, якую вялі хлопцы. Але калі Пракоп назваў імя Баравіка, Сямён схамянуўся. Вось хто вінаваты, што Зіна раптам аддалілася ад яго. Гэта Баравік прыдумаў каву, літаратурную спрэчку, каб падкрэсліць сваю перавагу над ім, Сямёнам. Нездарма Зіна прасядзела ўвесь вечар прыціхлая, задумлівая... Баравік зноў становіцца яму насуперак дарогі.

— Шкада Алеся Мікалаевіча,— даказваў Алег Пракопу,— хліпкі ён побач з Булаем, хоць праўда на ягоным баку.

Гэта было ўжо занадта. Сямён ускіпеў, загарачыўся:

— Твой Баравік толькі прыкідваецца прастачком. Але Булай яго раскусіў.

— Эх, Сямён, Сямён,— сказаў Пракоп,— ты, можа, думаеш, што ў яго нешта ёсць да Зіны...

— Ты што гаворыш, што? — ад таго, што Пракоп разгадаў яго думкі, Сямён разгубіўся.

— Закаханыя лаюцца — толькі мілуюцца, — паспрабаваў пажартаваць Алег.

Сямён крыху супакоіўся.

— Як хочаце,— сказаў ён,— а я не давяраю Баравіку. Скажаце, што ён маю прапанову прабіваў. Дык, па-першае, гэта было яму самому выгадна. А па-другое, і Булай не дурань.
— Не спяшайся, Сямён,— сказаў Пракоп.— Мне Алесь Мікалаевіч падабаецца. Шчыры ён.
— Прысуд зроблены і абскарджаны быць не можа,— Алег здзёр з галавы кепку, памахаў ёю перад сябрамі і, адчыняючы дзверы, сказаў:— Прашу вас, сеньёры! Між іншым, мсье Дзікун, вы ведаеце, што сказаў старажытны мудрэц? Старажытны мудрэц сказаў: «Лепш думаць добра, чым дрэнна».
Сямён можа і хацеў думаць пра Баравіка добра, але не мог. Ён паспрабаваў папракнуць Зіну за безуважнасць да яго, як раптам яна раззлавалася.
— Зіна, супакойся,— Сямён ужо быў не рады, што зачапіўся.— Мы ж хутка ажэнімся.
Зіне не вельмі падабаліся напаміны пра хуткае вяселле:
— Калі хочаш ведаць, дык таго вяселля можа і не быць.
— Апомніся...— пабялеў Сямён, я ўжо бацькам напісаў.
Ужо зусім спакойна, нават ласкава яна загаварыла:
— Даруй, Сеня. Я не мела права табе грубіць. Я павінна была сказаць табе даўно... Я не люблю цябе і ніколі не буду любіць. Не шукай вінаватых. Вінаватая толькі я адна.
Каб Зіна не сказала апошніх слоў, Сямён бы яшчэ сумняваўся. Цяпер жа ён ведаў, чыя тут віна. Ён пайшоў да Булая. Хацелася раскрыць сваю душу, знайсці спачуванне.
— Васіль Міхайлавіч, цяпер мне не патрэбен пакой. Помніце, я вас прасіў, — Сямён быў разгублены.
— Да цёшчы рашыў? — Булай не адразу эразумеў яго.— Чакай, чакай, што здарылася?
— Не будзе ў нас вяселля. Зіна сказала.
— Хэ! Гэта яна, каб падражніць. За цябе любая дзеўка пойдзе.
— Нічога вы не ведаеце. Яна другога кахае. Баравіка.
Булай ледзь не падскочыў. Гэтага яшчэ не хапала. Такі, здавалася, сціплы. А бач ты! Дзеўкам галовы круціць, хлопцам каханне разбівае. Хіба Дзікун цяпер будзе працаваць, як раней? Ну, чакай, Баравік, гэта табе не пройдзе. А Сямёну сказаў:
— Дзякуй, што да мяне за падтрымкай прыйшоў. Цаню твой давер. Дзеўку не вернеш.— Булай развёў рукамі, падміргнуў, маўляў, сам разумееш,— тут справа тонкая.— А на Баравіка ўправу знойдзем.
— Я не за гэтым,— Сямёну стала сорамна, нібы ён сапраўды прыйшоў жаліцца на Баравіка,— я ад пакоя хацеў адмовіцца. Мо каму больш патрэбен.
— Джэнтэльменства — рыса пахвальная. Але гэта не твае клопаты. Не бойся. Я ўсё разумею.
Ад Булая Сямён пайшоў з адчуваннем, што здарылася нешта брыдкае, прыкрае, агіднае.

## XVI

Набліжалася свята. Булай раз-пораз падыходзіў да вялікага аркуша паперы, што быў прымацаваны да сценкі. Заклаўшы рукі за спіну, задаволена пазіраў на графік, дзе чырвонай, сіняй, зялёнай і чорнай лініямі адзначалася, як выконваюць участкі, змены і цэх дзённыя і месячныя заданні, план па наменклатуры. Графік не выклікаў трывогі. Здаралася, становішча было горшае, але выкручваліся. А зараз дык нават можна будзе заткнуць рот усім крыкунам і малаверам.



Пачуўшы, што на двух участках выйшлі са строю станкі, а Баравік зноў адважыўся на папераджальны рамонт, Булай палічыў гэта за асабістую абразу. Толькі бліскучы поспех у перадмайскім спаборніцтве мог памагчы ўратаваць цэх ад падзелу. І вось цэх не дадае за змену пяцьдзесят дэфіцытных размеркавальных валоў. Раней наўрад ці адважыліся б спыніць станкі. А цяпер з лёгкай рукі Баравіка пайшло.
На аператыўцы Булай даў волю свайму гневу.
— Браць ад абсталявання ўсё, што яно можа даць, і нават больш. Такі мой загад. Вось на вашых вачах падпісваю, — росчыркам сіняга алоўка ён паставіў адмысловую закавычку на аддрукаваным на машынцы загадзе, паказаў яго прысутным.— Спыняць станкі можна толькі па майму пісьмоваму дазволу. Ніякіх прафілактычных, папераджальных і таму падобных рамонтаў.
— Папсуем абсталяванне. Яно вельмі знасілася,— ціха падаў нехта голас.
— Бяру адказнасць на сябе!— Булай ганарліва ўзняў галаву.
— На маім участку, дарэчы, два балансіровачныя і два шліфавальныя ледзь ліпяць,— устаў Алесь.
— Гэта не ў вашу карысць, — насмешліва і спакойна адказаў Булай.
— Калі не зрабіць бягучы рамонт, яны праз дзень-другі паламаюцца.
— Калі паламаюцца,— падхапіў Булай,— я звольню вас з работы.
— Вельмі многа прыйдзецца звальняць,— кінуў рэпліку начальнік суседняга з Алесевым участка.— У мяне станкі не лепшыя. Заўсёды гонім, гонім, а пра абсталяванне хай дзядзька думае? Так?
— Вы што, згаварыліся? Вы мне план зрываеце. Перадмайскі! Гэта ўжо не проста халатнасць. Гэта палітычная слепата,— Булаю не хапала паветра, ён не мог ні гаварыць, ні аддыхацца.
— Васіль Міхайлавіч,— Алесь падаўся бліжэй да стала,— паглядзіце на справу з гаспадарчага, нарэшце, з дзяржаўнага боку. Аўралы ў нас штомесяц. Здарылася тое, што трэба было чакаць. Але не самае горшае. Мы яшчэ здолеем папярэдзіць аварыі. І план выканаем. Ніхто з нас рукі не складзе, пакуль не зробім.
Яго падтрымалі.
— Дзякую, дзякую! Мяне ўжо і вучыць можна,— Булай, нарэшце, сеў, загаварыў, ківаючы на кожным слове галавой.— Сваю віну на мяне не пакладзеш. За абсталяванне адказвае майстар. Але не кожны падрыхтаваны да адказнасці. Я лішні раз пераконваюся, што перабудова структуры цэха наспела. Начальства паменшае. Затое будзе яно разумнейшае, за інтарэсы дзяржавы зможа пастаяць.
Алесь запальчыва крыкнуў:
— Пакуль я майстар — не дазволю ламаць станкі!
Булай не звярнуў на яго выкрык увагі.
— Прашу пазнаёміцца з загадам,— нібы Алеся не было тут, сказаў ён,— і пацвердзіць гэта подпісам. Усім прысутным. Распішыцеся там, у сакратара.
Алесь гатовы быў палезці ў бойку. Пракоп тузануў яго за крысо пінжака:
— Можа выцягнем, навошта на ражон перці?
— Што, я не разумею, ці што? — пачаў астываць Алесь.— Аднак

усё можа здарыцца... Тады як? На чым той план выбіваць будзем? На гэтым загадзе?
У прыёмным пакоі начальніка цэха Ніна сама падышла да Алеся. Сказала, нібы рассталіся толькі ўчора:
— Сустрэнемся пасля работы? Пагуляем. Сонца вунь якое пякучае,— яна гаварыла, і ўсмешка, нясмелая, дрыготкая, трапятала на яе вуснах.
Сасонкі ў заводскім парку выпусцілі бледна-зялёныя кволенькія іголачкі. Сасновы водар туманіў галаву. Як даўно чакаў Алесь хвіліны, калі зноў побач з ім будзе ісці Ніна. І вось Ніна тут. Яе плячо кранаецца яго пляча. Яму хораша, чамусьці сумна і зусім не хочацца ні гаварыць, ні думаць. Ішоў бы, пасміхаўся сонцу і адчуваў бы побач Ніну.
— Ты маўклівы сёння,— Ніна падскочыла, сарвала з маладой сасонкі свежы парастак.— Перажываеш?
— Сядзем...
— Навошта ты сварышся з Васілём Міхайлавічам? Маўчыш? Ты наогул вельмі скрытны. Хаця б раз раскрыў сваю душу.
Напамін пра нядаўнюю сварку з Булаём, тон, занадта спакойны, будзённы, якім яна гэта сказала, непрыемна разанулі Алеся. Ён спытаў:
— Табе сапраўды гэтага хочацца?
— Не можаш супакоіцца? — Ніне зрабілася не па сабе ад гэтага калючага позірку.
— Я забыў, а ты напомніла. Гэта была толькі так сабе — прыстрэлка. Мне не хацелася лезці ў бойку перад усімі. Думаў сказаць яму аднаму, што, ганяючыся за працэнтамі, ён наносіць шкоду абсталяванню, а яшчэ большую — людзям. Так жа любую светлую думку загубіць можна. А гэта страшна, Ніна.
— Гучна. Нічога не скажаш.— Ніна кінула сасновую галінку.— Я табе вось што скажу, Саша. Хочаш сябраваць са мной — не гавары благое пра Булая. Ён усяго сябе аддае рабоце. А ты нагаворваеш на яго. Не трэба,— Ніна дакранулася да яго рукі.— Давай паходзім, не сядзіцца мне.
Вузенькія сцяжынкі між дрэў, пратаптаныя ў траве, пружынілі пад нагамі, як пластыкавы дыван.
— Дома ў нас таксама вялікі парк,— сказаў Алесь,— вясной мы заўсёды ў ім у вайну гулялі.
— Вясна ў тваім жыцці — гэта бойкі,— насмешліва сказала Ніна.— Цяпер я ведаю, чаму ты з Булаём схапіўся... Табе цяжка жылося?
— Чаму ты думаеш так? Жылося не горш, чым усім. Пасляваенная разруха. Пагарэлая вёска, многа дзяцей у сям'і,— Алесь усміхнуўся.— Я малы бегаў у гарод бацяна праганяць. Казалі, што ён дзяцей падкідае. Вось і баяўся, што прынясе яшчэ аднаго. Мне ж, старэйшаму, даводзілася іх глядзець.
— Каб ты заўсёды быў такі, — Ніна любавалася Алесем, — вясёлы, гаваркі. А то больш хмурышся...
— Гэта ад няпэўнасці. Люблю цябе, Нінка... — раптам сказаў ён.
— Хіба так гавораць пра каханне? — Ніна на імгненне запнулася і перавяла яго словы на жарт.— Трэба стаць на калені, цалаваць рукі... І гаварыць, гаварыць кампліменты, каб аглушыць, збіць з толку.
— А я сказаў сур'ёзна...
— Будзем сябрамі, Саша?..



Што ж, так гавораць заўсёды, калі не могуць сказаць большае.
— Прабач, Ніна. Я гавару зараз не ад крыўды. Наўрад ці ёсць такое сяброўства. Я не прызнаю яго. Такі ўжо, відаць, характар. Пакуль будзе каханне, я не падыду да цябе. І, мусіць, потым не падыду, бо ўбачу цябе такую, якая ты ёсць. Яшчэ раз даруй. Гэта, можа, непаслядоўна, але шчыра...
Ніна стаяла, апусціўшы галаву, і чакала, што ён перастане гаварыць крыўдныя словы, палагаднее. Але ён толькі паўтарыў «прабач» і пайшоў, прамы, спакойны.

## XVII

Дабіваючыся чаго-небудзь, Булай не мог спыніцца на паўдарозе. Ён павінен быў дзейнічаць, даводзіць справу да канца. Цяпер у яго была адна мэта — зберагчы свой аўтарытэт, даказаць, што можа добра кіраваць нават цэхам-гігантам. Ён лічыў, што ва ўсіх недахопах, якія ёсць у рабоце цэха, вінаваты яго ворагі. Думалася, што, калі разграміць іх, дырэкцыя завода нарэшце пераканаецца ў яго выключных здольнасцях, верне былое давер'е.
— Ты чуў? — зайшоў ён у партбюро да Паўлаўца.— Наш Баравік самы сапраўдны распуснік.
Нічога падобнага пра Баравіка Паўлавец не ведаў, дый паверыць не мог, таму ён спытаў не без іроніі:
— Нешта ты ў маралісты запісаўся?
Упершыню ён звярнуўся да начальніка цэха, як роўны, і гэта непрыемна ўразіла Булая.
— Дрэнна, калі з сардэчнымі скаргамі людзі ідуць не да парторга, а да адміністратара. Да мяне, таварыш Паўлавец,— Булай гаварыў падкрэслена зняважліва.— Гэта зусім не садзейнічае вашаму аўтарытэту, як партыйнага важака. Баравік у Сямёна Дзікуна дзяўчыну адбіў. Ды нічога. Я яму пакажу...
— Любіш ты, Васіль Міхайлавіч, у чужую душу стаптаным лапцем залезці,— паморшчыўся Паўлавец.— Як на маю думку, дык трэба спачатку разабрацца,— і, каб скончыць прыкрую размову, спытаў: — У цябе ўсё?
— Стану я такой дробязззю займацца. Я гэты клубок сам разблытаю. А да цябе ў мяне вось што. Давай правядзём партыйны сход, закрыты. Абмяркуем, як выконваецца перадсвяточнае абавязацельства. Тое-сёе трэба падкруціць. Нешта балбатуноў у нас развялося...
Размова ішла спакойна. Аднак Булай выйшаў ад Паўлаўца ў дрэнным настроі. Ён быў дастаткова вопытны, каб адчуць, што парваўся яшчэ адзін моцны канат, які звязваў яго з цэхам. Непакоіла, што Паўлавец зусім не такі, як здавалася, што ён меў сваю думку, невядомую Булаю.
Канчалася змена. Булай ішоў па цэнтральным пралёце, гаспадарліва пазіраючы па баках. І ўпершыню адчуў глыбока-глыбока захаваны страх перад гэтымі людзьмі, што стаялі за станкамі і яшчэ ўчора ўяўляліся паслухмянымі і ўдзячнымі. Што ўрэшце здарылася?
Заўважыўшы начальніка цэха, Алесь узрадаваўся, што можа, нарэшце, пагаварыць пра Зініну просьбу.
— Та-ак...— Булай хіснуўся з наскоў на абцасы сваіх чаравікаў на тоўстай каўчукавай падэшве.— А брыгада?
— Прасілі.
— Прасілі? І Дзікун?

— І Дзікун,— пацвердзіў Алесь.

Булай крутнуў галавой, быццам каўнер сарочкі адразу стаў яму цесны.

— А што яны робяць? — раптам спытаў ён.

— Хто? — павярнуўся Алесь у той бок, куды паказваў начальнік цэха. — Ды гэта станок забарахліў к канцу работы. Але вы не турбуйцеся. Хлопцы пастараліся, план згодна графіка далі, вось і рашылі...

— Загад!— закрычаў Булай.— Вы падпісваліся пад маім загадам?

— Васіль Міхайлавіч, навошта фармалізм?..

Пэўна, не трэба было гаварыць пра фармалізм. Булай яшчэ ніколі не ўсумніўся ў правільнасці сваіх рашэнняў. І, тым больш, не цярпеў пярэчанняў ад падначаленых, калі быў раззлаваны.

— Блазнюк! Распуснік!— Булай не знаходзіў слоў.— Не дазволю тут шашні разводзіць!..

Скончылася змена. На некалькі хвілін спыніўся шум матораў. У цэху ўсталявалася нязвыклая цішыня.

Убачыўшы, што ля яго сабраліся людзі, Булай раптам супакоіўся і сказаў, нібы скардзячыся і просячы падтрымкі:

— Мала яму працоўную дысцыпліну парушаць, дык ён яшчэ дзевак спакушаць надумаў? Зіну Шалягейку. Але я разбяруся. Правільна?

На яго глядзелі са здзіўленнем, некаторыя нават з цікавасцю, аднак падтрымкі ці адабрэння ён не заўважаў. І тут ззаду праціснуўся Сямён.

— Як вам не сорамна? Гэта ж мана! — сказаў ён шэптам, які чуваць было лепш за нядаўні Булаёў крык.

— Та-ак...— Булай пераступіў з нагі на нагу.— Адступаеш? Нічога. Я помню, што і як ты надоечы мне гаварыў. Справа перастала ўжо быць асабістай.— І пайшоў, грозны, уладарны, поўны пачуцця ўласнай годнасці.

— Я не вінаваты, Алесь Мікалаевіч,— у роспачы Сямён кінуўся да Баравіка,— гэта ён усё перакруціў.

— Веру, веру,— Алесь абняў таварыша за плечы,— і рады, што ты мне паверыў...

* * *

Партыйны сход сабраўся на другі дзень пасля таго, як Булай аблаяў у цэху Алеся. Сакратар паведаміў, колькі камуністаў прысутнічае, прапанаваў вылучыць кандыдатуры ў прэзідыум.

— Паўлавец!

— Баравік!

— Падвесці рысу!

— Прашу слова для паведамлення,— парушыў парадак Булай.— Цаю адвод Баравіку. Ён — звольнены па майму загаду.

У зале на момант стала ціха-ціха. І раптам цішыня ўзарвалася. Паўлавец ледзь навёў сякі-такі парадак. Камуністы запатрабавалі ад Булая тлумачэнняў. Той пачаў гаварыць, але яго не слухалі. Нарэшце пачуліся галасы:

— Была кандыдатура Баравіка ў прэзідыум...

— Чаму парушаеце дэмакратыю? Галасуйце!

— Мы яго з партыйнага ўліку не здымалі.

Алесь не глядзеў у залу, не ведаў, хто гэта за яго так заступаецца. Ён не адрываў вачэй ад Булая, які як узяў слова, так і застаўся стаяць за сталом прэзідыума побач з Паўлаўцом. Алесь не бачыў, што галасуюць за яго, ён зразумеў гэта па Булаёвым твары, які раптам змізарнеў, пакрыўся буйнымі кроплямі поту.





Дасталося пазней і Алесю за тое, што не быў настойлівы, мірыўся з недахопамі, не абапіраўся на калектыў. Можа дзіўна, аднак Алесь, слухаючы папрокі, адчуваў сябе шчаслівым. Ён быў сярод людзей, якія, ведаў, не толькі пакрытыкуюць, але і пададуць руку, калі прыйдзе цяжкая хвіліна.

Сход закончыўся позна. Алесь выйшаў амаль апошні. Было цёмна. Церусіў дробны і цёплы дождж. Алесь наставіў каўнер, пайшоў па мокрай вуліцы.

— Алесь Мікалаевіч! — ступіла насустрач яму дзявочая постаць. Ён пазнаў Зіну.

— Ты зусім мокрая,— сказаў ён, хаваючы збянтэжанасць.

Дзяўчына адхінула назад мокрыя валасы, падняла на Алеся вочы.

— Ты непакоілася? Усё ў парадку.

— Праўда? Ну, то да пабачэння.

— Пачакай.— Але перш чым ён дагнаў дзяўчыну, яна паспела ўскочыць у аўтобус.





**Раман ТАРМОЛА**

# ІКАР



рычалі крумкачы: кар-р-р...
                    кар-р-р...
І ляпалі ў ладкі чорным крыллем,
Калі пад сонцам вынырнуў Ікар,
А хмаркі —
        сабой сонца не прыкрылі.
Ды хлопчык крумкачоў
                не чуў.
Ён дыхаў небам,
        як блакітным бэзам.
«Лячу, — смяяўся радасна, — лячу».
Спяваў: лячу...
Хаця ляцеў... у бездань.
А безданню была сама Зямля.
Сама паслала і сама ўзяла,
Адна яна героя абняла
Так моцна...
— Гэй, хлопцы!
Вы чуеце апладысментаў гукі,
Нібыта ўзляцела птушак стая:
Цяпер Ікары падаюць на рукі
І першымі іх — людзі абнімаюць.





ышыня 2000 метраў —
Вышыня палёту
        самалёта

На крыллях ветру.
На зямлі яшчэ толькі восем,
На зямлі яшчэ толькі восень,
Туманы,
туманы,
туманы.
Як размытыя сны.
А вось тут
адзначае пагляд ужо мой,
Што жывём пад сонцам,
ляцім над зімой.
Можа ў гэтым не маю рацыі,
Толькі я
адарваўся
ад воблакаў пенных.
Вышыню набіраю,
забягаю наперад:
Мне б хутчэй да вясны
дабрацца.
А яшчэ б праз тысячы метраў
Бачыць лета.
Толькі мары маёй узлёт
Не падтрымлівае самалёт.
Да зямлі дакранаецца першым
Самалёта вялізны цень.
О, які пагодлівы дзень!
На праменні багаты
і вершы.
Ён як быццам інакшы,
новы,
Той застаўся далёка дзесьці.
Дзякуй, мой прыгажун сталёвы.
Мары —
я напалову здзейсніў.

## ДАЛЁКАЯ ЗОРКА



а тваіх дарогах
не скора прайдуся шпацырам,
Не падыхаю
мне невядомымі пахамі.
Ты, далёкая зорка,
здаешся вялізнаю чарапахаю
З непрыступным для стрэлаў
панцырам.

Не наблізяць цябе і стрэлы амуравы.
А людзей жа яны злучаюць навечна...
Нават месяц сыты
у вечар хмурны
Чалавеку здаецца
больш чалавечным.
Ён усіх закаханых
сябра нязменны.
На яго пазірае свет з асалодаю.
Называюць яго часамі
праменным,
А вось ты — застанешся заўжды
халоднаю.

Веру: хуткіх ракетаў
блішчастыя горны
Перамогу пратрубяць
над зоркаю кожнай,
Толькі ты, непрыступная,
вечна гордая,
Ты сустрэнеш людзей,
напэўна, апошняй.

## НАТАШЫ І МАЛАДЗІКУ



ябе амаладзілі, Маладзік!
Цябе абмалацілі, Маладзік.
Радкамі,
языкамі,
рыфмамі,
Здаюцца мне аблокі —
рыфамі,
І ты з-за іх выглядваеш,
як дзік.
І ўсё-ткі — ты дарэмна напалоханы.
Прыглядзься: у аблокаў
локаны,
Якраз, як у дзяўчатаў нашых,
Якраз, як у мае Наташы...
Блішчаць яе льняныя валасы,
Калі ты з-за хмурынак сочыш.
Прыгожая Наташа ноччу,
Без сонца,
без яго касых...
Такая нечаканая,
жаданая,
Табой — мне аднаму намаляваная.
Імгненна так
без фарбаў,
сведак,
Светам!
Я дзякую табе, як мастаку,
Як дружбаку і як Маладзіку,
За тое, што вяду я пад руку
Маю любімую.

**Мікола ГРОДНЕЎ**



# ДЗВЕ ВЯСНЫ

**Апавяданне**

Мал. Ю. Пучынскага.

Як хутка мінаюць вёсны, як імклівa ляціць час! Ён ужо справіўся пасерабрыць сівізной мае скроні, на твар пакласці маршчыны, ссутуліць плечы.

Відаць, праўду кажуць: кожнай пары сваё сонца. Дык няўжо для мяне наступіла восень? Бо калі еду ў тралейбусе, мне хочацца прысесці, а ўзабрацца на пяты паверх — без перадыху цяжка. Хоць я рэдка калі прызнаюся, колькі мне год. Я халасцяк яшчэ.

І хоць маю добрую кватэру ў камунальным доме, у кватэры багатую бібліятэку, поўную шафу адзення, радыёпрыёмнік, кветкі на вокнах,— здаецца, усё для жыцця ёсць, толькі жыцця няма. Калі выходжу пасля работы на вуліцу — іншы раз спяваць хочацца, а прыйду дадому, прысяду на крэсла — і распранацца няма ахвоты. Ніхто ў мяне не спытае, ці абедаў я, чаму спазніўся, няма з кім падзяліцца і радасцю. Гляджу на свой нажытак, і мне здаецца, што я самы бедны на свеце. Як жа не паверыць старой мудрасці, што першае багацце — здароўе, другое — белая хустка.

А былі гады, калі па сорак мінут без перапынку танцаваў польку-трасуху, а на спатканні ў калядныя маразы мог прастаяць у летніх чаравіках да самага світання.

Былі вёсны, калі ішоў за дваццаць вёрст, каб толькі пабачыць яе, ды хвіліну пастаяць на той сцяжыне, па якой яна носіць са студні ваду. Былі часы, калі я забываўся ўначы на сон, а пісаў лісты да яе.

Я тады быў не багаты і не бедны. Што на мне было, тое і маё. Я быў студэнтам мастацкага вучылішча, яна, Шура, мантажніцай радыёзавода.

Можа б яе не сустрэў, каб у вучылішчы быў студэнцкі інтэрнат. Але ў той час інтэрнат толькі будавалі, і я вымушаны быў жыць на прыватнай кватэры.

На Грунтавой вуліцы меў уласны дом франтавы сябар майго бацькі Павел Веракса. Бацька і паслаў мяне да яго.

— Жыць няма дзе, дзядзька Павел,— сказаў я.

Дзядзька Павел быў чалавек спакойны і разважлівы. Спярша пасадзіў мяне каля стала і сам прысеў. Распытаў пра майго бацьку. Я думаў, што адразу пачне пра кватэру, а ён, падкруціўшы свае рудыя і доўгія вусы, прапанаваў закурыць. Я адмовіўся.

— Гэта добра і дрэнна,— сказаў ён.— Кажуць, здароўю шкодзіць. Але ж, што гэта за мужчына, калі ад яго тытунём не пахне.

Я мусіў закурыць. А дзядзька Павел тым часам выйшаў у другі пакой і пра нешта загаварыў. Яму адказваў жаночы голас. Відаць, з жонкай раіўся, браць мяне на кватэру ці не.

Нарэшце вярнуўся. Услед зайшла жанчына з малым дзіцем на руках — па ўсім відаць было, што гэта яго жонка.

— Добры вечар,— прывіталася яна.

— Добры вечар.

Потым увайшлі дзве дзяўчыны. Таксама павіталіся.

У дзядзькі Паўла не было сваіх дачок — гэта, мусіць, былі кватаранткі.

Бялявай, што стаяла бліжэй да мяне, дзядзька Павел прапанаваў пазнаёміцца са мной.

Я прыўзняўся. Яна пачырванела і падала мне руку.

— Шура.— Галасок яе быў звонкі, пявучы.

— Іван,— неяк хрыпата прамовіў я.

— Дужа прыемна,— нібы падзякавала яна.

Я не паверыў яе шчырасці. Што ўжо тут прыемнага. На мне быў салдацкі шынель, з якога нядаўна зняў пагоны і пятліцы, гімнасцёрка без падкаўнерыка, шапка-вушанка, кірзавыя боты, словам — усё гаварыла, што я нядаўні салдат. Ды і хоць бы імя другое было. А то Іван...

Пазнаёміўся з Валяй.

— Дык вось так, Іван,— яшчэ раз закурыўшы, пачаў дзядзька Павел.— Калі ты харобры, то з дзяўчатамі будзеш жыць, вось, з Шурай і Валяй. У адным пакоі. Не выпраўлю ж я цябе са свайго дому. Што твой бацька тады падумае. А каб ты не саромеўся дзяўчат, пасялю цябе ў асобным нумары. І дзяўчаты будуць асобна. Пакой перавесім посцілкамі.

— І гэта будзе правільна, дзядзька Павел,— асмеліўся я.— Я буду добрым суседам у вашых дзяўчат.

— Хіба толькі...— хаваючы ўсмешку, сказала Шура і тут жа ўзяла дзіця ад гаспадыні. Яна прыгарнула яго да сябе. Я адразу прыкмеціў нешта прывабнае, непаўторнае ў выразе яе твару.

* * *

У пакоі было два акенцы. Калі дзядзька Павел перавесіў жыллёвую плошчу посцілкамі, адно акенца свяціла Шуры і Валі, другое — мне. Электралямпачка была адна... Яна вісела пад самай столлю, і святло дзялілася аднолькава: колькі дзяўчатам, столькі — мне.

Суседства наша было і сапраўды добрае. Не таму, што раздзяляла нас шырма з посцілак. Я стараўся лішні раз нават не варухнуцца на сваім рыпучым ложку. Але аднойчы неяк я знарок цяжка ўздыхнуў. Потым кашлянуў, таксама знарок. У адказ толькі прашалясцела перагорнутая старонка кнігі. Што рабіць? Можа б хто адважыўся перакінуць калі шапку цераз шырмачку — я не мог. А калі трэба было звярнуцца да Шуры, я заікаўся, кашляў у кулак, чырванеў. Чаму — не ведаў. Я ніколі не бачыў, як дзяўчаты снедалі ці вячэралі. Нават не заўважаў, як бялізну мылі. Мы саромеліся адно аднаго.

Яны не ўставалі раней за мяне. Можа не хацелі трывожыць сон мой, а я — іх. Я падымаўся, калі ў вокнах пачынаў сінець ранак. Уставалі і дзяўчаты.

І разыходзіліся моўчкі: яны — на завод, я — на заняткі.

Я задумаў вылепіць скульптуру. Шура трымае на руках дзіця. Думаў, можа тады будзем больш проста глядзець адно на аднаго: яна пакіне саромецца мяне, а я — заікацца, як хлопчык.

Мо з паўгода я ляпіў скульптуру, канечне, употай ад Шуры, ад Валі, нават — ад гаспадыні. А таго не ведаў, што ўсё дарэмна. Неяк зайшла за перагародку гаспадыня, цётка Алена, зірнула на скульптуру — я думаў, што пахваліць, а яна нібы папракнула мяне:

— Навошта ты яе з дзіцем? Ці ж гэта яе дзіця? Пакрыўдзіш дзяўчыну...

Я спярша зазлаваў на цётку Алену — быццам яна што разумела ў мастацтве. А потым пагадзіўся: канечне, Шура — дзяўчына. Навошта яе ўвекавечваць з чужым дзіцем?

Я схаваў скульптуру.

Зноў вечарамі ляжаў на ложку, думаў. Чуў, як за посцілкай шалясцелі старонкі кнігі. Але не ўздыхаў і не кашляў. Бо ўсё дарэмна. А зачынаць гаворку — не знаходзіў слоў. Пра што гаварыць?

На душы было ніякавата. Столькі надзей ускладваў на скульптуру, і вось табе на: давялося схаваць.

І я браў кніжку. Прачытваў першую старонку, перагортваў другую, а нічога не цяміў. Пачынаў спачатку.

Аднойчы рыпнулі дзверы ў сенцах. Нехта лёгкай хадою зайшоў у дом. «Відаць, цётка Алена недзе забавілася...» Так і ёсць. На кухні вада палілася з рукамыйніка. А праз колькі хвілін лёгкія абцасікі працюкалі за перагародку.

Я прыслухаўся.

— А наш Іван дома?

Ды гэта ж Шура!

У радасці нібы захлынуўся я. Быццам не сваім голасам крыкнуў:

— Дома, Шура, дома!

«Наш Іван...» Гэта мяне акрыліла.

— Тады я памылілася,— пявучы Шурын галасок трымцеў: — Мне здалося, што вы на апошні сеанс два білеты бралі.

— Дома, Шура, дома! — яшчэ раз выкрыкнуў я.

Недзе на чыгуначнай станцыі перагукнуліся цягнікі і паўз акно прашумела легкавая машына. Шура больш нічога не пыталася ў мяне, і я маўчаў.

А дванаццатай ночы, як і было дамоўлена ў нас загадзя, яна выключала святло.

— Спакойнай ночы,— пажадала мне.

— Прыемнага сну,— адказаў я.

І ўсё.

Шура і Валя заснулі адразу. Дыхалі роўна і спакойна. А мне неспакойная была тая ноч. Да самага світання я не мог звесці вочы. Не выходзіла з галавы: гэта ж яна, Шура, назвала мяне «нашым Іванам». Значыць, я ім свой. «Я і Шура!..» У маёй душы нараджаўся новы твор. «А якую кампазіцыю прыдумаць?»

Нарэшце, калі зашарэла за акном, я прыдумаў: насустрач сонцу і ветру, закаханыя і мужныя Шура і я ідзём у нязведанае.

Задума мне падабалася.

* * *

Я спадзяваўся тады, што ўсё наперадзе, што добрае зменіцца яшчэ лепшым.

У свой талент я верыў і працаваў. Калі браў пластылін — забываўся на абед, вячэру і нічога не заўважаў наўкола. А тое, над чым я працаваў, нікому не паказваў.

Але надыходзіла вясна. Шура і Валя часцей пачалі хадзіць у кіно і на танцы. Я не мог з імі. У мяне не было выхаднога касцюма. І хоць мне тады было дваццаць тры гады, усё роўна не надакучвала працаваць. Я ж ляпіў Шуру!

У той час якраз прыехаў да мяне бацька. Ён працаваў лесніком. За зіму сабраў трохі грошай і хацеў у горадзе купіць новую стрэльбу.

— Стрэльбу? — спытаўся я, уздыхаючы.

Бацька сына заўсёды зразумее. Ён дастаў з кішэні кашалёк, сказаў:

— Бяры, Іван, грошы... Табе прыадзецца трэба. А стрэльба пачакае.

Касцюм я купіў за бацькавы грошы, а чаравікі, сарочку, гальштук — за стыпендыю.

Выгляд займеў нішто сабе. Нават Нэла Груздзеўская, мая аднакурсніца, сказала: «Ты, Іванка, у новым гарнітуры, як юны Радэн».

Затое да будучай стыпендыі мне давялося адмовіцца ад сталоўкі — харчавацца дома.



Бульба, прасяныя крупы, цыбуля ды сякая-такая затаўка былі ў мяне — бацька прывёз. А каб наварыць крупніку на абед, трэба было кожнага ранку прачынацца раней, начысціць бульбы і выстаяць каля пліты, пакуль разварацца крупы.

Бульбу я ўмеў чысціць. Праўда, не так хутка, як мая маці, але ж, калі вазьму нож, глядзі — праз колькі хвілін і поўная каструлька.

А калі зайшла на кухню Шура, мае рукі быццам перасталі мяне слухацца. І нож стаяў неяк потырч і лушпінне сыпалася ў кошык вельмі тоўстае.

— Давайце, я вам начышчу бульбы,— сказала Шура.

Добра, што нож быў тупы: каўзануўся па бульбіне і лязом чыркануў па маім пазногці.

— Дзякую, Шура, я сам.

Яна больш не настойвала. Крупнік зварыў сам. Потым запрашаў на абед усіх, хто быў дома. Ніхто не ўзяў лыжку. Сам наварыў, сам і з'еў.

Назаўтра, калі я навастрыў нож і ўзяў у рукі бульбіну, цётка Алена сказала:

— Табе, Іван, варыць крупнік, як мне тыя лялькі ляпіць. Лепш ты займайся сваёй справай, а я табе крупнік звару.

Я згадзіўся.

І кожны дзень, калі я вяртаўся з заняткаў, поўная каструля крупніку стаяла ўжо на цёплай пліце.

Паабедаўшы, я шчыра дзякаваў цётцы Алене за смачны крупнік. А ён і сапраўды быў смачны. У ім быў лаўровы ліст, пахучы перац і ўсё астатняе, што трэба для смаку.

Я не ведаў, як дзякаваць цётцы Алене. А яна хітравата ўсміхалася і адказвала:

— Добра, добра, Іван. Тады ўжо запросіш мяне на сваё вяселле.

Я не разумеў, на якое вяселле мог бы запрасіць цётку Алену. Жаніцца я не збіраўся, хоць і кахаў Шуру. Я яшчэ студэнт. Наперадзе столькі экзаменаў, ды і наогул рана было пра жаніцьбу думаць.

А вясна ўбіралася ў сілу. Неяк у суботу Шура прынесла два білеты ў тэатр, сабе і сяброўцы. Валя адмовілася ісці. Яна ўжо бачыла той спектакль. Шура прапанавала білет мне. І я пайшоў з Шурай.

У той вечар яна была вельмі вясёлая. Паказвала мне на зоркі, жартавала: «А што, калі б злавіць такую зорку?» Я пачаў тлумачыць ёй законы астраноміі, а яна залівалася смехам. Сама ўсё ведала і пыталася... Тады я пацалаваў яе, асцярожна, баязліва. Не ў губы, а ў шчаку. Яна шчыльней прытулілася да мяне. І неяк у мяне сарвалася з языка:

— Дзякуй табе за білет, Шурачка...

— Што? — абурылася яна.— За білет...

І я зразумеў: навошта было так гаварыць? Яшчэ падумае, што я не ад шчырых парыванняў пацалаваў яе, а — за білет...

Дома я чуў, як Шура лягла спаць, як доўга варочалася ў пасцелі. Я не апраўдваўся перад ёй. Нават хацеў пасмяяцца: «Дзівачка ты, заўтра я куплю табе білет, тады пацалуй мяне».

А назаўтра, толькі я сабраўся схадзіць па білеты, як да мяне на кватэру прыйшла Нэла Груздзеўская.. Дарэчы, пасля таго, як я прыдбаў касцюм, яна пачала хадзіць за мной. Амаль на кожным перапынку лавіла мяне на калідоры. То канспект папросіць, то аўтаручку, то прынясе аловак, каб навастрыў ёй. І пасля заняткаў да самай кватэры праводзіла мяне. А каб зайсці ў пакой, саромелася, бо я ніколі не запрашаў яе. І вось на табе: заявілася. Захацелася ёй са мной у чоўне па-





катацца па возеры. «Лухта непадсяваная ты,— думаў я,— калі б ты мне падабалася, я сам цябе запрасіў бы».

Але калі зайшла — не выганіш. Пасадзіў на крэсла, пачаставаў цукеркамі. Думаў, што яна пасядзіць ціха, пагаворым пра студэнцкія справы і ўсё. А яна і пачала: усё, значыцца, ёй падабаецца ва мне: і вочы, як у маладога Канёнкава, і валасы, як у Рафаэля. Я чырванеў ад сораму, міргаў, маўляў, за занавескай людзі, а Нэла, як нанятая, мянташыла языком. Нават выказала жаданне быць у мяне натуршчыцай.

Я мусіў быў правесці яе дадому.

Ідучы па вуліцы, назнарок ці выпадкова, Нэла зачапілася нагой за куст і парвала панчоху. Забегла ў скверык, села на лаўку і заплакала. Я мусіў бегчы ў магазін, каб купіць панчохі.

Вярнуўся на кватэру позна. У пакоі было выключана святло — Шура і Валя, мусіць, спалі. І я разаслаў пасцель — лёг. Прыслухаўся: дзяўчаты пра нешта шапталіся. Я хацеў зачаць гаворку, расказаць, чаму затрымаўся, але адклаў на другі раз.

Ужо з раніцы таго дня можна было здагадацца, што надламалася наша добрае суседства. Калі я збіраўся на заняткі, цётка Алена нібы спагадваючы мне, спытала:

— Дык што, Іван, гэтая даўганосая ўжо аблытала цябе?

Я стаяў як аглушаны. А Шура з жалем у голасе папракнула:

— Цётка Алена, навошта вы кажаце!

— А ці ж я не праўду кажу? Хлопец ён малады, розуму мала...

Я нешта сказаў, каб апраўдацца, але раптам пачуў, як Шура ўсхліпнула за посцілкай. Я хацеў кінуцца туды, расказаць, як усё адбылося, але Валя не пусціла мяне.

— Няма чаго слёзы выціраць,— сказала яна злосна.

Я наважыўся сілай прабрацца да Шуры, але падышла цётка Алена.

— Да тваёй сілы, Іван, і розум трэба. Сабраўся на заняткі дык ідзі.

Можа б я нікога не паслухаў, не пайшоў на заняткі, настаяў на сваім, калі б цётка Алена так не сказала. І я зразумеў, што лепш пагутарыць з Шурай, калі яна супакоіцца, калі адляжа ў яе на сэрцы.

Пайшоў на заняткі. Сядзеў як учадзелы. Але спадзяваўся, што час — лепшы лекар: боль суніме і слёзы высуша. Шура зразумее мяне.

І, як заўсёды, пасля заняткаў пайшоў адразу дамоў. Ведаў, што такой парой звычайна Шура яшчэ на рабоце. Я быў стомлены і галодны. Адразу зайшоў на кухню.

І вось табе на! На халоднай пліце ўверх дном стаяла мая каструля.

Цётка Алена, заўважыўшы, як я здзіўлена пацісную плячыма, сказала:

— Цяпер табе, хлопец, самому трэба варыць крупнік.

Я не разумеў, завошта гаспадыня пакрыўдзілася на мяне, што я зрабіў ёй дрэннае?

Потым спаласнула каструлю, дастала з майго мяшка бульбу і моўчкі пачала чысціць. Я стаяў каля цёткі Алены, хацеў усё-такі даведацца, што здарылася.

— Вецер яшчэ ў вашых галовах,— пачала яна.— Хоць ты ўжо і армію адбыў, а яна ўжо на свой хлеб села. Абое рабое...

Затаіўшы дыханне, я чакаў, што скажа цётка Алена. І раптам:

— Дурань ты, Іван, во што я табе скажу. Яна ж кахала цябе.

Цётцы Алене я заўсёды верыў. «Шура кахала мяне... А каханне ж не на адзін дзень, каб толькі схадзіць у тэатр»,— думаў я. Цётка Алена сумна казала далей:

— У Шуры характар круты... Паплакала раніцу... Я ўсё думала, супакоіцца дзяўчына. Праўда, устала і пайшла. Мне нічога не сказала. Ну, і я супакоілася. Думаю, на работу пайшла... Дзе там на работу! Знайшла сабе новую кватэру і перабралася...

— А ты думаеш, Іван, я табе крупнік варыла? Шура варыла. А ты...

Нарэшце я зразумеў, чаму сказала цётка Алена, што я дурань. Канечне, дурань, ды яшчэ які! Няўжо я не мог зразумець, што яна мяне кахала больш, чым я яе. Выйшла ж так, што і пацалаваў я Шуру быццам за тое, што яна мне білет купіла.

Але мне ўсё яшчэ не верылася, што Шуры няма ў нашым доме. Можа з'едліва пажартавала цётка Алена.

Я кінуўся за шырмачку. Над ложкам вісела адно Валіна фота. У мяне ўсё абвяла.

— А куды яна перабралася? — голас у мяне дрыжаў.

— Не сказала, куды перабралася,— адказала цётка Алена.— Знарок, мабыць, не сказала. Каб ты не ведаў.

Што мне аставалася рабіць?

Калі закіпеў крупнік, пад акном супынілася легкавое таксі. Убегла Валя. І быццам схіліўшы на бок галаву, вінавата сказала да гаспадыні:



— Цётка Алена, вы прабачце мне. І я следам за Шурай...

Нейкі момант цётка Алена маўчала. Крышыла сала і цыбулю ў мой крупнік.

— Як сабе хочаш, Валя,— адказала нарэшце.

Валя хуценька збірала свае рэчы. Я стараўся выпытаць, дзе яны будуць жыць — не сказала.

Калі таксі павярнула на другую вуліцу, я яшчэ раз назваў сябе дурнем. Хоць бы нумар легкавушкі запомніў. Назаўтра адшукаў бы шафёра таксі. Можа ён сказаў бы, куды адвёз Валю. А дзе Валя, там і Шура.

Расчараваны і панылы, я доўга стаяў на вуліцы. Куды ісці — не ведаў.

Праз колькі хвілін цётка Алена паклікала абедаць. Мне было не да яды. Я паклыпаў у горад.

* * *

Тая вясна была сонечная. Пышна адцвітала чаромха.

Я падыходзіў некалькі разоў да прахадной радыёзавода, прыглядваўся да кожнай дзяўчыны, а Шуру не сустрэў.

Рознае перадумаў: можа яна ў адпачынку, можа яна перайшла працаваць на другі завод ці наогул выехала з горада. Бачыў яе ў сне. Быццам Шура збірала кветкі за рэчкай. Я імкнуўся пераплысці рэчку, а няўмольны вір то засмоктваў мяне, то зноў і зноў кідаў на бераг.

Я не верыў забабонам, не верыў і снам. Верыў таму, што знайду Шуру. А калі знайду, то нішто мяне не разлучыць з ёю.

Кожны дзень я сядзеў на лекцыях, пасля заняткаў штудыраваў канспекты, а вечарамі і нават у святы працаваў над скульптурай. Не знаходзіў вольнага часу, каб схадзіць у кіно. Я спадзяваўся на лепшае. Вось закончу сваю скульптуру. Мой першы твор выставяць у мастацкім музеі... Шура прыйдзе на выстаўку. Няўжо яна не пазнае сябе?

Я веру, што мае мары збудуцца. Я сустрэнуся з Шурай. Мы будзем разам. Тады будзе шмат вольнага часу ў мяне.

Нарэшце сваю скульптуру я перавёў у мармур. Скульптура была нядрэнна ацэнена мастацкім саветам і выстаўлена ля ўваходу ў музей. Наведвальнікі падоўгу прастойвалі каля яе. А нейкі наведвальнік у кнізе водгукаў запісаў: «Каб на цэнтральнай плошчы горада паставіць гэтых «Рамантыкаў», то, праходзячы міма, не ведаю, як хто, а я заўсёды думаў бы, што на зямным шары скора не астанецца ніводнага парахавога склада, ніводнай бомбы. Будзе мір, будзе каханне, будуць мары»... Можа ён перахваліў мой першы твор — не такое там ужо высокае майстэрства. Аднак мне прыемна было, што людзі глядзяць маю скульптуру. А калі людзі глядзяць, думаў я, то і Шура ўбачыць сябе.

І вось нечакана з гарадскога бюро даведак мне перадалі адрас Шуры. У той час я быў у сваёй майстэрні. У рабочым халаце, з закасанымі рукавамі, рукі ў гліне. Я ледзьве не рынуўся такім на вуліцу. Але ж памыў рукі, апрануў касцюм, толькі галіцца не было часу,— пабег. Спярша купіў букет кветак. Мне хацелася як мага хутчэй убачыць Шуру. Яна жыла на Падлеснай. Я наняў таксі. Прасіў вадзіцеля хутчэй ехаць. Загадзя не рыхтаваўся, што казаць Шуры, але адно ведаў: чырванець і заікацца не буду перад ёй.

Таксі мчалася, як страла. За акенцамі мільгала ўсё: людзі, машыны, гмахі. Шура, Шура... Я буду цалаваць яе смела... Я злаўлю маю зорку. А потым... потым я запрашу яе ў мастацкі музей.

Нарэшце я ўзляцеў на другі паверх. Вось і пакой нумар трыццаць два. Націскаю на кнопку — за дзвярыма прарэзліва брынчыць званок. Доўга брынчыць.

На пляцоўку, дзе я стаяў з кветкамі, знядужанай хадой узышла бабулька. Яна патрымалася за парэнчы, крышку адпачыла, потым спытала:

— Вы сюды? — і паказала на трыццаць другі пакой.

— Сюды, бабка.

— Яны ж на рабоце, сынок.

Я ўзрадаваўся, што яны — гэта Шура і Валя!

Бабка казала далей:

— Толькі ж во яны з абеду пайшлі. Віктар можа хутчэй прыйдзе. Ён у вячэрнім тэхнікуме вучыцца. А Шура пакуль жа дзіця з ясляў забярэ...

Больш я не хацеў нічога чуць. Шура замужам... Нейкі час я стаяў збянтэжаны.

— Вы можа не туды трапілі? — западозрыла бабка.

Што мне было казаць? Я папрасіў, каб яна перадала кветкі Шуры. Бабка спытала, ад каго кветкі? Не сказаў я. Калі не ўмеў у свой час дарыць ёй букеты — навошта цяпер прызнавацца, хто я.

Незваротнае не вернеш.

* * *

І яшчэ праляцела колькі год. А я ўсё адзінокі. Ужо не спадзяваўся, што сустрэну такую дзяўчыну, як Шура.

Нейкі час я не страляў вачыма на дзяўчат, не прызначаў спатканні. Ды і колькі можна падманьваць сябе, дакуль хадзіць на спатканні? Хоць многа нявест у горадзе — толькі мне цяжка было знайсці адну.

Асалоду шукаў у працы. У майстэрні сустракаў і дзень, і ноч. Мне ніхто не перашкаджаў, ніхто не казаў класціся спаць.

Нудна праходзілі выхадныя дні. Амаль да самага вечара я не ведаў, куды пайсці. У кіно ці ў тэатр аднаму было неяк няёмка, а з жанчынай абы з якой — не хацеў. Тады ішоў да сваіх мастакоў. Яны былі жанатыя людзі і збіраліся — у каго кватэра большая. Іншы раз скідвалі ў кучу па рублю ці па траячцы на гарэлку — што ж, і я раскашэльваўся. Але не садзіўся з імі выпіваць. Мастакам не падабалася, што я цураюся кампаніі. Яны пачалі кпіць з мяне. Я ж стаў даганяць сваю вясну.

Усё прыйшло само па сабе. Нечакана, можа нават і выпадкова. І нядаўна. Позняй восенню. Ішоў я з работы стомлены і аб нечым думаў. На тратуары быў галалёд. Увесь дзень ліў дождж, а пад вечар падзьмуў халодны вецер, падмарожвала. Перада мной пакаўзнулася жанчына ў чырвоным цыгейкавым паліто і белай шапачцы, ускрыкнула.

Яе абступілі людзі. Памаглі ўстаць на ногі. Нічога асаблівага з жанчынай не здарылася — і ўсе разышліся. А яна пайшла, накульгваючы. Я спытаў дазволу, каб узяць яе пад руку, памагчы. Яна падзякавала, шчыра і проста ўзяла мяне пад маю руку. Што ж, ідзём паціханьку. Маўчым. Потым я запытаў:

— Вам далёка яшчэ?

— Далёка,— адказвае.

А вецер моцны, пранізлівы і якраз насустрач. Аж дух займае. Во, думаю, напрасіўся. Да ночы праваждаешся з ёй. Ісці далёка. Хоць бы што прамовіла, а то быццам прыліпла і моўчкі клыпае. Тады я зачынаю гаворку. Кашлянуўшы ў кулак, кажу:



— Здаецца, недзе я сустракаўся з вамі. Вас не Надзяй завуць? Трэба ж нешта было прыдумаць, каб дарога весялейшая стала.

Жанчына зірнула на мяне, усміхнулася. Потым сказала:

— Не ведаю, дзе вы мяне сустракалі. А я часта вас бачу. Калі праходзіце па праспекце — усё нешта выглядваеце, быццам каго згубілі. А мяне завуць не Надзя, а Кацярына.

І войкнула. Я тады прапанаваў, каб яна прысела на лаўку, што стаяла на аўтобусным прыпынку, патрымалася за яе, а я тым часам трошкі пацягну ёй нагу.

— Вы ж не доктар,— сказала яна.

Мы зноў пайшлі. Я спадзяваўся, што Кацярына нарэшце папросіць мяне, каб памог сесці ў аўтобус, і паедзе. А яна расказвала, як цяжка адначасова працаваць і вучыцца. З яе слоў я зразумеў, што яна ўдзень працуе бухгалтарам-эканамістам на фабрыцы, а ўвечары займаецца ў інстытуце народнай гаспадаркі. Цяпер жа вяртаецца дадому з інстытута. Я паспачуваў ёй. Потым спытаў, на якім курсе яна.

— Сёлета канчаю...

Слова за слова — разгаварыліся. Здавалася, вецер не такі ўжо быў халодны, і Кацярына раўней пайшла.

Не заўважыў я, як далёкае стала зусім блізкім — давёў Кацярыну да самага яе пад'езда. Я чакаў, што яна падзякуе мне і пажадае добрай дарогі, а яна і не супынілася нават каля пад'езда. Як ішла са мной па тратуары, спакойна, упэўнена, так і пачала ўзнімацца па лесвіцы. Я — услед.

На чацвёртым паверсе адамкнула семнаццаты пакой і сказала:

— Хоць пагрэйцеся ў мяне. Я адна жыву.

Гэта мяне ўзрадавала і не здзівіла. Адна дык адна... А пагрэцца не шкодзіла. Без пальчатак рукі анямелі.

У пакоі было ўтульна і чыста. Пахла духамі.

Кацярына прапанавала мне распранууца.

— Шчыра дзякуй. Я так хвіліну пасяджу, пакуль рукі адыдуць,— і пахукаў на свае кулакі.

— Хіба спяшаецеся куды? Да сям'і можа?

— Я адзін жыву.

— Можа альбом пагледзіцё мой?

— Не, дадому пайду ўжо,— адказаў я і прыўзняўся з крэсла.

— Тады пальчаткі вазьміце мае,— Кацярына хуценька дастала скураныя з кішэні свайго паліто і падала мне.— Яны прасторныя.

Я ўзяў. На развітанне сказаў:

— А да нагі кампрэс прыкладзіце. Халодны спярша, а калі апухне, тады цёплы можна. А я заўтра пальчаткі прынясу. За ноч вывіх пакажа сябе. Можа яшчэ саляную ванну трэба будзе прыняць. У мяне таксама расцяжэнне сухажылляў было. Тыдні два ляжаў у пасцелі.

Сказаў «да пабачэння» і пайшоў.

Назаўтра, як толькі сцямнела, я завітаў да Кацярыны. Так і было, як думаў: з абгорнутай у мокры ручнік нагой яна ляжала ў пасцелі. Нага распухла, нават ступіць нельга было.

— Во, як бывае...— паспачуваў я.— Хай бы на полі дзе, а то на тратуары.

— Добра, што прыйшлі,— сказала яна.— Можа ў магазін сходзіце. Кефіру прынесяце, а я бульбы навару. Павячэраем разам.

Так і было, як сказала Кацярына. Апроч кефіру, я прынёс яшчэ бутэльку віна, каробку цукерак. Наварыў бульбы сам. Кацярыне не дазволіў уставаць з ложка.

Пасля вячэры трошкі кружылася ў галаве. Кацярына была вясёлая, і мне было хораша з ёю.

Я расказаў пра сябе, чаму адзінокі, яна — пра сябе.

У Кацярыны быў муж. Яна кахала яго. Але больш гаварыць пра мужа я не дазволіў. У мяне была Шура, і я таксама кахаў яе.

— Ты пойдзеш ужо? — з сумам у голасе спытала яна.

— Пайду, Кацярынка. Уставаць трэба рана. Прыйду заўтра.

І як было не прыйсці. Хто ж пра яе, хворую, паклапоціцца? Хто кефіру прынясе, хто падрыхтуе салёную ванну, каб папарыць яе нагу? Ды і нейкая сіла цягнула да яе.

Так мінула два тыдні. Не было таго вечара, каб я не быў у Кацярыны. І калі паздаравела — таксама ішоў да яе. Мне хацелася ведаць, як яна здала залік, што новага ў яе на рабоце. Раіліся, які спектакль будзем глядзець, калі ў яе будзе вольны час. А там вешалка ў парозе абарвалася — трэба было прымацаваць да сцяны, акно заканапаціць: вядома, кватэра без мужчынскага нагляду.

А надоечы Кацярына прыйшла да мяне ў майстэрню. Паглядзела, як я працую, і кажа:

— Іванка, давай я памагу табе што. Ды хоць бы гліны намяшу.

Іванка... Ужо колькі год мяне ніхто не называў так. Усё — Іван Султановіч... І раптам — Іванка... Я адчуў, што пачало вяртацца да мяне тое непаўторнае, дарагое, якое некалі страціў.

А Кацярына ўсё часцей і часцей пачала прыходзіць да мяне ў майстэрню. Я чакаў яе, хваляваўся, як юнак.

Бралася зноў на вясну. Усё прыгажэла наўкола: і людзі, і горад, нават кватэра мая. Кожнага дня я паліваў ружы, што раслі ў вазонах на акне. І яны ажывалі, пачыналі квітнець на маіх вачах.





*Вольга Іпатава нарадзілася ў 1945 годзе ў мястэчку Мір Гродзенскай вобласці. Выхоўвалася ў дзіцячым доме. У 1961 годзе скончыла дзесяцігодку і цяпер вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.*

*Вершы В. Іпатавай друкуюцца ў «Маладосці» ўпершыню.*

**Вольга ІПАТАВА**

# У КОСМАС



У космас! — вось мара мая запаветная.
Ды зямля не захоча пускаць мяне,
ведаю,
Стане, як за дачку, баяцца да
ліхаманкі,
Звязваць па руках і нагах маланкамі,
Шэрымі туманамі мяне ахутваючы...
Праз усё я прарвуся, смелая, хуткая!
Самых гарачых набяру я зорак,
На зямлю вярнуся рана, золкам,
Калі ноч яшчэ красціся будзе, цёмная,
Калі людзі спаць яшчэ будуць,
стомленыя,
І зоркі свае да апошняй
Падарую сэрцу кожнаму,
Каб не згасала яно, узрушанае,
Каб на зямлі пераваліся раўнадушныя.
А каханы няхай не злуецца дарма:
Для яго я зоркай буду сама.

# РЭЧКА

З гор кіргізскіх снежных ты ляціш імкліва,
Аб каменні б'ешся, пеніш берагі.
Сінія дало табе неба пералівы,
Чысціню халодную — вечныя снягі.

А калі над стэпам запалае спёка,
Ты арыкам хвалі аддаеш свае.
Іх зямля сухая недзе там, далёка,
Быццам сок гаючы, прагавіта п'е.

Рэчышча на сонцы грэецца пустое,
А ў даліне з ветрам шэпчацца трава.
Я хачу таксама, рэчка, быць такою
І сябе да кроплі людзям аддаваць.

★

І вясёлая, і прыгожая,
А заўсёды адна чаго ж яна?
Хлопцы ходзяць за ёю спраўныя,
А кахання няма сапраўднага.

Залаціцца б ёй хмаркай ля месяца,
Ці вярбою над возерам звесіцца.
Ды нашто сваёй ласкай ды ўсмешкамі
Раскідалася, як арэшкамі?

Адзінока журыцца вербачка...
Да каго прыхіліцца даверліва,
Адгадаць ёй, калі паклікае
Пачуццё не пустое — вялікае?





Міхась ДАНІЛЕНКА

# СЛЯПЫ ДОЖДЖ

Апавяданне

Мал. У. Долгава.

У каго прыемна-соладка не калаціласа сэрца, калі пад мацакомдубам раптам убачыш вылузаныя з зямлі тугія шапачкі баравікоў!

Хто-хто, а Павел выхадзіў, і ранішнія асеннія росы адведаў, і радасць, калі ўбачыш першае грыбнішча, і бадзянне па лесе ў адзіноце, калі ад важкага кошыка аж млее рука. Ідзеш, быццам ні пра што не думаеш, а на сэрцы хораша і неяк па-святочнаму светла і ўсцішна.

Ён, Павел, лічы, увесь лес уздоўж-упоперак выхадзіў і такія грыбныя мясціны ведае, што іншы ніколі і не здагадаецца туды зазірнуць. А калі няма ў цябе на прыкмеце такіх мясцін, які ж ты грыбнік пасля гэтага? Так — адно толькі званне.

Сёння Павел падхапіўся яшчэ прыцемкам. Маці ў хляве даіла карову і ціха ўлагоджвала яе:

— Стой, Рыжая, стой... Чаго тупаеш?

Павел спаласнуў халоднай вадой твар, паклаў у кошык акраец хлеба з памідорам і, уздзеўшы на ногі старыя апоркі, падаўся з хаты.

Вёска яшчэ як мае быць не прачнулася. Дзесьці рыпнуў журавель, певень залопаў крыллем. Туман рэдкімі касмылямі слаўся ад рэчкі. Са сланечніку ляніва ўзнялася і паляцела да лесу стайка пярэстых крыжадзюбаў. «Ах, каб на вас нялёгкая! І пудзіла не баяцца...»

Павел, шырока сігаючы, паўз калгасныя хлявы, пашыбаваў да лесу, што цямнеў наперадзе. Ад ранішняга холаду самі пацепваліся плечы. Раса вымачыла калашыны старых Паўлавых штаноў. Павел спяшаўся: трэба ж было вярнуцца з грыбоў, каб не спазніцца ў школу. Яна была не ў іхняй вёсцы, а ў суседняй — Барках. Павел туды ездзіў на веласіпедзе. Сам і купіў той веласіпед за грошы, зробленыя летам на камбайне.

Адразу ж на ўзлеску пачыналіся выжарыны. Густы верас хвастаў па Паўлавых апорках. Па мяккім аксамітным імху, такім чыстым, што, здавалася, яго нехта прамыў крынічнай вадой, рассыпаўся зязюльчын лён. А вунь вытыркнуліся і чырвонагаловыя падасінавікі. «Чым не грыб?» — думаў Павел, падразаючы тугія капялюшыкі. Ножка ў падасінавіка адразу, як толькі яго зрэзаў, цямнела. За гэта Павел трохі і не любіў такія грыбы. Гэта не тое, што баравік — цар грыбоў! Ды, на горшы выпадак, і падасінавік у талерцы будзеш лавіць лыжкай. А вось жаўцеюць зорачкамі лісічкі.

Вось і тры дубы — першае патайное Паўлава грыбнішча. На адным з дубоў — хлопец ведаў — лісце будзе трымацца ўсю зіму. Медзяное, звонкае, яно трымціць і трымціць на сіберным ветры, а не падае. І, скажы ты, дачакаецца тых дзён, калі з новых пупышак праклюнуцца першыя кволыя лісточкі!

Яшчэ не дайшоўшы да дубоў, Павел убачыў: яго нехта апярэдзіў. А вунь і карэнні бялеюць ля ядлоўцавага куста. Ай-яй! Колькі тут нарэзана грыбоў! Хто ж гэта тут порхаўся з нажом?

Трохі разгублены, Павел падаўся сцяжынкай, што значылася на ацярушанай ад расы траве. Грыбнік, мусіць, быў вопытны: ён ведаў, куды ішоў. Ад трох дубоў след значыўся да бярэзнічку, што рос ля ўзболатка. Тут Павел трохі затрымаўся: пад выносістымі соснамі, на лабавіне, падрэзаў з дзесятак чорнагаловых баравікоў. Да шапачкі аднаго прыстала сухая ігліца, і Павел асцярожна ачысціў яе нажом. Кладзіцеся ў кошык, міленькія! А крэпкія!.. Не раўнуючы, што капыты. Вунь з-пад елкі выглядае мухамор. Не, браток, усё роўна не буду цябе браць. Стой, любуйся сабою, пакуль не зморшчыцца твой фарсісты капялюш.

Наперадзе, між дрэў, мільганула дзявочая постаць. «Няўжо Ленка? — не паверыў Павел.— Так і ёсць: Ленка Качан з паралельнага дзевятага», — ён адчуў, як радасна закалацілася сэрца: вось дык сустрэча! Расхінаючы перад сабой галіны арэшніку, Лена падышла да Паўла. Пад левым вокам у яе цямнела радзімка. Дзяўчына прыязна глядзела на Паўла.

— Добрай раніцы, Паўлік! — прывіталася яна.— Ой, як ты многа набраў!

— Відаць, некаторыя і ночы не спяць, каб першымі па грыбнішчах прайсціся.

Лена рассмяялася і папраўіла на галаве старэнькую ў гарошак касынку. Павел успомніў, як аднойчы — яшчэ ў восьмым класе — падвозіў Ленку на веласіпедзе. Гэтая вось касынка сарвалася тады з загарэлай дзявочай шыі і, падхопленая ветрам, паляцела аж да рачулкі. Лена спалохалася, а Павел кінуў веласіпед, адважна рынуўся, падкасаўшы штаны, у халодную ваду: не чакаць жа было яму, пакуль хвалі намочаць касынку...

— Бач, як паліняла...— нечакана для сябе сказаў цяпер Павел, паказваючы на касынку.

Лена прамаўчала — здагадалася, пра што ўспомніў Павел. Удвух, не згаворваючыся, яны павярнулі і паволі пайшлі ў той бок, дзе павінна





была быць вёска. Шорх-шорх, шорх-шорх,— шасцеў пад нагамі сухі верас. А то часам галінка трэсне, жолуд з дуба сарвецца і шпокне аб дол.

Сонца паднялося над дальнім узлескам. Кропелькі расы засвяціліся пацеркамі. Мацней запахла сыраежкамі, прэлым лісцем.

— Давай — твой кошык паднясу,— сказаў Павел.

— Ой, што ты! Я сама.

— Давай, давай....

Павел амаль сілком забраў з Ленчыных рук кошык і засаромеўся: вунь які бездапаможны віхорчык тырчыць з-пад касынкі ля ружовага вуха. Валасы, відаць, мяккія-мяккія, бы той пух. Павел ледзь не працягнуў да іх руку, але ў час спахапіўся. І зноў згарэў ад сораму: яшчэ здагадаецца Лена.

А з чыстага, без ніводнай хмурынкі неба нечакана сыпануў дождж. Сонца прасвечвала тоненькія срабрыстыя ніці, лісце на дрэвах ззяла, блішчала. Звычайна такія дажджы бываюць летам. А вось жа, глядзі ты — восень, а ён надумаў... Няйначай, гэта апошні, як кажуць, сляпы дожджык. Скора заладзяць нудныя асеннія «мігучы» — будуць сеяцца, як праз сіта, цэлымі днямі.

Лена шчасліва зажмурыла вочы і зусім па-дзіцячаму, ну, як маленькая дзяўчынка, падскокваючы на адной назе, заспявала:

Сляпы дождж,
Сляпы дождж,
Выйсці з лесу
Нам памож...

Дождж шумеў і шумеў. Шумеў у лісці дрэў, у завялай траве — ліўся і радаваўся сам, як малое дзіця: цешцеся, людзі, з мяне. Ленчына сукенка прамокла, прыліпла да грудзей. Павел накінуў на плечы дзяўчыне свой пінжак. І зноў у яго чамусьці гулка затахкала сэрца. Тахкае так, праклятае, быццам выскачыць хоча. А ў ім нехта следам за Ленай паўтарае:

Сляпы дождж,
Выйсці з лесу
Нам памож...

«І праўда, хоць бы не заблудзіцца...— занепакоіўся Павел. — Вунь колькі мы па лесе хадзілі».

Дождж па-летняму лапатаў у лісці алешніку, скакаў па шапачках грыбоў у кошыках. Павел наламаў ахапак папараці, прыкрыў і свае і Ленчыны грыбы.

А сонца ззяла праз дождж. Здавалася, нехта прадзе пад ціхі пошум чароўны пояс лету, якое адыходзіла. Праз радасныя слёзы ўсміхалася вясёлка...



Леанід **ЯУМЕНАЎ**

# КАХАННЕ



кверык, лаўка.
Сонца свеціць
Аж моршчыцца лужына,
Дзяўчо маладзенькае
Размаўляе з белаю ружаю,
З дажджавою лужаю
І нават са шчырым сонцам.

Учора мой Грыша
Сярод усіх іншых
Выбраў толькі цябе, белая ружа...
Дык скажы мне, добрая кветка,
Ці любіць мяне
Маё ціхае лета?

Ну, чаго ты злуеш і крыўляешся,
Я ж зусім не лічу цябе лужаю,
Для мяне ты сягоння дужае,
дужае,
Сіняе, сіняе мора сапраўднае.
Знаеш,
Сіняе, дужае мора,
Ён сказаў мне, што я яго радасць,
Што я яго гора,
Што я яго згуба...
Дык скажы мне, сіняе мора,
Ці любіць мяне мой любы?

Свяціла наша нябеснае,
Ты ходзіш адно дні і месяцы...
Дык можа таму ты ўсіх слепіш
Касмічнай сваёй красой,
Каб зналі, што ты за ўсіх лепей,
За ўсіх гарачэй, прыгажэй?..
Дык слухай, красуня дзіўная,
Сказаў мне мой любы ўчора,
Што я яго сонца адзінае...
Не верыш? —
Спытайся ў ветра.
А потым нясмела
Апёк пацалункам губы...
Не верыш? —
Спытайся ў зорак.
Не верыш?
Спытайся ў месяца.



Радасць у сэрцы не месціцца,
Шчасцю няма мяжы —
Знайце ж
І неба і зоры,
І лужы і моры,
І ружы і рыжае сонца,
І свет увесь бясконцы,
Што любіць мяне мой любы,
Вы чуеце:
Лю-у-у-бі-іць!

# РАВЕСНІКУ



е хапаў ты, хлапчына, зор
З чаднага неба багемы,
Бо ўзвальваў час на горб
Табе не адно бярэмя.
К Парнасу цябе вялі
Сцяжыны, ад модных адметныя,
Не цераз плошчы сталіц
І не праз залы банкетныя.
Насіў ты камлі на плячах,
Абтрэсваў таежныя росы,
Для вершаў сваіх пазычаў
У сонца дэталяў россыпы.
Цябе сустракала слата,
Мядзведжых куткоў віхуры,
Ты трапныя словы шаптаў —
З цаглінамі клаў у падмурак.
Стэп нас вякамі чакаў,
Кавыльны, палынны, голы,
Ты рытм самы лепшы шукаў
Пад лёскат вагонных колаў.
Зайздросны, мой дружа, твой лёс,
Хоць вельмі цяжкі лёс першых —
Люты цалінны мароз
Цэментаваў твае вершы.
Натхненне тваё, мой брат,
Ніколі не выйдзе на пенсію,
Бо шляхам жыцця ты абраў —
Арбіту высокага сэнсу.
Таму твае вершы не чадзяць
Ні пакаёвай утульнасцю,
Ні ромам «бакардзі»,
І ні нудотаю,
Вырашчанай у парніковым садзе,
Ні васількамі, ні мятаю
І ні пасцеллю памятаю:
Яны
барацьбою,
працаю,
Сонцам,
жыццём,
іскрацца!



Іван ШАЛЬМАНАЎ

# ПАЛІКАР

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага.

Цікавы чалавек Палікар Дубік. Хутка год будзе, як жывём з ім у адным пакоі, а зразумець яго не можам.

Мы і то ўжо даўно не галубятнікі: армію адслужылі, па другому году на заводзе працуем. А Палікар жа за нас гадоў на восем старэйшы. Даўно пара жаніцца, а ён, дзівак, і не жэніцца і гарэлку не п'е. Каб скнарай быў, мы гэтага не заўважалі. Але грошы ў яго вяліся заўсёды. І мы ў цяжкую хвіліну, калі ў нас не хапала да палучкі, пазычалі ў Палікара.

На танцы Дубік не хадзіў, за дзяўчатамі не ўлягаў. Хіба толькі ў заводскі клуб калі ў кіно сходзіць, ды ў бібліятэку загляне.

Але раптам пайшлі чуткі, нібы наш Палікар Дубік панадзіўся да ўдавы Волькі Качко. Усюды толькі і гаманілі пра вяселле і ўжо дакладна ведалі, у які дзень Палікар з Волькай у загс пойдуць.

— Нічога сабе маладзічка. Старанная,— гаманілі на заводзе жанчыны.— Праўда, не семнаццаць год ёй. Дык ён жа таксама хлопец у гадах.

Волька Качко, непрыгожая жанчына, гадоў ёй, мусіць, сорак, была замужам за старым, хворым удаўцом Яшкам Смаргучом. Дзеці ў яго былі ўжо амаль дарослыя. Самы меншы хадзіў у сёмы ці ў восьмы клас.

Ды не доўга пабыла замужам Волька. Праз год, ці што, памёр стары Смаргуч і пакінуў ёй маленькае дзіця. Смаргучовы дзеці яшчэ пры жыцці бацькі знелюбілі мачыху. А калі Смаргуча не стала, прагналі яе.



Знайшла сабе прытулак Волька ў нас на заводзе. Ёй далі пакойчык невялікі і ўладкавалі на працу — прыбіральшчыцай у механічным цэху. Тут жа працаваў і наш Палікар электрагазазваршчыкам.

Спачатку мы не верылі бабскім плёткам. Жанчыны — народ такі: зробяць з мухі слана. Але потым і самі пачалі заўважаць, што з нашым Палікарам робіцца нешта незвычайнае.

Да палучкі заставалася дзён пяць. А ў нас так здарылася, што ні ў кога ні капеечкі. Сядзім дома, Палікара чакаем. Палікар выручыць!

Але прайшла гадзіна, другая, а Палікар не прыходзіў. Злаваць пачалі. Прагаладаліся.

Васіль Кужаль ляжаў на ложку, звесіўшы ногі на табурэтку і цяжка ўздыхаў:

— Не, хопіць, з палучкі разумнейшы буду.

Я сядзеў, адпісваў пісьмы. Маці, братам, знаёмым. Сабралася — за тыдзень не адпішаш! А Мішка Касюлёнак чытаў «Прыгоды джэнтльмена». Гэты раман Мішка чытае амаль з той пары, як пасяліўся ў нашым пакоі. Чытае звычайна перад палучкай, калі грошай у яго не бывае. У кожнага свае звычкі.

Палікар, калі заставаў Мішку за «Прыгодамі джэнтльмена», даставаў пяцёрку і моўчкі клаў яму на кнігу.

— О, сэр! Які вы добры! Я вам вельмі ўдзячны,— і Мішка клаў грошы ў нагрудную кішэню.

— Выручай, братка Палікар,— прасіў і Васіль Кужаль.— Пераходзім на падсос.

І Палікар выручаў.

На гэты раз Палікар, як ніколі, прыйшоў позна. Моўчкі распрануўся, схадзіў памыўся. Нетаропка выцер твар ручніком і старанна пачаў расчэсваць свае густыя валасы.

Мішка перастаў чытаць і сачыў за Палікарам. Ён чакаў, калі той закончыць свой туалет і пакладзе яму пяцёрку.

Дубік прычасаўся, падышоў да стала і павольна апусціўся на крэсла. Нейкі час ён сядзеў моўчкі і, насупіўшы бровы, абыякава глядзеў перад сабой. Потым павольна павярнуўся да нас і вінавата спытаўся:

— Хлопцы, у каго ёсць грошы? Мне да палучкі...

Васіль расплюшчыў вочы, а потым залыпаў імі, як сава.

Мішка шпурнуў кнігу сабе на ложак, падняўся з крэсла і захадзіў па пакоі.

— Дзе твае грошы? — раптам накінуўся ён на Палікара.

Палікар спачатку памыліўся, а потым адказаў:

— Вольцы стол купіў. Ну, стол, дастаўка...— апраўдваўся Дубік.

Мішка пляснуў рукамі і, счапіўшы пальцы, апусціў перад сабой.

— Ды ты ведаеш, што ты нарабіў!.. Хлопцы галодныя, а ён, бачыце, стол Вольцы...

— Ты, звягло, замаўчы! — абарваў яго Васіль.— Кожны на свае грошы гаспадар.

Мішка, відаць, хацеў яшчэ штосьці сказаць, але, глянуўшы на Кужаля, паслухмяна сеў на ложак.

— Гаруе жанчына,— загаварыў Палікар.— Іду дамоў, а яна назбірала ламачча рознага на дровы — ледзь цягнецца. Памог да дому данесці. Да яе зайшоў. Пакойчык во такусенькі. Раскладушка, табурэцік, і — баста. Грошы якія ў яе — толькі на хлеб. А жыць трэба. Дзіця. Было ў мяне трыццаць рублёў. Паехаў ды стол купіў.

Мы, злосныя, маўчалі. Злаваліся, вядома, не на Палікара, а на гэтую нахабніцу Вольку. З Палікара-дзівака што возьмеш!

А назаўтра Палікар і не такое выкінуў! Прыходзім з работы, глядзім, а ў пакоі калыска стаіць. Паглядзелі мы адзін на аднаго, плячамі пацепалі. Ну, вядома, Палікар... Каму яшчэ! Ці не задумаў ён ужо забраць сюды Вольку? Ад яго цяпер усяго чакаць можна. А калысачку, відаць, сам зварыў з жалезных трубак,— гэткая добрая, з душой зроблена.

Праз колькі хвілін прыбег Палікар, бляшанку з фарбай прынёс

— Вы мне, хлопцы, прабачце. У пакоі фарбаваць буду,— і, не чакаючы нашай згоды, Палікар зняў паліто, разаслаў газету на падлозе. На газету бляшанку з фарбай паставіў, пэндзаль паклаў.

— Гаспадаркай абзаводзішся? — з'едліва спытаўся Мішка Касюлёнак і прыжмурыў вочы.

— Вольцы,— проста адказаў Палікар. Ён асцярожна памачыў пэндзаль і пачаў фарбаваць калыску. Выходзіла ў яго гэта вельмі зграбна.

— Гаруе жанчына,— зноў загаварыў Палікар. Ён выпрастаўся, адышоў на некалькі крокаў ад калыскі, паглядзеў на сваю работу.

— Нічога, — нібы суцяшаючы сябе, сказаў Палікар, — пакуль абжывецца і гэта добра будзе.

Дубік падышоў бліжэй да калыскі і асцярожна пачаў размазваць пэндзлем падцёкі.

— Нешта ж дужа ўжо шкадуеш ты Вольку,— папракнуў яго Мішка.

— Гаруе, кажу, жанчына.

Палікар уздыхнуў, заклапочана нахмурыў бровы і зноў узяўся за пэндзаль.

— Дык ці праўда, Палікар, што ты, гэта, з Волькай?..— спытаўся Васіль.



Палікар падняў бровы, усміхнуўся, але нічога не сказаў.

— Няўжо табе дзяўчат няма?

— А чым Волька дрэнная...— зноў усміхнуўся Палікар і паглядзеў на нас.

Ну, што ты скажаш яму! Дзівак дый годзе. А Палікар і кажа:

— Усе жанчыны на адзін капыл шытыя.

Больш мы не дапытваліся, бо ведалі: з Дубіка цяжка выціснуць што-небудзь, асабліва, калі гэта датычыла яго.

Узнелюбілі мы нешта гэтую жанчыну і дужа не хацелі, каб наш добры Палікар жаніўся на ёй.

І рашылі: не дапусціць.

Але дзе ты ўтрымаеш гэтага дурня. Ледзь вольная хвіліна, Палікар цяпер прападае у Волькі. Сек дровы, насіў ваду, паліў у грубцы. Нават дзіця няньчыў, калі Волька хадзіла ў магазін ці так куды. Але начаваць Палікар заўсёды прыходзіў дамоў.

Спрабавалі гаварыць Палікару, што не пара яму Волька. Але паспрабуй, дакажы, калі ўсе нашы довады яму, як гарох да сценкі.

Доўга ламалі галовы і выйсця не бачылі.

— Хлопцы! А што, каб да Волькі схадзіць, растлумачыць ёй...— неяк аднойчы сказаў Васіль Кужаль. Але мы адразу адверглі гэтую думку. Ну, сапраўды, хаця б і вы на нашым месцы: як гэта ісці да жанчыны і ўгаворваць яе, каб яна не выходзіла замуж за нашага Палікара? Няёмка неяк!

— Давайце, хлопцы, пісьмо ёй напішам, га? — параіў ужо я.— Але так, каб не пакрыўдзіць. З падыходам...

Мая прапанова спадабалася. І мы, з кожнага па слову, напісалі пераканаўчае, як нам здавалася, пісьмо. Жанчына яна разумная, крыўдзіцца ёй няма чаго. Яна павінна згадзіцца, што Палікар не для яе.

Доўга яшчэ мы радзіліся, каму несці пісьмо гэтае да Волькі. Але кожны з нас увільваў, спіхваў на другога. Нарэшце рашылі так: напісалі разам, разам і аднясем.

Вечарам таго ж дня аднеслі пісьмо на кватэру да Волькі. Прыпільнавалі, калі нікога не было на калідоры, падбеглі да Вольчыных дзвярэй, падсунулі і — дамоў.

Палікар апошні час дамоў прыходзіў надта позна. Іншы раз заснеш і не пачуеш, калі ён вернецца. А тут, мусіць праз гадзіну ці што пасля таго, як пісьмо аднеслі, Палікар заявіўся. Выгляду не падаў, што недзе Волька пратурыла яго. І пра пісьмо ні слова. Нават, відаць, каб збіць нас з панталыку, нейкую задаволеную ўсмешку строіў. Ён, як заўсёды, спакойна распрануўся, акуратна склаў адзенне на табурэтцы і лёг на ложак, паклаўшы ногі на спінку.

Мы з затоенай трывогай сачылі за ім.

А Палікар задуменна зажмурыў вочы і з нейкай асалодай сказаў:

— І так, хлопцы, лічыце мяне жанатым. Сёння заяву ў ЗАГС аднеслі.

Мы пераглянуліся, пакраталі плячамі і амаль у адзін голас сказалі:

— Ну і дурань!

Яно, вядома, лёс Палікара быў нам не абыякавы, і, як ні кажы, жылі разам. Прытым, Палікар такі хлопец: апошняе аддасць, а таварыша ў бядзе не пакіне. Васіль Кужаль тры месяцы хадзіў на танцы ў Палікаравым касцюме, пакуль свой не купіў. І мы, хоць і пасмейваліся з чалавека, але любілі, як брата роднага. Ну што ты зробіш, калі чалавек, як той казаў, сам у пятлю галаву совае!

— Што ж, вып'ем на тваім вяселлі,— памаўчаўшы, сказаў Васіль Кужаль. Тут і пачалося.

Радыё даўно перастала гаварыць, а мы ўсё не маглі суняцца. Расказвалі анекдоты, кпілі адзін з другога і гэтым цешыліся.

— Ну, хлопцы, досыць. Адбой!— сказаў Васіль Кужаль. Ён падбег да выключальніка, патушыў святло і, ужо кладучыся ў ложак, сказаў:

— Праспім заўтра.

Пасля яркага электрычнага святла на нейкі момант зрабілася цёмна, хоць вока выкалі. Мы змоўклі. У пакоі стала ціха-ціха. Нават чуваць было, як тарахцеў Палікараў старамодны гадзіннік. Дзіўная рэч: чым больш стараліся супакоіцца, каб заснуць, тым усё гучней і гучней цікаў гадзіннік.

— Палікар! Ды спыні ты свой дызель...— не вытрымаў нарэшце Васіль Кужаль. — Дай заснуць.

Мы нібы толькі і чакалі гэтага. Адусюль так і пасыпалася:

— Памаж, Палікар салідолам!

— Тавотам!
— Палікар, шмаравідлам!
— Падцяжку зрабі! — аж да кашлю рагаталі хлопцы.
— Здай ты яго, Палікар, на металалом, — сур'ёзным тонам прапанаваў Кужаль. — Далібог не прагадаеш. За выручаныя грошы новы гадзіннік купіш, а з твайго «кіраўца» на заводзе сямітонны самазвал зробяць.
Мы так і пакаціліся ад рогату. А потым, нават цяжка ўспомніць, што было. Кожны выкрыкваў сваё, ніхто не слухаў, што хто гаворыць, і рагаталі самі са сваіх выдумак.
Палікар бяскрыўдна цярпеў нашы здзекі і рагатаў разам з намі.
Калі нарагаталіся да таго, што забалелі патыліцы, паступова пачалі заціхаць. Але спаць не хацелася.
— Чалавек — раб кахання,— па-філасофску, як бы між іншым, загаварыў Васіль Кужаль.
Здагадаліся, што ён кідае каменьчыкі ў Палікараў гарод, намякае на Вольку. Васіль заўсёды гэтак. Спачатку здалёк, а потым бліжэй, бліжэй, а тады як ляпне — ну, хоць стой, хоць валіся.
— Жыве чалавек чалавекам, — гаварыў далей Васіль,— працуе спакойна. Адпрацаваў рабочы дзень — і на ўсе чатыры. А закахаўся — гамон! Нідзе, значыцца, пакою няма.
— Жаніцца трэба,— падказаў Палікар і палез пад коўдру.
Куды б завёў Васіль сваю гаворку, каб яшчэ не Мішка. Палікар парадкам перабытаў яго думку сваім нечаканым адказам. А тут і Мішка, відаць, не здагадаўся, на што намякаў Васіль. А можа хацеў падтрымаць яго, ды няўдала. Бо ён з нейкай узнёсласцю загаварыў:
— А ўсё-такі каханне — гэта нешта такое светлае, натхнёнае і трошачкі трывожна-сумнае.
— Не ведаю. Я вось сэрцам адчуваю, а сказаць не ўмею. Здаецца, слоў такіх няма, — неяк дзіўна сказаў Палікар.
І мы зразумелі: Дубік кахае яе.
— Мусіць, сапраўды ўжо спаць пара, — напомніў Палікар. Пад ім зарыпела сетка: ён павярнуўся да сцяны.



Пасля таго, як Палікар аднёс заяву ў ЗАГС, Волька пачала заходзіць да нас. З дзіцем заходзіла. Палікар браў на ўлонкі Сашку і раіўся з Волькай, як лепш справіць вяселле. І Волька раіла яму, што трэба купіць, каго запрасіць на вяселле, колькі грошай трэба на гарэлку, колькі на закуску.
Мы не ўмешваліся ў іхнюю размову. Хай сабе як хочуць. Ім відней. Мы ўжо амаль змірыліся, што Палікар жэніцца на Вольцы, як ні кажы, а жанчына яна гаспадарлівая.
Аднойчы ў суботу, якраз за тыдзень да вяселля. Палікар, прыйшоўшы з работы, апрануў свой святочны касцюм. Гэты касцюм Палікар можа разы два і апрануў за ўвесь час, колькі мы жылі з ім разам. Куды гэта, думаем, ён збіраецца? А Палікар пакруціўся каля люстэрка, дастаў з кішэні грошы і паклаў на стол.
— Вось грошы. Збярыце што-небудзь на стол. Ну і... з далікатэсаў не забудзьцеся. Сёння жонка мая прыйдзе ў госці. Я пайду па яе, а вы тут, хлопцы... Ну, буду спадзявацца.
— Ды ўжо ж...— азваўся Васіль, і Палікар выйшаў з пакоя.
— «З далікатэсаў»!..— ухмыльнуўся Васіль, пералічыў грошы, што ляжалі на стале, і паклаў іх у Палікараву тумбачку.
— Палікару цяпер грошы трэба. А ну, хлопцы, гані па пяцёрцы!
Мы скінулі па чырвонцу.
— Асноўнае, Вася, глядзі, каб што выпіць было, а закусіць можна і мануфактурай,— жартам сказаў Мішка і падаў яму дзесяцірублёўку.
— Як-небудзь скемлю,— беручы грошы, адказаў Васіль і пстрыкнуў Мішку па носе. Васіль узяў сетку,— яна адзіная ў нас на ўсіх,— і падаўся ў магазін.
Неўзабаве мы ўжо накрывалі стол. Па-халасцяцку, вядома: хлеб, кілбасы, кансервы розныя, ну і гарэлка.
— А гэта для шыку! — Васіль



выцягнуў з кішэні бутэльку шампанскага, крутнуў яе ў руках і паставіў на стол.

— Цьфу, паскудства!.. — сплюнуў Мішка. — Хіба што для пшыку.

— Ну і Палікар! — нездаволена бурчаў Васіль.— Толкам не расказаў і збег... А ты варажы тут, на колькі чалавек...

— А чаго варажыць, — азваўся Мішка. — Ты ведай адно: валі на стол і баста. А калі прыйдуць, тады і лічыць будзем. Крэсла і шклянка знойдуцца.

— І то праўда, — згадзіўся Васіль.

Нехта пастукаў у дзверы.

— Уваходзьце, — сказаў Васіль і расчыніў дзверы.

У пакой увайшла Волька з дзіцем на руках.

— Дзень добры! — прывіталася яна.

— Дзень добры! Праходзьце, — Васіль паказаў на крэсла. — Сядайце.

Волька села.

— Палікара няма яшчэ?

— Няма. Ён жа казаў, па вас пайшоў.

Волька здзіўлена паглядзела на Васіля, але нічога не сказала. Нейкі час сядзела моўчкі. Потым паднялася з крэсла і падышла да нас, паглядзела, чым мы займаемся.

— На вось лепш, патрымай,— Волька падала Мішу дзіця. Той, яшчэ не разумеючы, што ад яго патрабуюць, узяў дзіця на рукі.

— Ідзі, ідзі, пагуляй трохі з Сашкам, — растлумачыла яму Волька, а сама падышла да стала.

— Што тут у вас ёсць?

Мы паказалі, як казаў Васіль, сваю «правізію».

— І гэтак гасцей частаваць думаеце, — здзівілася Волька. — Вам толькі жаніцца... Дзе тут у вас кухня ці што?

Васіль павёў яе на кухню. Волька зняла сваё старэнькае, але чыстае паліто, падперазалася замест фартуха хусткай. Васіля зноў паслала ў магазін за прысмакамі рознымі і тое-сёе прыкупіць яшчэ.

Праз некаторы час на кухні шыпела смажаніна. Волька і на стале расставіла ўсё па-свойму. Куды зграбней, чым Васіль.

І нам дужа няёмка стала, што тады так неабдумана напісалі ёй пісьмо. Мы нават саромеліся глянуць ёй у вочы, выконвалі ўсе яе загады, стараліся як лепш дагадзіць.

Калі ўжо ўсё было гатова, а мы памыліся і пераапрануліся ў святочнае адзенне, прыйшоў Палікар. Ды не адзін. З ім была светлавалосая дзяўчына. Не сказаць, каб надта прыгожая, але і не благая.

Дзяўчына прывіталася, і Палікар прадставіў яе нам:

— Будзьце знаёмы,— сказаў ён і разгубіўся. Вочы яго заіскрыліся, а твар заліўся чырванню. Палікар адвёў вочы ў бок і скорагаворкай дадаў: — Мая жонка.

Я ледзь не праглынуў папяросу, якую трымаў у зубах. А Васіль, як заўсёды, толькі лыпаў вачыма. Адзін Мішка, відаць, не разгубіўся.

— Міхась, — абыякава назваўся ён і падаў дзяўчыне руку.

— Тоня, — лагодна сказала яна.

— Вельмі прыемна, — гэтак жа, як і спачатку, прагаварыў Мішка і адышоўся, недаверліва паглядаючы на Тоню і Палікара.

Потым пазнаёміліся і мы.

А Палікар быў зусім не падобны на сябе. Гэткі лагодны, гэткі ўважлівы, што нават нам здавалася: Тоня і не варта была такой увагі.



— Ты не саромейся, распранайся, — завіхаўся каля яе Палікар. Ён асцярожна зняў яе паліто і павесіў у шафу.

Але наш халасцяцкі пакой, мусіць, не бянтэжыў яе. Гледзячы на Тоню, можна было падумаць, што яна прыйшла не ў мужчынскі інтэрнат, а на выстаўку выяўленчага мастацтва. Вочы яе так і бегалі па сценах, ложках, па ўсім, што было ў пакоі.

Раптам яе погляд затрымаўся на Палікаравай тумбачцы. Там ляжаў той самы «кіравец», з якога мы некалі надрывалі жываты.

Тоня асцярожна ўзяла гадзіннік у рукі і доўга разглядала. Потым павярнулася да Палікара:

— Ты ўсё беражэш яго.

— Як бачыш, — і Палікар сарамліва ўсміхнуўся.

— Дзіўная была я тады. Гэта яшчэ бацькі майго гадзіннік, — уздыхнула Тоня. — А я думала, што ты даўно выкінуў яго. Я ж згубіла тыя каралі ўжо.

Палікар моўчкі глядзеў на Тоню, сарамліва чырванеў і шчасліва ўсміхаўся.

У пакой увайшла Волька.

— Божухна, маладыя! Прыйшлі маладыя нашы! — узрушана загаварыла яна, убачыўшы Палікара з Тоняй, і кінулася да іх. — Што ж гэта, хлопцы, да стала не запрашаеце? Да стала, госцейкі мае, да стала!..

— Вольга Сцяпанаўна, — пачаў знаёміць Палікар Вольку з Тоняй. — Мая названая маці.

Нам было няёмка. Мы глядзелі на Вольку і на Палікара з Тоняй, і нам здавалася, што не такая ўжо старая Волька, каб быць Палікаравай маці. Нам шкада было яе. Шкада было і тое, што Палікар бярэ ў жонкі не Вольку.



**Мікола ВОРАНАЎ**

# ВЕРХАЛАЗЫ



Што снег, бялюткія і пухкія
Аблокі ліпнуць да бакоў,
Хістаецца жалеза пругкае,
Гатова скінуць седакоў.

Закураць хлопцы, усміхаюцца:
— Вісім між небам і зямлёй.
Тут з імі першымі рукаецца,
Устаўшы, сонца раніцой.

Капры, як мачты, высачэзныя.
Мантажнікі ж:
— Яшчэ б вышэй.
Хаця ў іх нервы не жалезныя,
Ды за жалеза ўсё ж мацней.

Рамантыка часамі кепская:
Дождж золкім душам сыпане,
Пярун ламае коп'і, трэскае,
Здаецца, лясне па спіне.

— Ну, як на сёмым небе
госціцца? —
Прараб сустрэне. — Малайцы!
... Яны ў гісторыю не просяцца,
Хаця гісторыі тварцы.



**Уладзімір ПАЎЛАЎ**





Дзе той у косах каснік залаты,
Сніцца які амаль кожнае ночы?
Дай жа пазнаць, зазірні мне ў вочы,
Оля — не Оля?
Ты ці не ты?

Крок прыпыні — даганю, прывітаю,
Час праляціць незаўважна ў гамонцы,
Лотаць жа зноў на лугах, — нібы сонца,
Рад я вясне, абуджэнню і маю.

Ты не шкадуй, што апусцім мы вочы —
Сэрцы няхай нагаворацца ўпотай,
Толькі не з той сарамлівай пяшчотай,
Як у час першае нашай сустрэчы.

У косах дзявочы каснік залаты,
Кожную ноч, калі нельга, не сніся,
Дай жа пазнаць, хоць на міг запыніся:
Оля — не Оля?
Ты і не ты...



Самуіл Якаўлевіч Маршак.

# МОЛАДЗЬ ВІТАЕ

Слаўная сям'я лаўрэатаў Ленінскіх прэмій папоўнілася новымі імёнамі — прадстаўнікамі самых розных галін навукі, тэхнікі, літаратуры і мастацтва. У нашай савецкай краіне дасягненні навукі і тэхнікі набываюць з кожным годам усё большае значэнне для хутчэйшай пабудовы камуністычнага грамадства. Працы нашых вучоных, інжынераў, тэхнікаў — гэта новы ўклад у сусветную навуку, новы крок у заваяванні таямніц прыроды. Кожная з іх мае надзённае значэнне для вырашэння самых актуальных практычных задач.

Вось агульная тэорыя знешняга гравітацыйнага поля і абрысаў зямлі. Яна мае не толькі найвялікшае тэарэтычнае, але і не меншае практычнае значэнне для дакладных разлікаў руху штучных спадарожнікаў Зямлі. З яе дапамогай можна прадказаць рухі зямной кары, яна дазволіла зазірнуць у глыбіні зямных пластоў.

Нам даводзілася для тэхнічных патрэб прывозіць з-за мяжы сажу. Калектывам аўтараў В. Зуевым, В. Саулінай, П. Цеснерам і інш. распрацавана прамысловая тэхналогія атрымання актыўнай высокадысперснай сажы з вадкіх вуглевадародаў. А што гэта значыць? Гэта азначае, што наша шынная прамысловасць вызвалілася ад залежнасці са зне, што тэрмін службы шын намнога павялічыўся.

Група вучоных селекцыянераў П. Гаркавы, В. Мамантава, В. Рамесло вывелі каштоўныя гатункі збожжавых культур.

Буйным укладам у марксісцка-ленінскую эканамічную навуку з'яўляюцца працы акадэміка Е. Варга. Даследаванні Е. Варга ўзбагацілі нашу палітычную эканомію глыбокім аналізам новых з'яў, якія ўзніклі ў перыяд агульнага крызісу капіталізму.





Гедымінас Іакубоніс ля мадэлі помніка, за які яму прысуджана Ленінская прэмія.



Чынгіз Айтматаў са сваім сынам Аскарам.

Выдатнымі дасягненнямі ў галіне літаратуры і мастацтва з'яўляюцца творы тых пісьменнікаў і мастакоў, якія атрымалі сёлета Ленінскія прэміі. Сярод іх малады кіргізскі пісьменнік Чынгіз Айтматаў, дагестанскі паэт Расул Гамзатаў, выдатны дзіцячы пісьменнік, перакладчык, крытык, тэарэтык мастацтва С. Я. Маршак, народны мастак СССР П. Д. Корын, малады літоўскі скульптар Гедымінас Іакубоніс.

Савецкаму чытачу спадабаліся цудоўныя аповесці Чынгіза Айтматава «Джаміля», «Тапалёк мой у чырвонай касынцы», «Верблюдова вока», «Першы настаўнік». Малады пісьменнік стварыў яркую галерэю вобразаў нашых сучаснікаў. Чынгіз Айтматаў паказвае тую сапраўдную праўду жыцця, якой жывуць савецкія простыя, працавітыя людзі. Джаміля, Алтынай, Кардзічы, Кемеля Дзюйшэн і другія героі аповесцей — гэта людзі, якія робяць подзвігі кожны дзень, кожную гадзіну, працуючы на карысць сваёй радзімы.

Героі Айтматава, шчодрыя сэрцам, багатыя на чалавечую любоў да такіх жа, як і яны самі, простых людзей, але яны непахісныя, цвёрдыя, калі трэба сказаць сваё рашучае слова, калі трэба выбраць жыццёвую сцежку. Гэта не тыя хлюпікі і ныцікі, што ў апошні час вандруюць па творах некаторых маладых пісьменнікаў. З героямі Айтматава можна смела ісці ў бой, можна цудоўна правесці адпачынак, у ахвоту папрацаваць. Яны не здрадзяць табе. Яны памогуць у бядзе, калі яна часам напаткае.

У паэзіі Расула Гамзатава жыве дух высокага гуманізму. Яго кніга вершаў «Высокія зоры» — вялікі ўклад у нашу савецкую многанацыянальную літаратуру.

А хто не ведае выдатнага дзіцячага пісьменніка Самуіла Маршака. На яго творах выхоўвалася не адно пакаленне савецкіх людзей. Вершы С. Маршака дасканалыя па форме і глыбокія па зместу. Гэта не тыя вершыаднадзёнкі, што захапляюць на кароткі час, а потым гінуць назаўсёды. Паэзія С. Маршака ніколі не страціць сваёй актуальнасці. Наступныя пакаленні будуць захапляцца ёю, таксама як і цяперашняе.

Ленінскую прэмію атрымаў літоўскі скульптар Гедымінас Іакубоніс. Ён стварыў помнік ахвярам фашызму ў вёсцы Пірчупіс у Літве. Помнік гэты завершаны статуяй маці-Радзімы. У простай сялянскай вопратцы, з хусткай на галаве стаіць у жалобе старая жанчына. Гора, гнеў і непераможнасць відаць у паставе гэтай суровай і мужнай жанчыны. Іакубоніс — малады скульптар. Яго поспех, гэта поспех тых маладых творцаў, якія ў сваіх пошуках ідуць ад народных традыцый.

І яшчэ адзін прадстаўнік выяўленчага мастацтва заслужыў права насіць ганаровае званне лаўрэата Ленінскай прэміі — Павел Корын. На ўкладцы надрукаваны



Павел Дзмітравіч Корын.



Расул Гамзатавіч Гамзатаў.

два партрэты П. Корына: Р. М. Сіманава, і Кукрыніксаў (М. В. Купрыянава, П. М. Крылова і М. А. Сакалова). У гэтых партрэтах, як і ў іншых, што заслужылі быць адзначанымі прэміяй, шмат выразнасці і псіхалагічнай напружанасці. Вырашаныя ў рэалістычнай манеры, партрэты з'яўляюцца важным укладам у савецкі класічны жывапіс. Людзі, якіх піша П. Корын, — гэта нашы сучаснікі з уласцівымі ім глыбінёй думак, пачуццём свайго абавязку перад народам.

Наша савецкая моладзь, самая перадавая моладзь у свеце, добра разумее, што вось такое мастацтва мае права на будучыню. Моладзь не хоча ўспрымаць фармалістычныя крыўлянні мастакоў і скульптараў, безыдэйныя, пошлыя творы тых пісьменнікаў, для якіх важней сенсацыя, а не чалавечая імклівая думка. Мода — мяняецца, чалавечная літаратура, мастацтва застаецца на вякі.

Моладзь за такую літаратуру і мастацтва, што будзе жыць у вяках. Ад усёй душы яна вітае новы атрад лаўрэатаў Ленінскіх прэмій.

## На арбіту камунізма



Міхаіл ЧЫРЫК

# НА ТРАСЕ «ДРУЖБА»

**Нататкі ўдзельніка будоўлі**

Цёплым ліпеньскім вечарам прыгарадным поездам я з жонкай накіраваўся ў Мазыр, каб атрымаць накіраванне на новы ўчастак нафтаправода «Дружба». Пра гэты ўчастак я амаль нічога не ведаў. Ведаў толькі, што людзі, якія там знаходзяцца — спрактыкаваныя спецыялісты, яны робяць аўтаматычную зварку труб і развозяць іх па трасе ў міжрэччы Дняпра і Прыпяці. Нам спадабалася, што трубаўкладчыкі пераязджаюць з месца на месца, працуюць на ўлонні прыроды, жывуць у перасоўных вагончыках...

З такой думкай мы і дабіраліся да ўпраўлення нафтаправода «Дружба».

Удваіх і зайшлі да начальніка.

— Прысаджвайцеся, — ветліва запрасіў нас плячысты мужчына. — Што вы нам скажаце?

— Ці нельга было б уладкавацца на будоўлю?

— Якая ў вас спецыяльнасць?

— Механік, — адказаў я.

— Гэта цяжэй... А ў вас?

— Таваравед шырокага профілю, — адказала Аня.

— Для вас месца знойдзецца. Зайдзіце ў кантору. Пралетарская,

65. Потым няхай пазвоняць мне, я падшукаю месца і для вас, таварыш Чырык...

Мы, радасныя, выйшлі з кабінета.

Неўзабаве атрымаў накіраванне і я на ўчастак № 4. Мы паспяшаліся на наша новае месца работы. Спыніліся ля Прыпяці. Машыны імчаліся адна за другой, але ніводная не спынялася на нашы сігналы-знакі.

Пякло ліпеньскае сонца. Мучыла смага. На шчасце, нас хутка дагнала фурманка, і жанчына, што сядзела поруч з бідонамі, падвезла нас трохі: ёй трэба было збочыць у вёску, якая віднелася пры ляску.

Зноў мы сігналілі і разам і па чарзе. Нарэшце адзін ЗІЛ-150 збавіў хуткасць, чыхнуў пнеўматармазамі і спыніўся.

— Вам куды?

— На Рэчыцу.

— Сядайце.

Мы селі ў кабіну. Нам абоім весела: мы імчымся да мэты. Шафёр доўга маўчаў, потым і яго разабрала, напэўна, цікаўнасць, і ён спытаў: — Куды ж вы едзеце?

— На будоўлю. Калі будзеце блізка, то не мінайце!..

— Абавязкова заеду, — памякчэў маўклівы шафёр, — я важу з Мінска трубы. Заеду, пагляджу, як вы там уладкуецеся на новым месцы.

У жніўні, між іншым, мы сустрэліся з гэтым шафёрам у вагоне-магазіне нашага ўчастка. Закончыўшы работу, я заглянуў у магазін. Тут ужо было многа рабочых. Хто размаўляў, хто проста стаяў ля прылаўка. Я падышоў да знаёмага, і мы заказалі сабе піва. Раптам нашу размову перапыніў мужчына, які ўвайшоў у магазін.

— Здарова, механік! — гукнуў ён. — Што, не пазнаеш? Забыў, як я вас падвёз тады з Мазыра?..

— Не, не забыў. Добры дзень!..

— Ну, як жыццё?

Мне стала неяк няёмка ад нечаканага пытання. І я адгаварыўся, прыкладна, такімі словамі: «Як бачыце, жывём. Працуем. Адпачываем...»

— А вы з машынай тут?

— Так. Еду зноў у Мінск і вось заскочыў у магазін.

Мы развіталіся, і ён паехаў. Так я яму нічога і не расказаў пра сябе. А расказаць было пра што. Хоць мяне і залічылі рамонтнікам, а не механікам, усё ж я быў вельмі задаволены. Задаволена сваёй працай была і Аня.

Я быў побач з той складанай тэхнікай, пра якую ўвесь час марыў, якую бачыў толькі на малюнках у кнігах і падручніках. (Я скончыў механічнае аддзяленне Гомельскага лесатэхнікума.)

Вось, скажам, магутны чалябінскі трубаўкладчык. Ім кіруе адзін чалавек. Вялізным кранам трубаўкладчык падымае доўгія, звараныя між сабой дванаццаціметравыя трубы-плеці і нясе да магутнай машыны-плецявоза. Плецявозы выцягваюць трубы на трасу. Бывае, што МАЗ садзіцца на дзіфер, тады яго падчэплівае трактар-цягач, і трубы падвозяцца да месца ўкладкі. Ні адзін сямітонны плецявоз, вядома, не можа доўга вытрымліваць такой нагрузкі. Яны адзін за другім становяцца на рамонт.

Мы, трое слесараў, не паспявалі здымаць і ставіць новыя маторы, мяняць гільзы, паршнявыя сістэмы, масты... А тут яшчэ трубавозы, што заняты на падвозцы труб з вакзала: у іх то кампрэсар сапсуецца, то радыятар пацячэ, то матор выйдзе са строю — і ўсё трэба рабіць тэрмінова. Нават пад'есці няма часу.

Неяк прыехаў механік участка і загадаў: «З Кіева прыбыў апрасовачны агрэгат. Заўтра возьмемся за яго». Пра гэты агрэгат я нічога не ведаў. Раніцаю, яшчэ да пачатку работы, механік зняў з матора праводку і завязаў канцы вузельчыкамі, каб не пераблытаць. Мне аднаму не лёгка было ўстанавіць запальванне, але механік загадаў зрабіць гэта неадкладна.

Мне здалося, што ён хоча праверыць мяне. Тут патрэбна была не толькі тэорыя, але і практыка. Аднак я не разгубіўся і даволі хутка ўстанавіў запальванне. Механік аж падскочыў ад нечаканасці, нават памякчэў.

— А цяпер трэба спусціць з помпы ваду, — зноў загадаў ён.

Я завёў рухавік, уключыў помпу, і вада пабегла.

— Што яшчэ трэба?

— У помпе ціск вады на шэсцьдзесят атмасфер, — тлумачыць далей механік, — пры нізкай тэмпературы вада замерзне і разарве помпу...

— Вы ж механік, — сказаў я яму. — Адкруціце спускавы кран, і ціску не будзе.

Гэта яму не спадабалася. Ён пабег на склад, узяў метравую трубу і вярнуўся назад, каб растлумачыць мне, як вада па трубе будзе пастулаць у сістэму. Пакуль ён хадзіў, я адкруціў кран, дастаў адтуль заглушку і зноў закруціў.

Механік чытаў мне натацыю:

— Вось бачыш, калі гэтую трубу надзець на выхадны патрубак, то вада пад ціскам будзе паступаць у сістэму, а нам патрэбна зімою спускаць ваду з помпы. Ясна?

— Вы ж механік!..

— Вядома. Але ж не выходзіць. Мы ўчора цэлы дзень пракорпаліся і нічога не атрымалася...

— Але я ж толькі слесар...

— Тады нам няма чаго і размаўляць, — ён павярнуўся і пайшоў. Наўздагон я сказаў:

— Глядзіце, я спушчу ваду!

Завёў матор. Уключыў помпу. З абодвух кранікаў пабегла вада. Я заглушыў рухавік.

Механік вярнуўся, здзіўлена запытаў:

— А што ты зрабіў?

— Выняў вось гэтую заглушку, — і паказаў яму невялічкую ўшчыльняльную шайбачку, якая звычайна ставіцца на летні час, каб не падаў ціск пры выпрабаванні труб.

— А-а-а, — працягнуў механік. — Гэта ж я гэтую заглушку ставіў яшчэ ў Кіеве, восем год таму назад...

Тут я і падумаў пра яго: «Вось глядзі ты, які чалавек, гэты Гадзецкі, у вочы хлусіць і многія яму вераць». Колькі ўжо ад яго нацярпеліся людзі! Перад гэтым ён, падпіўшы, хваліўся хлопцам, што прагоніць мяне, а сёння раптам апёкся.

* * *

Я яшчэ бліжэй пазнаёміўся з людзьмі, з якімі давялося працаваць. Аднойчы пасля работы да мяне зайшоў малады бульдазерыст Генка. Мы разгаварыліся. Потым я ўзяў гармонік. Генку растрывожыла музыка, і ён пачаў расказваць мне пра сваё жыццё.

— Некалі ў мяне былі бацька і маці, — з тугою пачаў ён.

— А дзе ж яны цяпер?

— Незайздроснае маё было жыццё, — як бы не пачуўшы майго пытання, гаварыў Генка. — Мне было сем год, калі на вакзале ў Брэсце кінула мяне маці. Бацька загінуў на фронце. Так я трапіў у дзіцячы дом. Вучыўся. Даведаўся, што ў мяне ў вёсцы ёсць бабуля, і збег да яе. Пасля бабуля прачула пра маці, якая жыла недзе ў Ташкенце. І вось я паехаў да яе. Ехаў і без білета, і без харчоў — толькі хутчэй бы да маці. І вось прыехаў. Заходжу ў дом, а яна мяне не пазнае. Потым пазнала і кінулася. Я кажу: «мама!», а яна глядзіць на мяне неяк дзіўна. А потым і гаворыць: «Ты пры людзях не называй мяне мамай». Мне стала крыўдна, і я паехаў ад яе, але спыніўся недалёка. Днём працаваў, а вечарам вучыўся на шафёра. Потым паехаў на будаўніцтва канала. Аднойчы зімой вёз касіра і перакуліўся з машынай. Мяне асудзілі. Калі адбыў пакаранне, наведаўся да маці. Яна з мужам збіралася пераязджаць у Маскву. Воўка — мой новы брацік — падрос і хацеў ехаць са мною. Я ўзяў яго і прыстроіў вучыцца на шафёра. Была зіма. Цяжка стала, і я вымушаны быў выправіць яго дадому, а сам за-



**Трубаўкладчык і трубавоз сустрэнеш на кожным участку трасы.**
Фота аўтара.

стаўся ў горадзе. Жыў на прыватнай кватэры. Гаспадары адносіліся да мяне, як да сына. У іх была дачка, і яны хацелі, каб мы пажаніліся. Але гэта ўсё мне надакучыла, і я збег. Вось ужо два гады, як працую на нафтаправодзе. Спачатку на Палтаўскай трасе, а цяпер тут...

— А пасля таго да маці ездзіў? — спытаў я.

— Ездзіў. Яна цяпер жыве ў Маскве.

Чамусьці я спытаў у Генкі:

— А не хацелася б табе жыць у Маскве, з маці?

— Чаму не хацелася б...

— А як ты лічыш Воўку?

— Гэта мой брат, толькі па бацьку няродны.

— Дзе ён цяпер?

— Служыць у арміі...

...Яшчэ раз мы сустрэліся з Генкам у верасні. Дзьмуў пранізлівы вецер. Такі моцны, што шапку зрываў з галавы. Я ішоў на стан, дзе збіраліся трактары. Гляджу, стаіць нейчы трактар. Напэўна, зламаўся, і яго прыцягнулі на рамонт. Падыходжу і бачу, што гэта Генка са сваёй машынай. Вакол ляжаць знятыя гусеніцы, апорныя каткі і ля іх новыя буксы...

— Здароў, дружбак! Як гэта ты адзін усё гэта зрабіў?

Генка падае мне запэцканую руку і ўсміхаецца:

— Бачыш, скора халады, а ў мяне ні аднаго спраўнага катка, націжныя вінты таксама непрыгодныя. Вось я і рашыў адрамантавацца, пакуль цёпла...

* * *

Часта пасля работы мы заходзілі ў кантору. Там то нарада якая ідзе, то навіну з Кіева пачуеш.

У канторы ўжо ішла ажыўленая гаворка. Трактарыст Кузняцоў гаварыў начальніку ўчастка Жыляеву:

— Я ж казаў, каб Буланага не пасылалі. Ён едзе і галавой матляе, а тым часам трактар споўз з дарогі ў балота...

— Што здарылася, Гадзецкі, ты ж там быў? — пытаецца начальнік участка.

— Нічога такога, — пачырванеў механік. — Адправілі Аляхно на МАЗе з плецямі, ён і засеў. Паслалі цягача — і цягач там. Адправілі яшчэ адзін, і той засеў. Потым вы паслалі Буланага. Яго трактар адышоў кіламетр ад Зашчоб'я і з'ехаў з дарогі. А каб трубаўкладчык не засмактала балота, ён падняў стралу, падчапіўся за дрэва крукам і вісіць...

Нервова барабанячы пальцамі па стале, начальнік памаўчаў, а потым рашуча сказаў:

— Вось што, Кузняцоў, у нас застаўся апошні трубаўкладчык. Ты паедзеш разам з усімі. Вазьміце ГАЗ-51 — лятучку. Гадзецкі, ты будзеш кіраваць выратаваннем трактараў. Ясна?

— Ясна.

— З дарогі не з'язджайце. Выцягніце трактар, які бліжэй да дарогі. Няхай і ён завядзецца і памагае табе. Потым двума трактарамі выцягніце наступны. МАЗ выцягніце на дарогу і разгрузіце. А цяпер едзьце. Ды глядзіце, калі вы і гэты трактар пасадзіце — тады нам тут нечага больш рабіць.

Застагналі трубаўкладчыкі. І бясконцым, нарастаючым гулам напоўнілася балота. За лятучкай марудна пасунуўся чалябінец. Ужо звечарэла, а тут кіламетраў за шэсць ад канторы, не змаўкаючы, гудуць трактары.

«Вось яно, жыццё на трасе!» — падумаў я.

* * *

Раніцай мы зноў ўзяліся за рамонт тэхнікі. Прыкладна а другой гадзіне з Кіева прыехаў галоўны інжынер упраўлення Іван Пятровіч Мансураў, рухавы сівы чалавек. Не заходзячы ў кантору, ён адразу падаўся на стэн.

— Здраствуйце, таварышы, — звярнуўся ён да нас, жмурачы свае хітрыя, калючыя вочы з-пад зашмальцаванага казырка скуранай кепкі. — Даўно я вас не бачыў!..

— Добры дзень, добры дзень, Іван Пятровіч... — лісліва прагаварыў зваршчык Гудзілаў, адзін са старых мантажнікаў.

— Як бачу, вы пад хмяльком, — адразу ж строга кінуў Мансураў.



**Хлопцы, што абслугоўваюць дызельную электрастанцыю і газазварачны агрэгат, на перакуры.**

— Так, крышачку, — згадзіўся той.

— Я вас адхіляю ад работы і пераводжу ў памочнікі зваршчыка. Ясна?

— Ды я ж ні радзімца не выпіў, — залемантаваў Гудзілаў. — Ні кропелькі!..

— Нічога не ведаю. Заўтра перадасце ўсё таварышу з шостага ўчастка. Я яго прышлю, — і Мансураў ужо гаварыў да электразваршчыка, што завіхаўся побач: — Смальчанка, а як у вас справы?

— Працуем паціхеньку.

— Вам прысвоен пяты разрад.

— Дзякую, — адказаў чарнавокі Смальчанка.

Развітваючыся, галоўны інжынер сказаў:

— Пасля работы зайдзіце ў кантору і азнаёмцеся з загадам.

Загад к вечару быў гатовы. Адбылася кароткая нарада. Яе вёў галоўны інжынер. Гаварыў ён коратка:

— Зварвайце гэтыя трубы і перабазіруйцеся на новае месца. У Рэчыцу на вакзал накіруйце кранаўшчыка Вышынскага. Як толькі трубы прыбудуць, няхай выгружае. Гэтае месца зручнае. Я ўжо агледзеў яго. Шасэ ідзе ад вакзала да рэчыцкага перакрыжавання, а там дарога грунтавая. Ясна?

— Ясна, — адказалі ўсе разам.

Назаўтра галоўны інжынер на «газіку» аб'ехаў усю трасу і адправіўся на другі ўчастак. Пабыў ён у нас некалькі гадзін, а гаворкі пра яго хапіла на цэлы дзень. Усе гаварылі пра тое, як гэта ён адразу перавёў «аса» электразваршчыка ў памочнікі, пра распарадлівасць галоўнага інжынера.

— Адкуль гэта ён пра ўсё ведае? — здзіўляліся рабочыя. — Нават пра тое, што недзе няшчыльна зварылі заглушкі... Галава!

* * *

Трубы канчаліся. Усе ЗІЛы-трубавозы пайшлі на другія ўчасткі, засталіся толькі плецявозы. А калі закончылі зварку апошніх труб, пачалася перабазіроўка. Са склада перагрузілі ўсё на бартавыя машыны. МАЗы падчапілі нашы вагончыкі і пацягнулі на новае месца. Толькі адзін вагон-магазін застаўся ў полі, увесь зацярушаны інеем. Тут яшчэ засталося чалавек пяць-

шэсць. Яны зварвалі трубы ў полі — падчышчалі недаробкі.

Як пад'ехалі да рэчыцкага перакрыжавання, пачаўся вецер, папаўзлі цёмныя хмары, пасыпаў дождж-абліваха. Увечары на новым месцы ўсе зноў сабраліся каля магазіна, каб набраць прадуктаў, што падаспелі з Мазыра, і разам пагутарыць.

На начлег мы размясціліся ў адной з вясковых хат, якая была бліжэй да новага стана. Гаспадыня згатавала нам вячэру, паслала пасцелі. Пасля вячэры пачаліся размовы пра нафтаправод, пра жыццё ў вёсцы. Засядзеліся мы позна. І гэта зразумела. Наш прыезд на новы ўчастак быў нечаканы. І гаспадыня з цікавасцю пытае:

— Навошта столькі труб навезлі? Цэлыя горы.

— Стыкаваць іх будзем, а потым развозіць на трасу.

— А для чаго?

— Нафта па іх пойдзе.

— Куды?

— У Польшчу, у Германію.

— А скора гэта будзе?

— У 1963 годзе нафтаправод «Дружба» будзе пушчаны. Нафта пойдзе з поўдня на захад па трубах, каб не вазіць вагонамі. Тады ўсе гэтыя вагоны, што займалі нафтай, будуць выкарыстаны для перавозкі іншых грузаў...

— А як вы жывяце? — запыталіся мы ў гаспадыні.

— Як жывём? — перапытала яна. — Жывём. Бульба ёсць, хлеб ёсць і да хлеба, вось і жывём...

— А дзеці ў вас ёсць?

— Дзеці былі, а цяпер ужо няма, — і гаспадыня расказала нам пра лёс сваёй сям'і.

— Па мінулай вайне, у 1942 годзе, у навакольных вёсках фашысты раскрылі групу падпольшчыкаў. І мяне схапілі з дачкою, кінулі ў машыну, а там ужо ляжаў мой сын. Увесь пабіты, у крыві... вушы абарваныя... Я разгубілася, кінулася да яго ды нічым не магла памагчы. Нас прывезлі ў камендатуру. Дапытвалі, білі. Вось з таго часу мая дачка ўсё чахла, пакуль не памёрла. Ужо вось пятнаццаць год, як я яе пахавала...

— А хто ж былі тыя падпольшчыкі?

— Я тады нічога не ведала. Пасля чула, што немцы аб'явілі: хто выдасць Юліка-партызана (а ён з маім сынам сябраваў), той атрымае трыццаць тысяч марак. А што зрабіў гэты Юлік? Знайшоў недзе на нямецкім складзе зброю і задумаў пераправіць да партызан. Перадаў запіску аднаму нашаму суседу, каб на дапамогу яму прыйшлі трое сувязных. Але паліцаі іх злавілі і арыштавалі. Бацькі павезлі ім перадачу, але хлопцы адмовіліся, сказалі, што раніцай будуць дома. Праз дзень мы зноў пайшлі да іх, а іх ужо ніводнага не было жывога. Расказвалі, што сярод іх быў і камуніст, былы сакратар Рэчыцкага падпольнага райкома. Калі яго вялі на расстрэл, ён крыкнуў: «Нашы прыйдуць і адпомсцяць за нас!» Але паліцай тут жа яму стрэліў у жывот, а потым дабіў прыкладам... Ну, прыйшлі нашы, і гэтых паліцаяў хутка судзілі. Адзін ужо вярнуўся і жыве ў вёсцы, недалёка, а майго сына няма...

— А што ж з Юлікам, дзе ён?

— Ён выжыў, але не жыве тут. У вёсцы засталася толькі яго маці. Юлік паехаў на Камчатку. Закончыў інстытут і там працуе інжынерам.

* * *

Зноў застукалі кувалды, загулі трактары, застракаталі, нібы кулямёты, пнеўмамалаткі па трубах, зафыркалі зварачныя агрэгаты... Магутным гулам МАЗаў і чалябінцаў напоўнілася наваколле.

Шумлівай грамадой выбеглі вучні са школы, абляпілі машыны; спыняліся вясковыя людзі і глядзелі, як кіпела работа. Увечары пайшоў снег. І хутка ўсе трубы, трактары, МАЗы, электрастанцыі пакрыліся пушыстаю коўдрай. У той жа дзень я адпрасіўся да цёшчы, каб праведаць дачку, якую даўно не бачыў. Вечарам я ўжо быў дома.

Убачыўшы мяне, Валя забегала, засмяялася і радасна закрычала:

— Татка! Татка...

Я ўзяў яе на рукі. Ёй ужо трэці год. І яна ўсё разумее. Я даў ёй гасцінец. Яна, смеючыся, вырвалася з рук і кінулася ў куток, каб разгледзець, што я ёй прынёс. І тут жа закрычала:

— Бабуля, я паеду да таты і мамы...

— А мяне адну пакінеш? — гаварыла бабуля. — Я плакаць буду...

— Не плач, бабуля, мы і цябе забяром, — суцяшае Валя, і зноў да мяне. — Тата, ведаеш, а дзед Цімох памёр і ляжыць у яме, у сасонніку.

Мне стала горка. Такая маленькая, а ведае, што няшчасце напаткала бабулю — зусім нядаўна ў бальніцы памёр гаспадар дома.

Валя зноў пусцілася ў скокі па хаце, смяялася, рассыпаючы цукеркі па падлозе, радуючыся прыезду бацькі. Бабуля ўзяла яе на рукі, спытала:

— Кім жа ты будзеш, Валя, як вырасцеш?

— Настаўніцай, — адказала ўнучка, амаль не задумваючыся.

— А як жа ты будзеш шкадаваць мяне?

— Вось так, — і яна абхапіла сваімі маленькімі ручкамі бабулю за шыю.

— От, разумніца мая, — пахваліла Валю бабуля.

Калі настаў час ад'езду, Валя сказала:

— Тата, перадай маме ад мяне паклон і купіце мне гадзіннік, чырвоную майку, цукерак ды прывязіце ёлачку. Добра, тата?

— Добра, дачушка. Добра!..

* * *

Апошнія дні перад новым, 1963 годам, усе працавалі з асаблівым энтузіязмам. Плецявозы з раніцы да вечара вазілі трубы на трасу. Ужо 25 снежня засталося на стане толькі дзевяць плецяў-звязак. Яшчэ днём з упраўлення прыехаў інжынер-механік Школьнік, мужчына гадоў пад трыццаць, у чорным паліто, галіфэ і ялавых ботах. Увечары правёў сход з рабочымі. Усіх уважліва выслухаў, а потым і сам выступіў. Слухалі яго ўважліва.

— Я мімаходзь паглядзеў, як захоўваецца ў вас тэхніка, — ска-



**Трубаўкладчык Віктар Халіман цэнтруе плеці на трасе.**

**Скончан рабочы дзень. Будаўнікі збіраюцца ля прыпынку, каб ехаць дамоў.**



заў Школьнік, — і вымушаны буду паведаміць начальніку трэста, што вы не па-гаспадарску абыходзіцеся з ёю. Я гэта бачыў сам. З вамі, таварыш механік (гэта пра Гадзецкага), нам, відаць, прыйдзецца развітацца. Колькі разоў вас папярэджвалі, прасілі, каб не раскамплянктоўвалі плецявоза, станцыі.

Гадзецкі, адчуваючы сваю віну, маўчаў. Яму не было чаго сказаць у сваё апраўданне.

На другі дзень над перасоўнымі вагончыкамі трапятала чырвонае палотнішча сцяга. У ленінскім пакоі гучала музыка. Выйшаў першы нумар насценнай газеты «Дружба». Рабочыя чыталі навагоднія пажаданні. У асобнай калонцы — навагоднія сны начальніка, прараба, майстра і механіка.

Пад вечар уся тэхніка была сабрана. Многія рабочыя ўзялі сабе навагодні адпачынак.

У навакольных вёсках пачалі рыхтавацца да вясельных гулянак.

Вясковыя жанчыны здзіўляліся:

— Ніколі ў нас адразу не было гэтулькі вяселляў. Гэта ўсё ваша «Дружба» нарабіла...

Некалькі дзён запар у вёсцы не сціхалі песні, танцы, гулянне. Да позняй ночы ў дамах звінелі чаркі, разносіліся крыкі: «Горка! Горка! Горка!»

Вось адно вяселле ў доме, дзе нагледзеў сабе дзяўчыну наш хлопец, якога ўсе называлі проста — Сашка. Ён працаваў у лабараторыі па выпрабаванню труб. На гэтым вяселлі быў і начальнік участка, і прараб, і майстры. Наш начальнік Іван Трыфанавіч Жыляеў выйшаў на сярэдзіну хаты і пачаў чытаць верш:

«Стоят столы кленовые...»

Потым дастаў з кішэні шаўковую хусцінку двума пальчыкамі, завязаў яе на галаву вузельчыкам пад бараду і заспяваў, закінуўшы галаву да столі, і як бы каго абдымаў, падрабляючыся пад дзяўчыну.

Усім гэта спадабалася, і ўсе смяяліся, пляскалі ў далоні.

Крыху пастаяў, шырока расставіўшы ногі, зняў хусцінку і пачаў расказваць другі верш, але ўжо на ўкраінскай мове.

Пасля ён узяў са сцяны гітару, правёў па струнах сваімі тоўстымі пальцамі, і гітара зазвінела на тысячу ладоў.

Вяселле прайшло, як трэба. Маладым давалі падарункі і жадалі не сварыцца, любіць адно аднаго.

Трэцяга студзеня ўсе зноў сабраліся на ўчастак. Працавалі ўсе з добрым настроем. Праўда, тыя трактарысты, у якіх дрэнна заводзіліся маторы, злосна лаялі канструктараў за тое, што яны не даўмеліся зрабіць фарсунку, каб аблегчыць заводку. То там, то тут чулася:

— Няхай бы сам канструктар хоць адзін раз паспрабаваў завесці матор на трыццаціградусным марозе, тады б ён хутчэй што-небудзь прыдумаў!

...На гэтае месца ЗІЛамі пачалі падвозіць з рэчыцкага вакзала трубы. Тут іх будуць гнуць, а потым даставяць на Дняпро, і сталёвая нітка пойдзе далей па дне ракі.

Увечары, калі ўсе сабраліся, выступіў начальнік участка Іван Трыфанавіч Жыляеў.

— Мы завяршылі трасу ад Прыпяці да Дняпра, — сказаў ён. — Гэта адзін з самых цяжкіх участкаў. Амаль скрозь — балота. Але мы пераадолелі ўсе цяжкасці, якія стрэліся на шляху. Сёння я атрымаў распараджэнне — на новы ўчастак Палесся. Спадзяюся, што і там вы пакажаце сябе. А цяпер у дарогу, сябры!

Хлопцы нацягвалі на плечы злубянелыя ад снегу брызентавыя плашчы і моўчкі разыходзіліся.

Тры дні, як да бою, рыхтаваліся да пераезду на новае месца. Па трасе снавалі трактары, МАЗы, лятучкі... Калі ўсё было гатова, прыбылі платформы.

Усё вакол напоўнілася гулам машын.

Людзі развітальнымі позіркамі праводзілі наш магутны жалезны паток, які паспелі палюбіць за кароткі час знаёмства.



Алесь КУЗНЯЦОЎ

# ІРТЫШСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

Мал. У. Рамейкі.

## КАБ НЕ СПАЗНІЦЦА



Будоўля. На ўчастку быў звычайны працоўны дзень. Тарахцелі экскаватары. Муляры клалі цэглу ў падмуркі, тынкоўшчыкі шліфавалі столь, сцены... Цесляры таксама былі заняты сваімі будзённымі справамі. І раптам, як віхор, пракацілася вестка:

«На цаліну едзем!»

Тыя, хто цвёрда вырашыў трапіць у спіс удзельнікаў камсамольска-маладзёжнага будаўнічага поезда, што накіроўваўся ў Казахстан, часцей пазіралі на гадзіннік і думалі адно: «Каб не спазніцца падаць заяву...»

Каб не спазніцца!.. Вось ён пароль рамантыкі!

Рамантыка! Колькі разоў яна выстрайвала ў цесных пакойчыках камсамольскіх камітэтаў чаргу за чаргой, кагорту за кагортай адважных людзей з арлінымі сэрцамі! Іх клікалі да сябе ўдарныя фарпосты новабудоў-

ляў, цалінныя землі. Толькі за апошнія тры гады з Мінска ў Казахстан выязджала дзевяць будаўнічых камсамольска-маладзёжных паяздоў — гэта звыш дзвюх тысяч чалавек!

## МІНСК — МЫНКУЛЬ

Ліпеньскім ранкам, развітаўшыся з сябрамі Геронціем Вайцяховічам і Аляксандрам Шляхтуновым, я паехаў у трэст на Высокую. Ліў дождж. Каля трэстаўскага будынка стаяў новенькі аўтобус, з якога час ад часу выходзілі людзі.

— Адкуль вы? — пацікавіўся.

— З Віцебска, на цаліну едзем.

Потым прыбыло арматурнае і цяслярнае «апалчэнне» гамяльчан, пазней — будаўнікі Мінска.

Георгі Наскоў, начальнік аддзела кадраў трэста, яшчэ раз праверыў спісы, удакладніў адрасы, разрады, а потым даў каманду грузіцца.

На станцыі мы атрымалі матрацы, падушкі. Справіўшы ў вагонах наваселле, выбралі дзяжурных — адказных за чысціню і парадак.

Цягнік імчыць поўным ходам. У вагонах усё ідзе сваім ладам. Адны, прыхінуўшыся да акна, чытаюць газету, кнігу ці часопіс, другія — рэжуцца ў «казла», сям-там бушуюць шахматныя баталіі. На станцыях хлопцы і дзяўчаты выбягаюць з тамбураў, штурмуюць ларкі, імчацца да паштовых скрынак. Адны выходзяць, каб патрэнькаць на гітары, папілікаць на гармоніку, другія — паглядзець на горад.

Як толькі мінулі Урал, хлопцы пасур'ёзнелі. Загаварылі пра тое, што іх чакае на месцы. Абмяркоўвалі, каго прызначыць брыгадзірам, каго ўзяць у свой «калгас». Усё часцей падыходзілі да акенцаў, выходзілі ў тамбур, а пра даміно і шашкі зусім забылі.

За Курганам і Петрапаўлаўскам радзей траляліся паселішчы. Затое паблісквала шмат азёр, раскашаваліся архіпелагі бярозавых гаёў. Яны бясконца зелянелі аж да Мынкуля...

Звыш пяці тысяч вёрст адгрукацеў наш эшалон, пакуль мы прыехалі ў Мынкуль.

## НОВАЯ СТАНЦЫЯ

Поезд яшчэ не спыніўся, а ўжо грымнулі ў вагонах бадзёрыя галасы: «У Мынкуль прыехалі!»

Мынкуль — гэта значыць «Тысяча азёр». Гэтай станцыі не было яшчэ на геаграфічнай карце. Да нядаўняга часу сюды, у стэп, не даляталі паравозныя гудкі. А цяпер сталёвая магістраль звяжа Какчатаў з Барнаулам. На гэтай магістралі колы цягнікоў яшчэ не паспелі адшліфаваць да бляску рэйкі і не высахла на шпалах антысепцірная фарба.

А станцыя ўжо жыве. Штодзённа курсіруюць цягнікі на Карасук і Чарлак. Непадалёку раскінуліся астраўкамі новыя домікі, накрытыя шыферам, двор таварнай станцыі, элеватарбуд і слабодка з дзіўнай назвай — Нахабаўка.

І вось нашы беларускія пасланцы крочаць па Мынкулю з думкай — паскорыць рытм яго жыцця.



— А вы не спалохаецеся нашай спёкі, хлопчыкі? — жартам звяртаецца да нас майстар Жураўлёў, мынкульскі старажыл.

— Не спёкі — аваднёў баяцца трэба, — смяецца мінчанін Леанід Гамбалеўскі. — Балюча кусаюцца, гады, нават праз ватоўку, як шылам, дастаюць скуру...

## «ПАРТЫЗАНЫ»



— Партызанскі браняпоезд прыбыў, — радасна ўсміхаліся мынкульцы, сустракаючы нашых будаўнікоў.

З таго дня да нас нібы прыліпла гэтая жартаўлівая мянушка. Пакажамся ў кіно ці на танцах — «Партызанская дывізія адпачывае», прыйдзем у сталовую — зноў шэпты: «Партызанская гвардыя абедае».

Нам было прыемна, што ў гэтым слове не было пустой насмешкі. У ім адчувалася пашана да гераічных традыцый нашага народа. Дух патрыятычных традыцый жыве і тут, на цаліне, і будзе перадавацца з пакалення ў пакаленне.

Дарэчы, і навасёлы адзін другога не завуць ніколі «цалиннікамі», так як мы сябе не завем «партызанамі». А каб трапіў у Мінск, Гомель ці ў Маскву эшалон з людзьмі гэтага краю, то і пра іх абавязкова сказалі б: «Цалінная дывізія прыехала».

Яшчэ ў дарозе нашы хлопцы дамовіліся, хто з кім будзе працаваць на новым месцы, вызначылі брыгадзіраў. Таму прарабу Міхаілу Дабравольскаму не давялося шмат бегаць, каб укамплектаваць брыгады. Рабочыя самі згуртаваліся ў ватагі, выбраўшы сваіх «камандзіраў», выслухалі заданне і пачалі разыходзіцца ў катлаваны, на рыштаванні.

— Вы, — звярнуўся прараб да Івана Сімака, — пойдзеце манціраваць калоны пад новы свіран.

Нашу «дывізію» (у ёй сабраліся ўсе цесляры з Мінска) разбілі на некалькі звенняў.

Леанід Гамбалеўскі, старшы адной групы, з Мікалаем Гоманавым, Іванам Кахновічам, Мікалаем Пашко ўзяліся збіваць апалубку і закладваць падмуркі новага свірна на 5 600 тон збожжа. А наша звяно накіравалася на пракладку падземнага тунеля для транспарцёра.

Застукалі сякеры, малаткі, зашоргалі пілы. Хлопцы збівалі шчыты, ставілі апалубку, бетаніравалі сцены.

Калі гадоў які праз дзесяць у Мынкулі пацікавяцца: «Хто свірны пабудаваў?», у адказ пачуецца: «Партызаны, хлопцы, якія прыязджалі з Мінска».

## У ЖАЛЕЗІНЦЫ

Фёдар Шубнікаў, парторг мынкульскага будаўнічага ўчастка, сабраў камуністаў і сказаў: «Заўтра паедзем у Жалезінку станавіцца на партыйны ўлік».

На другі дзень, прачнуўшыся а пятай гадзіне, мы памыліся і пабеглі да канторы, дзе нас чакала трохтонка. У Мінску ў такі час закаханыя і студэнты, калі ў іх сесія, і не думаюць яшчэ пра сон. А мы тут і выспацца паспелі і як трэба дзень рабочы сустрэлі.

Тры гадзіны дарогі прайшлі хутка. Удалечыні заблішчаў Іртыш, які спіраллю віецца між лазнякоў, мые крыламі хваль высачэзныя кручы, падыходзячы да самай Жалезінкі — вёскі, дзе размясціўся раённы цэнтр.

Пабыўшы ў райкоме, мы рушылі да Іртыша. Калісь гэтай ракою прайшлі чаўны дружыны Ермака. А сёння на яго хвалях снуюць быстраходныя «ракеты» і маторкі. У кручы Іртыша б'юць тугія хвалі. Слухаеш іх, нібы песню, у якой расказваецца пра адважнага Ермака, які разбіў ушчэнт орды Кучума, і пра гераічную эпапею энтузіястаў 50-х гадоў, што дзікія стэпы ператварылі ў квітнеючыя нівы.

Кожная цалінная вёска мае свой выгляд, свой каларыт. На вуліцах не так мнагалюдна, як у нас. Затое шмат дзяцей. Каля хат красуюцца, шумяць маладыя бярозкі, вербы, яблынькі. Яны — равеснікі гэтых дзяцей.

Завітай у Жалезінцы ў краму, дзе прадаецца мэбля. Яна табе лепш, чым любая дамавая кніга ці анкета № 15 з пашпартнага аддзела міліцыі, раскажа аб тым, колькі прыехала перасяленцаў на сталае месца жыхарства. Каб гэтым магазінам далі права мець такі штамп: «Прапісан пастаянна», то ўсе пакупнікі мэблі адначасова маглі б і набыць рэчы і прапісацца.

Але нельга не заўважыць і другое. У Жалезінцы хоць рэдка, ды яшчэ сустрэнеш на тэлефонным слупе брудную паперку з каравым і крывым надпісам: «Прадаецца дом». Відаць, гэта пісала рука, якая не працу любіць, а доўгі рубель. Уладальнік гэтага надпісу і спяшаўся сюды дзеля таго, каб лёгка нажыць залатыя горы. Але не ўдалося. Таму і швэндаецца ён з канца ў канец краіны, таму і крэмсае на слупе: «Прадаецца дом».

У Майску давялося мне ўбачыць такіх «пералётных птушак» — маладажонаў Івана і Марыю Баранцэвічаў. Прыехалі яны са Стоўбцаў, жылі прыпяваючы. Марыя працавала на таку, а Іван укладчыкам асфальту. Зараблялі разам каля 500 рублёў у месяц. У тое лета ў іх зменшыліся заработкі. Вось тады яны і павесілі на слупе такую пісульку, прадалі хату і ўцяклі дамоў.

Але прыйдзе час, і назаўсёды знікнуць гэтыя шматкі-аб'явы. З'явяцца другія — «Куплю хату».

У Майску, Міхайлаўцы, Жалезінцы і іншых цалінных сёлах ужо і сёння ёсць такія аб'явы. Расце і дужэе працавітая сям'я цалiннікаў.

## АГНІ НАД ІРТЫШОМ

Неяк прыехаў да нас Дзмітры Тарасаў, энергетык з паўладарскага «Галоўцалінбуда».

— Выручайце, хлопцы, — сказаў ён. У Майску «замарожана» будаўніцтва зернесушылкі: мясцовыя шабашнікі разбягаюцца хто куды.

Мы падабралі добрых хлопцаў. Гэта будаўнікі з Мінска і Оршы — Васіль Дземеш, Яўген Борыс, Аркадзь Жаўрыд, Сымон Гурыновіч, Рыгор Раменчык, Аляксандр Лайша, Мікалай Парфёнаў, Анатоль Цвірка — брыгадзір, Мікалай Сіманаў, Яўген Лебедзеў і іншыя.

На другі дзень мы прыехалі ў Майск. На саракаметравай кручы легендарнага Іртыша разбілі палаткі. Пачаліся цяжкія працоўныя будні. Страшэнная спёка не давала як



мае быць разгарнуцца. Забетаніруем сцены, не паспеем аддыхацца, як апалубка прыстае да бетону. Каб работа не прапала марна, бярэш пудовы ключ і круціш дамкраты, каб узарваць і падняць металічныя шчыты...

Дзмітры Карпавіч Тарасаў станавіўся з намі побач і кідаў рыдлёўкай бетон, трамбаваў, падкручваў дамкраты, чысціў апалубку. Ён умеў клапаціцца пра людзей, разумна арганізаваць працу. Другі кіраўнік з такім службовым рангам капцеў бы ў кабінеце, а Тарасаў кінуў кватэру, паехаў за трыста кіламетраў на далёкі і запушчаны ўчастак, каб памагчы хлопцам, жыў з намі ў запыленай і халоднай брызентавай палатцы.

— А мне такая салдацкая рамантыка па душы, — кажа Дзмітры Карпавіч. — Нават і вяселле мне давялося згуляць далёка ад дому. Было гэта ў вайну, пад Кобрынам. Ваявала ў суседняй з намі дывізіі Наля, радыстка-сержант. Пазнаёміўся з ёю, прывёз яе ў браневіку ў свой салдацкі домакоп. Пад посвіст куль і бомбаў адгрымела наша вяселле!..

На вачах расла вежа-зернесушылка «на дзікім беразе Іртыша». Праз шчотку арматурных прутоў з пяціпавярховай махіны за трыццаць кіламетраў відаць сядзібы саўгасаў «Майскі», «Спадарожнік», імя Кірава. Тут калісьці хадзіла дружына Ермака. Тут недалёка бялее домік народнага акына Казахстана Нурлыбека Баймуратава.

Разам з Тарасавым нас было пятнаццаць чалавек. Трыццаць рук! О, як многа яны паспелі зрабіць! Па плану мы павінны былі здаць зернесушылку ёмкасцю 35 тон збожжа ў гадзіну за тры месяцы, а мы паставілі яе за сорак дзён.

— Малайцы, хлопцы! — пахваліў нас на развітанне Марозаў, начальнік Жалкудукскага элеватарбуда, і загадам аб'явіў кожнаму члену нашай брыгады падзяку.

І зноў мы ў дарозе. Гудзе, стогне пад коламі стэп. Ляцім уздоўж Іртыша па трасе ў Паўладар, а адтуль — у Мынкуль. Гэта — больш 500 вёрст...

## У АКЫНА БАЙМУРАТАВА



— Вунь там жыве народны акын Нурлыбек Баймуратаў, — паказаў Карым Кульсарынаў, начальнік збожжанарыхтоўчай канторы, калі мы ехалі ў Майск. — Дзіўны ён чалавек. Бацьку роднага ніхто з нас так не любіць, як Баймуратаў любіць стэп. Кватэру ў Алма-Аце давалі, не паехаў. Сядзе на каня і гайда на прастор шырокі — звіняць песні, музыка...

На Дзень будаўніка першы раз накіраваўся я да Баймуратава ў госці. Пайшоў пехатой. Удалечыні паказалася саманка, пабеленая вапнай. З двара выехаў дзядуля. На фурманцы. Я паглядзеў на старога і падумаў: «Вось жа, адважыўся на такой кабылцы выязджаць: можа спудзіцца».

Хата была на замку, і паблізу нікога не было. Пастаяўшы каля брамы, я накіраваўся ў даліну Іртыша, хацеў лугам ісці да сваёй палаткі. І тут натрапіў на старога, якога толькі што сустрэў на дарозе.

— Сядайце, калі ласка, унучак, — ласкава ўсміхнуўся ён і запрасіў мяне ў каламажку.

Пазнаёміліся.

— Баймуратаў, — дзядуля падаў мне сваю загарэлую, размаляваную лабірынтамі маршчын і густой сеткай жыл руку і, прытуліўшы да грудзей, пацалаваў мяне ў шчаку. Каб хто гэта бачыў, яму падумалася б, што гэта сустрэліся блізкія родзічы.

Пагутарыўшы, я ўзяў яго коску і прайшоў ладны пракос на іртышскім лузе.

— Дзе вы, жывучы ў горадзе, навучыліся так касіць? — здзівіўся стары.

— На берагах Сожа.

Потым ён пазнаёміў мяне са сваёй жонкай Балтыяй Баймуратавай, сямідзесяцігадовай бабуляй. Мы разам пачалі грэбсці і складаць у копы сена, а потым накіраваліся да сядзібы.

Ля варот, пачаставаўшы мяне кумысам, гаспадары запрасілі ў святліцу. Разаслалі кашму каля маленькага століка і селі піць чай і кумыс.

Дом акына заўсёды шчодра адкрыты для гасцей. Сюды прыйшоў дваццацічатырохгадовы Кабдыкарым («Мікалай») Букатаў, пазней настаўнік майскай школы Кауан Ідрысаў з трохгадовай дачушкай Алтын-шаш і васьмідзесяцідвухгадовым бацькам Ідрысам Бісейбаевым...

Пасля абеду мы доўга гутарылі, разглядалі граматы, кніжкі з аўтографамі, здымкі.

Акын жыва цікавіўся жыццём нашай рэспублікі.

— Прыязджайце, калі ласка, да нас на свята залатога вяселля, — запрашала на развітанне бабуля Баймуратава.

— Алёша, заставайся жыць у мяне, будзь маім сынам, — гаварыў акын, развітваючыся і абдымаючыся са мной.

(Працяг на стр. 98).

# РОЗДУМ І ПРАЦА

Вечная праблема мастацтва — навакольнае жыццё і яго мастацкае ўвасабленне, задума і яе вырашэнне — асабліва востра паўстае перад кожным мастаком зараз, калі партыя ўдзяляе вялікую ўвагу далейшаму росквіту рэалістычнага мастацтва. Барацьба за ідэйную накіраванасць творчасці, за рэалістычнае, высокамастацкае ўвасабленне нашага цудоўнага жыцця звязаны з барацьбой супраць фармалізму і абстракцыянізму, за чысціню нашай ідэалагічнай зброі. Буржуазнае мастацтва прывабіла некаторых маладых мастакоў і ў нашай краіне. Не навакольнае жыццё, а фармалістычныя шуканні сталі аб'ектам іх увагі. Замест авалодання цяжкім майстэрствам жывапісу, яны спакусіліся таннай славай. Такіх наваяўленых «геніяў» былі адзінкі. У большасці сваёй савецкія мастакі цвёрда стаяць на пазіцыях сацыялістычнага рэалізму, які стварае неабмежаваныя магчымасці тварыць для народа, у імя народа.

Сярод маладых беларускіх мастакоў, якія з першых крокаў у мастацтве ясна бачылі свой шлях, для якіх пошукі ў рэалістычным напрамку, напружаная праца сталі законам жыцця, заслужанае месца належыць Фёдару Бараноўскаму.

Нярэдка ў біяграфіі мастака можна прачытаць: «Яшчэ ў дзяцінстве ён забаўляўся з фарбамі, заўсёды маляваў дзе папала і чым папала...» Што ж, у гэтым няма нічога дзіўнага: мастацкія здольнасці праяўляюцца часам вельмі рана. І калі ёсць магчымасць развіваць іх пад наглядам прафесіянальнага мастака — гэта вялікае шчасце.

Федзя ў дзяцінстве не маляваў, хоць яго вабілі таямніцы жыцця, а навакольны свет быў радасным і цікавым. На вуліцах Мінска будаваліся прыгожыя дамы. Светлыя школы адкрывалі гасцінна дзверы. Хлопчыку хацелася хутчэй стаць дарослым, каб самому будаваць, самому кіраваць складанымі машынамі. Ён заканчвае рамеснае вучылішча і становіцца токарам.

Калі юнак толькі ўступаў у жыццё, над краінай навісла небяспека — пачалася Вялікая Айчынная вайна. Ад нямецкіх бомбаў гінулі блізкія і знаёмыя. Савецкія войскі адступалі на ўсход. Мінчане пакідалі свае родныя дамы. А тыя, хто не паспеў падацца на ўсход, засталіся ў горадзе, па спаленых вуліцах якога грукалі каваныя боты чужых салдат. Мары, для здзяйснення якіх раней не было перашкод, цяпер здаваліся далёкімі і недасягальнымі.

У 1944 годзе пакаціліся на Захад разбітыя гітлераўскія полчышчы. Разам з байцамі Савецкай Арміі пайшоў помсціць за сваю родную Беларусь, за няздзейсненыя мары Фёдар Бараноўскі. Пасля цяжкага ранення ў 1945 годзе ён вярнуўся ў свой родны горад. Ужо тады ён пачаў марыць пра тое, каб авалодаць мовай жывапісу і паказаць у сваіх творах усё, што давялося бачыць і перажыць.

Мастака-грамадзяніна ніколі не пакідае думка аб вырашэнні двух пытанняў: што адлюстраваць і як адлюстраваць? Як дабіцца таго, каб пры дапамозе фарбаў прымусіць жыццё заззяць ва ўсёй прыгажосці на палатне? Для гэтага ёсць толькі адзін сродак — пазнаць жыццё ва ўсёй яго веліччы і авалодаць мастацкай мовай. Жыццё Фёдар ведаў. Ён жыў жыццём народа, дзяліў яго радасці і гора. А мова мастацтва...

Па суседству з Бараноўскім жыў вядомы ўжо ў той час беларускі мастак К. В. Цвірка. Ён звярнуў увагу на юнака, які спрабаваў маляваць, і зацікавіўся ім. Фёдар ставіўся да сваіх здольнасцей вельмі самакрытычна, але працаваў, не ведаючы стомы. Пад кіраўніцтвам К. Цвіркі ён пяць год займаўся ў мастацкім вучылішчы і шэсць год — у мастацкім інстытуце.

Першая радасць прыйшла да маладога мастака, калі ён аддаў на суд грамадскасці сваю дыпломную працу «Выхад з блакады». Глыбокае веданне жыцця прынесла свае вынікі: дыпломная работа атрымала высокую ацэнку. Тое, што ўвасобіў мастак на палатне, было яму добра вядома. Ён сам удзельнічаў у вайне. Ён не толькі чытаў пра гераізм савецкіх людзей, а сам быў поплеч з тымі, хто аддаваў жыццё, каб на зямлі людзі радаваліся сонцу і мірнаму чыстаму небу.

...На пярэднім плане двое партызан, падтрымліваючы цяжка параненага, прабіраюцца па балоце. Ад іх стараецца не адстаць стары партызан. Дзяўчына разам з другімі партызанамі ратуе на лодцы зброю. Мастак не хавае цяжкага становішча атрада. Вобразам партызана ў цяльняшцы ён падкрэслівае нязломнасць духу народных мсціўцаў. Ва ўсім вобліку гэтага чалавека адчуваецца вера ў непераможнасць народа.

Ваенная тэма стала адной з галоўных у творчасці мастака. Ёй прысвечана карціна «Шляхі-дарогі». Гераізм савецкага народа ў часы Вялікай Айчыннай вайны быў працягам таго гераізму, які паказалі савецкія людзі ў часы грамадзянскай вайны, — так коратка можна было б сфармуляваць думку, якая лягла ў аснову гэтага твора.

...Цягнік імчыць па бязмежных прасторах Расіі, на палях якой палыхае вайна. На дахах вагонаў едуць на фронт байцы. У кожнага з іх — сваё мінулае. Глыбока задумаўся пажылы матрос у бесказырцы. Малады конармеец іграе на гармоніку. Насцярожана ўглядаецца ўдалячынь дзяўчына. Некалькі стомленых байцоў заснулі кароткім сном. Гэтых розных людзей з'яднала ў адзіным парыве нянавісць да старога свету і вера ў светлую будучыню.

Гераізм абаронцаў Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе натхніў мастака на стварэнне карціны «Цаною жыцця». Праклён вайне гучыць у гэтым творы.

Мірнаму жыццю, людзям, за шчасце якіх змагаліся ў часы вайны героі многіх яго карцін, прысвяціў мастак свой твор «Вясна».

...Адкрытае акно студэнцкага інтэрната. Дзяўчына сядзіць на падаконніку і чытае кнігу. Яе сяброўка, з кветкай бэзу ў руцэ, радасна і зацікаўлена назірае за жыццём гарадской вясновай вуліцы. Такая яна, студэнцкая вясна, вясна шчаслівай маладосці.

У творах Бараноўскага ёсць арганічная сувязь паміж адлюстраваннем драматычных падзей Вялікай Айчыннай вайны і жыцця савецкай моладзі. У нашай моладзі яскрава праяўляюцца лепшыя рысы бацькоў. Юнакі і дзяўчаты не толькі занава адкрываюць свет у інстытуцкіх аўдыторыях і лабараторыях, яны актыўна ўдзельнічаюць у будаўніцтве камунізма. Карціна Бараноўскага «Студэнты на суботніку», прадстаўленая на Рэспубліканскай мастацкай выстаўцы 1962 года, прысвечана гэтай тэме.

...Стомленыя студэнты прыселі адпачыць. Яны заглядзеліся на экскаватар, што капае катлаван пад новы будынак. Выдзяляецца юнак, які ў задуменнасці глядзіць на машыну. Пра што ён думае? Магчыма, пра тое, што хутка стане інжынерам і сам будзе ствараць такія ж машыны.

У апошні час Фёдар Бараноўскі працуе над карцінай, у якой будзе ўвасоблены адзін з эпізодаў гераічнага мінулага: бой кулямётнай роты Рубена Ібарury з нямецкімі захопнікамі пад Барысавам.

Падзеі Вялікай Айчыннай вайны зноў і зноў прыцягваюць увагу Фёдара Бараноўскага. Ён задумаў карціну, у якой хоча паказаць, як савецкія воіны, вырваўшыся з фашысцкага палону, ідуць у бой з лютым ворагам. Ужо ёсць эскізы для гэтай карціны.

Фёдар Бараноўскі знаходзіцца ў росквіце сваіх сіл. Перад ім вялікае будучае ў мастацтве. Шмат яшчэ напіша ён твораў пра жыццё нашага народа, пра наш гераічны час.

Няма граніц дасканаласці ў мастацтве. Толькі праца вядзе мастака наперад, і толькі той дасягне ззяючых вяршынь у мастацтве, хто не спыняецца на дасягнутым.

**Анатоль ГАЛЧАНАЎ.**

## СЯБРЫ



Васіль Дземеш і Яўген Борыс — заўзятыя працаўнікі ў нашай брыгадзе. Яны першыя ідуць на работу, пазней за ўсіх заканчваюць рабочы дзень.

Васіль і Яўген — з Гродзеншчыны, жылі ў адной вёсцы. Разам гулялі ў дзяцінстве ў «квача» і ў «партызанаў». Сядзелі за адной партай у школе. У адзін дзень прымалі іх у камсамол. Пасля школы засталіся працаваць у родным калгасе.

Васіль — камлюкаваты, з прывабным смуглявым тварам, з гарачымі чорнымі вачыма, з густой капой кучаравых валасоў, а Яўген — вышэй за яго ростам, з блакітнымі вачыма і рэдзенькай русай прычоскай. У Васі носік «капанічкай», а ў Яўгена — «кельмай». У дадатак Васіль на цаліне «для саліднасці» адгадаваў стрэлачкі вусікаў. У Яўгена такога козыру не было.

На будоўлю сябрукі махнулі пасля службы ў арміі. Паступілі ў брыгаду цесляроў, працавалі на будаўніцтве мікрараёна ў Мінску.

Аднойчы адзін з іх сказаў:

— Гайда на цаліну!

— Паедзем, — падтрымаў другі, — панюхаем «пораху».

І пачалі збірацца ў дарогу.

Так яны і трапілі ў цалінную каманду, сюды, у край подзвігаў.

І тут іх дружба не гасне. Мінуты не могуць пражыць адзін без аднаго. У палатцы іх ложкі — побач, у сталовую прыйдуць — за адным сталом ядуць, у кіно таксама сядзяць на адной лаве. Яны і рэчы купляюць з аднаго кашалька. Палучка ў іх агульная і адзін «кацёл», ніколі не цікавяцца, хто каму вінен за папяросы ці колькі хто пераплаціў. Цукерку і тую падзеляць напалам. А пачнуць спаборнічаць у клопаце адзін пра другога, дык тут і ўзнікае спрэчка.

— Васіль, чаму мала еў? — кажа Яўген.

— Я добра заправіўся, давай ты лепш падсілкуйся, — адказвае Васіль.

— Не, ты бяры, — спрачаецца Яўген, дастаючы папяросу.

Васіль працаваў унізе, на электралябёдцы, а Яўген уверсе цягаў тачку з бетонам, бетаніраваў сцены і перакрыцці зернесушылкі.

На Васю заглядаліся майскія дзяўчаты на вечарынках, але ён гэтага як бы і не заўважаў, а Яўген да якой-небудзь брунеткі быў не супраць «падбіць клінкі».

— Ці не ў манахі ты запісаўся? — злаваў на Васю сябар. — Па табе сохне тут адна, а ты...

Але Вася не паддаваўся ні на якія ўгаворы.

Яўген быў адменны музыкант, рэзаў і «Лявоніху» і «Ермака», а Васіль лоўка падбарабаньваў яму чым папала: лыжкамі, кельмамі, каструлямі.

Калі нашаму брыгадзіру Анатолю Цвірку і энергетыку з «Галоўцалінбуда» Тарасаву даводзілася даваць бой ныцікам і абібокам, то Васіль з Яўгенам дуэтам падтрымлівалі іх, памагалі цэментаваць калектыў нашай брыгады, граміць карцёжнікаў і аматараў выпівак.

Вася і Яўген былі як бы маякамі, на якія трымала раўненне ўся наша брыгада.

## СЫМОН ГУРЫНОВІЧ

Не, няма нідзе такіх школ і ўстаноў, дзе вучаць людзей гераізму.

Працавалі мы на пятнаццаціметравай вышыні. Кранам «Піянер» па-





давалі на вежу арматуру. Рабочы Мікалай Зубараў узяўся адчапіць арматурныя пруты, ледзь дакрануўся, і яго са страшнай сілай адкінула за агарожу. Але ў гэты момант у нейкую долю секунды побач з Мікалаем апынуўся Сымон Гурыновіч. Ён схапіў моцнымі рукамі Мікалая, які вісеў над пятнаццаціметравай безданню, і выцягнуў яго на вежу.

Мы падбеглі, але нам нічога не заставалася рабіць: чалавек быў выратаваны.

Пазней высветлілася, што ў час развароту стралы прабіўся кабель і па арматуры пайшоў ток высокага напружання.

Хіба ж мала гэтага, каб зразумець характар камсамольца Сымона Гурыновіча — цесляра з трэста № 1 горада Мінска!

## «ЛЮКС»



Сярод людзей, цудоўных і прыгожых душою, якія сустракаліся нам на цаліне, былі і такія, як тая, якую хлопцы празвалі «Люкс».

— Шкода, Алесь, што ты з намі не пайшоў на вечарынку, — загаварыў неяк Аляксандр Лайша. — Якія там дзяўчаткі былі!.. З адной я пазнаёміўся. Каралева! Люкс! Падышла да мяне, кіўнула галавой, аж кудзеркі страпянуліся, і кажа: «Калі ласка, запрашаю вас на дамскі...» У мяне аж дух заняло ад радасці. Увесь вечар з ёю танцаваў і закахаўся па вушы.

— Ці не п'яны ты, Сашка? — хацелася абарваць надакучлівую балбатню.

— Праўда, і мы бачылі тую каралеву, — падтрымалі хлопцы. — Размаляваная дужа...

Праз некалькі дзён я пазнаёміўся з гэтай «каралевай». Звалі яе Волькай. Яна працавала загадчыцай сталовай, а ў той сталовай была пара ломаных столікаў, дзве каравыя лавы і ніводнай шклянкі. На снеданне, абед і вячэру тут заўсёды былі макароны з вадой або макароны з мясам.

Сёння ўжо Аляксандр Лайша гаварыў больш пра тое, як «каралева» аблічвае, махлюе.

— Чаму ты, карэспандэнт, не напішаш фельетон пра яе?

Я бачыў, што Аляксандр гаварыў праўду. Калі ні прыйду ў сталовую, там хмары мух: яны абляпілі і вокны, і сцены, і столь. Сама «каралева» апранута ў дзіравы і карэлы халат. З кухні часта даносілася яе грубая, істэрычная лаянка...

— Памятаю я гэтую ластаўку, у яе адменны нюх на доўгія рублі. Завітала яна на цаліну з Кіргізіі, разышоўшыся з мужам, — расказваў Карым Жаматавіч Кульсарынаў, начальнік збожжанарыхтоўчай канторы. — Прыехала з парожнім радзікульчыкам, а за два гады нажыла ладны багажык...

Спачатку Волька Чарапанава працавала ў краме. Потым зрабіла растрату, і яе не судзілі, а перавялі ў сталовую.

Заехаў я аднойчы ў Майск, забег у райвыканком.

— У нашай сталовай і ў краме прадуктаў няма, — паскардзіўся я Жаку Сагандыбекаву, старшыні райспажыўсаюза.

— Як гэта няма? — здзівіўся Сагандыбекаў. — Вось заяўкі на памідоры, гуркі....

— У сталовай мы гародніны і ў вочы не бачылі...

Давялося зноў быць у райцэнтры. Заглянуў на базар. Такая спёка!.. Усе заняты на ўборцы, а тут — спекулянткі з чырвонымі, як перац, здаравеннымі мордамі.

— Колькі каштуюць памідоры? — пацікавіўся я.

— Рубель за кілаграм. Узважыць?.. — замітусілася таўстуха.

Тут жа з кошыкам і «дынамаметрам» стаяла і Волька Чарапанава.

Я паказаў пасведчанне дружынніка і запрасіў яе ў міліцыю.

— Чаго ты да мяне прычапіўся, — істэрычна закрычала яна.

— Чаму сёння закрыта сталовая? Спекулюеш сельпоўскімі памідорамі?..

Чарапанаву выклікалі ў райком партыі і строга папярэдзілі.

Калі я расказаў пра ўсё гэта сябрам, Аляксандр больш за усіх лаяў гэтую хапугу з «дынамаметрам».

# У САЎГАСЕ




Як толькі наша брыгада вярнулася з Майска ў Мынкуль, брыгадзіра выклікаў у кантору інжынер Аляксей Смірноў і сказаў:

— Заўтра збірайцеся ў саўгас «Міхайлаўскі». Жывёлу ратаваць трэба, бо без хлявоў застанецца зімаваць. Там збудуеце арачныя кароўнікі і аўчарнікі...

Далей ён растлумачыў, у якіх умовах давядзецца нам жыць, працаваць, параіў, што ўзяць у дарогу.

— Прычапіліся са сваімі хлявамі, — абураўся Грышка Раменчык. — Адпачыць нават не далі з дарогі.

— Можаш не ехаць, абыдземся без цябе... — разззлаваліся хлопцы.

Ранкам мы ўпакавалі чамаданы, рукзакі, звязалі матрацы. Падышла саўгасная трохтонка — і зноў мы едзем табарам, як цыганы. Нарэшце ўдалечыні паказалася сяло, падобнае на гарадок, мільгнуў слуп з надпісам «Міхайлаўка». Вёска раскінулася на «пятачку», акружаным бярозавымі гаямі.

Гадоў дзесяць назад тут шумеў бур'ян ды кавыль, а зараз у гэтым прыгожым кутку выраслі і закрасаваліся дзесяць вуліц з белымі домікамі, накрытымі шыферам.

— Прыехалі мы сюды з-пад Ленінграда. Чамадана не было дзе паставіць, — расказваў трактарыст саўгаса Альберт Крон. — Потым прыйшло папаўненне з Варонежа, на першую баразну. І пачалі мы абжываць гэты край. Шмат чаго набудавалі. І пальцаў на руках не хопіць, каб злічыць, колькі ў нас паявілася ўстаноў з шыльдамі: «Клуб», «Бальніца», «Майстэрня па рамонту абутку», «Школа», «Лазня», «Цырульня», «Сталовая», «Пошта», «Сельсавет», «Яслі», «Пякарня», «Млын», «Сельмаг», «Прадмаг». А яшчэ інтэрнаты, гараж, майстэрня...

— Нядаўна, — расказваў далей Альберт, — прыязджалі геолагі з бурлятучкай, абследавалі грунт. Малочны завод будаваць хутка будзем. Яшчэ мацней закіпіць тут жыццё!..

У новым васьмікватэрным доме мы збілі нары: у адным пакоі зрабілі спальню, у другім «кабінет» для адпачынку. Мне выпала месца каля разбітага акна на першым ярусе. Побач размясціўся Анатоль Цвірка. Самае цёпленькае месца ля печы не празяваў захапіць Грышка Раменьчык.



Кожным ранкам, паснедаўшы ў сталовай, мы спяшаліся на працу за кіламетр ад саўгаснай сядзібы. Скаблілі і часалі жэрдкі, рашэцілі бетонныя месяцападобныя аркі, вазілі чарот, крылі, прывязваючы салому дротам. І так кожны дзень.

Вечарам, ранкам і ў абед сёрбалі макаронавы суп.

Неяк у абедзенны перапынак па просьбе хлопцаў зайшоў я да дырэктара Валіханава.

— Чым магу служыць? — спытаў ён з прытоенай ухмылкай.

Я расказаў пра непаладкі ў сталовай. Але Валіханаў і слухаць не захацеў.

— Бяда калі малакасосы збіраюцца вучыць старэйшых, — працадзіў ён у адказ.

— З вамі не малакасос размаўляе, — кінуў я.

— Што, не падабаецца савецкая ўлада? Хто ты такі? А ну, пакажы дакументы!

— Калі ласка.

Ён схапіў пасведчанне і паклаў сабе ў кішэню.

Праз дзень Валіханава выклікалі ў Жалезінку і ўляпілі яму вымову. Прынёс мне пасведчанне і папрасіў прабачэння.

За адзінаццаць дзён мы адгрукалі здаравенны аўчарнік на 1 500 галоў, зарабілі каля 90 рублёў і пачалі збірацца дамоў.

Дырэктар паабяцаў нашым хлопцам паставіць скрынку «араку» і зарэзаць добрага барана на бішбармак. Але мы адмовіліся ад пачастунку і, сабраўшыся, з песнямі паехалі ў Мынкуль.

# ПРЫЗВАННЕ



По дарозе з Майска ў Паўладар запрасіў мяне ў госці Тарасаў. Заехалі да яго.

Не паспеў ён з жонкай прывітацца, як тут жа абвясціў:

— Наля, зноў рыхтуй у дарогу рукзак. У Ермак выклікаюць, а потым на мантаж трасы перакінуць...

— Дыхнуць на даюць табе з гэтымі элеватарамі: вечна на калёсах... — дакорліва прамовіла жонка.

— Нічога, я хутка вярнуся, — супакойваў яе Тарасаў. — Любіш будаўніка — любі і язду.

Прыйшоў неяк Тарасаў да начальніка «Галоўцалінбуда» Гаўбіха.

— Хіба ж мы выб'емся з прарыву, калі будзем кіраваць такімі метадамі? — спытаўся ён і тут жа прапанаваў: — Возьмем на сябе новыя абавязкі: кожны інжынерна-тэхнічны работнік няхай шэфствуе над запушчаным участкам.

— А хто будзе балансы складаць, справаздачы? — здзівіўся Гаўбіх. — А тэхнікай і механізмамі хто будзе забяспечваць нашы будаўнічыя арганізацыі?

— У нас ёсць аддзел забеспячэння. Яму давярайце. А мне дайце шэфства над слабым участкам.

Так Дзмітры Карпавіч Тарасаў, энергетык Паўладарскага «Галоўцалінбуда», трапіў з намі ў Майск, дзе замерла работа на будаўніцтве зернесушылкі.

Памятаю я ранейшых кіраўнікоў на будоўлі. Рэдка калі, бывала, начальнік прыходзіў на рабочае месца. Прыедзе на ўчастак міністрам, аж страх падысці да яго. Відаць, адслужыла свой век кабінетная калыска...

Тарасаў — будаўнік па прызванню. Калі б расказаць яго біяграфію, то ў кожнай фразе трэба было б ужываць прыметнік «новы». Новы, новы, новы...

Ішла вайна. Пад Масквой і пад Гомелем у акопах салдаты казалі: «Прыехаў новы начальнік радыёстанцыі». Гэта пра Тарасава.

Не паспеў Тарасаў абжыцца ў Новасібірску пасля вайны, як партыя паклікала народ на штурм цаліны. Дзмітры Карпавіч махнуў рукой на цёплую кватэру і гайда на пярэдні край. Жыў у палатках і вагончыках, начаваў на марозе з рабочымі, еў хлеб з халоднаю вадою. Аддаваў свае веды і вопыт усім, хто з гарачай душой прыйшоў маладзіць стэпавыя прасторы, жыў іх жыццём, іх планамі і марамі.

«Паедзеце на новы будаўнічы ўчастак узводзіць элеватар у Атбасары».

Ледзь паспеў закончыць гэтую работу, як зноў клічуць у Акмолінск, у Какчатаў.

«Накіроўваем дырэктарам новай Паўладарскай аўтабазы».

За гэта і вырас на грудзях у яго ля баявых салдацкіх узнагарод яшчэ адзін паверх ордэнскіх планак.

— Пасля вайны вырашыў шукаць сваё прызванне, — расказвае Тарасаў. — Змяніў прафесію радыётэхніка на будаўніка. Яшчэ ў акопах пад Рагачовам і Слуцкам я падумаў: пасля аўтамата трэба браць кельму і станавіцца ў армію будаўнікоў. Колькі нам, салдатам, давялося перакапаць зямлі за гады вайны! Акоп — капай, сховішча — капай, магілу для таварыша — капай... Каб сабраць увесь той грунт, што выкапалі тады людзі, то яго хапіла б зрабіць насып вакол зямнога шара вышынёй метр і шырынёй 175 метраў. Столькі грунту спатрэбіцца для закладкі 76 тысяч такіх, як чалябінская, домнаў. Вось на што марна трацілі людзі столькі энергіі. І ўсё па віне ашалелых маньякаў — фашыстаў. Брат мой старэйшы забіты пад Гомелем. У гады вайны мне давялося прайсці пехатою ад Гомеля да Брэста. Геаграфію Беларусі двойчы вучыў: у школе і па сігналах сакрэтных радыётэхнічных кодаў, калі з «Вялікай зямлі» ў штабы партызанскіх атрадаў пасылалі зброю, тол, медыкаменты, людзей...

Успамінае ўсё гэта Дзмітры Карпавіч Тарасаў і глядзіць на мяне разумнымі вачыма, поўнымі веснавой нябеснай сіні...

Ранкам Тарасаў, сардэчна развітаўшыся з намі, паехаў на другі ўчастак наладжваць работу.

Так жыве былы салдат, які ўмее даражыць прызваннем стваральніка.

## ХЛЕБ ІДЗЕ



Бязмежныя цалінныя далі! Колькі вы пакінулі ў маім сэрцы незабыўных уражанняў! Назаўсёды засталася ў сэрцы цалінная вясна з бліскавіцамі, з кветкамі, з садамі, апранутымі ў белую, як пена, квецень...

У цалінным прасторы ёсць нешта такое, ад чаго маладзееш душой. Гэтым «нешта» і з'яўляюцца цалінныя дарогі. Асабліва, калі ідзе хлеб.

Дыханне перахватвае, калі выйдзеш на бальшак у час жніва. Па ім снуюць атрады трохтонак. Здаецца, яны з'ехаліся сюды, у разбуджаны край, з усёй зямлі. На зялёных бартах кузаваў праз злучок красуюцца чатыры белыя лічбы і дзве-тры літары: ДШ, ДК, ІШ, ДЮ, ПАБ, ПАА, КГА і г. д. Не хопіць і сотні алфавітаў для нумарацыі машын, калі ідзе хлеб.

Вечарам выйдзеш на трасу — зноў няма цішыні. Удалечыні равуць «газікі», «зілы», «Урал-зілы», ляскаюць, падскокваючы на выбоінах, гойдаюцца прычэпы, свецяцца кропкі агеньчыкаў, свідруючы цемру. Не паспеюць знікнуць адны, як паяўляюцца другія. І да самага ранку ідзе хлеб...

А хто ў сухое надвор'е, як ураганам, узнімае па дарогах воблакі шэрага пылу? Машыны. Яны ў любую часіну і ў любую пару года з'яўляюцца гаспадарамі дарог. Ні на хвіліну не спыняецца пульс жыцця — хлеб ідзе!

Пакажыся ў веснавое разводдзе ці ў асеннюю непагоду на шлях, калі ўсе дарогі ператвораны ў суцэльныя вадзяністыя ніткі — зноў убачыш знаёмае: ашалела равуць, буксуючы, грузавікі, з-пад іх колаў сырдзіта вырываюцца камякі чарназёму, — ох, як цяжка ідзе хлеб...

А ў злосную завіруху хто з дружнымі воклічамі раскачвае, штурхае магутнымі плячымa збожжавозы? Капітаны хлебавозаў. Іх геройскімі намаганнямі, не спыняючыся ні на хвіліну, — ідзе хлеб!

— Ёсць дзе на гэтых прасторах разгуляцца машынам, — гаворыць Пятрусь Ігналаў, лепшы шафёр асакараўскай аўтабазы. — А колькі зімой, у бураны, даводзіцца прыгод перажыць — страх! Але мы прывыклі. Заб'е дарогі ў завею. Вакол стэп і стэп, як мора, ні канца яму ні краю, не ведаеш нават, куды ехаць. Адзін шафёр вылазіць з кабіны, намацвае нагамі трасу, а ты паўзеш следам за ім. Так і выбіраешся з дрэйфу. Не паспееш адпачыць — зноў ранкам на калёсах носішся. Прапісаны на якой-небудзь вуліцы, у сяле. А фактычна жывеш у кабіне: яна — родны дом і хата шафёра. Хлеба столькі, бывала, у саўгасах уродзіць, што толькі паспявай круціць баранку!..

— Глянь, цэлая аўтабаза грузавікоў! — здзівіўся мой сябар Рыгор Кушнер.

Каля збожжанарыхтоўчай канторы хлебавозы так шчыльна стаяць адзін каля другога, што нават маладзенькія лабаранткі, апранутыя ў белыя, як у дактароў, халаты, без ніякай цяжкасці свабодна пералазяць з кузава ў кузаў, з аднаго грузавіка на другі.

Выбраўшы зручную хвіліну, я падышоў да прыгожай, са смуглявым дзіцячым тварыкам, чарнакосай грузінкі.

Пазнаёміліся. Завязалася гаворка.

— Ці шмат машын праз ваш шпрыц-шчуп праходзіць?

— Як калі, — гаворыць Тамара Дзілібаранідзе, лабарантка асакараўскай збожжанарыхтоўчай канторы. — У жніво звыш 500, а зімой і вясной 130 — 150 хлебавозаў. Ну і ўрадзіла пшаніца! Месца на таках і ў свірнах не хапае для зерня...

Развітаўшыся з Тамарай, я накіраваўся на сядзібу элеватара, дзе сталі, выстраіўшыся ў чаргу, «абследаваныя» грузавікі. Грузавік паўзе пад аркі-аўтавагі, адтуль праз хвіліну пад'язджае да свірна, які нагадвае гараж, становіцца задам на аўтаразгрузчык.

Шафёр адкрывае задні борт, адыходзіць убок, Аляксандр Манцураў уключае рубільнік — і перад машыны падымаецца ўгару, нахіляючы ўніз адкрыты борт кузава. Збожжа з шумам льецца праз металічную сетку ў «завальную» яму, а ўнізе па магутнай брызентавай стужцы транспарцёра плыве ў сушылку, у свірны і да трыераў. Праз 2 — 3 хвіліны парожні грузавік «асядае» і, завурчаўшы маторам, выбягае, даючы месца наступнаму...

На таку суткамі кіпіць работа. Людзі з рыдлёўкамі завіхаюцца каля транспарцёраў, трыераў і зернепагрузчыкаў, падобных на снегаўборачныя камбайны.

Выйшаў я пад кручу славутага Іртыша набраць у крыніцы вады. Уверх па цячэнню поўз, узнімаючы крылы хваль, «Сцяпан Разін». Не той Сцяпан Разін, што хадзіў калісьці паходамі ў Персію «за зіпунамі», а са-

вецкі наш цеплаход, які цягнуў баржы са збожжам праз Бухтармінскае мора, у возера Зайсан, у Чорны Іртыш, у Манголію і Кітай.

Па вадзе і па сталёвых магістралях чыгунак бесперапынку ідзе хлеб. Куды ні кінеш вокам — усюды хлеб і хлеб. Цаліна стала найвялікшай у свеце фабрыкай збожжа. Яе краявід нібы стаў барометрам. Шкала яго паказвае не нейкі там атмасферны ціск, а творчы энтузіязм савецкага чалавека, сямімільныя крокі нашай краіны да камунізма, веліч ленінскай нацыянальнай палітыкі, якая зрадніла працаўнікоў волатаўскай бітвы за камунізм. Вось што паказвае гэты барометр!

## МЫНКУЛЬ — КАРАГАНДА — МІНСК



Атрымаўшы ў Мынкулі разлік, група мінскіх і віцебскіх рабочых пачала збірацца ў дарогу. Хлопцы селі на прыгарадны і накіраваліся ў Карасук, адтуль на поездзе Барнаул — Масква пачалі дабірацца дамоў. А я, сеўшы ў аўтобус, паехаў у Міхайлаўку на аэрадром. На начлег мяне запрасіў Герман Аляксандравіч Цырлін, слесар мынкульскага элеватарбуда. Ранкам яго жонка Ірына, пачаставаўшы мяне, правяла ў дарогу.

Але самалёт у другой палавіне дня курсіраваў у Паўладар. Гадзін пяць давялося чакаць на аэрадроме «кукурузніка», які вяртаўся з Купіна ў абласны цэнтр.

Першы раз у жыцці на самалёце! Апрача мяне, пілота і яго памочніка, у кабіне нікога не было. Самалёт зароў, уздрыгнуў, пакаціўся і, хутка рвануўшыся, пачаў набіраць вышыню. Далёка ўнізе паплылі кубікі дамоў, астраўкі бяроз, кропкі грузавікоў; блішчалі люстэркі азёр і стужкі дарог. Нарэшце паказаўся Паўладар з вялізнымі цыгарамі заводскіх труб і грамадамі дамоў.

— Як самаадчуванне? — спытаў пілот.

— Дзякуй, добра, — прамовіў я, хоць у мяне кружылася галава.

Вечарам я заехаў да Тарасава, ён вельмі ўзрадаваўся майму паяўленню.

— Дамоў? — спытаў ён.

— У Караганду, да брата.

— І я таксама еду ў Цалінаград, у «Элеватармельбуд» выклікаюць.

Ранкам мы былі ў Цалінаградзе. Я закампасціраваў білет і накіраваўся палюбавацца сталіцай цаліннікаў.

У гэтым горадзе мне давялося быць у час першай паездкі на цаліну. Як змяніўся ён, папрыгажэў! Пабудаваны новы вакзал, які не ўступіць па прыгажосці любому маскоўскаму. Трэці раз я еду гэтай дарогай на цягніку Масква — Караганда. Першы раз вясной і восенню 1960 года давялося бываць у гэтых мясцінах не турыстам: разам з сябрамі каменем, жалезам і бетонам упісвалі мы ў гісторыю адрасы прамысловых пабудоў. Вунь яны: яслі, лазня, вежы элеватара, ветка чыгункі, дзе стаялі нашы вагончыкі. Колькі тут за два гады вырасла домікаў!

...Па дарозе з Караганды мне ўдалося пабыць у Маскве на Краснай плошчы. Было свята Вялікага Кастрычніка. Людзі са сцягамі, плакатамі і транспарантамі праходзілі каля Маўзалея У. І. Леніна. Паток за патокам.

— Няма такой сілы ў свеце, якая магла б зрушыць цытадэль камунізма з ленінскіх падмуркаў, — гаварыў мой сябар масквіч Васіль Кротаў, работнік кінастудыі імя Горкага, які разам са мной вяртаўся дадому.

# Гары, камсамольскі аганёк!

# ПОЛЮС ВЯСНЫ

## ДЗЕ ПАЧЫНАЕЦЦА ВЯСНА

Кожны лічыць, што перш яна заглядае ў тую вёску ці горад, дзе ён жыве. Напрыклад, жыхары Брэстчыны сцвярджаюць, што раней за ўсё вясна прыходзіць да іх. І паспрабуй з імі спрачацца. Дзе пачуеш першага жаваранка? Тут, над прыбугскай роўнядзю. На Брэстчыне кожны год пракладвае першую баразну трактар, адагрэтая сонцам зямля раней, чым дзе, зелянее шаўкавістай рунню.

Франц прынік да шыбы аўтобуса. Яшчэ за Баранавічамі абапал шасэ ляжаў снег, а тут — глядзі ты!.. Нават коцікі выкінула лаза.

За акном прамільгнуў дарожны ўказальнік з надпісам: «Тэльмы».

— Пастукайце, калі ласка, шаферу, — падхапіўся Франц.

Цёплы вецер абдаў юнака, раскідаў ільняныя валасы. Франц паставіў чамадан, памкнуўся адзець плашч і тут жа раздумаў. Навошта? Цяплынь такая, а саўгасная сядзіба — вось яна, побач. Ад двухпавярховай камяніцы ўзяла свой пачатак вуліца, што губляецца дзесьці ў сляпенні разгалістых ліп. Праз усю вёску слупы электраліній, апошні — ля цёмнай каробкі падстанцыі на ўзгорку. Там жа, прыземістыя камяніцы жывёлагадоўчага гарадка. А далей, да самага гарызонту, палі, роўныя, гладкія.

Франц падхапіў чамадан. Насустрач з вёскі ішла аўтамашына, гружаная мяхамі.

— Дырэкцыя дзе тут? — аклікнуў вадзіцеля.

Машына рэзка затармазіла. З кабіны выглянуў смуглявы юнак, што сядзеў побач з шаферам. Чорныя вугалькі яго вачэй з гарэзлівай дапытлівасцю абмацвалі сустрэчнага:

— Упаўнаважаны ці па справах?



Зою Рыжкоўскую раней ведалі як загадчыцу складам аўтатрактарных частак. Цяпер яе ведаюць яшчэ як прынцыповага члена рэдкалегіі «камсамольскага пражэктара».

Фота С. Чырэшкіна.

Франц зразумеў жарт і ў тон адказаў:

— І тое і другое. А вы не з начальства часам?

— Гледзячы з якой званіцы глядзець, — усміхнуўся хлопец. — Калі над каровамі, свінкамі, коньмі, дык за мяне вышэйшай шышкі ва ўсім саўгасе няма. Галоўны ўрач, дзе пехатой, а дзе наўскач...

— А вы жартаўнік, — засмяяўся Франц. — Я, бачыце, таксама галоўны... Галоўным аграномам прызначаны да вас.

Дзверца кабіны са стукам адкінулася, перад Францам стаяў рослы, шырокі ў плячах юнак:

— Будзем знаёмы. Віктар Дабражынецкі.

— Франц Сякацкі,— Франц нават паморшчыўся ад моцнага поціску шырокай Віктаравай далоні.

— Дык ты едзь без мяне, Вася,— махнуў шафёру Дабражынецкі. І да Франца: — Хадзем, я правяду ў дырэкцыю.

Пакуль ішлі да канторы саўгаса, Віктар, нібы старому сябру, расказаў ледзь не ўсю сваю біяграфію. Прыехаў сюды з віцебскага ветэрынарнага. Два гады быў радавым урачом у аддзяленні «Чэрня», а цяпер — у галоўныя сасваталі. Клопатаў — не абярэшся. З ранку да вечара па фермах гойсаеш, а там валейбольная секцыя, камсамольскімі даручэннямі нагрузілі.

— Пры такім жыцці, брат, да самай старасці ажаніцца не будзе калі,— пажартаваў Віктар.

— Відаць, у вас камсамольцаў не густа, што цябе так загрузілі? — пацікавіўся Франц.

— Чаму? Больш за сто чалавек. Але ж, ведаеце, адны толькі ўзносы плацяць, а ў другіх даручэнняў пад завязку. Сам ты камсамолец?

— Вядома, і нават з кіруючым стажам,— пахваліўся Франц.— Калі вучыўся ў Горацкай акадэміі, год групоргам быў. Ну, а ў саўгасе «Навасёлкі» на Гомельшчыне — членам камітэта.

Віктар пляснуў Сякацкага па плячы:

— Будзь упэўнены: і тут цябе нагрузяць. Ды і сам не захочаш стаяць у баку. Спраў шмат.



Галоўны ветурач Віктар Дабражынецкі і галоўны аграном Франц Сякацкі — ініцыятары стварэння «камсамольскага пражэктара».

## ВОСЬМЫ НЕ ВЫСТУПІЎ...

Віктар не памыліўся. Франца Сякацкага «нагрузілі» на першым жа камсамольскім сходзе. Школьны клас ледзь умяшчаў камсамольскую сям'ю. Час гарачы. Вясна, разгар палявых работ, асваенне новых культур. Адны гаварылі, што ў некаторых аддзяленнях не працуюць камсамольскія групы, другія наракалі на слабую сувязь камітэта з моладдзю. Маладая свінарка Надзя Багнюк скардзілася, што не ўсе даглядчыцы чыста прыбіраюць станкі. На першы погляд, гаварылі пра канкрэтныя справы, а вось сапраўдных клопатаў пра лёс гаспадаркі ў выступленнях не адчувалася.

Дырэктар саўгаса Андрэй Нікандравіч Чабаткоў, які сядзеў у прэзідыуме, шапнуў сакратару камітэта:

— Трэба ж неяк сход накіроўваць... Развялі пра дробязі ўсякія, а цукровыя буракі і кукуруза хіба не датычаць вас?

— Восьмы ў спісе выступаючых Віктар Піліпчук,— вінавата адказаў сакратар.— Якраз пра гэта ён і скажа.

Восьмаму па спісу выступаць не прыйшлося: яго апярэдзіў галоўны аграном. Ледзь чарговы прамоўца сышоў з трыбуны, як у сярэдзіне класа ўзнялася яго рука.

— Прашу слова!

Гаварыў ён пра тое, што камсамольцы і моладзь саўгаса павінны ўзяць шэфства над кукурузай і цукровымі буракамі, дзяліўся сваімі меркаваннямі.

— А яшчэ ў мяне ёсць такая думка,— працягваў Франц.— Вось тут мы чыталі з хлопцамі пра «камсамольскія пражэктары». У фокус сваіх праменняў яны бяруць усё найлепшае, перадавое. Разам з тым, на ўсеагульны паказ пражэктары выстаўляюць і тое, што перашкаджае нам жыць і працаваць. Трэба і нам стварыць «камсамольскі пражэктар». Па-першае, гэта ажывіць усю нашу камсамольскую работу. Узнімецца аўтарытэт камсамольскай арганізацыі саўгаса. А па-другое, мы дапаможам кіраўніцтву, партыйнай арганізацыі лепш весці гаспадарчыя справы.



Добра папрацаваў сёння трактарыст Андрэй Чабаткоў.

Сход ажыў. Франца папрасілі расказаць пра ўсё больш падрабязна. Потым пачалі падбіраць людзей у штаб «пражэктара». Яны сядзелі тут жа, у зале. Памочнік брыгадзіра трактарнай брыгады Ліда Адзінец — жыццярадасная, прынцыповая. Флегматычны, але напорысты аграном-насеннявод Генрых Канановіч. Альбо Міхаіл Басацкі — ён завуч мясцовай школы, але блізка прымае да сэрца ўсе саўгасныя справы. Востры на слова Віктар Дабражынецкі. Ну, а Францу Сякацкаму — узначаліць штаб.

...Не спадзяваўся брыгадзір комплекснай брыгады аддзялення «Збірогі» І. Трахімец, што трапіць пад прамень «камсамольскага пражэктара». На кожнай нарадзе, на кожным сходзе дакладваў, што ў яго на фермах прадукцыйнасць жывёлы павышаецца з дня на дзень. А на справе — пускаў пыл у вочы.

«Камсамольскі пражэктар» першы выкрыў штукарствы брыгадзіра. Карыкатура была вострая і едкая: Трахімец сядзіць на малочным бітоне і пускае бурбалкі.

У гэтым жа нумары дасталася вартаўніку К. Новіку і брыгадзіру В. Шаблюку.

Аднойчы на цэнтральнай сядзібе і ў аддзяленнях саўгаса з'явіліся аб'явы: «Сёння ў памяшканні школы вялікі камсамольска-маладзёжны вечар. Пачнецца ён дэманстрацыяй новай кінакарціны вытворчасці студыі «Камсамолфільм».

Гэта была навіна. Што за такая новая кінастудыя з'явілася?

Усё стала зразумела ўвечары. У зале патухла святло. На экране з'явіліся цітры: «Светавая газета № 1. Вытворчасць студыі «Камсамолфільм». Першы кадр незвычайнага фільма выклікаў ажыўленне гледачоў. На экране — прадавец магазіна камсамолка Соф'я Тарыма. Яна злуецца і крычыць. Збянтэжаны пакупнік спалохана адступае да парога. Наўздагон яму нясецца: «А ты не вучы мяне, без цябе ведаю, што прадаваць».

З наступным кадрам у зале неспакойна заёрзаў на лаўцы цясляр будаўнічай брыгады Уладзімір Лабко. Саўгасныя кінематаграфісты паказалі яго апошнюю паездку ў Брэст, дзе Уладзімір асвяжаўся пад душам выцвярэзніка. «Ехаў у горад героем, вяртаўся назад



Ліда Адзінец — памочнік брыгадзіра трактарнай брыгады і прыдзірлівы кантралёр. Будзьце ўпэўнены, механізатары пастараюцца!..

мокраю курыцаю»,— іранічна паведаміў дыктар.

— А цяпер, таварышы гледачы, прапануем вашай увазе яшчэ адну гераіню нашага фільма, — працягваў дыктар. — Думаю, вы пазнаеце яе.

...Побач з люстэркам на сцяне — атэстат сталасці. На кушэтцы дзяўчына з моднай прычоскай.

— Дык гэта ж Вольга Нікіцюк! — пачулася ў зале.

Аўтары фільма не спадзяваліся, што іх работа будзе мець такі поспех. Некаторыя з іх сядзелі тут жа, у зале, і з задавальненнем слухалі, як бурна рэагуюць гледачы.

— А ты баяўся, што не смешна будзе,— Франц Сякацкі штурхнуў пад бок мастака-афарміцеля Віктара Дабражынецкага.

— Даўно займаўся гэтым... Яшчэ ў інстытуце,— прызнаўся Віктар.— Добра, што гукааператар наш на ўзроўні...

## ВОПЫТ ЁСЦЬ

Мінуў год. Шмат карыснага зрабіў за гэты час «камсамольскі пражэктар». Цяпер амаль у кожнай вёсцы ёсць свае прадстаўнікі штаба. Гэта дазваляе камітэту камсамола быць у курсе ўсіх спраў саўгаса. Дырэкцыя і партком бачаць у камсамольскіх энтузіястах сваіх першых памочнікаў.



Аб пражэктарыстах людзі загаварылі ў аддзяленнях, у брыгадах, на фермах. Прыціхлі хуліганы, нялёгка стала аматарам пажывіцца за кошт грамадскага дабра.

У саўгасе «Брэсцкі» створана група садзеяння партыйна-дзяржаўнага кантролю. Лепшых людзей, самых сумленных і прынцыповых, пасылалі ў гэтую групу рабочыя саўгаса. Узначаліў яе старэйшы камуніст, старшыня Тэльмаўскага сельсавета Андрэй Ануфрыевіч Пугач. Яго баявым намеснікам стаў Віктар Дабражынецкі.

Зноў сабраліся члены штаба «пражэктара». Прыйшоў і Андрэй Ануфрыевіч.

— Вы самі бачыце,— гаварыў ён членам штаба «камсамольскага пражэктара», — што партыя зараз прымае асабліва энергічныя меры, каб хутчэй пазбавіцца ў нашым жыцці ад усіх недахопаў і плям мінулага. І немалая роля ў гэтым адводзіцца органам партыйна-дзяржаўнага кантролю. Вы нашы першыя падручныя ў вялікай справе. Тым больш, што ў гэтым напрамку вы праклалі добры след... Ці не праўду кажу, Віктар?..

— Сякі-такі вопыт ёсць, Андрэй Ануфрыевіч,— адказаў Дабражынецкі.

І тут жа падумаў: «А на свінаферме ўсё-такі штосьці творыцца».

Ферма цэнтральнага аддзялення трывожыла Віктара нездарма. Сутачны рацыён нядрэнны, а свінаматкі худзеюць...

Ужо назаўтра Віктар свае меркаванні выкладваў дырэктару саўгаса.

— І праўда — загадка...— згадзіўся Чабаткоў.— Дык што ты прапануеш?

— Трэба «пражэктар» туды...

— Што ж, давай, наводзь.

Вечар быў ціхі. Віктар Дабражынецкі, яго таварыш па «пражэктару» інжынер Аркадзь Сяргейчык і старшыня рабочкома Уладзімір Іванавіч Каласветаў прыйшлі на ферму. Свінаркі Зоя Флейшман, Валя Чырук, Людміла Аўчарэнка, і іх сяброўкі скончылі работу. Ідуць, размаўляюць. У адной вядро ў руцэ, у некаторых кошыкі.

— Адну хвілінку... — аклікнуў дзяўчат Віктар.

Свінаркі змоўклі, вінавата пераглянуліся паміж сабой. Старэйшая з іх Ганна Сілівончык неяк бокам-бокам і схавалася за Валю Чырук.

— А вёдры, кошыкі навошта? — спытаў Каласветаў.

— Ды ўчора з дому прыносілі, забраць трэба,— бойка растлумачыла Валя Чырук.

— І муку з дому прыносіла? — запусціў у вядро руку Аркадзь Сяргейчык.

**А гэта даяркі саўгаса Надзя Чэрнік, Алена Семянюк і Вера Яшчук.**

Чырук не ведала, што адказаць. Маўчалі і астатнія.

Няёмка адчувалі сябе тыя, хто паквапіўся на народнае дабро. Міма гэтага выпадку прайсці было нельга.

На таварыскім судзе найбольш ваяўніча вяла сябе Валя Чырук. У яе словах усё перамяшалася — праўда і хлусня. Яна нават прыгразіла:

— Дык звальняйце, калі не падабаюся. Я хоць сёння падам заяву.

з першага дня ў саўгасе: выпускніцу Пінскага зааветэрынарнага тэхнікума паставілі памочнікам брыгадзіра па жывёлагадоўлі ў вёсцы Хабы. Неспакойна стала брыгадзіру і жывёлаводам. Шустрая, настойлівая дзяўчына ва ўсё ўнікала, нават у самыя дробязі. Ніхто, напрыклад, не надаваў асаблівага значэння таму, што каровы пасуцца разам з маладняком.

— Так справа не пойдзе, Мікалай Фё-



**Светавая газета гатова. Франц Сякацкі, Віктар Дабражынецкі і Міхаіл Лук'яновіч яшчэ раз праглядаюць кіналенту.**

А ў зале — паўнютка народу. І усе знаёмыя.

— З фермы звольніцца няхітра, а вось дзе схаваешся ад свайго сораму? — спакойна спытаў Уладзімір Міхайлавіч Шпакаў.

Былі слёзы, раскаянне. А прысутныя на судзе, ды і не толькі прысутныя, з задавальненнем адзначалі: цесна стала зладзеям, не схавацца ім ад строгага кантролю грамадскасці.

А гэты кантроль цяпер меў сотні пільных вачэй у вёсцы Хабы, Вілюкі, Збірогі, дзе размяшчаюцца фермы буйной рагатай жывёлы, ва ўсіх астатніх населеных пунктах. На дапамогу членам групы партыйна-дзяржаўнага кантролю і «камсамольскага пражэктара» прыходзілі шматлікія актывісты.

Надзя Чэрнік запомнілася многім

даравіч, — заявіла Надзя брыгадзіру Марозку.

— А што тут дрэннага? — здзівіўся брыгадзір.— Мы заўсёды так пасвілі жывёлу.

— Ну і няправільна...

Што мог запярэчыць Марозка сваёй памочніцы? Раздзялілі гурты, для маладняку адвялі лепшыя выпасы, і цяляты пачалі папраўляцца.

Ферма, на якую прыйшла Надзя, лічылася адной з лепшых у саўгасе. Ёсць падвясная дарога, механізавана даенне і падача вады. Так што праца даярак аблегчылася. Але некаторыя з іх былі не супраць, каб машыны і кароў чысцілі. Галя Паўлючык, напрыклад. Тыднямі стаялі яе каровы, запэцканыя ў торфакрошку. Зробіць Надзя заўвагу, а даярка і слухаць не хоча.

— Не па дарозе нам з табой,— не вытрымала, нарэшце, Надзя.

Галя ўбачыла, што дрэнна працаваць ёй не дазволяць, і пакінула ферму. Што ж, яно і лепш. На месца Галі прыйшла старанная маладая работніца Алена Семянюк.

Такія, як Надзя Чэрнік, і станавіліся актывістамі «камсамольскага пражэктара».

### ПОБАЧ З МАЛАДЫМІ, НЕСПАКОЙНЫМІ...

Другую вясну сустракаў галоўны аграном Франц Сякацкі ў саўгасе «Брэсцкі». Яна здавалася асабліва радаснай. За год ён здружыўся са сваёю работай, з людзьмі. На камсамольскім сходзе Франца выбралі сакратаром камітэта. Пашырыўся круг абавязкаў. Ёсць над чым падумаць.

— А ведаеш, давай праверым, як нашы механізатары адчуваюць сябе,— сказаў аднойчы Андрэй Ануфрыевіч Пугач.— Вы сваю гвардыю ад «пражэктара» пашліце, а мы — ад групы кантролю.

Франц вечарам таго ж дня сабраў членаў камітэта камсамола і штаба «пражэктара». Прысутнічалі людзі з усіх трох аддзяленняў, з усіх васьмі палявводчых брыгад. Задача была кароткая і ясная: праверыць, як падрыхтаваліся механізатары да вясны?

Брыгадзір трактарнай брыгады аддзялення «Тэльмы» Леанід Абрамавіч Суржынскі абурыўся, што яго ж памочніца камсамолка Ліда Адзінец прыйшла на праверку разам з рэйдавай брыгадай. Ну, няхай, скажам, Васіль Кузьмук. Ён радавы механізатар, яго мы самі выбіралі ў групу партыйна-дзяржаўнага кантролю. А чаго лезе гэтае дзяўчанё?

— Цяпер палюбуйцеся вось на гэта,— павярнула трохкорпусны плуг Ліда Адзінец.

Кантралёры схіліліся над плугам. Нават сам брыгадзір здзівіўся:

— Чорт яго ведае, адкуль гэта ўзялося. Плешкі балтоў велічынёй з кулак выпіраюць з гнёздаў, нібы не на сваё месца сталі.

Упраўляючы аддзялення Пятро Мікалаевіч Агаркаў зірнуў на галоўнага інжынера Віктара Акавітага. Той паціснуў плячыма.

— Не пры мне гэта было, Пятро Мікалаевіч. Я ў камандзіроўку ездзіў...

— А я тут была і не раз гаварыла, што наёмным, выпадковым людзям нельга давяраць гэту работу,— гарачылася Ліда Адзінец.

— Бачыце, Віктар Дзмітрыевіч,— апраўдваўся перад галоўным інжынерам брыгадзір Суржынскі,— час такі. Усіх трактарыстаў на вывазку ўгнаенняў паслалі. А тут прыйшлі хлопцы, падрадзіліся...

Не ва ўсіх аддзяленнях члены групы кантролю з удзелам камсамольцаў выявілі такія непаладкі. Але сёе-тое знайшлося і ў іншых месцах. Аб гэтым гаварылі на партыйным сходзе. І, вядома, прынялі меры. Да пачатку палявых работ і плугі, і сеялкі адрамантавалі як трэба.

Цукровыя буракі і кукуруза абяцаюць добры ўраджай. Але вахта ў барацьбе за яго не спыняецца. Яе нясуць камсамольцы з «пражэктара» разам са сваімі старэйшымі таварышамі з групы партыйна-дзяржаўнага кантролю. За кожнай плантацыяй сочыць пільнае камсамольскае вока.

**В. ДЗЕНІСЕНКА,**
**М. КАСТРЫЦКІ.**

Брэсцкі раён.

**Абмяркоўваем пісьмо У. Вяткіна.**

# ФАКЕЛ, ЯКІ ПАВІНЕН ГАРЭЦЬ

Часам здараецца, што чалавек, які прыехаў у горад на вучобу, пачынае ганяцца за модамі, за ўяўнай прыгажосцю. Быў чалавек, як чалавек, а тут глядзіш — нейкае пудзіла гарохавае. Я таксама за кароткае паліто і вузкія штаны, але не трэба быць вычварнымі і пераступаць нормы грамадскай этыкі.

Іншыя ж, бачачы вакол шумнае і імклівае жыццё, палохаюцца яго і адыходзяць убок. «Спадабалася табе новая кінакарціна?» — пытаюся ў аднае студэнткі. «Я ў кіно не хаджу. Часу няма, каб есці зварыць»... Вядома, адставаць у вучобе нельга. Але трэба ж знаходзіць час, каб наведваць тэатры, мастацкія выстаўкі, каб, урэшце, адрозніваць карціны Шышкіна ад палотнаў Айвазоўскага або «Балеро» Равэля ад «Славянскіх танцаў» Дворжака.

З абмежаванасцю людзей трэба змагацца не менш настойліва, чым, скажам, з непаспяховасцю або амаральнымі ўчынкамі.

Добра, што ў нас праводзяцца часта вечары паэзіі і музыкі, дзе перад студэнтамі выступаюць вядомыя майстры.

У грамадскім жыцці студэнты таксама ўдзельнічаюць не аднолькава. Часам на аднаго чалавека наваляць столькі нагрузак, што і дыхнуць няма як: то сход, то гурток, то пасяджэнне, а тут яшчэ і вучыцца ж трэба, ды і пагуляць хочацца. Чалавека павінен выхоўваць калектыў. На нашым курсе створана народная дружына аховы парадку, і мы часта выходзім дзяжурыць на вуліцы горада. Адны ідуць, другія — не. Здаецца, дробязь. Або другі прыклад. Чалавек жыве ў адным пакоі з сябрамі і на дзень разоў дзесяць замыкае і адмыкае чамадан. Вось так, паступова, калі не ўмяшаюцца таварышы, вырасце дрэнны чалавек, эгаіст, індывідуаліст. Ён усялякім чынам будзе старацца застацца ў Мінску або дзе-небудзь у цёпленькім месцы, толькі б не паехаць у сваё роднае Забалоцце. Своечасовае ўмяшанне калектыву можа папярэдзіць такое, накіраваць чалавека на правільны шлях.

Трэба больш звяртаць увагі на выхаваўчую работу ў інтэрнатах. Усё гэта мы павінны рабіць разам з камсамолам, каб нашы студэнцкія калектывы былі моцныя і здаровыя.

Сваё пісьмо я хачу закончыць словамі: студэнт — гэта і сасуд, які трэба напоўніць ведамі, і факел, які павінен гарэць.

**Рыгор СЕМАШКЕВІЧ,**
**студэнт II курса Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**

# ГЭТА БЫЛО Б КАРЫСНА

Уладзімір Вяткін справядліва падкрэслівае, што кожны з нас павінен быць не толькі спецыялістам высокага класа, але і добрым арганізатарам, умець працаваць з людзьмі. Іменна на гэты бок нашай падрыхтоўкі трэба звярнуць асаблівую ўвагу.

Тут многае залежыць ад нас саміх, студэнтаў, бо студэнт студэнту розніца. Адзін з першага курса цікавіцца ўсім, паспяхова вучыцца і ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, другі ж без вялікай ахвоты ходзіць на лекцыі, з горам папалам «здае» экзамены і таксама атрымлівае дыплом. У такіх выпадках вінаваты мы, студэнты, што патураем гультаям.

Але я лічу, што іншы раз ёсць промахі і ў рабоце камітэтаў камсамола. Скажам, у нашым інстытуце з'явілася добрае пачынанне — факультэты грамадскіх прафесій. Аднак гэтая цікавая справа хутка заглухла. Хто тут вінаваты? Перш за ўсё, відаць, камсамольскія важакі.

Або возьмем другі прыклад. Студэнцкія летнія канікулы я правёў у піянерскім лагеры «Будаўнік»: працаваў старшым піянерважатым. Атраднымі важатымі працавалі студэнты вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў. І як ні дзіўна, але спачатку важатыя не ўмелі працаваць з дзецьмі, нават не ведалі, як спланаваць сваю работу. А сярод іх жа было нямала будучых настаўнікаў. Хіба ж нельга камітэтам камсамола стварыць пры педінстытутах своеасаблівыя грамадскія ўніверсітэты і запрасіць энтузіястаў піянерскай работы з ліку рабочай моладзі, каб яны падзяліліся сваім вопытам? На занятках такога ўніверсітэта варта было б

чытаць лекцыі з гісторыі піянерскай арганізацыі і займацца практычна развучваннем танцаў, песень і дзіцячых гульняў.

Карысць ад гэтага, мне здаецца, была б немалая.

**Мікола ПЛЕСКАЦЭВІЧ,**
**выпускнік Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.**

# ЯК ТЫ АДДЗЯКУЕШ РАДЗІМЕ?

Як бы там ні было, гаворачы пра сумленне студэнта, мы павінны патрабаваць ад сябе і сваіх таварышаў перш за ўсё добрых і выдатных ведаў. Нашы бацькі, маці, браты, усе тыя, хто працуе на прадпрыемствах, у калгасах, ствараючы матэрыяльныя каштоўнасці, маюць поўнае права спытаць: чым мы адказваем на іх клопаты пра нас? А бываюць жа студэнты, якія ўсе пяць гадоў толькі тое і робяць, што «спіхваюць» экзамены па шпаргалках.

У апошнія гады многія студэнты атрымліваюць стыпендыю ад прадпрыемстваў. Дык вось адзін з такіх студэнтаў аднойчы прызнаўся мне: «Стыпендыю я атрымліваю, мне добра і тройка» і вельмі здзівіўся, калі я назваў яго рвачом. Так, гэта рвацтва — імкненне ўзяць больш, а аддаць менш.

Але ці аднымі адносінамі да вучобы вымяраюцца гонар і сумленне студэнта?

Мусіць, сюды адносяцца і паводзіны студэнта на практыцы, па-за сценамі інстытута. І нам усім вельмі прыемна, калі ў адрас інстытута прыходзяць з прадпрыемстваў падзякі студэнтам, якія добра папрацавалі або нават унеслі рацыяналізатарскія прапановы.

Але быў у нас такі студэнт Гедэмінас, які ў час практыкі дакаціўся да таго, што ўдзельнічаў у кражы будаўнічых матэрыялаў. Правільна зрабіла адміністрацыя інстытута, што пазбавіла яго звання студэнта.

А як мы ўсе былі абураны, калі даведаліся, што студэнт В. Ганчароў, зрабіўшы ганебны ўчынак, зваліў усё на свайго таварыша і прызнаўся толькі тады, калі ўсё раскрылася.

Нам трэба дбаць і пра гонар камсамольца, у першую чаргу — важака групы ці факультэта. Ці заваюеш павагу да сябе, калі будзеш прабіраць свайго таварыша за дрэнную вучобу, а сам «ехаць» на двойках або на тройках? Або яшчэ: некаторыя студэнты, калі ім даюць грамадскае даручэнне, звычайна адказваюць: «Што мне, больш за ўсіх трэба?» І хоць такія з'явы сустракаюцца рэдка, мы не павінны прапускаць іх міма вушэй. Кожнаму з нас трэба памятаць, што, берагаючы свой гонар, мы беражэм гонар усяго калектыву.

Наша раўнадушнасць і абыякавасць бываюць часам прычынай нядобрых спраў. Я прывяду, як прыклад, дрэнны ўчынак выпускніка нашага інстытута Ю. Шалабасава. Пасля заканчэння вучобы ён разам з іншымі выпускнікамі паехаў працаваць на Поўнач. Але там не столькі працаваў, колькі перашкаджаў іншым, патрабуючы для сябе асаблівых умоў, а ўрэшце і зусім уцёк з Поўначы. І гэта — вынік таго, што ў інстытуце мы не здолелі зрабіць яго актыўным членам калектыву, не зважалі на тое, што Шалабасаў ставіўся пагардліва да другіх.

Гонар і сумленне студэнта — гэта не толькі тое, чым ён жыве ад прыёмных экзаменаў да абароны дыпломнага праекта, але і тое, што ён прынясе людзям, чым аддзякуе ім. І было б вельмі добра, каб, сустрэўшыся са сваімі сябрамі (усё роўна дзе — на Поўначы ці на Поўдні), можна было шчыра глядзець адзін аднаму ў вочы.

**Генадзь ГЕРАШЧАНКА,**
**студэнт чацвёртага курса Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту.**

**г. Гомель**





**Антон КАВАЛЬЧУК**

# ЗДАРЭННЕ НА «СВЯТОЙ ГАРЫ»

Мал. В. Шрамянкова.

*Гэты расказ не для аматараў дэтэктыўных прыгод. Я хачу пазнаёміць чытачоў з напружанай працай работнікаў міліцыі, якія ахоўваюць наш спакой.*

*Напісанае — не выдумка. Прыйшлося толькі змяніць некаторыя прозвішчы, самі ж падзеі развіваліся куды больш драматычна, чым удалося пра іх расказаць.*

*Аўтар.*

Здарэнне, пра якое з жахам гаварылі ў тыя дні, не на жарт устрывожыла работнікаў раённай міліцыі і пракуратуры. 13 сакавіка 1952 года дзесяцігадовы Ваня Хаткевіч знайшоў у лесе, на паўднёвым схіле ўрочышча «Святая гара», сваю забітую маці. Яшчэ праз чатыры дні хлапчукі з хутара Харытоны, гуляючы на «Святой гары», наткнуліся ў кустах на забітую дзяўчыну, дзевятнаццацігадовую камсамолку Веру Букштановіч.

Пошукі злачынцаў і дазнанні ўзначаліў начальнік раённага аддзела міліцыі — малады, энергічны, але мала спрактыкаваны лейтэнант, які быў нядаўна прызначаны на гэтую пасаду. Беручыся за справу, лейтэнант Капейкін лічыў, што выпадак даў яму магчымасць паказаць сябе на гэтай высокай пасадзе. Агульнае знаёмства з акалічнасцямі справы і папярэднія гутаркі з людзьмі ў вёсцы, допыт сведак — усё абяцала лёгкі і хуткі поспех у выкрыцці злачынцаў.

І сапраўды, на пачатку справа здавалася простай, як двойчы два — чатыры.

Бабуля Рушыцкая расказала на допыце, што, ідучы на кірмаш у Гарадзькі, яна спаткала ў лесе мужчыну ў чорным шынялі. Другіх прыкмет бабуля, праўда, не памятае, бо вельмі спалохалася. Незнаёмы хацеў яе забіць, але яна пачала прасіць і маліць, каб ён злітаваўся. Незнаёмы паслухаўся. Бабуля сцвярджала, што гэта ён

і забіў жанчын. Другі сведка — хутаранін Танюкевіч чуў падазроны крык у лесе, а неўзабаве пасля гэтага па дарозе з лесу прайшлі браты Бараноўскія — Алесь і Адам. Яшчэ гаварылі, што па вёсках у тыя дні хадзілі нейкія вандроўныя «мастакі», якія былі і ў доме ў Букштановічаў. Пазней нехта чуў, як яны, напіўшыся ў Танюкевіча, хваліліся, што згвалцілі дзяўчыну ў лесе...

Чутак было шмат.

Міліцыя і пракуратура дапытвалі сваякоў, сведак, шукалі мужчыну ў чорным шынялі, «мастакоў», пачаліназіраць за братамі Бараноўскімі, правяралі адну версію за другой, здагадку за здагадкай. А неўзабаве лейтэнант Капейкін прыйшоў да вываду, што забойцам Алены Хаткевіч з'яўляецца Гоман Уладзімір Сцяпанавіч, трыццаці трох год, рабочы-гуначнік, жыхар суседняй вёскі, той самы «мужчына ў чорным шынялі», пра якога казала бабуля. Браты Бараноўскія, Алесь і Адам, абвінавачваліся ў забойстве Веры Букштановіч. Усе трое былі арыштаваны. Праўда, абвінавачаныя ў сваёй віне не прызнаваліся, але дазнанне ў хуткім часе было закончана, і справа № 820 аб забойстве Хаткевіч Алены Іосіфаўны і справа № 823 аб забойстве Букштановіч Веры Пятроўны была перададзена ў раённую пракуратуру. Пракуратура, аднак, не знайшла дастаткова важкіх доказаў для абвінавачвання Гомана, чалавека ў чорным шынялі, і братоў Бараноўскіх. Іх выпусцілі з-пад варты, а ўзбуджэнне крымінальнай справы супраць усіх траіх было спынена.

Мінула дзесяць гадоў. Выраслі асіроцелыя дзеці Алены Хаткевіч. Выйшлі замуж малодшыя сёстры Веры Букштановіч, а злачынства заставалася нераскрытым, злачынца — непакараным.

Справа пад умоўнай назвай «Вылюдкі» перайшла з раённай міліцыі ў раённую пракуратуру, адтуль — у абласное ўпраўленне міліцыі Маладзечанскай вобласці, а пасля скасавання вобласці — у крымінальны вышук Мінскага абласнога ўпраўлення аховы грамадскага парадку. Многія следчыя браліся за гэтую справу, але без поспеху.

У сакавіку 1962 года справа «Вылюдкі» трапіла ў рукі маёра міліцыі Рамана Мацвеевіча Фралова — старшага оперупаўнаважанага абласнога аддзела крымінальнага вышуку, чалавека з гарачым сэрцам і светлым розумам. У яго было дастаткова жыццёвага вопыту і прафесійнай практыкі — дзесяць год у міліцыі.

Таварыш, які перадаваў маёру «барадатую» справу, заўважыў:

— Самая простая і разам з тым самая складаная справа, Раман Мацвеевіч. Я два гады біўся над ёю, ды, лічы, восем год — да мяне біліся, а выніку — ніякага. І што крыўдна: нібыта ўсё ясна, ёсць доказы, ёсць падазроныя, а разблытаць нельга... Жадаю табе, як кажуць, ні пуху, ні пяра!..

Не адна заблытаная справа, на якую, бывала, ужо махалі рукой, была разблытана Раманам Мацвеевічам. Сустракаючы цяжкасці, ён ніколі не адчайваўся. Факты і падзеі супастаўляў, не прымаў на павер нават самую простую і заманлівую здагадку ці версію.

Вывучаючы справу «Вылюдкі» (тры тамы па дзвесце пяцьдзесят — трыста старонак), Раман Мацвеевіч стараўся як бы з боку прасачыць ход папярэдняга следства, прыдзірліва правяраў кожны дакумент, кожную версію, кожны вывад, спрабуючы зразумець прычыну ранейшых няўдач. Але дакументы яшчэ не ўсё. Галоўнае ў гэтым выпадку — ацэнка падзей на месцы, гутарка з жывымі сведкамі, з людзьмі, якім прад'яўляюць без дастатковага доказу сур'ёзнае абвінавачванне. Загортваючы апошнюю старонку трэцяга тома, Раман Мацвеевіч рашыў як мага хутчэй выехаць у Хатуевічы і Харытоны. Ён не мог папракнуць папярэдніх работнікаў вышуку і пракуратуры, што яны нядобрасумленна папрацавалі. Але пратаколы, даведкі, заключэнні, экспертызы, аператыўныя паведамленні, фотаздымкі — усё, што складае цяпер гэту вялізную працу, яму трэба было праверыць яшчэ раз. Было ясна, што злачынства на «Святой гары» раскрыць цяжка. Бывалі выпадкі, што раскрыць злачынства





не ўдавалася па той прычыне, што нельга было знайсці забітага, а тут усё наадварот — ёсць забітыя, але няма ніякіх слядоў забойцы. У тым, што Гоман і Бараноўскія, якія ўсе гэтыя гады знаходзяцца на падазрэнні, не з'яўляюцца забойцамі, Раман Мацвеевіч пасля вывучэння дакументаў амаль што пераканаўся, хоць нікому не выказаў гэтай сваёй думкі.

Далажыўшы начальніку аддзела пра свае вывады і ўражанні, Раман Мацвеевіч сказаў:

— Хачу выехаць на месца, Мікалай Пятровіч.

— Вашы планы?

— Пакуль без плана. На месцы паспрабую скласці план, а цяпер проста як бы ў разведку...

Мікалай Пятровіч задумаўся. Не прынята было выязджаць у камандзіроўку без зацверджанага плана-задання. Але, падумаўшы, ён сказаў:

— Разведка занадта ўжо запозненая, Раман Мацвеевіч. Але калі вы рашылі пачаць усё спачатку...

І ён паціснуў маёру на развітанне руку.

* * *

Раман Мацвеевіч уважліва слухаў Івана Хаткевіча, зрэдку задаючы пытанні. Яго цікавіла ўсё, што памятаў пра той дзень Іван.

— Я толькі прачнуўся, — расказваў Хаткевіч, — калі маці, апранутая ў кажушок, боты, узяла збоечку масла і сабралася ў Гарадзькі. На кірмаш. У той дзень яна не вярнулася. Мы ж з татам не ведалі, што з ёю здарылася, і рашылі, што яна заначавала ў сваякоў. На другі дзень пайшлі шукаць. На кірмашы ніхто яе не бачыў. А тут бабуля Рушыцкая, яна ўжо год як памерла, сказала, што нейкі чалавек хацеў яе забіць, калі яна ішла ўчора праз лес. Тады мы пайшлі лясной дарогай. Уночы якраз выпаў снег. Слядоў маці нідзе не знайшлі. Выйшлі з лесу, бацька і кажа: «Ідзі дамоў, а я схаджу ў Забрэззе». Там наша бабуля жыла. Ідучы дамоў, я заўважыў на правым баку дарогі два сляды — меншы і побач вялікі. Яны вялі ў кусты. Метраў за трыццаць ад дарогі я ўбачыў маці. Яна ляжала пад кустом, накрытая кажушком, без ботаў, галава ў крыві, а на шыі вераўчына. Я спалохаўся і кінуўся дамоў...

— Можа мы сходзім туды, Іван Гардзеевіч, — прапанаваў маёр.

— Можна, пакуль бацька адпачывае, — згадзіўся Іван.

Калі следчы з Іванам вярнуліся, бацька Гардзей Іванавіч паклікаў сына:

— Ваня, ідзі палуднаваць!..

— Я зараз, тата. Вось следчы прыехаў з Мінска. Мы гутарым.

— А што з ім гаварыць, — пачулася з сенечак. — Дзесяць год,

як маці загінула, у зямлі ляжыць, а яны ўсё ездзяць. Што ж тут гутарыць! Злодзей, вунь, ходзіць жывы-здаровы. Бяры яго. Дык не. Патрымалі ды і выпусцілі. Сёння яго, падлюгу, стрэў. Як воўк, галаву ўнурыў у зямлю...

Як бізуном, выцялі маёра словы Гардзея Іванавіча. Адчуванне было такое, нібы ён сам вінаваты перад ім. А што яму скажаш? Не станеш жа тлумачыць, што ўсе гады не спыняюцца пошукі злачынцы: ад гэтага чалавеку не лягчэй. Яму патрэбен вынік. А яго пакуль няма.

Счакаўшы, пакуль Гардзей Іванавіч супакоіцца, Раман Мацвеевіч працягваў перапыненую гаворку:

— Дык, кажаце, там былі знойдзены парваная папруга і лісток ад календара?

— Так. Папругай ён, відаць, душыў маці, але папруга парвалася. Знак быў на шыі...

— А што з рэчаў было ўзята?

— Апрача ботаў і масла, нічога. Грошай у яе не было. А боты хромавыя, новыя...

Раман Мацвеевіч пабываў і ў вёсцы Харытоны — тады гэта яшчэ быў хутар — у бацькоў Веры Букштановіч. Пагутарыў з аднавяскоўцамі і сваякамі дзяўчыны, пабываў на месцы здарэння — у лесе на «Святой гары». Высветліў, што можна было яшчэ высветліць, і нават даведаўся ад старых, чаму невялічкі лясны ўзгорачак называюць «Святая гара». Хадзіла легенда, што калісьці побач з гэтым маляўнічым узгорачкам быў садпарк і ў ім стаяла царква. Даўнымдаўно гэтая царква нібыта пайшла ў зямлю. З тае пары хадзілі на тую гару людзі, маліліся, а на святы прыносілі дарункі разгневанаму богу...

У Харытонах, як дачуўся Раман Мацвеевіч, не раскрытую крымінальную справу рэлігійнікі выкарысталі ў сваіх мэтах. Баптысты, сектанты праз год-два пасля забойства на «Святой гары» пусцілі чуткі, што злачынцу і знайсці немагчыма. Гэта сам бог яго паслаў, каб пакараць камсамолку, якая выракласа бога. Рэлігійнікі палохалі моладзь, заклінаючы яе маліцца і не ўступаць у камсамол.



* * *

Раман Мацвеевіч вярнуўся дамоў у дрэнным настроі. Нічога новага з таго, што было вядома раней, ён не знайшоў. Затое пазнаёміўся з цікавымі людзьмі. Цяпер ён яшчэ больш быў схільны лічыць, што ні Гоман, ні браты Бараноўскія ніякага дачынення да забойства не маюць, і рашыў аб гэтым далажыць начальніку, хоць ведаў, што не лёгка будзе адмовіцца ад версіі, якая прыжылася. Яшчэ сам не ведаючы, чаму, Раман Мацвеевіч лічыў, што злачынца хутчэй за ўсё — не тутэйшы і павіўся ў гэтых мясцінах выпадкова. Ён разумеў, наколькі цяжка ўстанавіць гэта цяпер, а тым больш даказаць. Але іменна ў гэтым напрамку рашыў пачаць пошукі.

...Трэці дзень сядзеў Раман Мацвеевіч, гартаючы старонкі справы. Яшчэ раз вывучаў усё ад пратаколаў допыту да заключэнняў медыцынскага эксперта і эксперта з навукова-тэхнічнага аддзела міліцыі, вывадаў і апаратыўных планаў, супастаўляючы ўсё з тым, што чуў і бачыў на месцы здарэння.

За гэтыя гады дапытана дзесяткі людзей, якія мелі і не мелі адносін да справы, але нічога, што б дало ў рукі следства неабвержныя доказы, не знойдзена. Не хапала асноўнага звяна. Маёр звярнуў увагу, што ў справе няма чамусьці паказанняў нямых сведак — рэчавых доказаў. Толькі ў адным месцы скупа ўпамінаецца, што на месцы здарэння знойдзены: два кавалкі разарванай папругі, лісток адрыўнога календара за 10 сакавіка 1952 года, разарваны па дыяганалі, а ля забітай Букштановіч — агарак «казінай ножкі» даўжынёй паўтара сантыметра.

«Чаму ж гэтыя нязначныя доказы нідзе больш у працэсе следства не ўдзельнічаюць? Гэта промах ці недаацэнка такіх ужо хіба нязначных фактаў?»

Было ясна — следства не звярнула ўвагі на нязначныя рэчавыя доказы, а захапілася, здавалася б, яснымі і неабвержнымі паказаннямі сведак. Маёр прыйшоў да думкі, што ўсе дзесяць год увага следства была накіравана на тое, каб даказаць вінаватасць Гомана і братоў Бараноўскіх. А калі Гоман і Бараноўскія не забойцы?

Перагарнуўшы апошнюю старонку, Раман Мацвеевіч папрабаваў уявіць сабе трагічны малюнак, які здарыўся на «Святой гары».

...Раніцаю Алена Хаткевіч спяшалася на базар у Гарадзькі. На ляснога дарозе яе сустрэў незнаёмец і спыніў. Пачалася барацьба. Гэта можна было меркаваць па слядах на снезе каля дарогі. Сілком ён цягнуў жанчыну ў кусты — на следзе наскамі ботаў зямля вырывалася з-пад снегу. Ударам па галаве злачынца аглушыў жанчыну і, падхапіўшы, панёс далей ад дарогі.

...Вера Букштановіч выйшла раніцай 15 сакавіка 1952 года з дому з авоськай у руках. Ішла яна ў Анцулеўшчыну, недалёкую вёску. Ідучы праз лес, Вера і не думала пра небяспеку. Насустрач ёй нейкі хлопец. Не, яна яго не ведае. Усмешка змянілася страхам, жахам... Гэта відаць з фатаграфіі. Удар. Злачынца цягне дзяўчыну ў кусты.

І Хаткевіч і Букштановіч задушаны сеткамі-авоськамі. І ля Хаткевіч і ля Букштановіч валяліся недакуркі.

Звычайна злачынца ва ўсіх выпадках захоўвае сваю індывідуальнасць, ці, як гавораць, свой почырк, прымяняючы ўласцівыя толькі яму спосабы і метады. У абодвух выпадках гэтае падабенства было здзіўляючым. «Сумнення няма — тут два злачынствы і адзін злачынца, — робіць вывад Раман Мацвеевіч. — Чаму падазраюцца розныя людзі? Чаму да гэтага часу прытрымліваліся яўна няправільнай версіі?..»

* * *

Паездка ў раён, у вёскі Хатуевічы і Харытоны, якой не зусім быў задаволены Раман Мацвеевіч, аказалася не такой ужо бескарыснай. Неўзабаве ад калгаснікаў, гандлёвых работнікаў і іншых асоб, з якімі страчаўся маёр, пачалі паступаць цікавыя пісьмы. У адным з іх Марыя Арлова пісала: «...Калі я працавала буфетчыцай на вакзале ў Багданаве, гэта было год восем таму назад, то, памятаю, жыў там нейкі Колька Лахматы, які, кажуць, не раз сядзеў у турме. Ён часта піў, хуліганіў і нідзе не працаваў. Магчыма, гэта і ёсць той чалавек, які вас цікавіць...» У запісцы, напісанай алоўкам, відаць, на скорую руку, Іван Альхоўка паведамляў: «...Я чытаў пісьмо Танюкевіча, які адбывае пакаранне дзесьці на Урале. Папаўся ён на зладзействе. Дык ён патрабуе ад Алеся Бараноўскага нейкую долю і пагражае, што інакш ён не будзе маўчаць аб яго старых грахах. Я так разумею, што Танюкевіч ведае, хто забіў Веру, і пагражае расказаць...» Да запіскі прыкладзена пісьмо Танюкевіча, аб якім ідзе размова.

Гэтыя і іншыя пісьмы мелі вялікую цікавасць. Раман Мацвеевіч асабліва зацікавіўся пісьмом Арловай. Мажліва таму, што яно супадала з яго думкай аб тым, што злачынца — чалавек выпадковы, чужы ў гэтых мясцінах. Станцыя Багданава знаходзіцца ў якіх-небудзь сарака кіламетрах ад месца здарэння.

«Хто ж гэты Колька Лахматы! Ці жыў ён у 1952 годзе на станцыі Багданава? Ці жыве цяпер? Якія адносіны ён можа мець да забойства? Быў асуджаны. Але ці мала былых асуджаных пачалі сумленнае жыццё? Піў. Нідзе не працаваў... Адным словам, усё трэба праверыць».

Яшчэ да гэтых пісем Раман Мацвеевіч асноўную ўвагу ўдзяліў трэцяму і чацвёртаму пункту плана, хоць першым пунктам па-ранейшаму пакінуў «дзяжурнай» версію аб працягванні трымаць на падазрэнні Гомана і Бараноўскіх. Так і далажыў начальніку аддзела. Той не пярэчыў. Цяпер ён рашыў — перш, чым пачаць высвятляць, хто такі Колька Лахматы, трэба запасціся рэчавымі доказамі — нямымі сведкамі, пакінутымі злачынцам на месцы забойства. Але дзе яны?

У раённай пракуратуры, куды звярнуўся Раман Мацвеевіч, даведаўшыся, што яго цікавіць, не абнадзеілі, што яму пашанцуе.

Перавярнуўшы гару папер дзесяцігадовай даўнасці, Раман Мацвеевіч параўнальна лёгка знайшоў

лісток календара і недакурак. А дзе ж той абрывак папругі?

Як высветлілася, яна хавалася ў капцёрцы дзеда Луцука, які ў той час працаваў загадчыкам гаспадаркі пракуратуры. Але дзед год пяць як пайшоў на пенсію. Пры сустрэчы дзед Луцук сказаў з гонарам:

— Як жа не памятаць? Памятаю, памятаю. Была, такая шырокая са спражкай, салдацкая, значыць, папруга. Парваная на два кавалкі. А як жа, памятаю. Яшчэ блішчала вельмі з ніжняга боку. Відаць, брытву вастрылі на ёй...

— Ну, а куды ж падзелася тая папруга, дзядуля? — не вытрымаў Раман Мацвеевіч.

— Дык я ж, дарагі, перадаў яе Хведарку. І сказаў яму, што гэтая штуковіна можа яшчэ спатрэбіцца.

Хведарка замяніў у пракуратуры Луцука, але прабыў нядоўга, усяго два гады. Потым паехаў кудысьці ў кустанайскія стэпы, а цяперашні загадчык гаспадаркі нічога пра папругу не ведае і не бачыў яе.

«Вось табе і «нямы сведка», — бедаваў Раман Мацвеевіч. — Але нічога не зробіш, давядзецца наладзіць пошукі папружкі».

Праз месяц Раман Мацвеевіч ужо чытаў адказ Хведаркі. Той пісаў, што папругу ён нікому не аддаваў, не браў яе, але і не памятае, дзе яна.

— Не магла ж яна прапасці без следу, — гаварыў новы загадчык гаспадаркі, памагаючы маёру перабіраць старызну.

Раман Мацвеевіч сваімі рукамі перабраў усё ў кладоўцы. Ён ужо гатовы быў прымірыцца з думкай, што шукаць яе тут дарэмна, як на парозе паявіўся сам дзед Луцук.

— Не там шукаеце, хлопцы, не там, — пачуўся дзедаў бас. — На гарышчы пашукайце. Там у мяне скрынка стаяла ў кутку...

Сапраўды, у скрынцы, на дне, маёр знайшоў тое, што яму было так патрэбна.

* * *

У пасёлку Багданава оперупаўнаважаны чыгуначнага аддзела міліцыі капітан Красікаў, да якога зайшоў Раман Мацвеевіч, сказаў:

— Колька Лахматы? Ды гэта мой стары знаёмы! Можна сказаць, хрышчонік. Вось згубіў яго след за апошнія гады. Яго засудзілі апошні раз, здаецца, у пяцьдзесят шостым ці пяцьдзесят сёмым, далі год шэсць ці восем. Цяпер ён, мусіць, недзе на Поўначы.

Маёр папрасіў калегу расказаць больш пра гэтага чалавека. Ці доўга жыў у Багданаве, чым займаўся? Кажуць, у яго тут няма ні радні, ні жылля. У каго ж ён жыў, адкуль сам?

— Вы разумееце, што гэта не простая цікаўнасць, таварыш капітан?

— Разумею, таварыш маёр, — падняўся Красікаў. — Магу даць самую падрабязную характарыстыку.

І ён расказаў, што на Кольку Лахматага яму давялося тройчы ўзбуджаць справу і кожны раз за пакражу. Жыў Колька тут з 1944 года. У яго тут не было ні родных, ні жытла, ні пастаяннай работы. Ён прыехаў аднекуль з-пад Растова, калі верыць яго словам. Быў двойчы ў зняволенні. І трэці раз засудзілі. Прабавалі пасляць яго на работу ў майстэрні, але ён працаваць не стаў. Жыў часовымі заработкамі, ну, і, вядома, краў. Жыў дзе папала — то ў знаёмай, то на вакзале п'яны швэндаўся...

— Вы даўно на гэтым участку? — запытаў маёр у Красікава.

— Ды вось ужо дванаццаць год.

— Тады вы чулі, вядома, пра здарэнне на «Святой гары» ў сакавіку 1952 года?

— Прызнацца, не памятаю.

Раман Мацвеевіч коратка расказаў яму ўсё.

— Штосьці прыпамінаю, — няўпэўнена сказаў Красікаў. — Хто ж забойца?

— А забойца да гэтага часу не знойдзены. Падазравалі траіх, але важкіх доказаў няма.

— Так, — паспачуваў Красікаў.

— Як вы думаеце, Лахматы не здольны на такое злачынства?

— Панфёраў? — запытаў Красікаў.

— А хіба яго прозвішча не Лахматы?

— Лахматы — яго вулічная мянушка, а Панфёраў прозвішча. Мікалай Васільевіч.

Капітан задумаўся. Потым, нібыта разважаючы з самім сабой, няўпэўнена сказаў:

— Ад такога ўсяго чакаць можна. Але баюся, што вашы падазрэнні не дакладныя.

— Ёсць прычыны сумнявацца?

— Так.

— Іменна?

— Вы гаворыце, забойства зроблена 13 і 15 сакавіка 1952 года. А Панфёраў у той час можа ўжо быў у турме?

— Калі гэта так, то тады, вядома, версія адпадае.

— Каб не гадаць, зараз праверу, — сказаў Красікаў, адмыкаючы сейф. — Ён доўга вадзіў пальцам па старонках алфавітнай кнігі і нарэшце прагаварыў: — Так і ёсць. У сакавіку 1952 года ён быў асуджаны на адзін год пазбаўлення волі за пакражу ў цягніку.

— Так, — уздыхнуў маёр. Яму здавалася, што напаў на правільны след, а тут зноў пачынай усё спачатку...

* * *

Калі ідзеш ад вакзала па Высокай вуліцы, домік дзеда Бядулі — трэці. Расказваючы маёру пра сваё жыццё-быццё, стары з замілаваннем прыгадаў, як у векапомны вераснёвы дзень 1939 года ён з аднавяскоўцамі сустракаў вызваліцеляў — воінаў Савецкай Арміі. Салдаты, усхваляваныя сустрэчай, даравалі вяскоўцам зорачкі, пілоткі... А адзін хлапчына, прыгарнуўшы Кузьму Бядулю, пацалаваў яго, а потым зняў свой рамень і аддаў яму: — Гэта вам, таварыш, на памяць!..

Пра гэта і расказаў стары Раману Мацвеевічу і Красікаву, калі тыя прыйшлі з роспытам, ці не ведае ён, чыя б гэта магла быць папруга.

— Ну, як жа не ведаць! — узрадаваўся Кузьма Бядуля, беручы ў рукі даўно згубленую знаход-



ку. — Мая. Падарунак гэта. І дзе толькі вы яе знайшлі?

— Не важна, бацька, дзе, важна, што папруга знайшла свайго гаспадара, — задаволена ўсміхнуўся Раман Мацвеевіч.

— Так, так, — згадзіўся стары. — З усяе вуліцы хадзілі, каб брытвы павастрыць. Добрая папружка была. Ды вось шкада, што парвалася. А я, прызнацца, думаў, што гэта справа Петрыка, унучка майго. Свавольнік быў, без маці рос...

Петрык — дзедаў унук — вучыцца на другім курсе політэхнічнага інстытута. «Можа і праўда Петрык у свой час закінуў куды папругу, каб дзед не так часта карыстаўся ёю, а знайшоў яе той, хто зрабіў злачынства», — падумаў Раман Мацвеевіч.

Дапытаны Петрык мала чаго дадаў да таго, што сказаў дзед. Праўда, Петрык прывёў маёра зноў на след Колькі Лахматага. Ён расказаў, што папугай часам любіў пафарсіць Колька Лахматы, калі жыў у іх. Аказваецца, Кузьма Бядуля ў свой час паспрабаваў прытуліць і вывесці на добрую дарогу гэтага хлопца. Ды не ўдалося. Колька часта краў у дзеда грошы, курыва, не хацеў працаваць. Кончылася тым, што дзед разззлаваўся і выгнаў яго. Пра гэты свой «эксперымент» дзед Бядуля не любіў успамінаць. Можа быць гэтым і тлумачыцца тое, што ён у гутарцы з Раманам Мацвеевічам і Красікавым не ўспамінаў імя Колькі. Але гэта толькі меркаванне.

Хто ж украў папругу ў дзеда Бядулі? Як яна магла апынуцца на месцы злачынства, калі дапусціць, што яна была ў Колькі? Ясна і бясспрэчна было толькі адно — сляды забойства на «Святой гары» трэба было шукаць у Багданаве. А калі так, дык ці не паспрабаваць прымусіць загаварыць другога нямога сведку — той лісток календара.

Маёр далажыў начальніку аддзела крымінальнага вышуку пра планы далейшага пошуку і першыя вынікі. І атрымаў поўнае адабрэнне. Са згоды пракуратуры рэспублікі да гэтай справы быў падключаны вопытны следчы, у поўнае распараджэнне Рамана Мацвеевіча паступіў капітан Красікаў. Неўзабаве ўдалося выявіць, хто з жыхароў Багданава і суседніх вёсак меў у 1952 годзе адрыўны каляндар. На шчасце, такіх аказалася, не так многа. Быў адрыўны каляндар у Піскунова Яўгена, які ў 1952 годзе працаваў на вакзале ў кніжным кіёску.

Высветлілася, што Піскуноў, карыстаючыся календаром, не адрываў лісткі, а перакладваў закладачкай, і ўсе календары, пачынаючы з 1948 года, захоўваў. Толькі за асобныя месяцы 1951, 1952 і 1956 гадоў не хапала па некалькі лісткоў. Сярод іх не было і лісткоў з календара 1952 года за 7 — 11 сакавіка. Параўнаўшы лінію адрыву лістка, знойдзенага на месцы здарэння, не цяжка было ўбачыць, што ён вырваны з гэтага календара. Экспертыза, праведзеная навукова - тэхнічным аддзелам упраўлення міліцыі, пацвердзіла выказаную здагадку. Як і меркавалася, было таксама даказана, што недакурак, знойдзены каля забітай Букштановіч, таксама з лістка адрыўнога календара за восьмае сакавіка, які належаў Піскунову.

Такім чынам каляндар і — здарэнне на «Святой гары»... Піскуноў, ціхі, сціплы кіяскёр, і — зверскае забойства Хаткевіч і Букштановіч...

Не пачынаючы допыту Яўгена Піскунова, Раман Мацвеевіч і следчы пракуратуры падрабязна вывучалі яго асобу. Іх цікавіла літаральна ўсё: яго быт, паводзіны, сябры, адносіны ў сям'і і г. д. Асабліва ў той перыяд, калі здарылася забойства. Працуючы ў кантакце з Красікавым, яны зрабілі ўсё даволі лёгка і хутка.

Дэмабілізаваўшыся з арміі, куды Яўген Піскуноў быў прызваны ў канцы вайны, ён увесь час жыў пры маці і працаваў на станцыі ў кіёску. За тры гады скончыў завочна бібліятэчны тэхнікум, а ў 1951 годзе ажаніўся з настаўніцай мясцовай школы. З таго часу яго ўвага поўнасцю аддадзена сям'і і кнігам. За ўвесь час, як яго памятае Красікаў, толькі адзін раз Яўген быў замешаны ў бойцы — ён заступіўся за дзяўчыну, да якой чапіліся два п'яныя хуліганы.

На допыце Яўген трымаўся свабодна, ахвотна адказваў на пытанні следчага, падлічваў з цікавасцю лісткі календара, і прызнаў, што лісток за дзесятае сакавіка сапраўды вырваны з яго календара. Пра забойства на «Святой гары» ён нічога не чуў. Калі ж следчы сказаў, што гэты лісток знойдзены на месцы забойства, ён шчыра, без прытворства, здзівіўся і нічога не змог сказаць.

Здагадка, што яго падазраюць у забойстве, так на яго падзейнічала, што ён адразу змяніўся з твару і не мог прамовіць ні слова. Ён паводзіў сябе, як вінаваты ў цяжкім злачынстве, але вопытнае вока Рамана Мацвеевіча правільна ацаніла гэтыя душэўныя змены. Супакоіўшыся, Яўген сказаў:

— Што хочаце думайце, але я нічога не магу сказаць, чаму лісток ад майго календара апынуўся там. Я разумею, што мне цяжка даказаць, дзе я ў той час быў, цяжка знайсці сведак, але паверце, што я нават не ведаю, дзе гэтая «Святая гара», пра якую вы пытаеце...

Гэтыя словы былі сказаны з такой шчырасцю, што ў іх нельга было не паверыць.

— Калі не вы, тады хто ж яго сарваў?

— Не ведаю. Я ніколі не адрываў лісткі календара, а толькі перакладваў закладачкай, вось гэтак, — ён паказаў, як ён гэта робіў.

— Падумайце. Можа, гэта зрабілі вашы сябры, — запытаў следчы.

— Ды і сяброў у мяне такіх няма.

— Але да жаніцьбы вы ж з кімнебудзь сябравалі, захапляліся чым... Вядома, і таварышы былі...

— Так, былі. Хадзілі гуляць да дзяўчат, а часам на рыбалку ездзілі з Пятром Страчынскім і Генадзем Алешкам. Але часцей за ўсё мы збіраліся ў Генадзя.

— А чаму ў Генадзя?

— Ну, як вам сказаць... У яго была сястра старэйшая, Аня. Да яе хадзілі дзяўчаты. Там мы і бавілі час.

— А хто з хлопцаў, з якімі вы сябравалі, курыў?

— Курыў? Здаецца, Пятро Страчынскі і Колька Лахматы.

— Хто гэты Колька Лахматы?

— Ды тут аднаго так звалі. Ён з сястрой Генадзя гуляў. Ды яго добра ведае капітан. Здаецца, Колька зноў сядзіць у турме.

І раптам Піскуноў змоўк. Паціраючы пальцамі лоб, ён штосьці напружана ўспамінаў. Відаць было па выразу твару, што ў Яўгена ўсплыла нейкая думка, але ён яшчэ не адважваецца яе выказаць. І яны чакалі.

— Я ж зусім забыўся, — вінавата ўсміхаючыся, нарэшце сказаў ён. — Часта ж казіную ножку з лістка календара рабіў Колька Лахматы. Ён у мяне часам бываў. Як зойдзе, бывала, дык адразу да календара. А курыў ён заўсёды махорку, ды яшчэ нейкі смярдзючы самасад.

— Значыць, Колька Лахматы ў вас бываў? — перапытаў Раман Мацвеевіч і падумаў: «Зноў гэты Колька. Трэба зноў праверыць запісы, якія ёсць пра яго ў Красікава».

— Так, рэдка, але заходзіў з Генадзем. Яны з ім як бы сябравалі.

Старанны допыт Піскунова, а затым Генадзя, Ганны Алешка і Пятра Страчынскага паступова раскрывалі тайну забойства. Праверка судзімасцей Мікалая Панфёрава паказала, што ён быў асуджаны не трэцяга, а трыццаць першага сакавіка тэрмінам на адзін год.

Сведкі — Алешка Ганна, якая была ў блізкіх адносінах з Панфёравым, і Страчынскі — падрабязна расказалі пра яго жыццё, паводзіны, схільнасці. Яны апазналі папругу, і ўсе трое паказалі, што папруга належала Панфёраву. Страчынскі прыгадаў, што калі пачаўся нераст шчупакоў, ён ездзіў з Колькам на рыбалку і ў таго быў падрапаны твар. Тады ўжо папругі ў яго не было. Гэта ён добра памятае, таму што ён часта вастрыў на ёй брытву, а перад рыбалкай яны не сталі галіцца. Страчынскі ведаў, што папругу, як быццам, падараваў Кольку дзед Бядуля, калі той у яго жыў.

Яшчэ Страчынскі расказаў пра тое, што Колька на рыбалцы апраўдваўся: ён, маўляў, падрапаў твар, калі ездзіў па вудзільны. У той час Колька часта напіваўся

і некуды знікаў, а неўзабаве яго пасадзілі за пакражу.

Паказанні Страчынскага былі вельмі каштоўныя. Цяпер Раман Мацвеевіч яшчэ ясней уявіў сабе ўсё тое, што адбылося на «Святой гары».

Гутарка з рыбакамі-аматарамі ў Багданаве і суседніх вёсках дала магчымасць устанавіць, што вясна ў тым годзе была ранняя і шчупакі пачалі нераставаць яшчэ ў першай палавіне сакавіка. Значыць, выезд на рыбалку Страчынскага і Панфёрава, трэба меркаваць, адносіцца да 17—20 сакавіка. Драпіны на твары Колькі, па словах Страчынскага, былі падсохлыя. Дык вось хто забойца! Дзе ён і што скажа ён?

* * *

Тэлеграма прыйшла ў папраўча-працоўную калонію строгага рэжыму на восьмы дзень пасля вызвалення Панфёрава з турмы. У той жа дзень у Мінску атрымалі адказ, што Панфёраў паехаў на месца асуджэння — на станцыю Багданава. Аднак у Багданаве яго не было. Пачалі шукаць.

У калоніі тэлеграма выклікала спрэчкі паміж начальнікамі атрадаў і начальнікам калоніі. Адны лічылі ўмоўна-датэрміновае вызваленне Панфёрава памылкай, другія даводзілі, што ён заслужыў гэта прыкладнай працай.

А Колька, выслухаўшы словы, сказаныя на развітанне намеснікам начальніка калоніі па палітчасці, адказаў:

— Грамадзянін начальнік, даю слова, больш са мной такое не паўторыцца. Вось убачыце, усё будзе ў парадку.

Як заўсёды, Колька глядзеў сабе пад ногі, апусціўшы галаву. І, мажліва, ён шчыра намерваўся выканаць сваё абяцанне. Мажліва, пяць ранейшых судзімасцей чамунебудзь ды навучылі яго. У апошні раз ён добра працаваў і не меў парушэнняў.

Усю дарогу Кольку трывожыла думка, якая пасялілася ў ім яшчэ тады, — прызнацца за старое. «Другія ж не баяцца», — папракаў ён сябе. Але тут жа палохаўся: «Усё ж дзесяць год!..»

Пахадзіўшы некалькі дзён па Маскве, дзе ў яго была не толькі перасадка, але і старыя сябры, Колька паехаў у Беларусь. Але раптам у Смаленску ён сышоў з поезда і ўзяў кірунак на Бранск. Дзе прыгарадным, дзе аўтобусам дабраўся ён да Адэсы, а адтуль — да Растова і праз месяц апынуўся ў Бабруйску.

Як ніколі раней, Кольку пякла думка, што яго вось-вось схопяць, а можа і расстраляюць. Ён не раз каяўся, што не прызнаўся пра ўсё ў калоніі. Можа не расстралялі б. Ён гатовы быў на любое пакаранне, толькі каб жыць!

Гады нічога не сцерлі з памяці. Кожны раз, выйшаўшы з турмы, ён мучыўся тым, што нібы за ім сочаць, яго шукаюць і, напіўшыся, ішоў на новае злачынства, Толькі пасля суда супакойваўся, суцяшаючы сябе думкай, што тут яго менш за ўсё будуць шукаць.

Цяпер яму не хацелася вяртацца ў турму. Не хацелася ісці на новае злачынства. Можа таму, што ўжо вельмі доўгімі былі апошнія гады, а можа ўзрост браў сваё, але цяпер здавалася благім тое, што было прывабным і рамантычным у маладосці. Колькавы думкі пачалі хіліцца да тых, хто рашыў пачаць новае жыццё. Ён бачыў іх у Маскве, у Адэсе, у Растове і тут, у Бабруйску...

У яго выспела думка — паехаць у бранскія лясы на работу. Прыехаў. Яго прынялі. Далі інтэрнат. «Усё. Завязаў! — рашыў у думках Панфёраў. — Тут мяне ніякі чорт не знойдзе».

Да механічнай пілы ён падышоў, як стары знаёмы. Як запраўскі лесаруб, завіхаўся на валцы. Тыя, хто працаваў з ім побач, зайздросцілі яго спрыту. Улягалася трывожная думка. Ён быў вясёлы, жартаваў і нават расказваў, што навучыўся гэтаму майстэрству там, у калоніі.

Пачуўшы, што ён быў у турме, людзі не адхінуліся ад яго і не зайздросцілі яго «школе». Усё ішло добра, пакуль не заехаў да лесарубаў участковы. Ён гутарыў з рабочымі, жартаваў, прачытаў нейкі артыкул з газеты, а Колька ў гэты час туляўся па ельніку недалёка ад інтэрната. Толькі пачуўшы фырканне матацыкла па дарозе на Бранск, ён зайшоў у інтэрнат. Не так ужо змерз, але зуб на зуб не пападаў...

Яму здавалася, што ўчастковы прыязджаў не так сабе... «І рабочыя на мяне глядзяць неяк інакш», — падумалася яму.

Неўзабаве Панфёраў адпрасіўся ў брыгадзіра на тры-чатыры дні — прывезці свае рэчы. На самай жа справе, ён вырашыў наведаць старую знаёмую Ганну Алешка ў Багданаве, а заадно праверыць абстаноўку на месцы.

...У сакавіку 1962 года Колька Панфёраў, стараючыся лішне не паказвацца нікому на вочы, сышоў на станцыі Багданава. Стараўся хутчэй звярнуць за рог, направа, але тут жа пачуў:

— Вас можна на хвілінку?

Адразу мільганула думка: «Гэта той, у вушанцы, які следам выйшаў з вагона».

Панфёраў спыніўся, адказаў падкрэслена ветліва:

— Калі ласка. Што вы хочаце?

— Вы не скажаце, дзе тут аддзяленне міліцыі? — запытаў незнаёмы.

— Не, я сам тут упершыню, — адказаў Панфёраў, падумаўшы: «Ражон табе з тваім аддзяленнем». І наважыў быў ісці, як той жа голас прагучаў ужо рашуча:

— Стойце, Панфёраў, вы арыштаваны!

Па целе прабеглі мурашкі, маланкава мільганула думка — «уліп», але стараўся трымацца спакойна:

— Што вам ад мяне трэба? Якое вы маеце права?

— Пройдзем у аддзяленне, грамадзянін...

У дзяжурным пакоі ён доўга адпіраўся, абураўся.

— Калі я з заключэння, дык, значыць, можна мяне арыштоўваць ні за што. Вы не маеце права! Я буду скардзіцца пракурору! Мяне вызвалілі датэрмінова за добрую работу... Дзе ж давер'е да чалавека...

Супакоіўшыся, запытаў, ці ёсць санкцыя пракурора на яго арышт, і запатрабаваў паказаць ордэр, спадзеючыся, што тут нейкая хітрасць міліцыі. Ордэр доўга і прыдзірліва разглядаў. Затым запытаў:

— За што ж вы мяне? Што я зрабіў?

— Як бачыш, Панфёраў, затрымліваем па закону. Так што можаш быць спакойны. А за што, дык я і думаў у цябе запытаць, — жартам сказаў капітан Красікаў і дадаў: — Можа лепш перанясём размову на заўтра. Сёння ты з дарогі, ды і позна. Пераначуеш, адпачнеш, а заўтра на свежую галаву і пагаворыш, з кім трэба. Мажліва, памылка якая...

— Канечне, памылка, таварыш капітан, — Панфёраў ажывіўся. — Вы ж ведаеце, калі Колька вінаваты быў у чым, ён адразу прызнаваўся.

— Так. У нас з вамі сакрэтаў не было, — сказаў Красікаў, і Колька ўважліва паглядзеў на яго, не зразумеўшы, жартуе ён ці не.

...Пасля першага допыту, на якім Панфёраў-Лахматы ўсё адмаўляў, Раману Мацвеевічу стала ясна, што прымусіць яго прызнацца будзе не лёгка. Толькі пад націскам прамых і неаспрэчных доказаў ён пойдзе на прызнанне. На яго баку быў час. За гэтыя гады. здавалася, зніклі тыя ніткі, за якія лёгка было ўхапіцца ў пачатку следства. І Колька гэта разумее. Вось чаму з такой упартасцю і настойлівасцю ён адмаўляе свой удзел у забойстве, патрабуе вызвалення, лічыць незаконным арышт.

Але Раман Мацвеевіч сабраў усе факты і паказанні ў такую стройную і закончаную версію, абвергнуць якую было немагчыма. Колька яшчэ не ведаў, якімі матэрыяламі карыстаецца следчы, прад'яўляючы яму такое абвінавачванне, і ўсяляк імкнуўся разгадаць гэта. Ён вёў сябе на допыце занадта асцярожна, абдумваў кожнае слова, уважліва сачыў за пытаннямі следчага.

Раман Мацвеевіч не абмяжоўваўся ўгаворамі і заклікамі да шчырага прызнання, ён адразу паставіў Кольку перад фактамі, доказамі і вочнымі стаўкамі. Але Колька не прызнаваўся. І папругу не прызнаваў. На вочнай стаўцы з Ганнай Алешка і Генадзем, якія паўтарылі свае паказанні, а затым

прыпёрты фактамі, якія прывёў Пятро Страчынскі, Колька Панфёраў не змог больш адпірацца і пачаў выкручвацца.

— У мяне сапраўды была калісьці такая папруга, але я згубіў яе даўно, — нарэшце сказаў ён. — Потым жа прайшло столькі часу, я забыўся пра яе.

Падумаўшы і як бы нешта прыпамінаючы, ён сказаў:

— Я, здаецца, пазнаю. Папруга сапраўды мая, — ён узяў у рукі папругу, прыглядаючыся і абмацваючы. — Але хто яе знайшоў і чаму яна там аказалася, я не ведаю. Гэта ўжо справа следчага...

І так кожнае прызнанне давалася пад неабвержнымі доказамі сведак і вочных ставак. То Колька проста забыўся і толькі цяпер прыпомніў, што, здаецца, ён заходзіў да Піскунова, здаецца, курыў казённую ножку, здаецца, зрываў лісткі з календара, здаецца, быў на рыбалцы... А што твар быў падрапаны, дык гэта не мае ніякіх адносін да справы, а калі і мае, то ён прызнае, што падрапаў сабе твар у кустах, упаў і г. д.

Ішоў трэці месяц следства, а Колька Панфёраў працягваў выкручвацца. Дарэмна Раман Мацвеевіч і следчы па асабліва важных справах заклікалі да яго сумлення, дарэмна шукалі супярэчнасці ў яго паказаннях, накідваліся на яго псіхічнымі атакамі вочных ставак. Нішто не памагала. Страх перад пакараннем за злачынства быў мацнейшы за ўсё, і Колька адмаўляў нават самыя неабвержныя факты.

Раман Мацвеевіч прапанаваў невялікі перапынак для роздуму, а потым зноў пачаў допыт. Цяпер ужо гэтыя ягоныя допыты не былі падобны на ранейшыя. Яны насілі часам характар шчырых гутарак, якія, здавалася, блізка не датычыліся справы. З кожнай новай сустрэчай са следчым Колька ўсё ахвотней пачаў расказваць пра сваё жыццё, успамінаў дзяцінства і калонію, расказваў пра свае мары ў юнацкія гады. Ён шкадаваў, што занадта позна зразумеў жыццё, што цяпер і хацеў бы, але паправіць усё, што зроблена, немагчыма.



Раман Мацвеевіч ахвотна і з цікавасцю слухаў яго, не вёў пратакола, і гэта падбадзёрвала Кольку. Тым больш, што маёр падзяліўся з ім і сваімі ўспамінамі пра вайну, расказаў пра жыццё людзей, у якіх, як і ў яго, Мікалая Панфёрава, было цяжкае мінулае, але яны сталі добрымі людзьмі.

Назіраючы за паводзінамі Калькі, Раман Мацвеевіч заўважыў, што пастутова гутаркі іх сталі ўсё больш неабходнымі Панфёраву, што цяпер пры сустрэчы са следчым у Колькі святлеюць вочы.

Мінула яшчэ дзесяць дзён. Аднойчы зайшла размова пра змякчэнне адносін да злачынцы, які шчыра прызнае сваю віну. Гэта была не навіна для Панфёрава. Яму не раз пра гэта гаварылі на допытах, але цяпер ён слухаў з асаблівай увагай, аб чымсьці напружана думаючы. Потым рашуча запытаў:

— Скажыце чэсна, грамадзянін опер, калі я прызнаюся, мяне не расстраляюць?

— Думаю, чыстасардэчнае прызнанне будзе ўзята пад увагу судом. Тым больш, што ў той час такога параграфа не было.

Панфёраў задумаўся. Ён неяк адразу абмяк, стаў нейкі жаласны. Яго правае плячо нервова пацепвалася.

Не падымаючы галаву, ён ціха сказаў:

— Пішыце, грамадзянін опер. Усё пішыце... Прызнаюся...

...Яго расказ быў не доўгі. Праз тры гадзіны ён, не чытаючы, падпісаў пратакол допыту — старонку за старонкай. Для Рамана Мацвеевіча гэта было не толькі заканчэнне допыту, але і перамога тактыкі, абгрунтаванай на правільнай ацэнцы псіхалогіі чалавека. Але справа яшчэ не закончана.

У практыцы сустракалася і такое, што злачынца, які доўгі час адпіраўся, раптам ва ўсім прызнаваўся, усё браў на сябе, на самай жа справе альбо быў не вінаваты ў злачынстве, альбо з'яўляўся другарадным удзельнікам. Іншы раз цяжка было вытлумачыць такі ўчынак чалавека, які нават не мог паказаць тое месца, дзе зроблена злачынства. Вось чаму Раман Мацвеевіч спяшаўся, пакуль Колька не перадумаў, хутчэй выехаць на месца, каб ён паказаў, дзе забіў Хаткевіч, а за адно высветліць і пра Букштановіч, пра якую да гэтага часу ён не задаў Кольку ніводнага пытання.

* * *

Цёмна-сіні газік з чырвонай палоскай нёсся па палявой дарозе, паміж высокіх жытоў. Горача пякло летняе сонца. Быў пачатак чэрвеня.

Раман Мацвеевіч паехаў на Харытоны, хоць праз Хатуевічы намнога бліжэй. Вось «Святая гара», а там і лес «Соўкі». Зусім па-іншаму выглядаў цяпер лес, апрануты ў прыгожае зялёнае ўбранне.

Маёр сядзеў ззаду, а Колька побач з вадзіцелем. У люстэрка прыладжанае над ветравым шклом, добра было назіраць за яго паводзінамі. На паўднёвым схіле гары машына спынілася. Колька занепакоіўся. Тут, у некалькіх метрах ад дарогі, была забіта Вера Букштановіч. Пакуль вадзіцель «завіхаўся» ля машыны, Колька зірнуў у той бок, і было бачна, што ён нервуецца. Не вытрымаўшы, ён папрасіў закурыць. Як і было дамоўлена, шафёр праз пяць мінут «паправіў» матор, і газік, фыркнуўшы, панёсся па дарозе на Хатуевічы.

Раман Мацвеевіч запытаў Панфёрава:

— Пазнаеш месцы? Хоць бы не праехаць...

— Ужо недалёка, — адказаў ён. І было бачна, што сказаў з нейкай прыкметнай палёгкай.

Праз некалькі мінут Колька падаў знак спыніць машыну. Гэта было тое месца, дзе ля пахілай бярозы, пад елкай, знайшоў Іван Хаткевіч сваю мёртвую маці. Раман Мацвеевіч здзівіўся, з якой дакладнасцю Колькава памяць зафіксіравала гэтае месца. Мусіць, ён не раз бываў тут у той кароткі час, калі вяртаўся са зняволення. Яго здагадка хутка пацвердзілася.

Панфёраў паказаў, дзе сустрэў і забіў Хаткевіч 13 сакавіка 1952 года, як адбывалася гэтая страшэнная барацьба.

— Ну, а далей што? — запытаў Раман Мацвеевіч, калі Колька закончыў расказ.

— Далей я паехаў у Багданава, а неўзабаве мы з Пятром выехалі на рыбалку.

— Такі падрапаны, акрываўлены і паехаў у Багданава?

Колька Лахматы стаяў ля машыны, трымаючыся за ручку дзверцаў. Ён глядзеў на Рамана Мацвеевіча, прабуючы зразумець, пра што гэта яго пытаюць, і маўчаў.

— Хочаш, Панфёраў, я скажу табе, што было далей, калі ты не асмельваешся расказаць сам. Далей ты...

— Не трэба, грамадзянін опер, бачу, вы добра-такі тут папрацавалі...

— Тады паехалі, паказвай і тое...

— Ды што паказваць. Вы ж нездарма там спынялі машыну.

— Вось іменна, нездарма. Паехалі...

Другая частка пратакола допыту, у якой Панфёраў прызнаўся, што забіў Веру Букштановіч, была закончана апоўначы. Ён расказваў таксама, што ў 1953 і 1956 гадах не раз бываў у гэтых месцах, гутарыў з жыхарамі вёсак Хатуевічы і Харытоны, чуў, што гаварылі тут пра забойствы і пра работу следчых, і не думаў, што яго калі-небудзь разгадаюць.

Праз дзесяць дзён у раённым цэнтры ў адкрытым судовым пасяджэнні слухалася справа аб забойстве на «Святой гары».

Зала была перапоўнена. Сярод прысутных знаходзіліся сваякі і аднавяскоўцы Веры Букштановіч і Алены Пятроўны Хаткевіч. Прыйшлі на суд і браты Бараноўскія і Уладзімір Гоман. І не глядзелі больш на іх людзі з ганьбай, не кідалі калючыя, асуджальныя позіркі. Сёй-той, стрэўшыся з імі, толькі ўсміхаўся. А Гардзей Іванавіч тут жа, пры ўсіх, падышоў да Гомана і, каб усе бачылі і чулі, сказаў, прыкметна хвалюючыся і выціраючы слёзы на вачах:

— Даруй, зямляк...





# ГОЛАС СУСВЕТУ



Радыётэлескоп.

Спрадвеку адзіным пасланцом далёкага зорнага свету было святло. Але што мог расказаць чалавеку на Зямлі кволы прамень далёкай зоркі? Амаль нічога. І чалавек пачаў шукаць сродак, каб зазірнуць на зорку, на гэтую малюсенькую бліскучую кропку ў Сусвеце. Ён вынайшаў здзіўляючы прыбор — тэлескоп і з яго дапамогай зірнуў на Месяц, на Сонца. Але зоркі настолькі далёка ад нас, што нават у самых магутных тэлескопах выглядаюць усё тымі ж маленькімі кропкамі. І вось дапытлівы розум чалавека паставіў да аб'ектыва фатаграфічную пласцінку, фотаэлемент і іншыя адчувальныя прыборы. Вынік быў самы нечаканы: слабы прамень святла расказаў гэтым прыборам не толькі пра тое, з чаго складаецца нябеснае цела, але і пра яго тэмпературу, пра хуткасць і напрамак руху.

Акрамя промняў святла, зоркі пасылаюць на Зямлю радыёхвалі пэўнай даўжыні. Вучоныя астраномы навучыліся разумець «мову» светлавых праменняў, але як пачуць і зразумець своеасаблівы «радыёголас» далёкіх зорак? На дапамогу прыйшлі радыёінжынеры і фізікі. Яны стварылі новы астранамічны прыбор — радыётэлескоп. Ён і «пачуў» голас Сусвету.

Радыётэлескоп мае велізарную металічную рашотчатую чашу дыяметрам ў некалькі дзесяткаў метраў. Гэта своеасаблівае «люстэрка» для радыёхваль. Адбіўшыся

ад увогнутай паверхні чашы, яны збіраюцца на невялікую антэну, што злучана з вельмі адчувальнымі прыборамі. Вось гэтыя прыборы і расшыфравалі «мову» радыёхваль. Яны расказалі шмат новага ў дадатак да таго, што раней паведаміў прамень святла. Так вучоныя даведаліся, што наша Галактыка нагадвае велізарную спіраль і рухаецца ў пэўным кірунку, дакладна вызначылі, у якім месцы Галактыкі знаходзіцца бліжэйшая да Зямлі зорка — Сонца.

Але бадай самым цікавым адкрыццём радыёастраноміі трэба лічыць радыёвыпраменьванне халодных разрэджаных мас вадароду, які запаўняе міжзоркавыя прасторы Сусвету. У 1945 годзе галандскі астраном Ван дэ Холст тэарэтычна прадказаў, што існуе радыёвыпраменьванне міжзоркавага вадароду на хвалі 21 сантыметр. У 1948 годзе савецкі вучоны І. С. Шклоўскі даказаў, што «радыёголас» міжзоркавага вадароду можна адшукаць пры дапамозе радыёастраноміі. І вось гэтае радыёвыпраменьванне, тэарэтычна адкрытае вучонымі, у 1951 годзе было «прынята» ў трох розных пунктах зямнога шара.

Прычынай гэтага радыёвыпраменьвання з'яўляюцца змены, што адбываюцца ў атамах міжзоркавага вадароду. Адзіны электрон атама вадароду, які рухаецца вакол ядра, мае свой магнітны момант, гэта значыць, электрон сам падобны на маленькі магнічык. Магнітны момант электрона мае пэўны напрамак. Аказваецца, што ў атаме вадароду магчымы змены, якія прыводзяць да змен напрамку магнітнага моманту электрона на працілеглы. Паварот магнітнага моманту электрона ў адносінах да ядра прыводзіць да змяншэння энергіі атама. Энергія, якая вызваляецца пры гэтым, пакідае атам у выглядзе электрамагнітнага выпраменьвання і выносіцца радыёхвалямі, даўжыня якіх — 21 сантыметр. Такім чынам, атамы міжзоркавага вадароду з'яўляюцца прыроднымі крыніцамі гэтых радыёхваль.

Можа ўзнікнуць пытанне: ці часта ў атаме вадароду адбываюцца падобныя змены, што суправаджаюцца выпраменьваннем радыёхваль у 21 сантыметр. Вынікі вылічэнняў паказалі, што такія змены ў атаме вадароду адбываюцца адзін раз за 11 мільёнаў гадоў. Гэты прамежак часу нават для астранамічных маштабаў з'яўляецца значным. За 11 мільёнаў гадоў змяніўся воблік Зямлі, а дзе гарантыя, што не змяніліся некаторыя зоркі? Здавалася б, для атама вадароду, які, выпраменьваючы святло, узбуджаецца ўсяго толькі на адну стомільённую долю секунды, час у 11 мільёнаў гадоў з'яўляецца астранамічным кур'ёзам. Сапраўды, калі б размова ішла пра адзін атам вадароду, гаварыць пра такое малаверагоднае выпраменьванне не было б сэнсу. Але ў гіганцкіх скопішчах міжзоркавага вадароду такіх атамаў трыльёны трыльёнаў, і многія з іх выпраменьваюць радыёхвалі адначасова. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца няспыннае выпраменьванне міжзоркавым вадародам радыёхваль у 21 сантыметр, якія дасягаюць Зямлі.

Пасля таго, як чалавек навучыўся прымаць радыёхвалі, якія прыходзяць з далёкага зорнага свету, перад навукай адкрылася магчымасць пасылаць такія ж сігналы з Зямлі ў касмічную прастору. Збіраючы радыёхвалі накіраванымі антэнамі, іх можна паслаць у любое месца зорнага неба. А гэта вельмі важна, бо першыя касмічныя караблі на Марс і Венеру паляцяць без чалавека. Кіраваць імі будзе прамень радыёхваль, пасланы з Зямлі.

З магчымасцю пасылаць радыёхвалі з Зямлі ў касмічную прастору звязана яшчэ адна запаветная мара чалавека. А што, калі нашы радыёсігналы ўжо расказваюць жыхарам зорных светаў пра існаванне жыцця на Зямлі? А можа і зямныя радыётэлескопы прымаюць пазыўныя разумных істот з іншых светаў, ды вучоныя не могуць іх расшыфраваць? Магчыма, наша Зямля даўно ўжо знаходзіцца «на прыцэле» далёкага звышмагутнага тэлескопа? На першы погляд гэтыя думкі з'яўляюцца фантазіяй. Але давайце звернемся да рэальнасці.

Яшчэ некалькі гадоў назад словы: «штучны спадарожнік Зямлі», «касмічная лабараторыя», «чалавек у космасе» здаваліся фантазіяй. Цяпер гэта рэальнасць, якой мы ганарымся.

Чалавек — істота вельмі цікаўная. Здаўна ён верыць, што ў прасторах космасу існуюць нашы браты па Розуму. А цяпер гэтая неспакойная істота песціць яшчэ больш дзёрзкую мару — наладзіць сувязь з цывілізацыямі іншых светаў. І гэтая мара ў апошні час робіцца ўсё больш рэальнай.

Тры зоркі начнога неба прыцягваюць зараз увагу вучоных. Гэта Эпсілон у сузор'і Эрыдана, Тау ў сузор'і Кіта і Эпсілон у сузор'і Індуса. Гэтыя зоркі вельмі падобны на наша Сонца, яны маюць планетныя сістэмы, якія адпавядаюць усім умовам, неабходным для ўзнікнення жыцця. Іменна да гэтых зорак накіраваны думкі астраномаў, іменна на іх нацэлены антэны радыётэлескопаў.

З восені 1960 года амерыканская абсерваторыя Грын-Бэнк з дапамогай радыётэлескопа дыяметрам 27 метраў пачала настойліва праслухоўваць радыёвыпраменьванне на хвалі 21 сантыметр, якое прыходзіць ад зорак Эпсілон Эрыдана і Тау Кіта. Выдзеліць штучныя сігналы вучоным пакуль што не ўдалося, але яны не падаюць духам: назіранні мяркуецца працягваць на збудаваным нядаўна больш магутным радыётэлескопе, люстэрка якога мае дыяметр 45 метраў. Вучоныя добра ведаюць, што верагоднасць пошукаў разумнай інфармацыі сярод безлічы сігналаў, якія атакуюць нашу планету з усіх бакоў, вельмі малая. Але ж яны ведаюць і тое, што верагоднасць гэтая будзе роўна нулю, калі нічога не рабіць. Не палохае астраномаў і адлегласць каля дзесяці трыльёнаў кіламетраў, якая раздзяляе нас і зоркі Эпсілон Эрыдана і Тау Кіта. У выпадку, калі сувязь з мяркуемымі цывілізацыямі планетных сістэм гэтых зорак будзе дасягнута, адказ на сігналы, пасланыя з Зямлі, можна будзе атрымаць толькі праз дваццаць з лішнім гадоў. Гэта, вядома, вельмі доўга, але ж нічога не зробіш!

Нядаўна савецкі вучоны К. С. Кардашоў прапанаваў яшчэ адну цікавую ідэю. Ён падлічыў, што для адпраўкі сігналу якой-небудзь развітай цывілізацыі дастаткова пераўтварыць нязначную колькасць энергіі свайго Сонца ў радыёхвалі 21-сантыметравага дыяпазону. Яго разлікі паказваюць таксама, што такую «штучную» крыніцу радыёвыпраменьвання можна адшукаць зямнымі радыётэлескопамі нават у выпадку, калі яна знаходзіцца за межамі нашай зорнай сістэмы.

У сувязі з гэтай ідэяй асаблівую цікавасць выклікае спроба адшукаць падобную «штучную» крыніцу радыёвыпраменьвання ў славутай туманнасці Андрамеды. Зараз у нашай краіне распрацоўваецца высокаадчувальная апаратура, якая зможа лавіць сігналы гэтай загадкавай, адной з самых блізкіх да нас зорнай сістэмы, дзе існаванне разумнага жыцця найбольш верагодна. Далейшыя даследаванні абяцаюць шмат цікавага. Пад Масквой будуецца адна з буйнейшых у свеце антэн тэлескопа. У Пуэрта-Рыка заканчваюцца работы па стварэнню гіганцкай нерухомай антэны з дыяметрам люстэрка каля 300 метраў. Для збудавання гэтай рэкорднай антэны скарыстаны кратар патухшага вулкана.

Неўзабаве вучоныя не толькі будуць праслухоўваць космас, але і праводзіць актыўныя сеансы пасылкі радыёсігналаў з Зямлі. Наша планета падасць свой голас, і, хто ведае, можа ён будзе пачуты і расшыфраваны бліжэйшай да нас цывілізацыяй.

Можа ўзнікнуць пытанне: чаму для сувязі з разумнымі істотамі зорнага свету мяркуюць выкарыстаць даўжыню хвалі ў 21 сантыметр? Растлумачыць гэта вельмі проста. Па-першае, хвалі такой даўжыні менш за ўсё паглынаюцца атмасферай і міжзорным газам. Можна сказаць, для гэтых хваль уся прастора між двума светамі найбольш «празрыстая». Па-другое, разумныя істоты іншых светаў павінны на нейкім этапе свайго развіцця адкрыць радыёвыпраменьванне міжзорнага вадароду і мець апаратуру, якая працавала б на гэтай хвалі. Зразумела, што іменна на гэтай хвалі яны і па-

спрабуюць наладзіць сувязь са сваімі братамі па Галактыцы. Могуць сказаць, што ўсё гэта пакуль смелыя планы і гіпотэзы. Так, гэта пакуль толькі пачатак пошукаў. Але эпоха касмічных сувязей непазбежна настане.

**Алесь БОЛСУН.**

# ЭЛЕКТРОННАЕ СЭРЦА

Галоўная зброя ўрача — лякарства. Важна толькі правільна яго выбраць і вызначыць дозу. Завышаная або заніжаная доза не толькі не паможа хвораму, а нават можа пашкодзіць яму. Як жа рэгуляваць дазіроўку, улічваючы, што арганізм няспынна мяняецца ў працэсе хваробы і лячэння? Цяжка і амаль немагчыма загадзя дакладна ўлічыць патрэбную дозу прэпарата. Таму ўрач бярэ сярэднія нормы, што былі вызначаны можа яшчэ гадоў сто назад і прыжыліся як стандарты.

Для таго, каб змяніць дазіроўку ў час лячэння, урач павінен мець неадкладную інфармацыю з арганізма. На вялікі жаль, ён звычайна даведваецца аб неэфектыўнасці той ці іншай дозы толькі праз некалькі гадзін, а то і праз суткі.

А ці нельга зрабіць так, каб інфармацыя аб стане арганізма паступала хутка і каб, зыходзячы з яе, можна было прымаць адпаведныя меры? Гэта дало б магчымасць строга індывідуалізаваць медыкаментозную тэрапію. Над гэтым не раз задумваўся Георгі Іванавіч Сідарэнка, дацэнт кафедры факультэцкай тэрапіі Мінскага медыцынскага інстытута. Малады вучоны шмат гадоў прысвяціў вывучэнню перадінфарктных змен і прыйшоў да думкі, што існуе пэўная фазнасць паталагічнага працэсу пры пашкоджаннях міякарда. Калі ўрач будзе ведаць асаблівасці гэтай фазнасці ў кожнага хворага, ён зможа поўнасцю адмовіцца ад шаблону ў лячэнні і знайсці шлях дакладнай індывідуальнай тэрапіі. Як жа практычна перайсці да індывідуальнага дазіравання? Ці нельга зрабіць, каб сэрца само давала «заяўку» на патрэбную дозу лякарства?

Георгі Іванавіч Сідарэнка рашыў гэтую складаную праблему з дапамогай сучасных тэхнічных дасягненняў і кібернетыкі.

— Радыётэхнікай я пачаў займацца даўно, — успамінае Георгі Іванавіч. — Яшчэ ў 1937 годзе, калі Папанін са сваімі зімоўшчыкамі высадзіўся на дрэйфуючую ільдзіну, я сабраў лямпавы радыёпрыёмнік. Аднак пачуць станцыю «Паўночны полюс», на вялікі жаль, мне не ўдалося. Я лавіў толькі слабыя пазыўныя нейкай другой станцыі. З таго часу я і палюбіў радыётэхніку. Мой невялікі пакойчык заўсёды быў завалены дэталямі і тэхнічнай літаратурай, якую я ахвотна вывучаў. І, трэба сказаць, цяпер гэта мне вельмі спатрэбілася.

Георгі Іванавіч умее расказваць. І слухаць яго вельмі цікава, тым больш, што ён расказвае пра новае ў навуцы — садружнасць кібернетыкі і медыцыны.

Слова кібернетыка, якім названа маладая навука, паходзіць ад старажытна-грэчаскага «кібернетэс», што азначае «кормчы», «рулявы». Гэтая навука ўключае ў сябе тры асноўныя аддзелы: тэорыя інфармацыі, тэорыя самааналізуючых лагічных працэсаў, якія падобны чалавечаму мысленню, і тэорыя аўтаматычнага кіравання і рэгулявання. Развіццё кібернетыкі цесна звязана з вывучэннем фізіялогіі жывога арганізма. Гэта дало магчымасць стварыць аўтаматычныя вылічальныя машыны, якія па свайму прынцыпу дзеяння падобны да цэнтральнай нервовай сістэмы чалавека.

У 1961 годзе на Сусветным кангрэсе па медыцынскай кібернетыцы англійскі вучоны Х. Грын расказаў аб прыборы, які няспынна вядзе аналіз інфармацыі крывянога ціску і ў залежнасці ад вынікаў аўтаматычна ўводзіць у арганізм прэпарат, які то зніжае, то павышае ціск. Стрэлка манометра ставіцца на пэўнае дзяленне, і ўвесь час, скажам, пры хірургічнай аперацыі, за ціскам сочыць прыбор.

Пры гэтым выконваецца толькі воля ўрача і не ўлічваюцца патрэбы самога арганізма. Хіба адзін і той жа ўзровень крывянога ціску можа быць прыймальны для ўсіх хворых? Вядома, не.

Малады беларускі вучоны Георгі Сідарэнка пайшоў далей англійскага калегі. Ён паставіў перад сабой мэту: стварыць такую сістэму, якая магла б падаваць лекавыя рэчывы па загаду сэрца, прытым у дозах, якія неабходны для данага стану міякарда. Такая сістэма забяспечыла б максімальны эфект і аблегчыла б увод аптымальнай дозы лякарства з улікам усіх фізіялагічных змен.

Гэта была цяжкая задача. Акрамя ўсяго, некаторыя вучоныя яшчэ не верылі ў сілу кібернетыкі. Ды і для самога Георгія Іванавіча таксама не ўсё было зразумела, часамі яго ахоплівалі сумненні. Аднак ён не здаваўся і не адступіў ад сваёй задумы.

Паехаў у Маскву. Сустрэўся з правадзейным членам Акадэміі медыцынскіх навук СССР прафесарам В. В. Волкавым, які сам даўно цікавіцца медыцынскай кібернетыкай. Волкаў горача падтрымаў ідэю беларускага вучонага і даў шмат карысных парад. Гэта акрыліла Георгія Іванавіча.

Амаль пяць гадоў правёў ён у творчых пошуках, спалучаючы работу ўрача і тэхніка, выкладчыка і эксперыментатара. Яго лабараторыя — у розных месцах. То ён сядзіць перад электронным апаратам вылічальнай машыны, то горача спрачаецца з спецыялістамі па ра-



**У кардыяграфічным кабінеце тэрапеўтычнай клінікі Мінскага медыцынскага інстытута. Злева направа: дацэнт Г. І. Сідарэнка і яго асістэнт П. Г. Федзін.**

Фота **І. Змітровіча.**

дыётэхніцы, то доўгія гадзіны праводзіць у клініках.

Шмат тэхнічных пытанняў яму памаглі вырашыць радыёінжынер А. П. Емельянаў, кандыдат тэхнічных навук Г. А. Сапун, дацэнт універсітэта П. М. Чапыгін.

Першыя эксперыменты на жывёлах апраўдалі смелыя пошукі вучонага. На аснове законаў кібернетыкі была створана дзеючая канструкцыя, якая, падпарадкоўваючыся сігналам сэрца, вядзе няспынную аўтаматычную рэгуляцыю арганізма. Кожнаму элементу ў гэтай сістэме адпавядае пэўны элемент прыбора. Атрымліваецца свайго роду функцыянальнае пратэзаванне арганізма.

— Але перш чым прымяніць прыбор да жывога арганізма, — расказвае Георгі Іванавіч, — мы правялі шмат доследаў з электроннай мадэллю сэрца. Злучыўшы яе з нашым прыборам, мы выклікалі змены і парушэнні ў рабоце мадэлі, а пасля сачылі, з якой хуткасцю і дакладнасцю яны аўтаматычна выпраўляліся. Гэта дазволіла выбраць найлепшыя ўмовы работы прыбора, якія забяспечваюць максімальную хуткасць і дакладнасць. Пры распрацоўцы метаду лячэння былі скарыстаны ўсе асноўныя прынцыпы тэхнічнай кібернетыкі.

Пашыраным відам вострай сасудзістай недастатковасці, як вядома, з'яўляецца шок. У паддоследных жывёлін мы выклікалі розныя віды шоку і самастойна «даручалі» прыбору лячыць іх. Прыбор адразу ж пачынаў уводзіць у вены патрэбны прэпарат. Па меры таго, як узнаўляўся сасудзісты тонус і нармалізавалася работа сэрца, прыбор аўтаматычна спыняў падачу лекавых рэчываў. Жывёліне вярталася прытомнасць усяго за некалькі мінут, прытым — без удзелу ўрача.

Метад кібернетычнай тэрапіі можа быць скарыстаны і ў хірургіі. Прыбор можа рэгуляваць і гарантаваць работу сардэчна-сасудзістай сістэмы ў час аперацыі. Знойдзены таксама метадычныя прынцыпы стварэння апаратуры для лячэння хворых з хранічнымі парушэннямі кровазвароту. Для гэтай мэты арганізоўваецца спецыяльная праблемная лабараторыя кібернетычнай тэрапіі.

Выкарыстанне кібернетыкі ў медыцыне дазваляе ажыццявіць яшчэ больш смелыя планы. Недалёка той дзень, калі перамога над цяжкім захворваннем чалавека будзе атрымана ў выніку дакладнага разліку.

**Павел ТОРМАСАЎ.**

## Крытыка і бібліяграфія

# ТОЛЬКІ ЎПЕРАД!

Наша грамадства выходзіць на новыя рубяжы ў пабудове камунізма. З іх, з гэтых рубяжоў, мы пановаму бачым і наша мінулае, і нашу будучыню. У мастацкіх творах чытач спадзяецца знайсці вобразнае, эмацыянальнае асэнсаванне складаных жыццёвых з'яў і канфліктаў. Гэта — натуральна. Гэта — зразумела.

Зноў і зноў паўстае перад мастакамі пытанне аб грамадзянскай адказнасці перад народам. Вяаўнічы характар савецкага мастацтва патрабуе ад кожнага пісьменніка наступальнай актыўнасці. Асабліва ў наш час, калі ў капіталістычным свеце ёсць шалёныя ваякі, якім не церпіцца націснуць кнопку атамных ракетных установак. А пакуль ім гэтага зрабіць не ўдаецца, яны вядуць у нашых шэрагах ідэалагічную разведку. Ім, вядома, падабалася б наша мастацтва, калі б у ім не было акрэсленых «за» і бескампрамісных «супраць», калі б яно было абыякавае да вялікіх сацыяльных пытанняў, якія ставіць наш час.

Але такога не бывае. Ні ў адной галіне творчасці. А ў паэзіі, асабліва лірычнай, дзе рэчаіснасць асэнсоўваецца праз непасрэдныя эмацыянальныя перажыванні чалавека, — тым больш.

Успомнім Маякоўскага — Паэта з вялікай літары. Хоць яго вершы «зацытаваны» дарэшты, хоць мы памятаем усе яго афарыстычныя выказванні і нам знаёмы амаль што кожны выдатны радок паэта, — яго паэзія, прайшоўшы праз магутны ўзмацняльнік — час, гучыць для нас сёння з новай сілай, бо ў ёй знаходзіць сваё адлюстраванне духоўны воблік нашага сучасніка, які жыве радасцямі і трывогамі свайго вялікага часу.

Маякоўскі першы ў савецкай, ды і ў сусветнай, літаратуры адкрыў невычарпальныя крыніцы паэзіі ў грамадскай прыродзе чалавека, закліканага рэвалюцыяй да вялікай гістарычнай творчасці.

Господа поэты,  
неужели не наскучили  
пажи,  
дворцы,  
любовь,  
сирени куст вам?  
Если такие, как вы —  
творцы,  
мне наплевать на всякое  
искусство.

Гэты палемічны зварот да аматараў апяваць «прыгожае» і «ўтульнае» ў той час, калі на планеце не сціхаюць грозныя вятры вялікіх сацыяльных бітваў, і сёння гучыць вельмі надзённа.

Поэт
настоящий
вздувает
заранее
из искры неясной
ясное знание.

З такім патрабаваннем ставіцца да паэзіі грамадства, упэўненае, што мастак на тое і мастак, каб умець у сённяшнім жыцці чалавека, краіны і ўсяго свету адрозніваць заканамернае ад выпадковага, буйнае ад дробнага, вартае ад другараднага.

Больш за ўсё Маякоўскі ненавідзеў банальнасць думкі і заштампаванае слова. «Для мяне нясцерпная думка, што ружа выдумана не мной», — гаварыў ён.

Уладзімір Маякоўскі заклікаў паэтаў здабываць патрэбнае часу і каштоўнае для чалавека слова

из артезианских
людских глубин.

Мы часта і ахвотна паўтараем вядомыя словы Уладзіміра Маякоўскага: «пра час і пра сябе», ды некаторыя разумеюць іх крыху інакш: «пра сябе і... пра час». Не трэба забываць пра найпершы абавязак мастацтва — перад часам. Тады і споведзь «пра сябе» ніколі не збочыць у «лірычныя хмызнякі».

Відаць, не будзе памылкаю сцвярджаць, што часцей за ўсё чытач прымае ў сваю, умоўна кажучы, душэўную бібліятэку — назаўсёды ці на час — тыя вершы паэта, у якіх перададзены і яго, чытачовы, вельмі асабістыя перажыванні, у якіх ён пазнае свае мары і імкненні, свой роздум і сваю трывогу. Магчыма, у такіх узаемаадносінах паэта і чытача больш за ўсё і праяўляецца грамадзянская мэтанакіраванасць мастацтва, бо ці ж ёсць для літаратуры што-небудзь больш пачэснае, чым высакародная мэта набліжэння чалавека да чалавека! Ці ж не яе гэта клопат, каб усе савецкія людзі разумелі адзін аднаго, як таварышы, сябры і браты па агульнай, усенароднай справе!

Гэтае прызначэнне лірычнай паэзіі — грамадзянскае па самой сваёй сутнасці. Таму мы адкідаем, як непатрэбную шырокаму колу чытачоў, лірыку дробных пачуццяў, споведзі прэтэнцыёзнага «я», за якім ледзь угадваецца бедненькі запас інтэлектуальнага і душэўнага жыццёвага вопыту. Права на размову з сучаснікамі мае далёка не кожны — гэтае права паэт заваёўвае тым, што сам здабывае няпростыя веды аб жыцці, прымаючы непасрэдны ўдзел у справах свайго пакалення. Атэстат сталасці, атрыманы юнаком у школе, нельга атоесамляць са сталасцю чалавечага характару. З гэтым атэстатам адзін можа ўзначаліць вытворчую брыгаду на цаліне і нават быць здольны па-гайдараўску камандаваць палком, а другі так і застаецца «вечным студэнтам», які мяркуе і разважае пра навакольную рэчаіснасць з пазіцый па-кніжнаму адукаваных суседзяў па інтэрнату.

Як гэта ні дзіўна, аднак я пераканаготы ў тым, што ў наша вельмі ўдумлівае XX-е стагоддзе нас больш вабяць да сябе вершы з акрэсленай задумай, з непасрэдна шчырым, жыццесцвярджальным пафасам. Гэта датычыць і так званай інтымнай лірыкі. Калі мы нават у горкую хвіліну жыцця паглыбляемся ў свет паэзіі, дык не для таго, каб разверадзіць свой боль і зусім страціць веру ў жыццё, а для таго, каб глыбей зразумець самога сябе, знайсці шляхі духоўнага ўзбагачэння. Паэзія збліжае людзей інтэлектуальна і эмацыянальна, аб'ядноўвае іх, робіць больш зразумелымі тыя глыбокія пачуцці, што хвалююць кожнага з нас у розныя хвіліны жыцця.

Я размаўляў з інжынерам, які будуе мост-віядук на былой ускраіне горада. Мост гэты павінен быць як мага лягчэйшы. Разлікі, бясконцыя разлікі — усё непатрэбнае рашуча адкідаецца прэч. «Павінен застацца толькі мост», — строга сказаў інжынер.

Так і ў мастацкім творы павінна быць адкінута ўсё лішняе, усё непатрэбнае, акрамя таго, што робіць яго мостам паміж чалавечымі сэрцамі.

У час нядаўніх сустрэч кіраўнікоў партыі і ўрада з мастацкай інтэлігенцыяй у Маскве яшчэ раз з ленінскай патрабавальнасцю было падкрэслена, што сіла савецкай літаратуры — у яе высокай ідэйнасці, у яе глыбокай сувязі з жыццём народа. Літаратура, мастацтва паспяхова выконваюць свой пачэсны абавязак перад грамадствам тады, калі сумленна памагаюць партыі ў працэсе камуністычнага будаўніцтва выхоўваць новага чалавека.

Размова пра вершы, напісаныя ў апошні час паэтамі розных пакаленняў, можа быць зацікаўленай і гаспадарскай, калі мы падыдзем да іх ацэнкі з гэтых адзіна правільных пазіцый.

У жывым творчым працэсе выяўляюцца здабыткі і страты паэтычнай працы. І яны павучальныя. Да іх варта прыгледзецца ўважліва, каб у далейшым было больш здабыткаў і менш страт.

Пачнем з таго, што не можа не радаваць.

Не памятаю, калі і дзе ўпершыню пачуў я словы пра тое, што месяц у вячэрнім небе нагадвае дужку, якой, бывае, «выдзяляюць пабочны сказ». А можа мне самому некалі гэта прыходзіла ў галаву. Аднак, гэта было. Было ў жыцці. І калі я напаткаў паэтычныя радкі:

За гэтай дужкай —
Многа тайнаў месцiцца,
Іх за адно жыццё не разгадаць.
І варта жыць,
Каб неба ўсё — ад Месяца
Да самых дробных зорак —
прачытаць, —

мяне ахапіў радасны настрой: адкрыццё новага адбылося. І няхай верш напісаны няроўна і сведчыць толькі аб набліжэнні аўтара да творчай самастойнасці, аднак ён аказаўся патрэбны мне, і маім сябрам, і ўсім чытачам, бо ў ім свежа, па-новаму сказана пра адвечную чалавечую прагу пазнаць свет. Сказана вельмі проста, па-юнацку наіўна, але ў гэтай прастаце, у гэтай наіўнасці, магчыма, і ёсць хараство адкрыцця, да якога далучаемся і мы, чытаючы радкі з верша Юрася Свіркі.

Адвечны прадмет паэтычнай увагі — «месяц» і «дужкі», якімі, акрамя ўсяго іншага, «выдзяляюць пабочны сказ», тут пададзены ў вельмі сучасным святле. І сучаснасць не прышпілена па-кавалерыйску… па-камен-татарску ў пабочным сказе, а складае змест паэтычнага адчування рэчаіснасці.

Падобная паэзія прымушае нас па-новаму «чытаць прыроду» і па-новаму разумець чалавека, які яе «чытае».

Хвала той песні,
што навучыць рана
Чытаць пялёсткі красак,
сцежкі на расе,
Шматкроп'і зор,
працяжнікі маланак —
Ды лепей, чым па азбуцы
Марзэ.
Чытаць маршчынку кожную
на твары,
Калі на ім святло,
калі на ім і цень...
Калі табе дае руку таварыш —
Чытаць яго далонь,
як гэты ясны дзень.

Гэта верш Міколы Арочкі.

Збліжэнне гэтых розных вершаў, магчыма, выглядае крыху штучным. Ды нас цікавіць не фармальнае падабенства асобных метафар («дужка Месяца» ў Ю. Свіркі і «шматкроп'і зор» ды «працяжнік маланак» у М. Арочкі), зусім не! Радуе імкненне паэтаў, умоўна кажучы, ачалавечыць Сусвет, зрабіць яго «чытабельным». Такая паэзія не зазнае стомленасці пачуццяў, не прасякнецца недаверлівым стаўленнем да жыцця, не залюбуецца позай скептыка. Яна жыццесцвярджальная і абуджае актыўнасць эмоцый і дапытлівасць думкі. У ёй па-сучаснаму ўспрымаюцца адвечныя тэмы і вобразы.

А як хораша і натуральна адчувае сябе чалавек працы ў вершы Васіля Макарэвіча «Упартасць». Ёсць у ім, у гэтым чалавеку, штосьці па-сапраўднаму прыгожае, велічнае і высакароднае:

Злілася соль
у адзіны ком,
у белы
спрасаваны камень.
Мы дробім яго кайлом
і кіркой,
сячом з-за пляча ламамі.
Пыл наеддзю ліпне
на ссохлых губах.
Над спінамі —
пара гарачая.
Гарошыны поту
сарвуцца з ілба,
абутак і соль раз'ядаючы...

Мне даводзілася нарыхтоўваць лес, капаць акопы, будаваць бліндажы, цягаць скрыні са снарадамі. Ніколі я не разгружаў соль. А чытаючы гэты верш, я адчуваў на

вуснах салёны смак і мне таксама хацелася «глынуць вады з карца».

Пасля, калі хлопцы, хістаючыся ад стомы, ішлі дадому, «сонца пад сем пар ног слала з промняў свае прасцірадлы». Звычайны малюнак, узбагачаны не кніжнай, вычытанай, а зразумелай і запрацаванай, калі так можна сказаць, метафарай, ад якой святлее на душы. Такой працы — для сябе і для людзей — не пашлеш праклёну, ёй, цяжкой, як выпрабаванне, — будзеш удзячны.

Узнагарода за такую працу двайная: па-першае, ты адчуваеш сябе вартым чалавекам, па-другое, маеш права на сумленна запрацаваны хлеб. Той хлеб, смак якога ты помніш яшчэ з маленства. Той, пра які можна гаварыць натхнёна, проста і паэтычна. Бо ці ж гэта не адна з чалавечых радасцей!

Я столькі ўдыхаў калісь гэтага
водару!..
Хадзіла ў дзяжы рашчына
ходарам.
Хадзіла-брадзіла хлебнае
цеста.
Было ў дзяжы яму, цесту,
цесна.
Яно шапацела, прасіла ходу,
Хацела вырвацца на свабоду...

Пасля такіх радкоў нейк інакш глядзіш на бохан хлеба. Нібы перад табой — твор мастацтва, які падаравалі табе дарагія матчыны рукі. Аб гэтым з удумлівым і стрыманым хваляваннем гаворыць Анатоль Вярцінскі ў паэме «Песня пра хлеб». Тут не толькі ўспамін пра дзяцінства. Значна больш важна жаданне паэта напомніць, што такое працоўны хлеб, той моладзі, што атрымлівае яго даволі лёгка ў магазінах-аўтаматах. Паэт у сціплых малюнках вясковага жыцця раскрывае веліч і хараство чалавечай працы, вучыць шанаваць хлеб. Не павучае, а вучыць. Па-народнаму пераканаўча і не надакучліва:

...Становіцца цеста боханам
круглым,
І матчыны рукі спрытным
рухам
Садзяць яго на чарэнь
гарачую,
Жадаюць, каб ён, першы,
удачаю...
Час настане,
і на загнеце
Дымяцца боханы лепшыя
ў свеце.
Дыміцца, водар жывы
выпраменьвае
Хлеб свежажытнёвы,
хлеб чарэневы,
Хлеб са скарынкай
румянай,
хрусткай,
Хлеб з печы старэнькай,
цаглянай,
рускай.

«Песня пра хлеб» А. Вярцінскага — добры прыклад твора-моста, які перакінуты ад чалавека да чалавека. Калі дачытваеш паэму да канца, дык разам з паэтам у думках звяртаешся да працавітых хлебаробаў:

І хай, калі новы хлеб
замесіцца,
Свеціцца рог маладога месяца
Над вёскай,
над нівамі,
над статкамі
Рогам багацця ды дастатку.
І хай яшчэ сонца ўзыходзіць
над краем
Толькі што спечаным
караваем.

Гэта — голас чалавека не ў літаратурных спрэчках і кулуарных размовах. Ён — ад зямлі і пра зямное. Паэт прымушае нас адчуць тое, што складае вялікую сутнасць самога слова «хлеб», бо мы і цяпер часцей прыгадваем хлеб, як адзнаку чалавечай вартасці, калі гаворым: «Ён не дарма есць хлеб», ці «Ён сумленна зарабляе хлеб» і г. д. І добра, што паэт здолеў абудзіць у чытачоў не «спажывецкія» асацыяцыі, а грамадзянскі роздум.

Паэзія не ведае забароненых тэм: у яе сферы знаходзіцца каханне і нянавісць, жыццё і смерць, адданасць і здрада. І не толькі таму, што адвечныя пытанні паўстаюць у новым святле перад кожным новым пакаленнем, але і таму, што грамадзянскага ўмяшання патрабуюць ад мастацтва ўсе сферы сённяшняй рэчаіснасці.

Кажучы пра грамадзянскія матывы ў паэзіі, дарэчы будзе прывесці адзін вобраз з верша Максіма Танка «Замініраванае поле», дзе паказана мірнае поле, у нетрах якога хаваецца пакуль што нямое «рэха вайны»:

І, прытаіўшыся, сурова
Маўчаць зямлі цяжкія глыбы,
Бо нават песня жаўрукова,
Апаўшы, выклікае выбух...

Вось такім полем мне асабіста ўяўляецца іншы раз наш чытач: ён гатовы адказаць і адазвацца на кожнае трапнае слова паэта. У людзей абуджаны высакародныя пачуцці, а ўнутраная адухоўленасць спалучаецца з патрабавальнымі адносінамі да іншых і да сябе. Мы ўсё больш шануем чалавечае ў чалавеку і ўсё больш адказваем адзін за аднаго — перад грамадствам, краінай, светам. А паэзія, у прыватнасці, лірычная, вельмі чулая да такіх грамадскіх імпульсаў. Не з'яўляецца выключэннем нават пейзажная лірыка і лірыка кахання. Ды і лірыка ўспамінаў, калі так можна назваць пэўны характар вершаў аб мінулым.

У К. Маркса ёсць выказванне аб тым, што нават у адносінах паміж мужчынам і жанчынай («ім» і «ёю») амаль заўсёды «выяўляецца, наколькі чалавек у сваім індывідуальным быцці з'яўляецца ў той жа час грамадскаю істотай».

Вось чаму і ў так званай інтымнай лірыцы мы заўсёды чуем грамадзянскія матывы — ці то яны выказаны на ўвесь голас, ці схаваны ў глыбіні падтэксту. Калі каханне ўзвышае чалавека, робіць яго больш моцным і духоўна падрыхтаваным да працы, змагання і подзвігу, — то гэтае пачуццё толькі ўмоўна можна назваць інтымным. Яно, такое, патрэбна не толькі і не выключна «яму» і «ёй», а ўваходзіць у агульную чалавечую радасць, сведчыць аб перамозе светлага і добрага ў людзях.

У адным з вершаў Сяргея Дзяргая па-народнаму дасціпна гучыць пытанне: «Хіба ты ўсе тайны вызнаеш, усе думкі выснуеш, усе дзівы выглядзіш, усе маршчыны выгладзіш, зло з карэннем выдзярэш, сэрца свае выдарыш?». «Адкажы ты мне?» — звяртаецца «ён» да «яе».

Калі любіцца,
кахаецца,
Калі сэрца
не вагаецца,
Калі лёс, як воўк,
не крадзецца,
Калі сябар з сябрам
радзіцца...
Калі лёгка,
не бядуецца,
Калі новы свет
будуецца —
А чаму б і не?
А чаму б і не?

Гэта — хараство інтымнага пачуцця. І разам з тым грамадскае разуменне шчасця ўдвух. Натуральна і важка кладуцца тут словы пра «новы свет».

Вядома, было б вульгарызатарствам кожную лірычную споведзь закаханага тлумачыць і ацэньваць з пункту гледжання сацыяльнай мэтанакіраванасці, — такое ў нашай літаратурнай крытыцы назаўсёды адышло ў нябыт.

Аднак жа ці правільна будзе сцвярджаць, быццам усякае адлюстраванне жывога жыцця ў лірыцы ўжо само па сабе прасякнута грамадзянскім пафасам, быццам кожны, у тым ліку і сузіральны пейзаж у лірычным творы абавязкова служыць патрыятычнаму выхаванню чытача. Удзельная вага грамадзянскага ў інтымнай і ў пейзажнай лірыцы вымяраецца вельмі тонкаю, далікатнаю меркай. У пацверджанне гэтай думкі спашлемся на народнага паэта Латвіі Яна Судрабкална. Ён прачытаў адной чы вершы, у якіх аўтар напісаў прыблізна наступнае: курыца ўбачыла ў полі за вёскай жоўтыя люцікі, і ёй здалося, што гэта ўвесь луг стракаццю жоўтымі куранятамі. Ян Судрабкалн прыгадвае чатырохрадковы верш Уолта Уітмена пра іншую кветку — першы вясновы адуванчык. І вось чаму: «Звычайны адуванчык, — заўважае ён, — прымушае амерыканца падумаць пра палітыканаў, моды, грашовыя справы. Я зусім не супраць люцікаў з куранятамі — гэта прыгожая ідылічная замалёўка, але я хачу сказаць, што з кожнага назірання павінна вырастаць ясная думка, глыбокае пачуццё. Гэтага можна дасягнуць з дапамогай розных матэрыялаў і сродкаў, з дапамогай люцікаў і адуванчыкаў, любоўнага суму і радасці, апавядаючы аб народнай барацьбе. Трэба толькі, як няшчасця, пазбягаць слізгання па паверхні, дробнасці... Не кожнаму гэтае патрабаванне па плячы, аднак да глыбіні і маштабнасці павінен імкнуцца кожны».

Вядома, не абавязкова, каб у кожным вершы называліся і харак-

тарызаваліся буйныя сацыяльныя з'явы. Аднак нават у інтымных і камерных творах сапраўднай лірыкі гул часу, водбліскі сусветных навальніц, адценні грамадскага быцця абавязкова адчуваюцца. І метафарычнасць таксама падказваецца стаўленнем мастака да вялікіх творчых задач.

Механічна надаваць вершам грамадзянскі пафас нельга. Ён — не тлумачальная прыпіска да тэксту і не дзелавы каментарый, якім аздабляюцца радкі. Ён — сутнасць верша. І агульнага настрою, і кожнай паэтычнай дэталі, кожнай метафары, кожнага тропа. Гэта толькі здаецца, нібыта яму дастаткова быць «расшыфраваным» у апошняй страфе, каб думка яго акрэслілася, як мараль у байцы.

Прыгадаем куляшоўскі верш «Таварыш соснам, караедам вораг...», дзе таксама ідзе гаворка аб ролі і прызначэнні паэтычнага слова. У яго лексіцы няма амаль нічога вонкава публіцыстычнага, затое ўвесь пафас — грамадзянскі па ўсёй сваёй сутнасці. Верш паэта

Аб людзях дбае, каб
у падвалінах
Іх новых хат не завялася гніль.
А хто падлічыць, колькі
соцень міль
Пратупаў ён птушыных
па лясінах?

А колькі тысяч маладых хваін
Адратаваў ён у бары
сасновым?
А колькі вандраваць яму,
каб словам
Боль загаіць людскі, хаця б
адзін?

Грамадзянскі неспакой, творчая няўрымслівасць, суровая патрабавальнасць да сябе знайшлі сваё выяўленне ў вельмі пераканаўчай вобразнасці. Па-новаму ўспрымаеш цяпер усю творчасць Аркадзя Куляшова і разумееш, наколькі сапраўды патрэбнае і працавітае бывае паэтычнае слова, які вялікі яго грамадзянскі абавязак.

Гэта — і наконт метафарычнасці ў вершах. Як вядома, метафара мае значэнне вобразнай канкрэтнасці, калі ўзбагачае чытача больш значным уяўленнем пра рэчы і з'явы, аб якіх непасрэдна ідзе гаворка. Гэта не фармальная аздоба верша і не толькі прыкмета аўтарскага майстэрства. Метафарычнасць павінна быць падказана і абумоўлена зместам верша, задумай паэта. Менавіта вось так успрымаеш натхнёныя словы Аркадзя Куляшова пра верш, здольны «дбаць, каб у падвалінах новых хат не завялася гніль». Які змястоўны і грунтоўны гэты вобраз! За ім — ланцуг асацыятыўных дум, якія ўладарна выклікае ў чытача паэт. Нельга сказаць, быццам надзённасць верша ляжыць на паверхні. Ды толькі хіба чытач не падумае пра добры клопат паэта, каб пасля гістарычных падзей апошняга часу ў нашым савецкім грамадстве не адчувала сябе ў бяспецы ўсялякая гніль — палітычная абывацельшчына, грамадзянская абыякавасць, мяшчанская самазадаволенасць.

А гэта наш сённяшні клопат!

Зусім нядаўна, калі ў асяроддзі мастацкай інтэлігенцыі абмяркоўваліся хвалюючыя пытанні творчага жыцця, звярталася ўвага і на праблему «бацькоў і дзяцей». Мы адкінулі прэч гэтую «праблему», бо яна была штучнай. Маладыя і сталыя творчыя сілы на справе даказалі і даказваюць, што ў нас няма варожасці паміж пакаленнямі. І вось у гаворку аб усім гэтым мог бы ўступіць Янка Купала. Памятаеце яго пранікнёнае, бацькоўскае: «Мілая моладзь, слаўная моладзь...» Здаецца, радкі гэтыя напісаны сёння. Ён — з намі, наш Купала, ва ўсіх нашых клопатах і трывогах:

Мілая моладзь, слаўная
моладзь
Нашай бязмежнай краіны!
Горы і мора можаш ты
здолець,
Сэрцам расплавіць ільдзіны.
Знала паходы ў цёмныя ночы,
Гіканне хеўры варожай.
Смерці глядзела ночамі ў вочы,
Ястраб начлегі трывожыў...

Нешта ад народнай песні чуецца ў гэтым бацькоўскім звароце да «мілай моладзі». Вобразы выклікаюць змястоўны роздум у чытача, падрыхтаванага ўжо і да публіцыстычнага ўспрыняцця ўсяго верша пра тое, як «сцелецца к сонцу дарога».

Грамадзянскі змест паэтычнага твора можа набываць вельмі яркую форму. Важна, пры гэтым мець на ўвазе, ці ёсць што-небудзь, і што менавіта, за вобразным увасабленнем жыццёвых з'яў. Паэтыка — арсенал вельмі багаты і разнастайны. І ці правільна абвінавачваць аўтараў і абвяшчаць неакрэсленымі па ідэйнай задуме вершы, у якіх грамадзянскі пафас не ляжыць на паверхні, не кідаецца ў вочы спецыяльна падкрэсленым афарыстычным радком.

У Рыгора Барадуліна ёсць верш «Набгом». Паэт намаляваў выразную карціну партызанскага звычайнага дня — без баёў, без разведкі, без выбухаў на чыгунцы. Малады сувязны цягне са студні «ваду спакойную». Спакойную, бо «лясны раён — зацішна ад вятроў». Потым п'е гэтую ваду «набгом з поўнага... толькі ходзіць кадык». Прайшоў час. І вось паэт успамінае:

Тады
хлопцу ўшацкаму столькі
год
было,
колькі і сёння мне.
Па вясне,
калі адгрыміць крыгаход,
аб наступленні цяпла
папярэдзіць, як дыктар,
гром —
і сонца смех,
і аблачынак апошні снег
п'ю з неба,
як з поўнага кубка,
набгом,
бо сувязны
не дапіў...

«У гэтым вершы няма грамадзянскага пафасу. Ён не гаворыць пра напружанне барацьбы народных мсціўцаў...» — прыблізна так можа сказаць крытык, які чытае толькі тэкст. Але паэту дастаткова сказаць пра ваду — «спакойная», каб чытачы ў сваім уяўленні прыгадалі, што ўсё астатняе або амаль усё ў тагачасным жыцці чалавека спакойным не было. Паэт гаворыць: «лясны раён — зацішна ад вятроў», і зноў мы затрымліваем увагу, бо перад намі карціна значна багацейшая за літаральны тэкст.

Вобраза партызана-сувязнога ў вершы няма, але ў думках нам уяўляецца нехта з нашых бацькоў або старэйшых братоў, з нашых таварышаў і паплечнікаў. І гэта не лірычны герой верша, а я і ты, гэта мы «п'ем з неба, як з поўнага кубка, набгом» і «сонца смех, і аблачынак апошні снег», — тую радасць жыцця, да якой не дажыў сувязны.

Грамадзянскі характар лірыкі ў вершы «Набгом» відавочны. Ён — у сутнасці тэксту.

Рыгора Барадуліна часам забаўляюць на ўзбочыны вялікай дарогі танныя спакусы здзівіць чытача, задаць яму загадку-рэбус, які не мае ніякага сэнсу, бо з'яўляецца вынікам практыкаванняў па майстэрству верша с к л а д а н н я. Возьмем хоць бы наступны верш:

Касцёр,
што грэе азяблы вечар, —
Нібы касцёл
сярэднявечча,
Які
шпіляў чырвоныя языкі
Узносіць у вышыню.
Яліны
хіляць галіны,
Моляцца богу агню.

Тут усё дрэнна. І чырвоныя языкі шпіляў, і касцёр, які не асвятляе, а грэе азяблы вечар (дарэчы — хто каго грэе?). Ды і наўрад ці можна падумаць, быццам лясныя яліны, асветленыя вогнішчам у цемры, нагадваюць тых, хто... моліцца. Звычайна, наадварот, полымя ў начным лесе падкрэслівае веліч і непахісны мудры спакой дрэў. Аднак горш за ўсё тое, што ў вершы няма думкі, хоць колькі-небудзь вартай паэтычных намаганняў. Хваёвы лес нагадвае паэту, на жаль, толькі натоўп веручых. Ці не мудрагелiста гэта?

Мне больш па сэрцы той лес, які ўбачыў, напрыклад, Алесь Наўроцкі. Яго герою

... відаць,
Як ёлка вярхушкай-штыком
Заходзячае сонца рассякае
напалам...
Белым бінтам бяроза бінтуе
рану,
Якую пакінуў цяжкі асколак.
Той асколак, які хацеў
згубіць
І гэты вечар з цішынёй
пявучай
І мяне, хто слухае гэтую
цішыню.

Верш так і называецца — «Цішыня», але колькі ў ім пачуцця, як красамоўна ён гутарыць з намі, прымушаючы больш пільна і

ўдзячна глядзець на прыроду. Успомнім, якое рознае сонца ў розных мастакоў слова — аж да незабыўнага «чорнага» ў Міхаіла Шолахава. Малады паэт убачыў яго рассечаным напалам вярхушкайштыкам. Гэта, па-першае, вобраз новы, раней не скарыстаны, здаецца, нікім. Па-другое, ён вельмі метафарычны, важкі, ёмісты. Такое сонца выклікае амаль бясконцы ланцуг асацыятыўных дум: і пра тых, хто намагаўся пагасіць сонца зброяй, і пра тое, што сонца можа быць паранена, і пра тое, што яно незгасальнае. Сонца — жыццё. Сонца — мір... Вобраз узнімаецца да вялікага абагульнення-сімвала. А ў вершы — гэта ўсяго два радкі, напісаныя нібы мімаходзь, але якія ператварыліся ў паэзію значных думак і ўсхваляваных пачуццяў.

Аднак нельга спадзявацца, што самі па сабе гэтыя «нібы» і «мімаходзь», як мастацкія сродкі, могуць быць выратавальнымі, каб трымаць любыя радкі на хвалях сучаснасці. Бывае, у вершы ёсць прыкметы і паэзіі, і хвалявання, і тэхнікі версіфікацыі, ды вершам у сапраўдным разуменні гэтага слова яго нельга назваць.

Памятаю, як я пакутаваў, не разумеючы, чаму мяне так усхвалявала першая страфа аднаго такога верша і так засмуціў ён увесь цалкам. «Мая!», — прагучала ў ім спачатку: гэта «ён» крычаў «ёй». І «пацвердзіў рэхам шчыры бор», і «панеслі вятры на прастор», і «дзяцел штамп паставіў на сасне». Гэта хоць даволі трывіяльнае, але абяцанне нечага новага, бо сказанае можа быць далей замацавана нечаканымі пераходамі думкі і настрою, абвергнута ці абарвана на нейкім недагавораным слове. Аказваецца, уся «паэтычнасць» радкоў абмяжоўваецца зноў-такі банальным сцвярджэннем: каханне будзе жыць,

> Пакуль сінее неба нада мной,
> Пакуль звіняць разгульныя
> вятры,
> Пакуль не моўкне рэха
> ў бары...

Шчыра? Не сумняваюся. Паранаўча? Магчыма. Гладка? Вядома, верш складзен са стараннасцю сумленнага вучня, з веданнем пэўных прыёмаў вершаванай тэхнікі. Але больш ніякіх вартасцей у гэтым творы Дануты Бічэль няма. Ні ў тэксце, ні ў пафасе, ні ў сэнсе.

Якія б прыгожыя і шчырыя пачуцці не апяваліся такім чынам, паміж светам вялікай паэзіі і падобнымі рыфмаванымі лістамі да каханага — адлегласць большая, чым да Месяца.

Гэта можа здацца парадаксальным, але менавіта пазбаўленая грамадзянскага пафасу паэзія трацiць рысы мастацкай індывідуальнасці, робіцца лірыкай «увогуле». Вось радкі з верша Еўдакіі Лось, якія маглі б быць працягам верша Дануты Бічэль, які мы прыводзілі вышэй:

> Мы ішлі па расе басанож,
> Дарагіх ты мне слоў не сказаў,
> Але я іх пачула ўсё ж —
> Ты іх дрэвам усе перадаў...

«Рэха ў бары» і «дрэвы», якім прызначана быць удзельнікамі камерных любоўных канфліктаў, вандруюць з кніжкі ў кніжку, з верша ў верш.

Вось ужо не бор і не дрэва ўвогуле, а канкрэтнае — яблыня. Чытаем пра яе ў А. Наўроцкага:

> Ціха льецца сонца. Ціхі подых
> мая.
> Яблыня кахання беллю
> расцвітае.
> З касой за плячыма па зыркай
> расе
> Кожны гэту яблыню ў душы
> нясе.
> Асірацела лета. Пуста ўсё
> наўкол.
> У душы ад яблыні адзінокі
> ствол.
> Чорны снег пасыпаўся. Чорная
> зіма.
> Быў хоць ствол, а зараз і яго
> няма.

Пастараемся не зважаць на штучныя звароты і тропы (чаму — «з касой за плячыма» кожны нясе «яблыню кахання» і што за містычны «чорны снег» паглынае «ствол» яе?). Насуперак вонкавай арыгінальнасці радкоў, яна вельмі знаёмая і даўно надакучыла, гэтая яблыня. Бо ці раней, ці то пасля яе нам ужо сустракалася такое:

> Калі адчуе лета халады,
> Страсаюць з яблынь спелыя
> плады...
> Ім ёмка на падушцы з дзірвана,
> Іх завязала
> першая вясна.
> Чаму мне сумна робіцца
> заўжды,
> Калі страсаюць з яблынек
> плады?

«Чаму, сапраўды?», — хочацца спытаць паэтэсу Еўдакію Лось. Чытач павінен хоць бы здагадвацца, адкуль ён бярэцца, той лірычны сум. Адказу на гэтае пытанне ў вершы «Калі адчуе лета...» шукаць дарэмна. І ў тэксце, і ў настроі. Бо гэтая «яблыня» Еўдакіі Лось успрымаецца, як сястра «Яблыні кахання» Алеся Наўроцкага. Глыбакадумнасць верша — уяўная. Ды і ці могуць прывесці паэта да плённага выніку разважанні накшталт: жыццё нараджаецца, развіваецца і адыходзіць у нябыт — такі ўжо закон прыроды і нічога тут, сябры мае чытачы, не зробіш.

У паэзіі нярэдка здараецца так: паэт вядзе размову па адвечных і агульначалавечых праблемах «дабра» і «зла», «жыцця» і «смерці». Катэгорыі бяруцца ўзбуйненыя, а радкі апавядаюць пра нешта звужанае, камернае, дамашняе. Думаеш, чаму гэта так, і прычыну бачыш у зніжэнні грамадзянскага накалу пачуццяў і роздуму паэта.

Яблыня ў падобных вершах застаецца яблыняй. Вось гэтай, канкрэтнай. Аўтар успрыняў яе пачуццёва і непасрэдна і расказаў пра яе з пэўным, уласцівым яму тэмпераментам. Паэтычная дэталь або засталася бытавой, як у Еўдакіі Лось («Ім ёмка на падушцы з дзірвана»), або цьмяна-сімвалічнай, накшталт таго, як у чорнай зіме губляецца ствол яблыні ў вершы Алеся Наўроцкага. Гэтыя дзве плыні — фактаграфічная і вобразная — трацяць розніцу паміж сабою настолькі, што працягам вершаў Дануты Бічэль можа быць рамансава-ідылічная замалёўка Еўдакіі Лось, Алесь жа Наўроцкі нібы дае гэтым творам аб каханні метафарычны каментарый з «філасофскім» настроем, які сам патрабуе «перакладу» на зразумелую мову логікі.

Той, хто хоць ненадоўга страчвае арыенцір грамадзянскіх маякоў у творчасці, — той адракаецца ад сваёй мастацкай індывідуальнасці і робіцца на пэўны час звычайным вершаскладальнікам. Магчыма, гэта сказана занадта катэгарычна, бо нават рамеснікі-вершаскладальнікі звычайна прэтэндуюць на арыгінальнасць. Але калі мы перш-наперш заўважаем аўтарскае імкненне да арыгінальнасці, нас ужо не вабяць і не хвалююць нават самыя адмысловыя паэтычныя знаходкі.

Асабістыя перажыванні ў вершах некаторых паэтаў выглядаюць часам занадта агульнымі, і «я» лірычнага героя ператвараецца ва ўмоўнае азначэнне ўмоўнай фігуры. Вось аднаму з такіх аблітаратураных герояў трохі засумавалася, ён адчуў на душы тугу:

> Паспяшаю непрыкметна зліцца
> Я з табою,
> гарадскі прыбой,
> Каб у шумнай радасці згубіцца
> Са сваёй нязначнаю журбой...

Далей герой верша Генадзя Бураўкіна гаворыць, што яму ў натоўпе

> ...у душу збалеўшую ідзе
> Нехаванае чужое шчасце
> Толькі што спатканых мной
> людзей.

І таму «не скруціць ніякай чорнай скрусе маладосць крылатую маю». Думка ўвогуле правільная і настрой такі бывае часам у многіх. Але... герой верша Г. Бураўкіна павінен быў сустрэць у тым жа натоўпе амаль што свайго двайніка. Праўда, гэты двайнік з верша Артура Вольскага сумуе па больш канкрэтнай прычыне:

> Пайшла.
> Я не падаў рукі.
> Заціх няроўны пошчак крокаў.
> А сіні плашч — зусім такі,
> Як у вядомым вершы Блока.

«Ён» замыкае на ключ кватэру і спяшаецца туды ж, у натоўп людзей, і ў яго «туга сцішаецца сляпая».

> Не, я нікуды не пайду,
> Навошта бегчы мне далёка —
> Сваю нялёгкую бяду
> Я раствару ў людскім патоку.

Як бачым, усякі намёк на індывідуальнасць лірычнага «я» знікае. Чытач абыякава «прабягае» па радках, таму што аўтары паведамілі ў рыфмаваным выглядзе «рэцэпт» вядомых усім лекаў: ся-

род людзей лягчэй пераважыць гора.

Зразумела, у гэтых вершах Г. Бураўкіна і А. Вольскага ёсць свежыя радкі. Аднак, хоць вершы складаюцца з радкоў, усё ж іх колькасць не можа механічна пераварыцца ў паэтычную якасць. Адкрыццё адбываецца тады, калі мастацкая праўда пачуццяў закладзена ў самой сутнасці твора. «Людскі прыбой» не абавязкова называць, яго трэба адчуць і перадаць несціханае рэха вялікага жыцця, успрынятае сэрцам.

Не менш сумна чытаць і нешта паспешлівае і невыразнае, падобнае на стэнаграфічны запіс блытаных думак маладога чалавека ўвогуле, які разгубіўся перад складаным, таксама «ўвогуле», светам. За яго плячыма не ўгадваеш школы, дзе ён вучыўся пісаць, не бачыш зямлі, па якой рабіў першыя ў жыцці крокі...

«Хто ты?» — пытаеш у яго, імкнучыся зразумець прычыны таго, чаму ён «увесь у болі і ў муках, з самім сабою на нажах», чаму яму «на пярыне часам мулка» і «сны не прыходзяць па начах». Гэтая бяссонніца тлумачыцца ў вершы наступным чынам:

> Шкляной празрыстасці хачу!
> Я тут і там, за нейкай
> тоўшчай,
> Нібы раздвоены хаджу.
> Над тайнамі ў гарачцы б'юся,
> Мне трэба сутнасць, як жыццё.
> Я паслізнуцца не баюся,
> як старцу — кій,
> мне — пачуццё.
> З глухой выходжу каламуці,
> у тумане я зноў хаджу,
> і цераз новыя ўжо мукі
> на свет па-новаму гляджу.

Гэта толькі подступы да сапраўднага паэтычнага асэнсавання роздуму над складанасцю жыцця. Прага да «шкляной празрыстасці» перададзена і нам, чытачам. Мы падрыхтаваліся разам з паэтам шукаць яе. Але дзе? Мне асабіста юнак з верша В. Макарэвіча ўяўляецца разгубленым. Праўда, ён сцвярджае: «з глухой выходжу каламуці», але гаворыцца пра гэта непераканаўча, без веры ў свае словы. Развітваючыся з героем верша, чытач можа спадзявацца на тое, што ён «на свет па-новаму глядзіць», і можа сумнявацца: мабыць, юнак «у тумане зноў»... Гэты «туман», як метафарычны вобраз, пераважае над усім астатнім у вершы.

Зразумелы ўсім людзям неспакой уласцівы цяперашняй эпосе. Невядомыя раней чалавецтву радасці адкрывае яна перад людзьмі і патрабуе ад іх грамадзянскай адказнасці ў вялікім і ў малым: у змаганні за мір, у каханні, у пабудове новага грамадства. Нашы поспехі ў заваяванні космасу не здымаюць з парадку дня пытання: якім павінен быць чалавек, што ён павінен пераадольваць і да чаго імкнуцца ў штодзённым жыцці? Гэта — сфера не толькі і не столькі маральная, колькі грамадзянская.

Паэзія тады развіваецца і крочыць упоравень з часам, калі кожны паэт свядома кіруецца разуменнем сваёй галоўнай задачы: адлюстраваць ва ўсёй паўнаце рэальнае жыццё, думкі і пачуцці сучасніка. А ў нашага сучасніка — вельмі шырокі духоўны дыяпазон.

> Мне заўсёды чагось нестае,
> Штосьці вабіць, кудысьці
> цягне —
> Знаць, як кожная птушка пяе,
> Знаць, як кожная кветка пахне;
> Знаць, аб чым стане бор
> шумець,
> Што зашэпча ветразь
> крылаты,
> Сэрца кожнае разумець,
> Кожны клопат кожнае хаты;
> Знаць, якім будзе заўтра дзень
> І якой за сталом бяседа,
> І якім будзе лёс людзей
> Год праз трыста
> мне рупіць ведаць!..

Змест гэтага верша Алега Лойкі выказвае сапраўдныя нашы пачуцці. І добра было б, каб паэзія памагала ўсім нам «сэрца кожнае разумець». А для гэтага варта не забываць слоў Максіма Горкага: «Праславім паэтаў, у якіх адзін бог — прыгожа сказанае, бясстрашнае слова праўды, вось хто бог для іх — назаўсёды!»

Мусіць, няма патрэбы тлумачыць, што прыгожа сказанае, бясстрашнае слова праўды паэта, — у горкаўскім разуменні, — заўсёды слова грамадзяніна. Дарэмна было б рабіць выгляд, быццам асобныя хібныя ў той ці іншай ступені вершы пераважна маладых паэтаў усё ж «прыгожыя» па мастацкай форме і «бясстрашныя» па агульнай праўдзе чалавечых настрояў. Так не бывае. Яшчэ некалі Пушкін выказаў вельмі патрэбную і для нашага мастацтва думку: «Прекрасное должно быть величаво».

Цудоўнай і велічнай паэзія бывае тады, калі грамадзянская мэтанакіраванасць і грамадзянскі неспакой, а не корпанне ў асабістых дробных пачуццях складае сутнасць перажыванняў і роздуму лірычнага героя.

Звяртаючыся да Пушкіна, Уладзімір Маякоўскі гаварыў:

> Вы,
> по-моему,
> при жизни
> — думаю —
> тоже бушевали...

«Бушаваць» азначае — па-грамадзянску зацікаўлена ўмешвацца ва ўсё, чым жыве грамадства. Быць ваяўнічым. Змагацца за тое, каб у жыцці перамагалі новыя, камуністычныя ўзаемаадносіны паміж людзьмі.

**Барыс БУР'ЯН.**

# ВУЧЫЦЦА, ШУКАЦЬ




Першая кніжка вершаў Анатоля Вярцінскага «Песня пра хлеб» * гаворыць за тое, што ў беларускую паэзію прыйшоў яшчэ адзін здольны паэт, моцна звязаны з роднай глебай, са сваім народам, з нашай рэчаіснасцю.

Паэт не выпадкова назваў сваю кніжку «Песняй пра хлеб». Тэма хлеба надзённага — гэта тэма мінулага і сучаснага беларускай вёскі, тэма самой Беларусі. На маю думку, паэма — самае значнае, самае ўдалае з таго, што ёсць у зборніку. Паэт у ёй нічога не выдумляе, а ідзе ад непасрэдных уражанняў, і само жыццё дало яму дэталі, паэтычныя вобразы, само жыццё абудзіла ў яго тыя пачуцці, якія робяць паэму ў лепшых яе раздзелах па-сапраўднаму лірычнай.

Аўтар успамінае «аб хлебе, што рос не ў алтайскім стэпе», а вырашчаны «на суглінках ды глінах... маімі бацькамі ды земляка-мі...» Гэтага хлеба цярпліва чакалі дзеці, якім

> Здаваўся тады ён лепшай
> ядою,
> Калі яго есці з соллю й
> вадою...

Паэт паслядоўна і дэталёва расказвае аб нараджэнні хлеба, аб тым, як хлеб прыходзіць на стол. Поле... млын... дзежка... І нарэшце — «старая, добрая руская печ», якой паэт прысвячае шчырыя, цёплыя радкі:

> Помніцца, хата была
> цеснаватай,
> Бо ты сапраўды занімала
> паўхаты.
> Ты мэблі нідзе не ўступала
> ні пядзі,
> Кватэру трымала ў сваёй
> уладзе.
> ...І ўсё-ткі, калі гаварыць
> па-шчырасці,
> Я рад, што было мне суджана
> вырасці
> У той жа хаціне, дзе ты
> уладарыла,
> Дзе спраўна так грэла, пякла
> і скварыла.

«Ходзяць упарта пагалоскі, што ты ўстарэла для новай вёскі» — гэтымі простымі і дакладнымі словамі аўтар перакідвае мосцік для пераходу да размовы пра новую

* Анатоль Вярцінскі. Песня пра хлеб. Дзяржвыдат БССР, 1962.

вёску. На жаль, слоў для такой размовы А. Вярцінскаму не хапіла. У заключных раздзелах ён збіваецца на звычайныя і досыць банальныя агульныя фразы.

Найбольш удалымі ў паэме мне здаюцца раздзелы, дзе паэт малюе вобраз маці, якая расчыняе цеста і пячэ хлеб, і вобразы дзяцей, якія так ахвотна выконваюць усе матчыны загады і чакаюць не дачакаюцца, калі спячэцца хлеб.

Пры ўсім тым станоўчым, што ёсць у паэме, яе ўсё-такі нельга назваць завершаным і дасканалым паэтычным творам. Аднастайнасць інтанацыі, вялая рытміка, неапраўданыя паўторы, даволі частыя моўныя агрэхі — усё гэта не магло не адбіцца на мастацкіх якасцях паэмы.

Усе гэтыя недахопы ў паэме — не выпадковыя: яны ўласцівы большасці вершаў першага зборніка. Таму, мне здаецца, паэту варта было б над імі задумацца.

Мы часам саромеемся сказаць таварышу праўду, баючыся пакрыўдзіць яго. Такая «крытыка» не прыносіць карысці. Я паважаю Анатоля Вярцінскага як паэта, лічу яго сваім добрым таварышам, і таму мне хочацца гаварыць з ім шчыра і сур'ёзна.

Мне спадабаліся такія вершы, як «Стронцый», «Хустка». Але нават і ў гэтых вершах не цяжка заўважыць тыя хібы, якія мы заўважылі ў паэме.

Вось, напрыклад, верш «Стронцый». Усе мы ведаем, якімі жудаснымі пакутамі пагражае чалавецтву атамная вайна. І напісана пра гэта нямала. А. Вярцінскі здолеў знайсці для вырашэння нянавай у паэзіі тэмы сваё, свежае слова. Глыбока кранае вобраз дзяцей, якія працягваюць ручкі да нас, дарослых, шукаючы ратунку ад пагібелі. Але калі неба і зямля будуць атручаны стронцыем, нават усемагутныя дарослыя не змогуць ім дапамагчы. Нават міфічнае пекла, на якое людзі мінулага не пашкадавалі самай змрочнай фантазіі, здасца нам: «...мірнаю смалакурняй перад тым, што мы чулі і бачылі на зямлі...».

Вось тут, на гэтым узлёце думкі, паэту трэба было паставіць не шматкроп'е, а кропку і скончыць верш. Аднак яму здалося, што ён яшчэ не ўсё сказаў. І тады пачынаюцца выкрыкі: «Даволі з нас паніхід!», «Вайна — назад. І ні кроку! Далоў вайну!..» Самі па сабе гэтыя словы не выклікаюць пярэчання. Але аўтару няма патрэбы гаварыць тое, што скажа сам чытач. Бо, скажам, вобраз дзяцей, намаляваны паэтам, прымусіць нас саміх, без аўтарскай падказкі, сказаць на ўвесь голас: «Мы не хочам вайны!»

Проста і энергічна пачынаецца верш пра чуласць да чалавека ў нашым грамадстве: «Імчыць машына хуткай дапамогі»... Такі пачатак адразу без лішніх слоў уводзіць нас у курс справы, забяспечвае далейшы дынамічны ход думкі. Але мускульная сіла верша слабее ўжо ў другім радку. Словы тут недакладныя, вялыя: «...ратунак пэўна некаму нясе...». А яшчэ праз радок: «І ўступаюць ёй дарогу ўсе...». Які інфармацыйны тон! Дзе ўжо тут можа быць дынаміка! Толькі ў канцы верша паэт зноў знаходзіць дакладныя словы:

> ...Вось так бы нам заўсёды
> біць трывогу,
> Як толькі стрэўся чалавек
> з бядой.

Побач з вершамі, у якіх ёсць значная думка, выказаная вобразна, праз паэтычныя дэталі, што абапіраюцца на само жыццё, асабліва бледнымі і невыразнымі выглядаюць такія вершы, як «Пад стукі вагонных калёс» (дарэчы, чаму не «колаў»?), «Вяснушкі», «Каб я знала», «Я іду зялёным лугам». Ім нестае значнасці думкі, жывога, непасрэднага, жыццём народжанага пачуцця.

А. Вярцінскі не штукарыць у паэзіі, не імкнецца быць арыгінальным, што б там ні стала. Але і ў нашай глыбока рэалістычнай савецкай паэзіі павінны быць пошукі. І не толькі знешняй формы, сродкаў мастацкага выяўлення, — яны могуць і павінны ісці ў глыбіню, у нетры тэмы. Паэт можа быць арыгінальным нават у спрадвечнай тэме пра хлеб. Але для гэтага неабходна шліфаваць сваё паэтычнае майстэрства.

У апошні час шмат размоў вялося пра смеласць у паэзіі. Мне здаецца, што быць смелым у паэзіі — гэта прымусіць сябе вучыцца, калі ты выпускаеш не першую, а другую, нават трэцюю кнігу.

Не грэх нашым маладым паэтам часцей азірацца на тое, што зроблена да іх. Але вучоба ў старэйшых — гэта не сляпое перайманне, а творчае асэнсаванне і засваенне лепшых здабыткаў. Толькі па-сапраўднаму авалодаўшы майстэрствам і цвёрда стоячы на рэальнай глебе, можна адкрыць у паэзіі нешта сваё, новае.

**Артур ВОЛЬСКІ.**

# ПАЧАТАК




Гэтая кніжка ўяўляецца мне ў некаторай ступені дарожным дзённікам. Не, не тым дзённікам, у які з фатаграфічнай дакладнасцю заносяцца ўсе падзеі дня ад ранішняга снядання і да начнога спачынку. Дзённік гэты своеасаблівы. Тут у большай меры адлюстраваны пачуцці ад перажытых падзей, чым самі падзеі; занатавана не толькі само вандраванне па дарогах жыцця, але і роздум над бачаным, перажытым. І калі на яго старонках сям-там сустракаецца неакрэслены вобраз, павярхоўнае назіранне ці нявынашаная, нясталая думка, то гэта абумоўлена невялікім творчым вопытам таго, хто вёў гэты дзённік.

«Першыя вёрсты»* — пачатак паэтычнага шляху Міхася Рудкоўскага. Менавіта таму, што ў паэта ўсё толькі пачынаецца цяпер ці пачалося зусім нядаўна, яго ўлюбёнымі вобразамі з'яўляюцца вобразы першага следу, першай баразны, «непрабітай» сцяжынкі, дарогі; любімы яго стан — стан руху, імкнення, дынамікі. Так, у яго вершах ходзяць уночы борам ліўні («...Уночы борам хадзілі ліўні»); паўзе па снезе ранены партызан, каб папярэдзіць сваіх таварышаў аб небяспецы («Слова пра мужнасць»); лятуць «пад месячным дыскам зялёным» на поўнач гусі («...Прастораю зорнай»); імчаць на конях «на начлег, нібыта ў атаку», малыя пастушкі («Коні»); праходзіць «у кашміроўцы квяцістай» калгаснымі палеткамі восень («...Ад рэчак туманнымі ранкамі») і г. д.

Для паэта стан інертнасці — самы непрыймальны. «У мове радзімай, у краі сасновым» ён хоча адшукаць запаветнае слова, якое нават «жыццём задаволеных і раўнадушных у шлях неспакойны прымусіла б рушыць» («У краі сасновым»). Жыць, пакідаючы след на зямлі, — такі дэвіз маладога паэта. Толькі ж за чалавекам можа застацца ўсякі след — і чысты, і брудны. І вось крэда Міхася Рудкоўскага, у якім выяўляюцца думкі ўсёй савецкай моладзі:

> Лепш не бачыць пялёсткаў
> бель
> і не чуць, як шумяць палі,
> чым пакінуць пасля сябе
> чорны след
> на зямлі.

* Міхась Рудкоўскі. Першыя вёрсты. Дзяржвыдат БССР, 1963.

Лірычны герой М. Рудкоўскага — вандроўнік, які пабываў і ў Казахстане, і на Далёкім Усходзе. Але дзе б ён ні быў, ён ніколі не забываў пра родную зямлю, над якой «крылом жаўруковым вясна б'ецца...» («Вясновы настрой»), дзе «прыносіў летам з поля ў жмені свежых мазалёў» («...Калі не чуў ты ветраў паху»). Нават «на кручах Сіхотэ-Аліня сівога», ён памятаў пра родную бярозку, якая памахала яму на развітанне зялёнай хусткай («Песня пра бярозку»).

Міхась Рудкоўскі ведае, што толькі той можа па-сапраўднаму палюбіць іншыя палі і рэкі, лясы і горы, хто па-чалавечы глыбока зросся з роднай глебай, са сваім краем.

Лірычны герой паэта, хоць і бачыў нямала «мясцінаў райскіх», імкнецца «ў верасовы край свой», для яго «без гэтай баравіны спелай такой кроўна блізкай не была б зямля» («...Уночы борам хадзілі ліўні»). І таму папрокам не толькі аднаму сабе гучаць радкі харошага верша «...Глядзеў, дзівіўся», дзе ў вобразе «роднай травы-кракосу» ўвасоблена ўся бацькаўшчына:

Цюльпаны ведаю
і мімозы...
Чаму ж, чаму я
не знаю паху
Гарачай, роднай
травы-кракосу,
Якой матуля
у партызанах
На целе бацькі
гаіла раны?..

Многія вершы Міхася Рудкоўскага радуюць сваёй грамадзянскасцю, сваім глыбокім гуманістычным зместам. Бадай лепшым сведчаннем гэтаму з'яўляецца верш «...Прасторaю зорнай». Ён — нібыта невялікая сімфанічная паэмка, дзе кожная частка падначалена раскрыццю цэнтральнай тэмы — тэмы барацьбы за мір.

Высока над горадам месячнай ноччу «гусі лятуць на поўнач». Звычайны малюнак вяртання птушак з выраю. Але ўжо ў другой страфе пачынаюць прабівацца трывожныя ноткі:

У далечы дальняй,
Над плёсам рыбачым, над
гаем
Трывожныя крыкі,
Як сполахі ночы,
лунаюць —
Гусі лятуць на поўнач.

Тысячагоддзямі ляталі гусі сваёй «блакітнаю трасай адвечнай»... Аднак цяпер ім не суджана даляцець да сваіх гнёздаў, бо

...іхнія крылы
ветрам пякельным,
Нібыта агнём, апаліла.
Стронцыем ім апаліла
белыя крылы
Там, над Сахарай.

Лугі пакрываюцца маладой травой, стынуць у поймах старыя гняздоўі. Гусі іх ужо ніколі не сагрэюць. Яны апусцяцца

...на дол
І не ўзнімуцца болей,
У неба не ўзнімуцца, мусіць,
Ніколі-ніколі
Прабітыя стронцыем гусі...

Апошняя страфа верша — гэта рэквіем птушкам, якія загінулі над атручаным стронцыем Сахарай, і адначасова палымяны заклік паэта да ўсіх сумленных людзей змагацца за мір на зямлі.

Лірычны герой Міхася Рудкоўскага ідзе па роднай зямлі не абыякавы і не бесклапотны. Яго турбуе тое, што некаторыя, нават і маладыя, людзі апоены дурнап'янам рэлігіі («Ля капліцы»), што ў Італіі, Грэцыі і ў іншых краінах звілі сабе гнёзды падпальшчыкі новай вайны.

Чуламу сэрцу паэта балюча, што многія жанчыны так і дажываюць свой век салдаткамі. Па-сапраўднаму хвалюе верш «Бабіна лета». Сцішаная, разважлівая інтанацыя, вобраз бабінага лета, што праходзіць праз увесь верш, жураўы, якія «трубяць, удаль летучы», над хатай адзінокай жанчыны-салдаткі, — усё гэта надае вершу асаблівую настраёвасць і лірычнасць. Верш напісаны нібы на паўголаса. Аднак ці не бывае часам, што ціха сказанае слова кранае сэрца больш, чым крык!..

Дарэчы, Міхась Рудкоўскі не стараецца ўзвысіць голас, каб такім чынам прымусіць чытача прыслухацца да сябе. Шчырасць, праніклёнасць, імкненне сказаць нешта сваё і па-свойму — лепшыя сябры паэта. Калі ж ён пачынае «крычаць», ды яшчэ аб тым, што не вельмі глыбока перажыта, атрымоўваюцца радкі, накшталт:

Сёння досвіткам ўпала на
клёны зара.
Гай гарыць, я — у полымі
рыжым.
Я — нібыта дзікун.
Я — нібыта паранены вепр.

Хоць словы тут і вельмі гучныя, але, відаць, мала хто паспачувае лірычнаму герою, што ад яго «пайшла, не сказаўшы ні слова», каханая.

Міхась Рудкоўскі можа вельмі шчыра пісаць і пра каханне. Сведчанне таму — вершы: і празрыста-светлы «...Бялеюць у полі бярозы на ўзмежку», і тужліва-задуменны «...Праходзіць ноч кароткая весняя», і жартаўліва-прывабны «Шыпшына».

Гіпербалічна, як заўсёды ў вершах пра каханне, і вельмі хораша гучаць радкі верша «...К рацэ ступіўшы, задрамалі сосны»:

К рацэ ступіўшы, задрамалі
сосны,
На гладзі — зоры, хоць бяры
рукой.
Скажы — я іх табе на бераг
росны
Усе павыкідаю да адной.

Паэт, як бачым, мае пра што сказаць. На жаль, часам ён збочвае на сцежку рытарычнасці, не паказвае, а расказвае, расказвае пра вядомае і па-вядомаму («Юнацтва», «Маладосць» і іншыя). Многія яго вершы сапсаваны маралізатарскімі канцоўкамі: «...Бура сагне жалеза, а чалавека — не!» («Слова пра мужнасць»), «...І мне б згарэць з такою сілай (?) у гарэнні нашым чалавечым» («Макі»), «Відаць, страшней, страшней за ўсё на свеце пакінутым усімі быць» («Пакінуты бусел»).

Бывае, паэт нібы баіцца, што чытач яго не зразумее. Тады ў канцы верша ён прыстаўляе яшчэ адну, «растлумачальную», страфу. Відаць і «Шляхі-дарогі», і «...Маланкі скрэшчваліся, як шпагі», ды і некаторыя іншыя вершы, толькі выйгралі б, калі б яны былі карацейшыя на апошняе чатырохрадкоўе.

Некаторыя вершы паэта (нават з ліку лепшых) напісаны няроўна. Побач з добрымі знаходкамі сустракаюцца непрадуманы вобраз, слабы радок, альбо невыразная страфа. Хацелася б, каб паэт больш уважліва ставіўся да слова.

Міхась Рудкоўскі старанна вучыцца ў класікаў і ў паэтаў старэйшага пакалення. Асабліва плённая яго вучоба ў аднаго з лепшых савецкіх паэтаў Максіма Танка. Інтанацыйны склад многіх вершаў, матыў дарогі, трактоўка тэмы кахання — на ўсім гэтым адчуваецца ўплыў танкаўскай лірыкі. Няма нічога благога ў тым, што ў почырку вучня ўгадваецца почырк настаўніка. Але часам М. Рудкоўскі пачынае ісці па праторанай сцежцы, трапляе ў «след» свайго настаўніка, застаючыся ў палоне яго тэм і вобразна-выяўленчых сродкаў (амаль па-танкаўску гучаць радкі з верша «Вёсны»: «І на столькіх не быў радзінах і вяселлях з застольнай песняй!..», а таксама заключная страфа верша «Дзяўчынка»). Радкі верша Максіма Танка «А што гэта за даліна...» з'явіліся той іскрай, з якой у Міхася Рудкоўскага пачалася ўласная паэтычная «ланцуговая рэакцыя». На жаль, гэтая «рэакцыя» пайшла ў тым жа кірунку і нічым істотным паэзію не ўзбагаціла («...Гасціну без чаркі»).

Хочацца параіць паэту больш і смялей шукаць. І няхай яго не палохае тое, што пошуку не заўсёды спадарожнічае ўдача. Аднак жа ў свет мастацтва вядзе толькі адна верная дарога — дарога нястомных пошукаў.

**Вечаслаў РАГОЙША.**

# Спорт

# ПРА ТЫХ, ХТО ВЫХОДЗІЦЬ НА СТАРТ

Некалі людзі шукалі панацэю — універсальнае лякарства, якое памагала ад усіх хвароб. Сярэдневяковыя алхімікі варажылі над травамі і рознымі хімічнымі рэчывамі, але ім так і не ўдалося падарыць чалавецтву панацэю. У прыродзе не існуе такога цудадзейнага лякарства.

Дарэчы, гэта не зусім так. Такое лякарства ёсць. Яно добра памагае папярэджваць многія хваробы, надае людзям бадзёрасці, робіць іх моцнымі, спрытнымі, смелымі і прыгожымі. Гэтае лякарства — спорт.

Спартсмен устанавіў рэкорд. Ну, дык што тут такога? — скажуць некаторыя.

Між іншым, на гэта добра адказаў чэхаславацкі легкаатлет Эміль Затопек, які сказаў:

— Спытайце ў зайца, чаму ён так добра бегае? Ды таму, што ён не можа не бегаць. У гэтым яго жыццё. Так і я. Я не ганюся за рэкордамі, але бегаю таму, што спорт, і асабліва бег, для мяне выражэнне радасці жыцця, праява маёй любві да жыцця...




На дыстанцыі скараходы. Лідзіруе І. Шалошык.
Фота С. Чырэшкіна.

У тым, што спартсмен устанавіў рэкорд, нібыта нічога важнага няма: ну, прабег крыху хутчэй, ну, скочыў крыху вышэй або падняў на паўкілаграма больш, чым гэта зрабілі другія. І тым не менш — гэта подзвіг.

Устанаўліваючы рэкорд, спартсмен пракладае дарогу другім, выхоўвае людзей дужых, валявых, здольных пераадольваць любыя цяжкасці.





Брэсцкія першаразрадніцы Таня Цяленчанка, Жана Талан і Люда Камісарава.

Спорт — агульная справа ўсяго народа. Быццам эстафету, адно пакаленне перадае другому спартыўныя традыцыі і дасягненні. Брэсцкім веслярам Валянціну Наумаву і Сяргею Макаранку апладзіравалі ў Мельбурне і Рыме. Аляксея Балтоўскага ведаюць не толькі ў Беларусі, але і за граніцай, а маладому майстру спорту Віктару Баліхіну пад урачыстыя гукі Гімна Савецкага Саюза былі ўручаны два залатыя медалі на Сусветным фестывалі ў 1962 годзе за перамогу ў бегу на 110 і 400 метраў з бар'ерамі.

Іх поспехі не выпадковыя. Гэта сведчыць аб тым, што брэстаўчане любяць спорт. У гэтым годзе, напярэдадні трэцяй Спартакіяды народаў СССР, у Брэсце адчуваецца асаблівая актыўнасць моладзі. Разам з праслаўленымі спартсменамі на старт выйдуць і маладыя.

За права ўдзельнічаць ва ўсебеларускай спартакіядзе рыхтуюцца прыняць удзел сотні спартсменаў горада.

Мне і хочацца расказаць, як яны рыхтуюцца да будучых спартыўных баёў.

Яшчэ ў канцы сакавіка гэтага года ў гарадскім Доме фізкультуры праходзілі спаборніцтвы лепшых цяжкаатлетаў Беларусі. Сярод штангістаў паўлёгкай вагі першынство заваяваў майстар спорту Мікалай Сабалюк, які ўстанавіў новы рэкорд. Мікалай Сабалюк — памочнік майстра дывановага камбіната. Яго ведаюць як сціплага



Вучаніца Жана Талан мае першы разрад па гімнастыцы.



Інжынер-эканаміст аддзялення Беларускай чыгункі Рыма Савіна на стадыёне.

працаўніка, камсамольца, які адзін з першых падтрымаў працоўны пачын ткачыхі Алены Лазарэнка.

На гэтых жа спаборніцтвах добра зарэкамендаваў сябе дваццацігадовы слесар таксаматорнага парку Пятро Міцкевіч, штангіст.

У Брэсце славіцца калектыў фізкультуры чыгуначнага вузла. Чыгуначнікі любяць спорт, амаль палавіна ўсіх, хто працуе на вузле займаюцца фізкультурай і спортам. Узначальвае гэты калектыў былы брыгадзір, старшыня мясцовага камітэта паравознага дэпо майстар спорту па гарадках Барыс Сазонаў, а памагаюць яму старшыня райсавета Усесаюзнага спартыўнага таварыства «Лакаматыў» Міхаіл Занько і старшыня райпрафсожа Брэсцкага аддзялення чыгункі майстар спорту па гарадках Аляксандр Іваноў.

У гэтым годзе калектыў лёгкаатлетаў і веласіпедыстаў Брэсцкага чыгуначнага вузла вылучаны кандыдатам на трэцюю Усебеларускую спартакіяду. Лёгкаатлеты нашага калектыву фізкультуры яшчэ ў 1959 годзе, на другой Усебеларускай спартакіядзе, перамаглі моцных сапернікаў — мінскіх аўтазаводцаў, а на фінальных спаборніцтвах у Маскве занялі шостае прызавое месца. Цяпер каманду папоўнілі маладыя спартсмены. Гэта Валодзя Шалошык, Вадзім Яроменка і яго жонка Галя, Пятро Мацука, Юры Смірноў, Віктар Баліхін і іншыя.

Валодзю Шалошыка я ўбачыў упершыню ў спартыўным манежы два гады назад. Тады гэта быў нязграбны, хударлявы юнак. Ён прыйшоў у залу і збянтэжыўся. Прарабіўшы нешматлікі арсенал сваіх разміначных практыкаванняў, ён у нерашучасці таптаўся на месцы. Але яго трэнер, рэкардсмен Беларусі ў спартыўнай хадзьбе на дзесяць кіламетраў Ігар Дыбін, падбадзёрыў яго і даў яму пуцёўку ў спорт. А потым заняткі за заняткамі, і вясной на традыцыйным матчы скараходаў у Пінску Валодзя атрымаў прыз за перамогу сярод юнакоў.



Лёгкаатлеты Галіна і Вадзім Яроменкі пасля чарговых спаборніцтваў. Цікава, будзе рэкорд ці не?

З таго часу прайшло два гады. У хлопца ўзрасла любоў да спорту. Летась Валодзя Шалошык закончыў тэхнікум і паступіў працаваць на шостую дыстанцыю пуці рабочым. І спорт застаўся побач. Сем гадзін на рабоце, кароткі адпачынак, а потым — любімыя заняткі, трэніроўкі. Уладзіміру Шалошыку ўжо належыць устаноўлены ў студзені гэтага года рэкорд Беларусі сярод юнакоў у спартыўнай хадзьбе на тры кіламетры. Ён жа быў першы ў спартыўнай хадзьбе на дзесяць кіламетраў у спаборніцтвах на прыз газеты «Фізкультурнік Беларусі», пакінуўшы ззаду сябе вядомых у нашай краіне хадакоў Рыгора Бяляўскага, Уладзіміра Баранкевіча і ўсіх астатніх, што ўдзельнічалі ў гэтых буйнейшых усебеларускіх спаборніцтвах у зімовы перыяд.

У гэтым дружным калектыве лёгкаатлетаў паўнапраўнае месца займаюць прапагандыст камсамольскага гуртка канкрэтнай эка-



Таня Цяленчанка добрая гімнастка.





Антон Курышка працуе ў дэпо кавалём. А на стадыёне яго ведаюць як майстра скачкоў з шастом.

номікі Рыма Савіна, член камітэта камсамола пятай дыстанцыі пуці Пятро Мацука. Пятро ў мінулым годзе закончыў Брэсцкае тэхнічнае вучылішча. Ветэранам каманды па праву лічыцца Генадзь Грышын. Свой спартыўны шлях ён пачаў яшчэ салдатам восем год назад. З таго часу і падружыўся са спортам, адначасова працуючы байцом ваенізаванай аховы, інструктарам добраахвотных пажарных дружын. Каманда лёгкаатлетаў чыгуначнага вузла ўзмоцнена рыхтуецца да летніх стартаў.

Першым масавым мерапрыемствам года, праведзеным новым спартыўным клубам «Брэсцкі чыгуначнік», з'явіліся спаборніцтвы па лыжнаму спорту ў праграме зімовай спартакіяды прафсаюзаў. Пераможцам у гэтых спаборніцтвах, а таксама ў забегах канькабежцаў стала Кіра Васільева. Але Кіра не лыжніца і не канькабежка, яна — першаразрадніца-баскетбалістка.

Генадзя Мікалаевіча, бацьку Кіры, ведаюць у Баранавічах як палымянага аматара спорту, хоць яму ўжо за пяцьдзесят. Бег, гімнастыка, загартоўка — нязменныя спадарожнікі пачатку яго працоўнага дня. «Фізкультуру — у быт кожнага працоўнага!» — для Генадзя Мікалаевіча гэта не пустая фраза, а аснова яго працоўнай і грамадскай дзейнасці не толькі на трыкатажнай фабрыцы, дзе ён працуе метадыстам вытворчай гімнастыкі, але і ў сям'і. Ён прывучыў любіць спорт і сваіх дзяцей.

Ужо некалькі год Кіра ўдзельнічае ў зборнай камандзе вобласці і рэспублікі. У 1959 годзе яна абараняла гонар рэспублікі на другой Спартакіядзе народаў СССР, прымала ўдзел у міжнародных сустрэчах.

Цяпер Кіра Васільева працуе вагаўшчыком на станцыі Брэст-Усходні і адначасова вучыцца на трэцім курсе Мінскага інстытута фізкультуры. Вучобу, працу, заняткі спортам яна спалучае з актыўнай грамадскай работай — яна член камітэта камсамола станцыі, грамадскі інструктар па валейболу.

Кіра Васільева — лепшая баскетбалістка Брэстчыны, капітан зборнай каманды. Яе прозвішча — на абласной Дошцы гонару.

Добрай працаўніцай і спартсменкай з'яўляецца стрэлачніца станцыі Брэст-Цэнтральны Ліда Будзько, якая нядаўна выбрана дэпутатам гарадскога Савета дэпутатаў працоўных.

У пачатку гэтага года на спартыўным вечары ў чыгуначным клубе Лідзе ўручалі значок майстра спорту СССР, грамату і падарункі ад калектыву. Ліда Будзько ўзначальвае зборную каманду па веласіпеднаму спорту, якая створана і працуе на станцыі. Дзяўчаты і хлопцы, віншуючы свайго капітана і грамадскага трэнера, пажадалі ёй новых поспехаў у спорце. І гэта не выпадкова — Ліда Будзько ўваходзіць у склад зборнай каманды БССР па веласіпеду.

Як і ва ўсіх калектывах, сярод спартсменаў-чыгуначнікаў разгарнулася работа па праграме ГПА. Можна спадзявацца, што здача норм ГПА ў гэтым калектыве будзе праведзена як трэба. Такія энтузіясты, як Ліда Будзько, не шкадуючы сіл і старання, змагаюцца за тое, каб моладзь палюбіла спорт і займалася ім заўсёды, а не ад выпадку да выпадку.



Майстар спорту СССР Віктар Баліхін.

У гарком камсамола прыйшла група юнакоў і дзяўчат на прыём у члены ВЛКСМ. Сярод іх невысокі хударлявы хлапец. Дык гэта ж Валодзя Кавальчук! «Брумель», — як яго завуць усе. А завуць яго так таму, што, займаючыся спортам, ён дакладна капіруе тэхніку Валерыя Брумеля. Пытаемся ў Валодзі: «Як, статут ВЛКСМ ведаеш?» Ён цвёрда адказвае: «Ведаю». І сапраўды, Валодзя сур'ёзна адказвае на ўсе пытанні па статуту і праграме камсамола. Ён добра вучыцца, а як спартсмен — мае трэці спартыўны разрад.

Гэты прыклад не адзіны. На спаборніцтвах па спартыўнай гімнастыцы за зборную каманду вобласці сярод навучэнцаў выступяць Таня Цяленчанка, Надзя Мурына, Ніна Шаляпіна, Жана Талан па праграме майстроў спорту.

Заслужаным поспехам карыстаецца група акрабатаў, дзе кіраўніком выкладчык фізвыхавання сёмай школы, майстар спорту СССР Генадзь Клыпа.

У склад гарадской каманды па боксу ўваходзяць маладыя спартсмены. Пра аднаго з іх хочацца расказаць больш падрабязна. Гэта пра Валодзю Сёмачкіна. Яго бацька — старшы лейтэнант Ілля Сёмачкін — загінуў як герой, абараняючы ў 1941 годзе Брэсцкую крэпасць. У Брэсце Валодзя вырас, тут жа, яшчэ школьнікам, пачаў займацца спортам. У горадзе, які грудзьмі абараняў яго бацька, ён служыў у радах Савецкай Арміі. Закончана служба, Валодзя пачаў свой працоўны шлях у паравозным дэпо. Працаваў токарам, паступіў у Мінскі інстытут фізкультуры. Цяпер ён працуе інструктарам-метадыстам станцыі Брэст-Цэнтральны. За актыўную грамадскую работу яго выбралі сакратаром няштатнага камітэта камсамола Брэсцкага чыгуначнага вузла. Цяпер ён таксама выбран членам бюро і няштатным сакратаром Брэсцкага гаркома камсамола. Праца, вучоба, спорт і грамадская работа — усё гэта ўмела спалучае Валодзя, за гэта і карыстаецца аўтарытэтам у камсамольцаў і моладзі.



На гэтым здымку вы бачыце чэмпіёна алімпійскіх гульняў па веславанню Сяргея Макарэнку са сваёй сям'ёй.

Кандыдатамі ў склад зборнай каманды па боксу з'яўляюцца і Валодзевы сябры: Міхаіл Васілюк — слесар-зборшчык завода «Газаапарат», камсамольцы паравозная дэпо Леанід Ларыёнаў і Леў Гадуноў.

Гэты пералік можна было б павялічыць. Думаю, што я не памылюся, калі скажу, што ў Брэсце, у горадзе над Бугам, авеяным славай Айчыннай вайны, усе фізкультурныя калектывы дзейсна рыхтуюцца да стартаў трэцяй Спартакіяды народаў СССР.

**Валеры СЕРАДА,**
**сакратар Брэсцкага гаркома ЛКСМБ, майстар спорту СССР.**







**пад рэдакцыяй міжнароднага майстра А. СУЭЦІНА**

**пад рэдакцыяй майстра спорту СССР М. ШАВЕЛЯ**

# САПЕРНІК ЧЭМПІЁНА СВЕТУ

Здаецца, зусім нядаўна кіеўскі гросмайстар Ісер Куперман ва ўпартым матч-рэваншы з гросмайстрам Вячаславам Шчогалевым зноў заваяваў «шашачную карону», а ўжо ў яго з'явіліся грозныя саપернікі — чэмпіёны дзесяці краін: Бельгіі, Галандыі, Сенегала, Францыі, Чэхаславакіі і іншых. Згодна статута Сусветнай шашачнай федэрацыі, чэмпіён па шашках з любой краіны можа выклікаць чэмпіёна свету на матч. Калі жадаючых на такі матч некалькі, яны аспрэчваюць гэтае права паміж сабою ў турніры прэтэндэнтаў. І толькі пераможца такога турніра зможа сустрэцца ў адзінаборстве з чэмпіёнам свету.

У бельгійскім горадзе Льежы адбываўся турнір прэтэндэнтаў. З першых тураў лідэрства захапілі французскі гросмайстар Марсель Ізар і чэмпіён маладой афрыканскай дзяржавы Сенегала — Баба Сі. З велізарнай цікавасцю чакалі заканчэння турніра шашысты ўсяго свету, каб даведацца імя пераможцы. Ізар ці Баба Сі? — хваляваліся шашачныя гросмайстры. Спакойна чакаў заканчэння турніра, здаецца, толькі адзін чэмпіён свету Ісер Куперман. Яшчэ за многа дзён да пачатку спаборніцтва ён назваў імя будучага пераможцы, таленавітага шашыста, які ўсяго толькі тры гады таму назад пазнаёміўся з правіламі гульні,— Баба Сі. І прагноз быў беспамылковы. Малады негрыцянскі шашыст стаў першым паміж чэмпіёнамі дзесяці краін.

Хто ж такі гэты пераможца з незвычайным для нас прозвішчам і імем — Баба Сі, які прымусіў чэмпіёна свету ўжо некалькі год уважліва сачыць за сваёй гульнёй?

У 1959 годзе вядомы французскі майстар Эміль Біскон, падарожнічаючы па Афрыцы, пазнаёміўся з правіламі мясцовай разнавіднасці шашачнай гульні. Маючы вялікі вопыт трэніровак на стаклеткавай дошцы, Біскон даволі хутка вывучыў тонкасці новай гульні. І неўзабаве толькі нямногія шашысты здольны былі аказваць яму супраціўленне.

Прывыкшы да лёгкіх перамог, Біскон перастаў гуляць у гэтую гульню і толькі часам назіраў, як гуляюць другія. Але аднойчы ён зацікавіўся віртуознай гульнёю маладога негрыцянскага хлапчука. Паспрабаваў згуляць з ім і адразу ж пераканаўся, што лёгкай перамогі не будзе і што, калі ён зробіць нічыю, дык і гэта будзе добрай перамогай. Юнак (гэта быў Баба Сі) уразіў вопытнага майстра сваімі ведамі, а галоўнае — арыгінальнымі планамі ў разыгрыванні любой пазіцыі. Біскон навучыў яго правілам гульні ў стаклеткавыя шашкі і згуляў некалькі трэніровачных партый. Малады негр усе сустрэчы прайграў. Яшчэ некалькі дзён ён праігрываў, але ў кожнай партыі ён гуляў усё лепш і лепш. У адной з партый Біскон, які намерваўся рабіць звычайны ход, нечакана заўважыў падрыхтаваную камбінацыю. Ён пахваліў юнака і зрабіў іншы ход, але і тут яму была падрыхтавана пастка. Вопытны маэстра проста здзіўляўся выключным здольнасцям Баба Сі. Неўзабаве яны гулялі ўжо, як роўныя па сіле праціўнікі.

Прыехаўшы зноў у Парыж, Біскон з вялікімі цяжкасцямі дамогся, каб нікому невядомага навічка дапусцілі да ўдзелу ў першынстве Францыі (у той час Сенегал быў яшчэ французскай калоніяй). Першы ж турнір на еўрапейскім мацерыку закончыўся для Баба Сі перамогай. Баба Сі — чэмпіён Францыі 1959 года. Пра незвычайнага самародка загаварыла сусветная прэса. Ён атрымаў запрашэнне выступіць з сеансам адначасовай гульні ў Галандыі — краіне, якая вядома сваімі моцнымі шашыстамі і сваімі шашачнымі традыцыямі. Між іншым, шашкі ў Галандыі ўключаны ў школьную праграму.

Каля тысячы партый згуляў Баба Сі супраць мацнейшых мясцовых шашыстаў у матчах, невялікіх турнірах і сеансах адначасовай гульні. Спартыўны вынік гэтых выступленняў надзвычай высокі — дзевяноста працэнтаў ачкоў у карысць Баба Сі. З імгненнай хуткасцю ўваходзіць ён ва ўсе тонкасці пазіцыі, ашаламляючы партнёраў і гледачоў нечаканымі ходамі.

«Чорны аўтамат» — так назвала таленавітага юнака спартыўная прэса. Ашаламляльным рэкордам выглядае сеанс адначасовай гульні на 150 дошках! Гульня працягвалася восем гадзін і закончылася з вынікам: 112 перамог, 33 нічые і толькі пяць пройгрышаў сеансёра. Кінахроніка і шашачная прэса зрабілі вядомымі нам многія пазіцыі з гэтага выступлення. Камбінацыі, праведзеныя Баба Сі, вельмі замаскаваныя і арыгінальныя. Проста не верыцца, што за адзін год можна дасягнуць такога майстэрства!

Але Баба Сі не толькі дэманструе сваю гульню, ён старанна вывучае партыі савецкіх, галандскіх, французскіх і канадскіх шашыстаў, рыхтуючыся да буйнейшых шашачных бітваў. Ад выступлення да выступлення расце яго майстэрства.

Манера гульні Баба Сі ў спаборніцтвах вельмі незвычайная: ён амаль ніколі не задумваецца над ходам, імгненна адказваючы на ход праціўніка. У цэйтнотах Баба Сі ніколі не бывае. Турнірныя партыі ён не запісвае. Але не падумайце, што ён непісьменны — Баба Сі валодае чатырма замежнымі мовамі.

Найвышэйшай праверкай шашачнага майстэрства Баба Сі стаў Вялікі алімпійскі турнір 1960 года. Такі турнір праводзіцца раз у чатыры гады, у ім аспрэчваюць тытул чэмпіёна свету і сам уладальнік «шашачнай кароны», і чэмпіёны ўсіх краін. У гэтым турніры Баба Сі набраў 20,5 ачка з 26 магчымых і заняў другое месца, апярэдзіўшы гросмайстра Купермана. Чэмпіёнам свету ў 1960 годзе зрабіўся масквіч В. Шчогалеў. Пасля заканчэння турніра Баба Сі не быў увенчаны лаўравым вянком, але яго гульня атрымала найвышэйшую ацэнку шашыстаў. Сусветная шашачная федэрацыя па прапанове савецкай дэлегацыі прысвоіла Баба Сі званне міжнароднага гросмайстра.

Два апошнія гады Баба Сі жыве ў Галандыі, працуе шафёрам. Нязпынна ён трэніруецца з мацнейшымі шашыстамі краіны. За гэты час ён згуляў у шасці міжнародных турнірах і дамогся фенаменальных вынікаў. Шэсць турніраў — і толькі першыя месцы! За два гады ў Баба Сі не было ніводнага пройгрышу. А ў ліку ж гэтых спаборніцтваў — турнір прэтэндэнтаў і міжнародны турнір у Ялце.

Згодна рашэння Сусветнай шашачнай федэрацыі, матч з 20 партый паміж мацнейшымі шашыстамі свету Куперманам і Баба Сі адбудзецца ў гэтым годзе на радзіме чэмпіёна свету.

Чэмпіён свету гросмайстар І. Куперман цяпер выступае ў спаборніцтвах толькі па міжнародных шашках. Аднак яшчэ некалькі год таму назад ён з выключным поспехам выступаў у спаборніцтвах па рускіх шашках і быў неаднаразовым чэмпіёнам СССР. З'яўляючыся аўтарам каля двух дзесяткаў кніг і тэарэтычных артыкулаў, Куперман склаў шмат арыгінальных камбінацый. Прыводзім прыгожую двухварыянтную канцоўку чэмпіёна свету:



Белыя пачынаюць і выйграюць.

1. f2—e3! h4 : f2.

Калі чорныя паб'юць другой шашкай d4 : f2, дык пасля 2. d2—e3!, f2 : d4, 3. f4—g5, h4 : f2. 4. g5 : g1 белыя лёгка выйграюць.

2. e3 : g5 f2—g1
3. e1—f2! g1 : c1
4. g5—h6 c1 : g5
5. h6 : f4 f8—g7 (або e7)
6. f4—e5, становячыся ў апазіцыю.

# ШАХМАТНЫЯ АФАРЫЗМЫ

Сярод шахматных літаратараў асобнае месца займае гросмайстар Савелі Рыгоравіч Тартаковер, пачатак шахматнай дзейнасці якога праходзіў у Расіі. Выдатны шахматны тэарэтык, ён адначасова адзначаўся надзвычай яркім стылем пісьма. Да гэтага часу яго кнігі і артыкулы могуць быць узорам літаратурнага майстэрства ў шахматнай творчасці.

Савелі Рыгоравіч — аўтар многіх сур'ёзных кніг і артыкулаў па тэорыі шахмат. У № 4 «Шахматнага лістка» за 1929 год быў апублікаваны яго выдатны артыкул «У чым шахматная сіла?», які не страціў актуальнасці да нашага часу.

Ніжэй падаем некаторыя вывады аўтара.

...«Неабходна адзначыць, што шмат агульнапрынятых тэрмінаў, як «разуменне пазіцыі», «глыбіня разліку», «камбінацыйны размах», «ацэнка шанцаў» і да т. п.,— нічога іншага не значаць, як іменна ўзровень сілы данага шахматыста ў параўнанні з яго партнёрам».

...«Вялікую ролю ў сэнсе выяўлення сілы мае таксама **валявы** прынцып, прычым для дасягнення поспеху асабліва важныя такія якасці, як спакойнае, без хвалявання правядзенне свайго плана, упартая арганізацыя абароны, своечасовае «апазнанне крызісу» і да т. п.».

...«У шахматах вырашае ўрэшце не геніяльнае выключэнне, а заснаваная на вытрымцы заканамернасць, не мастацкасць канцэпцый, а прафесійныя веды. Іншымі словамі: шахматная сіла праяўляецца ў залежнасці ад таго, калі, дзе і як для данага шахматыста знікае з шахматнай дошкі творчы момант і пачынаецца так званая «справа тэхнікі».

Апошняя думка вельмі спрэчная. Але такі ўжо быў характар С. Тартаковера.

Аўтару гэтых радкоў давялося пазнаёміцца з С. Тартаковерам у Парыжы ў час матча СССР — Францыя ў 1954 годзе.

Нягледзячы на старэчы ўзрост, Тартаковер захаваў якасці цікавага субяседніка, які не лезе па словы ў кішэнь. Яго спыталі: «Чым вытлумачыць, што ў Савецкім Саюзе лепш гуляюць у шахматы, чым у Францыі?» «Тут усяго толькі 22 прычыны, — адказаў С. Тартаковер, — і першая з іх, што ў СССР **гуляюць** мільёны, а ў Францыі сяк-так перасоўваюць фігуры дзве тысячы аматараў».

* * *

Савелі Тартаковер любіў сістэматызаваць розныя выказванні пра шахматы, сам вельмі добра ствараў новыя афарызмы. Некаторыя з іх мы і падаем тут.

* * *

«Любі шахматы, і шахматы цябе палюбяць» — гаварыў нямецкі шахматыст мінулага стагоддзя Адольф Андэрсен.

* * *

Для Вальтэра была толькі адна ўцеха: гуляць у шахматы! І толькі адно здавальненне: не гуляць у шахматы!



* * *

Стоячы па-за дасягненнямі сучаснай для свайго часу тэорыі і праводзячы свае асабістыя, магчыма нават памылковыя, планы, Ласкер перамог Стэйніца, Тараша, Маршаля і другіх. Але як толькі ён надумаў «вучыцца» (перад матчам з Капабланкам) і гуляць разабраныя да 15-га хода варыянты, ён прайграў!

* * *

«Вы знайшлі новую стратэгію»,— пахвалілі неафіцыйнага чэмпіёна свету XVIII стагоддзя Франсуа Філідора.

— «...Заснаваную на старых законах», — сціпла дадаў ён.

* * *

«Капабланка ўзяў у Лондане ў 1922 годзе ў буйнейшым міжнародным турніры таму, што ён чэмпіён свету»,— хорам усклікнулі ўсе шахматныя энтузіясты. «Капабланка ўзяў у Лондане першы прыз, **нягледзячы на тое,** што ён чэмпіён свету,» — скептычна запярэчыў адзін журналіст.

# *НАШ КОНКУРС*

Рашыце наступныя камбінацыі, якія ўваходзяць у наш конкурс.

Ход белых (2 ачкі).



І тут ход белых (2 ачкі).



Чакаем Вашы пісьмы з рашэннямі.

Гумар і сатыра

Іван КУРБЕКА

# ГУМАРЭСКІ

## ЧУЖЫМІ РУКАМІ

Адказваючы на білет, студэнт заўважыў, што выкладчыца прыдзірліва разглядвае яго канспект. Але ён не падаваў выгляду, адказваў аж захліпаўся: пытанні якраз трапіліся лёгкія.

— Досыць, — перапыніла яго выкладчыца. — Гэта ваш канспект?

— М-мой...

— А хто з ім прыходзіў да мяне перад вамі?

— Бачыце, — пачаў заікацца студэнт, — у мяне шмат хто браў канспект. Зрабі каму ласку...

«Пакуль што, здаецца, выкруціўся. Хаця б толькі не праверыла почырк...»

— Так, так, — нешта раздумвала выкладчыца, — Вазьміце лісток паперы...

Не сваёй рукой хлопец пачаў выводзіць літару за літарай, крадком лыпаючы ў сшытак, каб хоць трошкі падрабіцца пад чужы почырк.

— Дайце сюды.

— Я яшчэ не запісаў сказ, — не вельмі ўпэўнена запярэчыў студэнт. Яму хацелася пісаць і пісаць без канца.

— Нічога, нічога. Хопіць і гэтага.

Выкладчыца глянула на напісанае, потым на канспект:

— І гэта, значыцца, ваш?

— Бачыце...— зноў падаўся ў разважанні студэнт,— почырк залежыць ад якасці чарніла, ручкі, пяра. Ды і хваляванне...

— Бачыце, — падрабляючыся пад хлопца, задуменна сказала выкладчыца, — ацэнка залежыць ад якасці адказу, ад сумленнасці студэнта, яго дысцыплінаванасці. Прыйдзеце ў наступны раз. Са сваім канспектам, — ужо сур'ёзна закончыла яна, налягаючы на словы: «са сваім».

## ВЫКЛАДЧЫЦА ЗЛІТАВАЛАСЯ

Як ні зубрыла Галя гэтыя праклятыя «юсы», «яці», «еры», усё роўна трапіла ў цэйтнот. Выкладчыца папярэдзіла, што наступнае «рандэву» адбудзецца толькі з дазволу дэкана.

Нічога не аставалася, як ісці ў дэканат. Нясмела, дрыготкім пальцам пастукала ў дзверы.

— Заходзьце!



— Д-добры дзень..., — ледзь вымавіла дзяўчына.

— Добры дзень! Добры дзень! Чым магу служыць? — ветліва сустрэў яе дэкан.

— Я... я хачу...

— Што вы хочаце?

— ...пераздаць...

— Што пераздаць?

— ...стараславянскую мову.

— Як ваша прозвішча?

— Дайлідчык.

— Зараз, зараз, — заспакоіў дэкан і палез у шуфляду. Дастаў ведамасць, нагнуўся над ёю.

— Дайлідчык... Дайлідчык... — гаварыў ён, шукаючы ў ведамасці прозвішча. — Значыць, вы хочаце пераздаць?

— Ыгы.

— На «пяцёрку»?

— Што вы! Хоць бы...

— Дык жа ў вас стаіць «тройка»! — развёў рукамі дэкан.

— Тройка?! — не то спытала, не то пацвердзіла пачутае збянтэжаная Галя. — Добра. Хай ужо будзе... Во-во. Добра,— лапатала яна і пасоўвалася да дзвярэй.

— Пачакайце! Куды вы? Што ж вы...

Галя ж ужо нічога не чула: яна неслася па калідоры.

Выкладчыца злітавалася!

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# ТАНЦЫ Ў ІНТЭРНАЦЕ

Я ля ўваходу правяраю пропускі,
Дзяжурны я.
Павінен тут стаяць.
А побач хлопец з БПІ стаіць і просіцца:
— Пусці, браток!
Пусці мінут на пяць.
— Без пропускаў дзяўчат пускаем толькі.—
Прамовіў хтосьці з нашых у адказ.
А ў вестыбюлі плаўна з-пад іголкі
Ліецца лёгкі і празрысты вальс.
— Ты да каго ідзеш?
— Іду да дзеўчыны...
На пяць мінутак нельга —
На адну
Пусці, будзь другам... А?
Сказаць мне нечага,
Гляджу ў падлогу,
Быццам у ваду —

